У кнігу ўвайшла выбраная проза вядомага пісьменніка. Побач з добра знаёмымі чытачам аповесцямі і апавяданнямі друкуюцца творы, напісаныя некалькі дзесяцігоддзяў таму, на самым пачатку літаратурнага шляху аўтара. Некаторыя з іх не перавыдаваліся з сярэдзіны 1980-х гадоў.

**ISBN 978-609-8213-11-9**

# Палёты самотнага птаха

Застаўшыся ў чатырох сценах сам-насам з адзінотаю, ён выходзіць на галубец і, калі на суседніх галубцах пуста, ператвараецца... Бачу ў вашых вачах раздражненне: дакуль можна трываць гэтыя бясконцыя пераўвасабленні? Адзін ператварае чалавека ў дэмана, другі — у вавёрку, трэці — у сіямскага ката ці ў зялёнага чыюка. Няўжо бракуе мужнасці пакінуць сваіх герояў у гэтым недасканалым свеце такімі, якімі іх стварыла сама прырода?

Калі па шчырасці, вашы папрокі гучаць не зусім па адрасе, бо я нікога ні ў кога ператвараць не збіраюся. Але ў нечым вы, безумоўна, маеце рацыю, а таму пакіну танныя хітрыкі і працягну аповед ад першае асобы.

Таму што гаворка пра мяне самога. Не трэба зласлівых кепікаў. Далібог, я не падарожнічаю ў часе і не нясуся з шалёным свістам у загадкавыя інфернальныя сферы. Высока над горадам я добра памятаю, што а другой вернецца са школы сын і я павінен разагрэць яму полудзень, а сёмай прыйдзе з працы жонка, а дзясятай... Зрэшты, і ў пярэваратняў бываюць таямніцы.

Наогул, згадзіцеся, як на пярэваратня, дык я нейкі занадта звычайны. Праўдзівей, наадварот — незвычайны, бо як бы вы глядзелі на мяне з маімі клопатамі, напрыклад, у свеце дэманаў ці іншых звышнатуральных стварэнняў? Я незвычайны якраз сваёй звычайнасцю. Калі разглядаць мяне-пярэваратня менавіта ў такім ракурсе, дык я незвычайны і тым, што

пераўвасабляюся ў самую неэкзатычную істоту: апрача чалавечае іпастасі, я надзелены аблiччам грака.

У старадаўняй кнізе мне трапілася калісьці настаўленне для ахвотнікаў перакінуцца ў ваўка: знайсці ў лесе спарахнелы пень, уторкнуць туды вастрыём угору нож, прамовіць страшны заклён і тры разы перакуліцца над пнём цераз галаву. У мяне ўсё значна прасцей. Раніцою, калі дома нікога няма, я выходжу са свайго пакоя, які называю вальераю, на галубец, азіраюся, каб не было непажаданых сведкаў (хто ведае, куды і што яны могуць напісаць або паведаміць па тэлефоне), а потым засяроджваюся, уяўляючы на парэнчах чорную, з металёвым бляскам птушку. Праз колькі імгненняў на гэтым месцы ўжо сядзіць грак.

Першым чынам я пералятаю на зробленую сынам кармушку і з задавальненнем дзяўбу крупы. Бацькам заўсёды прыемна адчуваць, што дзеці клапоцяцца пра іх.

Ну а цяпер я, відаць, павінен сказаць вам, як усё пачалося.

У той дзень мы з жонкаю купілі каляровы тэлевізар, увечары з такой нагоды крыху выпілі і вырашылі збіраць грошы на машыну. Даглядзеўшы каляровую перадачу — тады былі яшчэ і чорна-белыя, — я выйшаў на галубец падыміць. Дома спалі, а я курыў і думаў, якая цудоўная рэч — каляровы тэлевізар. Яшчэ думаў, што, калі ўсё пойдзе ладам, праз тры ці, найболей, праз чатыры гады буду ездзіць на сваёй машыне.

Далейшыя падзеі захаваліся ў памяці надзвычай выяўна. На парэнчы галубца апусціўся грак. Спачатку я здзівіўся, бо не чакаў, што гэтая птушка можа быць настолькі смелаю, але адразу ж даўмеўся, што смеласць тут ні пры чым. Грак увесь дрыжаў і ўвогуле меў такі выгляд, быццам бясконца доўга ляцеў адкульсьці здалёк і так знямогся, што, каб не сеў на мой галу-

бец, мог бы проста ў палёце каменем сарвацца долу. З хвіліну мы моўчкі глядзелі адзін на аднаго, потым ён з натугаю падняўся і знік у цемры. У мяне засталося ўражанне, што ён не толькі ўкрай стамлёны, але і вельмі стары, што лётаць яму засталося зусім мала — магчыма, ужо сёння яго сустрэне ў начным небе нябыт, і раніцою людзі ўбачаць на асфальце ці на газоне мёртвую чорную птушку, якую мне выпадкова давялося правесці ў апошні палёт.

І вось тут нібыта не з глыбіні свядомасці, а аднекуль з бяздоннае прасторы неба, адтуль, з-за ракі, дзе яно было густа высыпана зоркамі, да мяне прыйшла недарэчная думка: а што, калі б я ператварыўся ў грака і замяніў нечаканага знябытага госця? Я паспрабаваў уявіць на парэнчах, там, дзе толькі што сядзеў грак, такую ж, але, вядома, маладую і дужую птушку і... Дзьмухнула цёплым ветрам, і, не паспеўшы ацаніць свае пачуцці і нават спалохацца, я зразумеў, што вар'яцкая думка зрабілася яваю: на бетоннай падлозе галубца чырванела жарынка цыгарэты, а на адагнутым краі жалезнае ліштэўкі сядзеў надзелены маёй свядомасцю грак.

Свет застаўся тым самым і ўадначас павярнуўся да мяне іншым бокам, нязвыкла ўзбуйніўшы навакольныя рэчы і надзяліўшы іх невядомымі мне дагэтуль якасцямі: напрыклад, нацягнутая цераз галубец жылка пад бялізну найперш цікавіла мяне тым, ці здолею я ўтрымаць на ёй раўнавагу, калі захачу туды пераляцець. Дзіўна, але пераўвасабленне ўразіла мяне значна менш, чым можна было чакаць. Памятаю, мой страх хутка растаў, і я так асмялеў, што замест таго, каб выпрабаваць крылы над галубцом, зняўся з парэнчаў і рынуўся з дзявятага паверха проста ў цёмны калодзезь двара. З гэтага я выснаваў, што магчымасць палётаў была ўжо закладзена ўва мне, так бы мовіць,

запраграмавана, і нейкая частка маёй істоты была да іх гатовая загадзя.

Упершыню я паляцеў дзесяць гадоў таму. За гэты час у маім жыцці адбыліся сякія-такія змены. Машыны мы не купілі ні праз тры, ні праз пяць гадоў, бо неўзабаве я неспадзявана для сябе пачаў пісаць апавяданні, і жыццё пакацілася іначай.

Калісьці я безліч разоў спрабаваў адказаць на два пытанні: як гэта адбываецца і чаму адбылося менавіта са мною? Развагі над першым пытаннем закончыліся высновай, што сам факт пераўвасаблення значна важнейшы за прызнанне яго верагоднасці. У другім я супакоіўся на тым, што гэты выпадак не паддаецца тлумачэнню, таксама як нельга, скажам, вытлумачыць, чаму ў звычайных бацькоў нараджаецца вундэркінд. Хоць тут, бясспрэчна, застаецца вялікая прастора розным гіпотэзам і здагадкам: напрыклад, ці выпадкова заявіўся да мяне стары знясілены грак або ці выпадкова ён прыляцеў акурат у той дзень, калі мы купілі каляровы тэлевізар?

Трэба, пэўна ж, сказаць і пра тое, куды я лётаю.

Найчасцей — за раку, дзе пачынаюцца палі. Раней там сеялі лён, і ад таго часу ў мяне застаўся вясёлы ўспамін. Знаёмай мастачцы, якая жыве ў мясцінах, дзе лён не расце, заманулася напісаць некалькі акварэляў з ільном. Як і было між намі дамоўлена, калі зарэчнае поле з пяшчотна-зялёнага зрабілася зялёна-блакітным, а з высачыні — зусім блакітным, быццам чыстае ранішняе неба, я пайшоў на пошту, каб адбіць знаёмай просценькую тэлеграму: «Прыязджай лён зацвіў». Дзяўчына-тэлеграфістка разам з шараватым бланкам некуды надоўга знікла, а вярнуўшыся, паведаміла, што такі тэкст яна прыняць не можа, бо гэта — шыфроўка.

Назаўтра мною зацікавіліся. Падчас той размовы ў маёй вальеры з самае першае хвіліны я змагаўся

са спакусаю выйсці на галубец пакурыць і ўявіць на парэнчах грака... У галаве круцілася вядомая сцэна з «Майстра і Маргарыты» — калі людзі ў цывільным наведваюцца ў кватэру да нябожчыка М. Берліёза і сустракаюць там ката, які насуплена абвяшчае ім: «Нікога не чапаю, рамантую прымус». Цяжка ўявіць, што пачалося б, каб там даведаліся, што я не толькі пасылаю шыфраваныя тэлеграмы, але і ператвараюся ў грака.

У тую ноч я прысніў адзін з варыянтаў магчымага развіцця падзей: я ў абліччы грака сяджу ў іржавай клетцы, а чалавек, што паказваў мне пасведчанне, корміць мяне ячменем і клапатліва падлівае ў сподак не ваду, а — «сталічную». І самае непрыемнае: клетка такая малая, што, калі я захачу ператварыцца назад у чалавека, мне проста не хопіць месца.

Зрэдку мяне цягне злётаць у іншы бок — у прыгарад, дзе ў колішнім кляштары бернардзінаў месціцца вар'ятня. У пагодныя дні яе насельнікі шпацыруюць па садзе, і, умасціўшыся дзе-небудзь на яблыневай расошцы, я прыслухоўваюся да іхніх размоў. Хачу вам сказаць, што за кляштарнымі мурамі мне даводзілася бачыць і абсалютна нармальных людзей, якіх лекавалі там месяцамі, а часам і гадамі — відаць, дзеля таго, каб зрабіць замест нармальных задаволенымі.

Адзін з іх, як я зразумеў з гаворкі санітараў, трапіў у вар'ятню за тое, што друкаваў на машынцы і расклейваў па горадзе адозвы з заклікамі да цвярозасці. Другі нястомна выкрываў на сходах несправядлівасць; цярпенне медыкаў скончылася, калі ён прапанаваў, каб на першамайскай дэманстрацыі бацькі горада не стаялі на трыбуне, а разам з усімі ішлі ў калонах.

Між іншым, сярод жыхароў былога кляштара ў мяне ёсць у нейкім сэнсе супляменнік — рослы бры-

васты мужчына з ніштаватым чэравам, які перакананы, што ён — птушка, і почасту пачынае падскокваць і па-птушынаму махаць рукамі. Але ён ціхі, яму, пэўна, і ў галаву ніколі не прыходзіла, што, перш чым замахаць рукамі, нядрэнна было б залезці на дрэва. Нягледзячы на ўсё старанне, я не адчуваю да гэтага небаракі ні сімпатыі, ні простае чалавечае шкадобы — супакойваю сумленне тым, што мая птушыная іпастась больш відушчая і я маю на такую абыякавасць нейкія яшчэ не спасцігнутыя мною падставы. Час ад часу мяне вабіць магчымасць трапіць туды, куды ў чалавечым абліччы трапіць я ніколі не змагу, — на макаўку тэлевізійнае вежы ці на бельведэр над першым адноўленым у горадзе па вайне будынкам з калонамі; на бельведэры здавён вісіць лозунг пра дабрабыт народа, а на вузкай пляцовачцы перад ім заўсёды можна знайсці жменьку проса ці пару хлебных скарынак.

Некалі ў мяне былі іншыя маршруты. На самым пачатку мне падабалася апускацца ў знаёмыя двары, інкогніта сустракаць знаёмых, каб зірнуць на іх вачыма птушкі. Неяк я сеў на падваконец кухні, дзе напярэдадні піў віно з жанчынаю, з якой мне было добра. На стале яшчэ стаялі нашы кілішкі, і на адным відаць быў след памады. Я аддаўся сентыментальнасці, і тут у кухню ў ружовым эфірным халаціку зайшла гаспадыня. Я ўсцешана стукнуў у шыбу дзюбаю, ды ўслед за гаспадыняю ў дзвярах паказаўся, зашпільваючыся на хаду, мужчына з упэўненымі вачыма і такой самай упэўненаю бародкай. Пасля гэтага я ўжо не лётаю па знаёмых адрасах, не шукаю на вуліцах знаёмых і нават жонкі. Такім наіўным спосабам я ўдасканальваю свет, у якім жыву.

Праўда, непрыемнае адкрыццё можа напаткаць і дзесьці на ўскраіне, дзе ніякіх знаёмых не павінна быць. Седзячы неяк у парку на старым жаролістым

берасце, я ўбачыў цыбатую постаць прыяцеля, амаль сябра; ён ішоў поруч з маладжавым падхорцістым чалавекам у бездакорнай шэрай тройцы. Вядома, мне — пагатоў пасля майго сумнага досведу — трэба было неадкладна ляцець прэч, але гэта вельмі нагадвала б уцёкі. Карацей, я застаўся і, калі яны праходзілі паўз бераст, пачуў тое, пра што мы з прыяцелем гутарылі днямі ў мяне дома пры гарбаце і што, напэўна, неабавязкова было ведаць чалавеку ў шэрай тройцы.

Але не трэба ўяўляць мае паветраныя вандроўкі суцэльным ланцужком непрыемных назіранняў і адкрыццяў.

У палётах лёгка думаецца — як быццам думкі таксама вызваляюцца ад улады зямнога прыцягнення. У прыватнасці, я думаю, што перасяленне душ пасля смерці — не такая ўжо фантастычная рэч, як некаторым здаецца. Калі ўвесь я, жывы і нават з адзеннем — незалежна ад таго, што на мне: лёгкая тэніска і джынсы ці важкі паўкажушок, пашыты татарынам з-пад Клецка, — калі я нейкім чынам ператвараюся з чалавека ў грака і наадварот, дык ці не прасцей адной толькі душы перасяліцца ва ўжо гатовую іншую абалонку? Урэшце, калі мы прызнаём, што ніякая энергія не знікае бясследна, дык дзе тады шукаць той магутны згустак энергіі, які называецца душою чалавека, пасля таго, як сэрца ягонае спынілася? Між іншым, ёсць гіпотэза (вядома ж, псеўданавуковая), паводле якой шаравая маланка — гэта душы памерлых. Аднойчы ў навальніцу я сустрэўся ў небе з пералівістым залаціста-блакітным шарам памерамі з галоўку немаўляці, і такі працяг існавання зусім не падаўся мне вусцішным і непрымальным. Мяркую, мы маем падставы глядзець наперад з пэўнаю надзеяй.

Яшчэ я люблю прыгадваць думкі некаторых філосафаў, чыіх імёнаў пакуль што няма ў нашых энцы-

клапедыях. «Свабода — гэта вызваленне не толькі ад уладароў, але і ад рабоў». Або: «Быць свабодным — не права чалавека, а ягоны абавязак і прызначэнне». У небе сэнс такіх сентэнцый спасцігаецца глыбей.

У часе падарожжаў над горадам мне падабаецца абдумваць апавяданні, якія я пішу ў пакоі, адкуль можна выйсці на галубец. У гэтых опусах вы дарэмна будзеце шукаць згадкі пра мае пераўвасабленні. Безумоўна, я мог бы падрабязна апісаць палёты — сюжэтаў набралася б на добрую кнігу, — але я даўно вырашыў, што буду маўчаць пра гэта і ў тым малаверагодным выпадку, калі мне прыйдзе ў галаву пісаць фантастычныя апавяданні. Я не здольны растлумачыць, чаму наважыўся адкрыцца вам. Калі шчыра, маё рашэнне вельмі трывожыць мяне. Няўжо яно зноў нарадзілася незалежна ад мае свядомасці? Няўжо гэта нейкі знак?

Я схлусіў бы, сказаўшы, што ніколі не пераадольваў спакусы скласці крылы і кінуцца долу. Я няраз дэталёва пракручваў такі варыянт і нават разважаў, што людзі знойдуць потым на зямлі: мёртвую птушку ці знявечанае да непазнавальнасці чалавечае цела? Няхай гэтыя развагі вас не палохаюць. Я ўпэўнены, што думка пра самагубства павінна хоць раз у жыцці прыйсці да кожнага чалавека. Хтосьці са славутасцяў, памятаецца, дзяліў чалавецтва на тры часткі: тыя, хто прачытаў «Братоў Карамазавых»; тыя, хто яшчэ не прачытаў; і тыя, хто ніколі не прачытае «Братоў Карамазавых». Мне хочацца падзяліць людзей паводле іншага прынцыпу: тыя, да каго ўжо прыходзілі думкі пра самагубства; тыя, да каго яны яшчэ прыйдуць; і тыя, у каго яны не з’явяцца ніколі. Так што не трэба залішне давяраць майму досыць бесклапотнаму тону.

З тае прычыны, што я належу і да птушынага свету, мяне, зразумела, цікавяць ягоныя праблемы, асабліва — якое месца займае ў гэтым свеце мая

персона. Адразу пасля першых палётаў я ўзяў энцыклапедыю і праштудыяваў усё, што там ёсць пра гракоў. Я даведаўся, што на лаціне мая другая іпастась завецца Corvus frugilegus, што мой крылаты свайчак мае памеры 46–52 сантыметры, важыць 360–540 грамаў, адкладвае чатыры–пяць зеленкаватых з бурымі плямкамі і крапінкамі яек і гэтак далей.

Потым я сумленна спраўдзіў, ці адпавядаю параметрам крылатых супляменнікаў, дзеля чаго, знаходзячыся яшчэ ў чалавечым абліччы, зладзіў на пісьмовым стале хітрамудрае прыстасаванне з некалькіх лінарак і прынёс ад суседзяў хатнія вагі. У выніку эксперыменту стала вядома, што я-грак маю памеры каля 50 сантыметраў і вагу 530 грамаў, а значыцца, з’яўляюся ў сваім відзе даволі буйным экзэмплярам, што, натуральна, пацешыла маё самалюбства.

Як неўзабаве высветлілася, праблема полу мяне ў птушынай іпастасі не абыходзіць. Дакладней, яе проста не існуе. Спачатку гэтае адкрыццё выклікала досыць супярэчлівыя пачуцці, сярод якіх не на апошнім месцы было расчараванне. Але воляй-няволяй я мусіў скарыцца. Зеленкаватыя, з плямкамі і крапінкамі яечкі, ільсняна чорная сяброўка на гняздзе, вылет птушанятаў у чэрвені — усё гэта не для мяне. Ды так яно, відаць, і лепей, бо хто ведае, як бы я спраўляўся з бацькоўскімі абавязкамі і тут, і там.

Хваляванні наконт выраю былі дарэмныя: нашы гракі, прынамсі гракі з нашага горада, туды ўжо не лётаюць. Цікава, што гэта: якасна новая прыступка эвалюцыі (у сэнсе вызвалення ад цёмнае сілы інстынктаў) ці новы віток занявольвання?

Дарэчы, апрача эксперыментаў з лінаркамі і вагамі, я рабіў у абліччы грака і іншыя. Скажам, пакідаў на стале разгорнутую кнігу або свежую газету. З кнігамі атрымлівалася па-рознаму. Газеты, якія і ў чалавечай

іпастасі чытаць мне было цяжка, у птушынай рабіліся ўвогуле псіхалагічна нечытэльнымі — асабліва першыя старонкі, дзе амаль кожны фотаздымак выклікаў неперiаможнае жаданне пусціць у ход дзюбу.

Але вернемся да маіх адносін з сапраўднымі гракамі. Мушу зазначыць, што яны заўсёды адчуваюць ува мне прыхадня з іншага свету і паміж намі ўзнікае неадольны бар’ер. На зямлі ніводны грак не падступіцца да мяне бліжэй, чым на такую адлегласць, калі б я ў тую хвіліну быў чалавекам. Разоў колькі я імкнуўся парушыць гэтую непрыемную дыстанцыю, аднак сапраўдныя гракі нязменна аднаўлялі яе. Калі ж я спрабаваў далучыцца да іхняе чарады ў паветры, яны імгненна рассыпаліся, паказваючы, што, і адарваўшыся ад зямлі, я зусім не зрабіўся для іх сваім. А вось галубы мяне не чужаюцца — мусіць, з тае прычыны, што наогул не баяцца людзей. Таму, калі ўгледзіце над нашым горадам галубіную чародку, у якой ляціць грак, ведайце, што вы, напэўна, бачыце мяне ў маёй другой іпастасі.

І яшчэ адзін істотны момант. Ператвараючыся ў птушку, я не набываю здольнасці звяртацца да крылатых супляменнікаў на іхняй мове. Зрэшты, дзіўна было б, каб я, захоўваючы пад чорнымі пёрамі чалавечую душу, мог адразу загаварыць на мове, што ніяк не вынікае з маёй сапраўднае сутнасці. Але цікава, што ў птушыным аблічччы я — не нямко. З маіх грудзей раз-пораз вырываецца яшчэ не падуладнае мне клекатанне, і гэта дае надзею, што некалі я і сапраўдныя гракі здолеем паразумецца.

Кажучы пра гракоў, я так старанна паўтараю эпітэт «сапраўдныя», што ў вас павінна міжволі з’явіцца думка: а хіба ёсць іншыя гракі-пярэваратні?

Яшчэ тры дні таму з гонарам за сваю выключнасць я адказаў бы, што пра іх існаванне мне невядома.

Божа, няўжо гэта здарылася не ў сне?..

У той дзень, крыху адпачыўшы на бельведэры, дзе нядаўна паднавілі лозунг пра наш дабрабыт, і праглынуўшы колькі хлебных крыхотак, я паляцеў на ўскраіну ў стары парк. Седзячы на сваім улюбёным берасце, я абдумваў сюжэт апавядання і чысціў пёры. Вось тут і прычынілася падзея, наступствы якой губляюцца ў тумане трывожных здагадак.

Я чысціў дзюбаю крыло і краем вока назіраў, як унізе, на свежаўскапаным кветніку, шукае спажывы чародка гракоў. Аднекуль з-за голых ужо ліп вылецела і апусцілася на кветнік яшчэ адна чорная птушка. Тут не было б нічога незвычайнага, каб астатнія гракі адразу не ўзняліся ў паветра і без пярэпалаху, але з відавочнаю паспешлівасцю не пераляцелі на суседнюю ліпу. Праўда, такі паварот амаль не закрануў мае цікавасці: паводзіны гракоў маглі выяўляць нейкія невядомыя мне дагэтуль дачыненні ў іхнім грамадстве. Ні пра што іншае я нават і не думаў. І ўсё ж пачаў сачыць за птушкамі больш пільна. Новы грак, у якога на спіне была ледзь прыкметная светлая плямка, скіраваў да ліпы, дзе сядзелі свайчакі, але яны і гэтым разам не прынялі навіка ў сябрыну — быццам па камандзе ўзняліся з галін і разляцеліся па навакольных дрэвах. Тут маё сэрца крануў халадок. Аднак тое, што грак са светлаю плямкаю зноў застаўся адзін, таксама яшчэ нічога не азначала. Вось калі зараз пералячу цераз асфальтаваную сцежку да яго і ён… Я не дазволіў сабе думаць далей. Пакружляўшы над ліпай, я знарок сеў зусім побач з ім — нават дакрануўся да ягонага крыла. Грак са светлаю плямкаю павярнуў галаву, трохі здзіўлена, але ўадначас і ўсцешана паглядзеў на мяне і не ўзляцеў.

Некалькі імгненняў я прыгаломшана сядзеў, не даючы сабе веры. Наўрад гэта была радасць. Я дапускаў

магчымасць пераўвасаблення іншых людзей, у тым ліку — і ў птушак, аднак мне чамусьці ўяўлялася, што астатнія пярэваратні могуць ператварацца ў лепшым разе ў вераб'ёў ці, напрыклад, у галубоў, але толькі не ў грака. Маё самалюбства было ўражанае. Сюды дамяшаліся насцярожанасць і раздражненне — нешта сярэдняе паміж пачуццямі Рабінзона Круза, калі ён убачыў на беразе след чужое нагі, і адчуваннямі аматара гатэльнае адзіноты, які жыў ва ўтульным аднамясцовым нумары і да якога без папярэджання падсялілі яшчэ кагосьці. Ды на той голай і слізкай пасля дажджу ліпавай галіне ў душы найгучней чулася ўстурбаванасць, што маё жыццё можа змяніцца, што яно ўжо змянілася, хоць знешніх прыкмет гэтага яшчэ няма. Зрэшты, цяпер ужо ёсць і — самыя пагрозлівыя.

Там, на ліпе, мне раптам нясцерпна захацелася падняцца і, не азіраючыся, ляцець да свайго галубца, зачыніцца ў пакоі і зашторыць вакно. Але я ніколі не дараваў бы сабе такое маладушнасці. Зняўшыся з галіны, праз дзясятак узмахаў крыла я азірнуўся: грак са светлаю плямкаю ляцеў следам. Спярша ён не надта ўпэўнена трымаўся крыху ззаду, ды хутка здагнаў мяне, і мы паляцелі высока над горадам поруч. Быў моцны сустрэчны вецер, і ўсё ж, мяняючы галсы, нам удавалася трымацца амаль крыло ў крыло. У гэтым палёце была невядомая раней трывожная асалода, у якой хавалася магчымасць не прадбачанае, не спланаванае мною, а зусім інакшае будучыні.

Я мог ляцець без адпачынку, але на хвіліну апусціўся на бельведэр. Потым, калі мы паляцелі далей, я зразумеў, што зрабіў супынак дзеля свайго спадарожніка: мяркуючы па яго ўпартым жаданні далучыцца да гракоў, ён быў пярэварацень вельмі малады і недасведчаны.

Неўзабаве грак са светлаю плямкаю рэзка ўзяў уніз і ўбок і, вырваўшыся наперад, паляцеў усцяж прырэчнае вуліцы. Ён зрабіў два кругі над абшарпаным панэльным пяціпавярховікам і спланіраваў на адзін з галубцоў чацвёртага паверха. Гадзіннік на рагу паказваў без чвэрці дзве: я мусіў спяшацца, каб нагадаваць сына і адправіць яго ў музычную школу. Прыкмеціўшы дом і галубец — там стаяла бочка з капустаю і тырчаў ровар са скручаным пярэднім колам,— я павярнуў дадому. Я ляцеў з адчуваннем, што, калі гляну назад, са мною, як некалі з жонкаю біблійнага Лота, здарыцца штосьці вусцішнае.

Заўтра, і паслязаўтра, і яшчэ безліч дзён мы будзем сустракацца і ляцець поруч і, можа стацца, навучымся размаўляць — тады, калі пругкі вільготны вецер будзе абмываць нашы целы і крылы. Я зразумеў, што дзесяць гадоў чакаў сённяшняе сустрэчы, баяўся і чакаў, падсвядома чакаў у кожным палёце. І вось: нас — двое!

Так думаў я ў тыя хвіліны, тры дні таму. Раптоўная радасць не змяшчалася ў птушыных грудзях, і, каб адчуць яе на ўсю поўніцу, хацелася хутчэй ператварыцца ў чалавека.

Я памыляўся. Калі зайшоў з галубца ў пакой, радасці не засталося нават на донцы. Мяне апанаваў страх. Страх, што мая таямніца раскрылася. Я праклінаў сябе, што ні разу не азірнуўся: можа, ён ляцеў за мною і таксама запомніў дом і галубец? Адзіным слабым суцяшэннем была відавочная неспрактыкаванасць гэтае істоты са светлаю плямкаю. Ён мог мець мяне не за пярэваратня, а за звычайную птушку, што насуперак астатнім адчула да яго прыхільнасць.

Яшчэ большы быў страх невядомасці. Я спасціг тую непрыемную праўду, што, не зважаючы на мае дэкларацыі, мне ў гэтым наладжаным жыцці, у маім

маленькім свеце вельмі прытульна і пераменаў я хачу значна менш, чым баюся.

Тры дні я не адшторваў вакна і дзвярэй на галубец. Тры дні мне спатрэбілася, каб пераадолець страх. Сёння, ужо чуючы сябе пераможцам, я ступіў у шэранькі восеньскі дзень, удыхнуў халаднаватае даўкае паветра, засяродзіўся і... нічога не адбылося. Я ўпэўніў сябе, што проста паспяшаўся, замітусіўся, недастаткова напружыў уяўленне. Зноў выйшаў на галубец, і зноў не атрымалася...

І вось я падымаюся па сходах. Па сходах таго самага пад'езда з галубцом, дзе стаіць ровар са скручаным колам, па звычайнай лесвіцы, якія бываюць у такіх дамах і пад'ездах, — бруднай, з перагарэлымі лямпачкамі на пляцоўках, са стандартным наборам надрапаных на сценах слоў. Яшчэ не ведаю, што скажу, калі мне адчыняць. Не ведаю, хто гэта будзе. Але ведаю: адчыніць менавіта ён, грак са светлаю плямкаю, бо ён ужо адчувае, як я няспешна, таймуючы сэрца, пераадольваю прыступку за прыступкаю, адчувае гэтаксама, як я адчуў, што, калі сёння мы не сустрэнемся, у маім, а можа, і ў ягоным жыцці здарыцца непапраўнае.

Зараз я падыму руку, націсну на гузік званка, і мне адчыняць. Хто гэта будзе — мужчына, жанчына, дзіця?..

*1988*

# Клён

Ён даведаўся, што памрэ, у той самы дзень, калі карані ўпершыню пасля зімовага нябыту, спачатку насцярожана, а потым усё больш прагна пацягнулі з адталае зямлі яе бунтоўныя п'янкія сокі, і тыя пабеглі вышэй і вышэй, да галін і галінак, да сучка, што з восені ўчэпіста трымаў выпетраны бурштынавы лісток, які можна будзе скінуць толькі тады, калі пупышкі радасна і ўрачыста пырснуць новай пяшчотна-клейкаю зелянінай.

Салодкая дрыготка прабегла па ўсім яго агромністым целе, і клён прачнуўся. Ён страпянуў веццем і ўсцешана ўбачыў са сваёй высачыні тое, што сніў усю доўгую завейную зіму: жоўта-блакітную, як ясны восеньскі дзень, хату, сядзібу, усю невялікую, багатую на сады вёску, поплаў з белымі плямамі гусей і няроўны лілавата-зялёны мур лесу, дзе ён, клён, калісьці нарадзіўся і адкуль прыйшоў летась ласы на садавіну вожык, прыйшоў ды, зладзіўшы ў ямцы непадалёк кубло, так і застаўся ў садзе зімаваць — порсткі колкі клубочак, маленькую кволую цеплыню якога клён адчуваў скрозь сон у зімовую халадэчу.

Захмялелы малады вецер, напоены таемнымі напаўзабытымі ляснымі пахамі, лашчыў яго галіны. У небе цурчэў цененькі струменьчык жаўруковае песні, а ўнізе, пераходзячы ад яблыні да яблыні, гаспадар збіваў шастом чорныя леташнія гнілякі, і ад гэтага маўклівага карчавітага чалавека ў зашмальцаванай скуранцы ішло лагоднае цяпло.

І раптам клён адчуў нешта нядобрае, дыхнула холадам, як быццам на сонца набегла хмара. Але неба было чыстае. Клён зірнуў долу і згледзеў каля сябе суседа.

— Здароў, сусед! — пачуў ён глухаваты голас гаспадара, які закурваў, ссунуўшы на патыліцу велікаватую кепку. — Што добрага скажаш?

— А тое скажу, што каціная ў цябе, сусед, памяць. Яшчэ на Каляды абяцаў гэтую махіну спусціць, а ўжо, между прочым, хутка Вялікдзень.

— Чым жа ён табе замінае? — памяркоўна спытаў гаспадар. — Вішню глушыць, дык абірай маю, хоць сабе вунь тую, акурат твая.

Магутнае цела клёна на імгненне зрабілася нейкім страшэнна лёгкім, нібы карані пакінулі трымаць яго і нават слабы ветрык мог кінуць яго вобзем і пакаціць, пакаціць некуды туды, дзе няма ні вясны, ні сонца, няма нічога.

— Ты мне зубы не загаворвай, — зноў пачуўся надтрэснуты суседаў голас. — Не па закону гэта. Стаіць на мяжы, а ўвесь цень, между прочым, на маіх сотках. І карэнне ўсё там. Каторы год бульба па гарэху родзіць.

— Колькі мяхоў не дабіраеш? Бяры ў мяне.

— Ты са мной не жартуй. — Клён бачыў, як суседаў твар пакрысе наліваецца чырванню. — Я цябе пападобраму прашу, па-суседску.

Гаспадар дыміў цыгарэцінай, пазіраючы некуды ўбок.

— Болей паўтараць не буду, — з пагрозаю прамовіў сусед і пасунуўся да сваёй сялібы. Кажанаваты, клышаногі і даўгарукі, ён быў падобны да вялізнага рака, апранутага ў ватнік і разбітыя валёнкі з галёшамі. На паўдарозе сусед азірнуўся і з прыдыханнем выгукнуў:

— Не спілуеш — мы на цябе лейцы знойдзем! Я, между прочым, вецеран калхоза!

Ён праклыпаў міма, і на клён зноў павеяла нечым настылым.

А да гаспадара подбегам кіравалася гаспадыня — невысокая круглявая кабета ў плюшаўцы.

— Што гэта Сымончык прыходзіў? Зноў?

— Але. — Гаспадар кінуў недакурак і затаптаў яго ботам.

— Не дам!

— Не дурніся, Ганна. Не будзем праз дзерава з чалавекам заядацца. Які ні ёсць, а сусед.

— Не дам!

Гаспадар перамаўчаў.

— Ну што маўчыш, як той клён?

— Прыедуць хлопцы, трэба пілаваць.

І клён зразумеў, што гэта — апошняе слова.

Начамі, калі вёска засынала кароткім вясновым сном, ён успамінаў.

Клён усё памятаў. Яму здавалася, што ён памятае яшчэ той час, калі быў семкай-крылаткай на галіне свайго разлогага бацькі з шырознымі далонямі лісцяў.

Ён памятаў той далёкі-далёкі дзень, калі ў лес прыйшоў чалавек з рыдлёўкаю і, асцярожліва падкапаўшы кволыя карэньчыкі, панёс яго ў вёску, каб стаць яго першым гаспадаром.

Клён падымаўся ўжо вышэй хаты, калі аднойчы прачнуўся ад ляманту сваёй першай гаспадыні і ўбачыў, як нейкія людзі вывелі гаспадара на падворак, збілі з ног і доўга, з насалодаю дратавалі яго ботамі, раз-пораз выгукваючы: «Бе-ла-рус! Пся крэў!» Яны забралі гаспадара з сабою, і клён больш не ўгледзеў яго на дарозе, якою вярталіся з горада.

Яго цяперашні гаспадар быў тады белагаловым накольнікам, з якім ён дзяліўся ўвесну сваім салодкім сокам. Яны раслі разам. Яны разам бачылі, як адна-

го дня паўз вёску, у той бок, куды ўвечар апускаецца сонца, ішлі танкі і як праз два гады стуль паўзлі іншыя танкі з чорнымі павукамі. Клён памятаў, як гарэла вёска і ў начным чарноцці хаты цвілі велізарнымі і жудаснымі чырвонымі кветкамі.

Але найчасцей яму чамусьці прыгадваліся тыя дзіўныя патайныя ночы, у якія малады гаспадар пільнаваў сад у пастаўленым пры самым камлі будане і штоночы з цемры ўзнікала зграбная, як рабінка, дзявочая постаць. Гаспадар браў дзяўчыну за рукі, яны сядалі поруч на шаматлівае сена, і клён узрушана і шчасна адчуваў сябе сведкам нейкай найвышэйшае таямніцы і, поўны нязвыклага хвалявання, баяўся нават шапацець лістотаю.

А пасля ў яго зялёнай засені падвешвалі ў летнія дні калыску: спярша са старэйшым, Волесем, а тады з малодшым, Вацем. Потым тыя навучыліся лазіць па ім, і клён неяк светла і падмалоджана чуў цеплыню іхніх дзіцячых рук, слухаў іх падобныя да шпачыных галасы і гадаў, каторы з малых стане яго трэцім гаспадаром.

Ён памятаў і дзень, як услед за старэйшым братам з пашарпанаю валізкай выправіўся ў вялікі свет малодшы, Вацік, і ён, клён, зразумеў, што трэцяга гаспадара ўжо не прычакае.

Клён усё памятаў.

Суботняга вечара клён пачуў, як гаспадар з сынамі выйшаў на ганак падыміць перад сном.

— Кляновіку яшчэ няма? — Было цёмна, але клён адразу пазнаў голас Ваціка.

— Не падсочваў… — неахвотна адгукнуўся гаспадар, і клён здагадаўся, што гаспадар яшчэ не казаў сынам пра *тое*.

— Магазін у вас, ацец, заўтра адкрыты? — Гэта старэйшы, Волесь.

— Робіць. Купіць што хочаш?

— Піўца трэба будзе ўзяць.

— Возьмеш… — і, памаўчаўшы, гаспадар сказаў: — Работа, хлопцы, ёсць на заўтра. Клён пілаваць будзем.

— Нашто яго пілаваць? Хай стаіць, красаве́ц,— пазяхаючы, азваўся Волесь.

— Навошта, тата? — прамовіў Вацік.— Гэта ж па дзеду памятка.

— Сымончыку ён як бяльмо на воку. Скардзіцца гразіўся…

І клён зразумеў, што *гэта* будзе заўтра.

Раніца была ясная, але стылая ад ночы, і жаўрукі заліваліся на ўсю шчырасць, грэючыся ад цяпельцаў сваіх песенек. Клён слухаў іх і чакаў.

*Судьбе не раз шепнём:*
*Мерси боку…*

— Ну пачалі, ці што,— абарваў на паўслове сваю песню Волесь. — А то першачок скісне.

Клён здзіўляецца, слухаючы Волеся. Ён ніяк не можа ўзяць у сэнс, чаму гамонка ў старэйшага гаспадаровага сына цяпер найбольш круціцца вакол гэтага піўца або гарэлкі, як быццам не засталося для яго на цэлым свеце нічога лепшага, як быццам гэта не Волесь, а нейкі іншы, адно падобны да яго бялявы хлапчук калісьці ціха, употайкі размаўляў з ім, клёнам, апавядаючы пра свае дзіцячыя радасці і крыўды, пра ровар, які бацька абяцаў яму купіць да дня нараджэння, як быццам гэта нехта іншы горкімі слязамі плакаў пад ім, калі гаспадар спляжыў у садзе старую грушу…

А гаспадар марудзіў, то пазіраючы пад ногі, то мераючы яго, клён, вачыма.

Вацік падняў пілу да плечука, стрэльнуў усцяж палатна вокам і з прыхаванаю надзеяй сказаў:

— Не возьме.

— Возьме! Давай, ацец! — прыспешыў Волесь, забіраючы пілу. — Як гаварыцца, раней сядзем, раней выйдзем.

Клён чакаў. Ён не баяўся, бо пражыў дастаткова для таго, каб не страшыцца смерці. Ён чакаў, уяўляючы, як карані яшчэ будуць роспачна гнаць з зямлі салодкі сок, а шырокае пнішча ўжо ўсцешана і густа абсядуць задаволеныя стракатыя мятлушкі, але ён ужо не пабачыць гэтага, бо сталёвыя зубы ўгрызаюцца ўсё глыбей і глыбей, штоімгненне абрываючы некалькі нітачак-повязяў, якія яшчэ лучаць яго з зямлёю, з жыццём.

— Вунь і памочнічак ідзе. — Волесь выпрастаўся і ацёр з ілба пот.

Да пільшчыкаў цюпаў сусед.

— Ага, надумаліся ўсё ж. — Ён сканууў рубам далоні па стаўбуры, і гэты дотык здаўся клёну страшнейшым за пілу.

— А што, дзядзька Сымон, у вас ужо не вітаюцца? — спытаўся Вацік.

— Здароў, здароў, сусед. Нешта ты ніяк па-гарадскому, между прочым, гаварыць не навучышся.

Вацік не адказаў.

— Давай пацягаю, — задаволена прапанаваў сусед Волесю.

— Прашу, — з гатоўнасцю адгукнуўся той.

— Не трэба. — Вацік пераняў у брата пілу.

— Іш ты, пеўнік малады!..

— Ішоў бы ты, Сымон… — сказаў гаспадар.

— Глядзіце, каб на свае соткі завалілі.

Сусед з блукліваю ўсмешачкай на твары пацягнуўся прэч.

— Куды гэта маць падзелася? — мяняючы праз колькі хвілін бацьку, запытаў Волесь.

— У Тэклінай дачкі ў адведках, — азваўся гаспадар.

— Знайшла дзень. Не каб чэсным тружанікам чарку паднесці, не адхадзя ад касы.

Клён убачыў, як Вацік адпусціў пілу, разагнуўся, збіраючыся штосьці сказаць, але толькі плюнуў. А старэйшы брат, муркаючы сабе пад нос, нават не змеціў нічога, і клёну падумалася, што ён так і не паспее зразумець, што адбылося з Волесем.

Повязяў з каранямі амаль не засталося.

Вось перарвалася апошняя нітачка, і клён адчуў, што ў ягоным целе ўжо няма бязлітаснага сцюдзёнага жалеза. Некалькі імгненняў, і ён страціць прытомнасць, каб ніколі больш не вярнуцца да яе. Але якраз у тым баку, куды яго ўсё мацней хіліла, пад шапкаю жухлых леташніх лісцяў спаў вожык, і клён з астатніх сіл трымаўся.

— Давайце хутчэй! — Голас Вaціка зазвінеў. — Не магу глядзець, як ён спілаваны стаіць.

Гаспадар з сынамі ўпёрся ў стаўбур трыма жардзінамі, і апошняе, што адчуў клён, была вострая шкадоба да невінаватага вожыка…

— Кубы два дроў будзе, — сказаў старэйшы сын, паляпаўшы па камлі. Але клён ужо не пачуў настыласці, якая ішла ад шырокай Волесевай далоні.

*1984*

# Ліфт

З нядаўняга часу з ліфтам начало адбывацца нешта дзіўнае. Набліжаючыся да дзявятага паверха, ліфт быццам нехаця гасіў разгон, і ў гэтым Валянціну чулася прыхаванае запрашэнне. Здавалася, дастаткова мысленнай згоды, і ліфт памкне вышэй, хоць падымацца далей не было куды — дзявяты паверх, дзе жыў Валянцін, быў у доме апошні.

Дзівацтвы звычайнага абшарпанага ліфта былі, безумоўна, плёнам фантазіі яго пасажыра.

Валянцін нават вынайшаў забаўную гульню, пра якую ведалі адно ён і ліфт. Калі той, злёгку вібруючы, пачынаў глытаць паверхі, Валянцін у думках падахвочваў яго: «Вышэй! вышэй! вышэй!», аднак у апошні момант, калі ліфт крыху збаўляў хуткасць, нібы чакаючы яшчэ аднаго, галоўнага «вышэй!», Валянцін паспешліва загадваў: «Стоп!» — і выходзіў на сваёй пляцоўцы, адчуваючы, што сэрца б’ецца трохі часцей, чым зазвычай.

Яму было смешна ад сваёй нерашучасці, ад таго, што ён — як быццам гэта не гульня, а якісьці надзіва важлівы крок — не можа пераадолець прыдуманага самім сабой бар’ера, які вабіў і ўадначас палохаў. Тут было штосьці ад знаёмага кожнаму прыцягнення стромы. Гэтае нявымаўленае «вышэй!», за якім нібыта хавалася нейкая магчымасць, дзень пры дні надзіла яго ўсё мацней і мацней.

І аднойчы, калі ліфт ужо збіраўся выпусціць яго, як заўсёды, на дзявятым паверсе, Валянцін, перамагаючы сябе, загадаў: «Вышэй!» я…

Здарылася неверагоднае: ліфт плаўна пайшоў далей.

Некалькі тамлівых імгненняў ён адлічваў ціхімі пстрычкамі няісныя паверхі і нарэшце, шчоўкнуўшы астатні раз, спыніўся. Дзверы са звыклым гудам пачалі разыходзіцца. Валянцін заплюшчыўся, як у маленстве, калі «жаўнерыкам» кідаешся з высачыні ў ваду, скамандаваў сам сабе: «Тры-чатыры!» — і ступіў наперад.

Ён стаяў каля дзвярэй уласнай кватэры. Усё было знаёмым і звычным: надрапаны на сцяне пацешны чалавечак з рукамі і нагамі-растапыркамі, блакітны дзіцячы вазок суседзяў, нават механічна схоплены зрокам уранні кавалачак апельсінавай лупіны пад нагамі. І ўсё ж нешта было не так.

Яго ключ, несумненна, падыходзіў да гэтых дзвярэй, але гэтаксама цудоўна Валянцін ведаў і тое, што яму могуць адчыніць з пярэдняй. Ён адчуваў няясны неспакой, штосьці нібыта засцерагала яго, аднак, зрабіўшы першы крок насустрач невядомаму, ён не хацеў спыняцца на паўдарозе. Ён падняў руку і рашуча націснуў на гузік званка.

На парозе стаяў высокі русявы хлопец з пісягам цераз левую шчаку. Хлопец быў надзвычай знаёмы, хоць Валянцін ніяк не мог згадаць, дзе яны сустракаліся.

— Заходзь, — стрымана запрасіў русявы.

Перш-наперш Валянцін падышоў да вакна. Вачам адкрыўся той самы двор, убачаны з вышыні дзявятага паверха. Воддаль графічна ўштукоўваліся ў блакіт сталёвыя карункі тэлевізійнай вежы.

Такім чынам, ён быў дома. Аднак у пакоі адбыліся змены. Валянцін засяродзіўся і зразумеў: з кніжнай шафы насустрач яму не свяцілася Вадзімава ўсмешка. Фота кудысьці знікла.

— Сядай, — русявы паказаў на крэсла.

Валянцін сеў і пільна ўгледзеўся ў чалавека, які быў за гаспадара яго кватэры. Калі б не пісяг і не прыцярушаныя ранняй сівізною скроні, ён мог бы прысягнуць, што гэта...

— Ты не памыліўся, — прачытаў яго думкі русявы. — Мяне завуць Валянцін. — Ён працягнуў Валянціну пачак «Арбіты».

— Дзякуй, не куру, — машынальна адказаў Валянцін.

Русявы прыкурыў ад запальнічкі і зацягнуўся.

— Пачакай, — ачомаўшыся, сказаў Валянцін. — Значыць, ты — гэта я і наадварот?

— Але. Хоць такое сцверджанне будзе не зусім дакладным. Ты, напрыклад, не курыш...

Увагу Валянціна забрала кніжка на часопісным століку. Гэта было яго «Узыходжанне». Чамусьці захацелася адшукаць верш, прысвечаны Вадзіму, лепшае, што было ў зборніку. «Сорак восьмая старонка», — паслужліва падказала памяць. Аднак у патрэбным месцы ён уражана прачытаў дзіўныя незнаёмыя радкі:

*А можа, побач з намі іншы свет*
*У часе на адлегласці імгнення,*
*І, можа, іншы ты у ім жывеш...*

Валянцін перавёў недаўменны позірк на суразмоўніка.

— Гэта твая кніга,— сказаў русявы.

— Але я ніколі не пісаў гэтых радкоў...

— Так,— пагадзіўся русявы. — Справа ў тым, што мы з табой былі адным чалавекам толькі да пэўнага моманту, а потым нашы... — ён памарудзіў, падбіраючы словы, — нашы шляхі разышліся.

— Да якога моманту? — Сэрца сціснула незразумелая глухая трывога.

Замест адказу хлопец з пісягам зірнуў на гадзіннік.

— У цябе яшчэ знойдзецца хвілін пятнаццаць?

Валянцін кіўнуў.

Русявы рабіў зацяжку за зацяжкай. Цяглівае маўчанне парушыў Валянцін:

— Адкуль у цябе гэта? — дакрануўся ён да шчакі. Русявы збіў попел, і Валянцін заўважыў, што яго пальцы ледзь прыкметна дрыжаць.

— Ты памятаеш Памір? Пяць гадоў таму.

Валянцін скалануўся.

Хіба мог ён калі-небудзь забыць?

...Яны паклалі насілкі пад пагрозліва навіслай скалой і ніцма пападалі вакол. Іх было пяцёра: дзве дзяўчыны, ён, Вадзім і Ігар, які раз-пораз ціха стагнаў, не вяртаючыся да прытомнасці. Ігару тэрмінова патрэбен быў доктар. Яны неслі Ігара па чарзе, апошнюю сотню метраў мяняючыся праз некалькі крокаў, і цяпер зразумелі, што не паспеюць, бо ў цемры спуск па ледавіку ў іхнім становішчы быў самагубствам. А ў лагеры будуць думаць, што яны заначавалі ў пячоры на трэцяй пляцоўцы і ў іх усё ў парадку. Разлічваць даводзілася толькі на ўласныя сілы. А іх не было. Нават на тое, каб адхінуцца ад калючага снегу. Адна думка, што трэба ісці, яшчэ мацней прыціскала да гэтага пятачка, затуленага скалой ад пранізлівага ветру. Яны ляжалі, а сонечны дыск вось-вось павінен быў укалоцца аб барвовыя ў яго промнях вяршыні Двухгаловага Шайтана.

— І тады Вадзім падняўся... — сказаў русявы. Так, Вадзім падняўся. Спярша на карачкі, а затым, забапёршыся на ледасек, на ногі. Яны праводзілі яго пачыма і не ведалі, што бачаць Вадзіма жывым астатні раз. І ўсё ж ён прывядзе ратавальнікаў, бо паспее стрэліць з ракетніцы...

— Тая расколіна была зусім побач з лагерам. — Голас русявага зазвінеў. — Калі б не яго пальцы...

— Якія пальцы?

Русявы глядзеў Валянціну проста ў вочы. Ружовы пасак на шчацэ пабялеў.

— У яго засталося больш сіл, — таропка загаварыў Валянцін. — Ён быў больш вопытны. Ты сам ведаеш, ён ішоў у горы пяты раз, а не трэці, як мы.

— Ён звіхнуў пальцы на абедзвюх руках…

— Мы не ведалі!

— Ты здагадваўся. Памятаеш, калі абарваўся Ігар… Вадзім не мог нават сцягнуць пальчатак.

— Што ты хочаш гэтым сказаць? — сарваўся на крык Валянцін. — Што ты харошы, чысты, што ты спыніў яго і пайшоў сам? Павер, я нічога не ведаў! Не ведаў! Клянуся табе!

У дзверы пазванілі.

— Хто гэта? — здрыгануўся Валянцін.

Русявы ўстаў:

— Вадзім.

*1983*

# Водсвет валошак

Мякка цякла пад колы сіняватая шаша. Цераз ветравічок бегла, кранаючы твар прыемным халадком, напорлівая ручаінка ранішняга паветра. І думкі прыходзілі таксама прыемныя. Хутка адпачынак, у кішэні пуцёўка ў Карпаты... А сёння з пограбам той работы — як кот наплакаў; тады ён скупнецца ў возеры, нацягае з крыніцы вады, напаліць лазню, і ўвечары можна будзе дасхочу хвастацца свежымі пахкімі венікамі — дубовым і бярозавым на змену. Цесць старой сваёй завядзёнкаю, не раўнуючы хлапчук, пойдзе з ім у заклад, што даўжэй выседзіць на палку, і стане безупынна ўздаваць на каменку, за кожным разам выгукваючы: «Ссаджу! Ссаджу!», пакуль сам не выцерпіць і не стрэліць, як корак, у прымыльнік.

Ён уявіў гэты малюнак і коратка рагатнуў: забаўны стары!..

Пасля лазні яны гукнуць суседа дзеда Піліпку і пасядзяць утрох, пагамоняць пра жыццё. На прыкуску цешча, як зазвычай, паставіць разам з бульбай яго ўлюбёную тонка наскрыляную паляндвіцу. Мабыць, і першыя гуркі ўсаліліся...

А Піліпка потым хутка завядзецца і пачне плесці небывальшчыну пра свае любоўныя прыгоды. Яны з цесцем будуць штурхаць пад сталом адзін аднаго нагамі і кіснуць ад смеху, а Піліпка — слаба стукаць у грудзі дрыготкай рукой і пакрыўджана бажыцца, што ўсё — святая праўда...

Ён злавіў на прыймачы эстрадны канцэрт і неўзаметку для сябе стаў падсвістваць. Кінуў вока на абно-

ву: пастаўленая ўчора на заднім шкле ружовая пластыкавая далонька весела і бесклапотна махала назад. «Прыгожа», — падумаў ён і падміргнуў люстэрку, адкуль на яго пазіраў светлавалосы, з маладжавым тварам і здаровым румянцам на шчоках чалавек, якому ніхто б не адважыўся даць сарака. «А заўтра дасвецццем — на рыбу...» На душы было гэтак хораша, што хацелася засмяяцца.

Была субота, і інжынер Лісоўскі ехаў на вёску да жончыных старых.

На развілцы за невялікім горадам, што заставаўся ўбаку, галасаваў невысокі, гадоў дваццаці хлопец у джынсах і зялёнай клятчастай кашулі з закасанымі рукавамі.

Лісоўскі заўсёды падвозіў спадарожнікаў: любіў пагаманіць з новым чалавекам, распытаць пра жыццё, паслухаць якую цікавую гісторыю альбо анекдот. Да пасажыраў ён ставіўся з гэткай добраю паблажынкай і ніколі не браў грошай, чым падсвядома трохі ганарыўся.

Вішнёвыя «Жыгулі» плаўна затармазілі.

— Мірск, — павітаўшыся, сказаў хлопец. Лісоўскі запрашальна махнуў рукой.

— У самы Мірск?

— Не. Яшчэ дваццаць кэмэ. — Пасажыр назваў вёску.

— Шанцуе табе, — шчыра ўзрадаваўся Лісоўскі. — З ветрыкам і без перасадкі. Як у лепшых дамах... Ведаю я гэту вёску, летась там вішні на кампоты браў.

Хвілін колькі ехалі моўчкі.

«Жыгулі», напяўшыся, абышоў салатавы «Масквіч» старога выпуску. Лісоўскі хмыкнуў:

— Во дае! Вясёлы мужык!

Ён азартна дадаў газу і лёгка абагнаў нахабніка. Хутка «масквічок» зелянеў ужо далёка ззаду.

Шаша, зрэдку віляючы, ляцела па чыстых сонечных баравінах. Абапал на ўгрэвах гарэлі лілавата-пурпуровыя астраўкі скрыпеню.

— Піць хочаш? Пацягні! — Лісоўскі кіўнуў галавой на сядзенне, дзе ляжала ёмістая поліэтыленавая барылка.

Спадарожнік прыклаўся на некалькі глыткоў і ацёр вусы тылам далоні.

— Дзякуй.

— Няма за што. Не нагрэлася яшчэ?

— Норма.

— Вязу да падлешчыкаў. Мінулы раз з цесцем вяліць падвесілі. Якраз паспець павінны... — Лісоўскі прыжмурыўся і выцягнуў губы ўперад. — З півам пасля лазні пойдуць — святыя такога не елі.

Машына абагнала пустыя калёсы; на іх, звесіўшы праз драбіны ногі, ехаў дзед у зімовай шапцы. Лісоўскі спыніўся:

— Гэй, баця! Давай транспартам мяняцца!

Дзед не адгукнуўся, толькі махнуў на каня лейцамі.

— Ну, як хочаш. — Лісоўскі, незадаволены, што не падтрымалі жарту, ляпнуў дзверцамі і крануў з месца. Але неўзабаве прыкрасць мінулася, і ён гучна засмяяўся.

— Анекдот учора расказалі. Слухай.

Расказваць анекдоты Лісоўскі ўмеў. Скончыўшы, ён раскаціста зарагатаў і ажно дастаў ілбом абаранку, паказаўшы пры гэтым сваю лысаватую макаўку.

— Ну як?

— Нармальна. — Пасажыр усміхнуўся ў акуратную цвёрдую шчотачку вусоў.

Лісоўскі спадзяваўся, што спадарожнік разлічыцца за ягоны анекдот сваім, ды той маўчаў. А Лісоўскаму карцела паразмаўляць. Ён любіў гаваркіх пасажыраў.

— Да сваякоў гоніш? Сальца-гурочка на зуб пакласці захацелася?

Пасажыр адмоўна пакруціў галавой.

— А да каго?

— Ды так...

«Узяў як чалавека, а яму пагаварыць па-людску цяжка», — пакрыўдзіўся ў думках Лісоўскі, але роспыты не пакінуў.

— Працуеш дзе ці вучышся?

— Працую.

— І кім?

— Мастак. — Пасажыр чамусьці збянтэжыўся. — Ну які мастак... Стэнды афармляю, лозунгі пішу...

— У мяне малец знаёмы таксама мастак. Жыве — не скардзіцца, — сказаў Лісоўскі, задаволены, што размова, здаецца, пачынае наладжвацца. — А я ў дзяцінстве, ты ведаеш, і сам гэтую справу любіў. — На ягоны твар выплыла спакойная паблажлівая ўсмешка. — На Новы год сёлета меншы мой прычапіўся: намалюй яму на вакне ваўка з зайцам, і ўсё тут. Давялося стары спрыт паказаць. «Ну, пачакай!» зрабіў, Кракадзіла з Чабурашкам, Віні-Пуха... Радасці малому было!.. Так, будзем курыць... — «Жыгулі» прыстроіліся да гужа машын перад закрытым пераездам, і Лісоўскі выключыў матор. — А з адукацыяй як? — павярнуўся ён да пасажыра.

— Ніяк пакуль.

— Вучышся?

— Кінуў.

— Во як... — зацікавіўся Лісоўскі. — А што кінуў?

— Горны.

— Інстытут? У Маскве?

— Ага.

У вачах Лісоўскага бліснуў недавер.

— Няўжо не падабалася? Там жа конкурсы, я чуў, о-го-го! У суседа сын летась паступаць ездзіў...

Спадарожнік марудзіў з адказам.

— Мабыць, цяжка было? — настыраўся Лісоўскі.

— Чаму? Лёгка ўсё ішло.

— Дык што тады?

Хлопец, заціснуўшы ў кулак падбародак, пазіраў, як уперадзе бяздумна, упэўнена і нястрымна несліся кудысьці па рэйках аднолькавыя льснянабокія цыстэрны.

— Мне маляваць трэба, — ачуўшыся ад одуму, загаварыў ён. — Атрымаецца з мяне мастак ці не — не галоўнае... — Яго пальцы камячылі палатняны мяшэчак, што ляжаў на каленях. — Галоўнае, каб самім сабой застацца. Разумееце?

— Чаго ж... разумею, — з прыхаваным скепсісам азваўся, заводзячы матор, Лісоўскі.

«Самім сабой — не самім сабой... Арыстоцель... Прасцей трэба быць. А можа, турнулі проста з інстытута, а цяпер байкі баеш...»

Гамонка загасла. Спадарожнік апусціў шкло і падставіў загарэлы твар ветру. Вецер кудлаціў, бэрсаў жарыя валасы, якія на сонцы адлівалі меддзю. Твар асвятляла нейкая ціхая прытоеная радасць.

Лісоўскі пакруціў ручку прыймача, зноў знайшоў музыку. Склаўшы губы дудачкай, пачаў падсвістваць, але хутка замаўчаў. Дзесьці глыбока ў душы закволіўся, кальнуў маленькай голкай незразумелы лёгкі неспакой, і разам з ім з’явілася дзіўнае адчуванне, нібы трэба нешта ўспомніць — толькі што?

Ён здзівіўся і не даў веры гэтай змене настрою: нічога ж не здарылася, па-ранейшаму стаяў пагодлівы — ні хмурынкі на небе — жнівеньскі ранак, а за ім — выхадныя з рыбалкай, небыліцамі дзеда Піліпкі... І Лісоўскі адмахнуўся ад недарэчнага неспакою, выгнаў яго, як закінутую ветрам у машыну асу. Ён пстрыкнуў па чырвоным стручку носа кашлатае чарцяня, што матлялася перад лабавым шклом, і бадзёра спытаў:

— Футбол учора глядзеў?

— Глядзеў.

— Маладзец! — Лісоўскаму спадабалася, што пасажыр таксама глядзеў футбол. — Такія гульні прапускаць нельга. А як Курань з вуглавога закруціў, а?

— Ну, малаток.

— Як ты лічыш, бронзу могуць узяць?

— Шанцы ёсць.

— Цяпер трыццатага з армянамі. На сваім полі — павінны накідаць.

— Прасцей простага.

— Ану зірнём. — Лісоўскі загамаваў каля дзвюх маладых жанчын з кошыкамі.

Кошыкі былі з каптуром. Наверсе самавіта чырванелі брылькі ладных падасінавікаў.

— Накасілі! — з ухвалай сказаў Лісоўскі і прапанаваў: — Сядайце, падвязём.

— Дойдзем! — весела адазвалася адна з жанчын. — З поўным лёгка.

Паехалі далей.

— Я там каля цесця месца ведаю, абабкаў пасля дажджу — хоць касу закладай. Мы тую восень пятнаццаць літраў паставілі. Зімой бульбачкі адварыш, алею туды, цыбулькі — ідуць, як дахаты.

— Добрыя грыбы, — сказаў пасажыр.

— А бландзінка нішто сабе. Усё на месцы, а? Як ты, стары?

— Нічога.

— То-та. Маеш густ. — Лісоўскі па-прыяцельску торкнуў пасажыра локцем.

— Дык да каго ўсё ж едзеш? Што за сакрэт?

— Ні да кога, — не дужа ахвотна адказаў спадарожнік. — Хачу па тых мясцінах пахадзіць...

— У грыбы, ці што? — уразіўся Лісоўскі. «За сто кіламетраў!.. Дзівак чалавек!»

— Не. Там побач паэт нарадзіўся... — Пасажыр сказаў імя.

— А-а-а... Ведаем, у школе яшчэ вучылі. — Лісоўскі, узрадаваны, што помніць, прачытаў некалькі радкоў на памяць. — Музей паглядзець хочаш?

— Музея пакуль няма. Так, паблукаю... Задума адна ёсць.

— Таксама сакрэт?

— Партрэт яго маляваць буду, — памаўчаўшы, неяк сарамяжліва прамовіў спадарожнік.

— Ясна. Так бы адразу і сказаў, а то цямніш, цямніш...

Лісоўскі зноў пачуў у душы стрэмку таго незразумелага неспакою, і зноў заруліла яму патрэба нешта прыгадаць — але што? Цяпер ён немаведама чаму чакаў словы пасажыра з насцярогаю. Захацелася перавесці гаворку на што іншае, ды ён насуперак сабе з дзіцячай упартасцю працягваў:

— Партрэт, значыць... Цікава... Замова?

— Не, для сябе.

Ён раззлаваўся, што спытаў. Рэзка, ажно выцяў палец, тыцнуў у клавіш прыймача. Вясёлая рытмічная музыка асеклася. Спадарожнік крыху здзіўлена зірнуў на яго.

Утаймаваўшы прыступ злаславасці, Лісоўскі з прыкрасцю і непаразуменнем падумаў: «Што гэта, стары, за муха цябе сёння ўкусіла?»

— Глядзіце, глядзіце! — засмяяўшыся, паказаў у вакно пасажыр.

Відовішча і сапраўды было пацешнае: водбліз дарогі высокі дзядзька ў кепцы касіў лугавінку; амаль уся яна ўжо ляжала ў роўных пракосах, а ўскрай астатняга лапіка травы стаяў на тонкай назе бусел і, здавалася, умольна пазіраў на чалавека з касой.

Ад таго, што спадарожнік змяніў тэму, прыйшла палёгка, але размаўляць больш не цягнула.

Лісоўскі кінуў позірк направа, на кіламетровы слуп: колькі засталося? Краем вока ён змеціў, што пасажыр са строгім задуменным тварам глядзіць уперад і што нібы паглыбелі яго шаравата-блакітныя вочы.

Лісоўскі дзяўся думаць пра заўтрашнюю рыбалку.

— Нешта ўжо бачу, — нечакана сказаў пасажыр. — Дарога ў жыцproperly — і ён ідзе…

І ад летуценнасці яго твару, ад голасу — усхвалявана-дрогкага і шчырага — неспакой пачаў расці, падымацца трывожнымі хвалямі. То быў ужо не неспакой — штосьці інакшае, вялікае і тужлівае, узяло Лісоўскага за сэрца.

Спадарожнік маўчаў, а насланнё не міналася, Лісоўскі не мог адагнацца ад яго. Гэта было як тая невытлумачальная туга, што зрэдку навальвалася нябачным цяжарам у цяглівыя, з золкай імжой і голымі дрэвамі за акном познявосеньскія вечары, калі знянацку яму ставала нязвычна самотна і шчымліва праглася ці то некуды ехаць, ці то яшчэ чаго… І тады ён ратаваўся, адчыняючы бар…

І нясцерпна, так, нібы там, у душы, нешта сціралася да жывога, муляла Лісоўскаму жаданне ўспомніць тое важнае, у чым, здавалася яму, быў паратунак ад гэтага наслання, ад колкага, пякучага раздражнення, якое нарастала ў ім, а мо і не паратунак, а зусім іншае, але ўсё роўна ён павінен быў успомніць, бо ў тым, забытым, была разгадка, было збавенне.

Ляцела пад колы шэрая шаша…

І раптам уваччу ярка, быццам высвечанае сонечным промнем, паўстала даўняе-даўняе, далёкае-далёкае…

Чорныя, з бліскучымі вяршкамі боханы на ручніку — два вялікія і малы, падскробак… Яго маленькая школьная акварэль.

Дазвання забытае, але ж ацалелае вось у сховах памяці, нібы ведала памяць, што надыдзе хвіліна, калі яно яшчэ прыдасца, калі без яго будзе немагчыма.

Два вялікія і малы, падскробак, маці заўсёды пякла такі для яго. І збанок з валошкамі... Ад іх на ручніку лёгкі блакітны водсвет...

З-за павароту вынікла нейкая вёска.

Лісоўскі, не разумеючы, што з ім, крута вывернуў на ўзбочыну і ўдарыў па тармазах.

— Тут... заскочыць трэба... да аднаго... — Голас быў глухі і шэрхлы, вочы глядзелі кудысьці ў прастору.

— То я пачакаю?

— Выйдзі! — глуха, як гакнуўшы цяжкай сякерай, выдыхнуў Лісоўскі. Пальцы на абаранцы пабялелі ад напружання.

Вусны пасажыра тарганулiся; ён пачырванеў так, што зусім светлымі сталі выгаралыя бровы, разгублена правёў рукой па валасах і выйшаў з машыны. Няўпэўнена выняў з кішэні партманет.

Лісоўскі рыўком зачыніў дзверцы і рвануў з месца...

*1981*

# Маналог святога Пётры

Ачхі! Ачхі! Выбачайце, шаноўныя. Ачхі! Вось так і ачынаешся кожнае раніцы. Каб ён пражыўся ў апраметнай з самымі зацятымі грэшнікамі! Гэта я пра катар. Ачхі! У якім жа гэта годзе прыстаў ён да мяне, не раўнуючы як святая доказная інквізіцыя да бязвіннае душы? Ачхі!

Праклятая чыхаўка вытрасла з маёй гарапашнай галавы, нібы зернейкі відуку, усе дарэшты даты. Затое, дзякаваць Богу, усё астатняе ў памяці трымаецца, быццам дзеялася не даўней мінулай нядзелі. Вось як учора было, бачу праявы таго злашчаснага лета, калі ў наваколлі трывала гэткая сухмень, што ўвачавідкі жоўклі зялёныя сенажаці і пачыналі ўжо людцы паспалітыя загадваць, ці не давядзецца сёлета разгаўляцца грэшным чынам катамі ды кашчавымі сабакамі.

І прычыніўся той парою ў нашым касцёле нечуваны цуд. Аднойчы прычакаўшы, пакуль арганісты ўзяў першы акорд і хор утрапёна зацягнуў «Ave Maria!», заступніца наша Маці Божая заплакала ў сваім алтары буйнымі, як боб, слязьмі. Не дзіва, што падхапіў я тады пякельны катар. Цэлы месяц ні на хвілю не зачыняліся касцельныя дзверы.

Адале, скажу вам, шаноўныя, прачуўшы аб наскіх дзівосах ды нагледзеўшыся на збоі вернікаў, што цягнуліся да нас, не стрываў, пусціў слязу Мікола-ўгоднік з праваслаўнай царквы, якая касавурылася на касцёл цераз пляц.

А там на вуніяцкім храме Звеставання, што каля ратушы, пачалі прамаўляць падчас ютрані прарокі Захарыя ды Ісая, і ўсё, кажуць, найчасцей гугнявым голасам бажавольнага Баўтрамея, што жыў за ярам у звярынай бярлозе.

Ведама ж, дакацілася пагудка пра небывалыя падзеі куды след, і разы тры ніштавата прычасціў сухую, як порах, зямельку дождж. А потым жыхары знакамітага нашага места ды сяляне паблізных вёсак і зусім паарлелі, убачыўшы, як папаўзлі з замкавае брамы вазы з соллю і княскія людзі сажань за сажнем сталі густа саліць брукаванку ўсцяж возера, паўз фару і да самага віленскага тракту.

Зноў заманулася яснавяльможнаму валадару праехацца ўлетку на санках, праімчаць новую каханку на мядзведжай запрэжцы. А людцам паспалітым таксама ўсцеха — да трэцяга калена сабранае солі стане.

Ачхі! Вы ўжо даруйце, шаноўныя, трэба начхацца ў запас, бо дзе гэта вы бачылі святога Пётру, які чхае на музейных наведнікаў?

Ну так, цяпер я экспанат. Але, калі хтосьці з вас скажа: «Sic transit gloria mundi»*, я запярэчу. Хіба рацыя наракаць мне на свой лёс? Было нас шасцёра братоў, а застаўся на свеце адно я. А ці не паважны век мае без малога чатырыста гадоў, пражытыя ў гэтых барочных мурах, што памятаюць ядры маскоўскага цара, шведскага караля і французскага імператара ды град нялічаных асколкаў ад нямецкіх бомбаў?

Часам я шкадую, што ў мяне драўлянае сэрца, а часам радуюся з тае самае прычыны, бо іначай яно не вытрывала б усяго, што мне выпала пабачыць. Але, відаць, яно не зусім драўлянае, бо такімі вось чыстымі вясновымі ранкамі, калі маладыя сонечныя промні

---

* Так мінаецца слава зямная (лац.).

запальваюць пазалоту капітэляў і гзымсаў, а на белыя сцены шматкалёрна кладуцца цёплыя водсветы вітражоў, я адчуваю, як маё сэрца прачынаецца і дзесьці там, у душы, нараджаецца ціхая музыка...

Ачхі! О жудлівае насланнё Люцыпара! Ачхі! Усё, апошні раз, бо вунь ужо ідзе Алена, як зазвычай, усмешлівая, лёгкая і пекная, што той анёлак.

Наша навуковая супрацоўніца стагоддзі на тры з паловаю маладзейшая ад мяне, аднак у яе галоўцы з дробненькімі залацістымі кудзеркамі змяшчаецца гэтулькі імёнаў, падзей і, галоўнае, дат, што нават я крышачку зайздрошчу ёй. Праўда, калі чытаеш пра ўчыненую царскімі стральцамі разню і калі на ўласныя вочы бачыш, як плыве цераз храм чырвонае ручво і ў ім кешкаецца немаўля — гэта, прысягаю светлай памяццю майго бацькі, зусім розныя рэчы.

Ды лепей, шаноўныя, замест жудлівых прыгадаў, пакуль Алена з экскурсіяй падыдзе бліжэй, намалюю я вам свой партрэт.

У мяне грубаваты, але мужны і нават паглядны твар з шырока пасаджанымі вачыма. Вятрыска жыццёвых нягодаў ваяўніча ўскудлаціў мае густыя валасы і бараду. На дужых рамёнах — апанча. Ці трэба дадаваць, што, як і належыць святому, трымаюся я з годнасцю. Тым больш у маіх каструбаватых руках звыклага да працы чалавека не абы-што, а ключ ад райскае брамы.

Вам цікава, адкуль музейны экспанат гэтак добра ведае сваё аблічча, быццам штодня круціцца каля люстра, усё роўна як дзяўчына на выданні? А летась пашчасціла і мне глянуць у люстэрка, калі тыдні з два вылежваўся на стале ў рэстаўратараў, што няблага падлячылі мае старэчыя хваробы. Апроч, вядома, чыхаўкі, а прызнацца ў ёй перашкодзіла мая прыродная сціпласць.

— Перад вамі — драўляная скульптура святога Пётры, — цурчыць Аленін галасок. — На жаль, гісторыя не захавала імя выдатнага майстра...

Антосем яго звалі.

Майго бацьку, чалавека, што выпусціў мяне на свет з невідушчага і глухога дубовага кругляка.

Ён быў каржакаваты, з цёмна-русымі доўгімі валасамі і рахманымі сінімі вачыма. У абліччы гэтага ціхмянага чалавека не было нічога нязвычнага, але калі Творца сапраўды існаваў, дык Антось быў вельмі падобны да яго. З каляных і пяшчотных Антосевых далоняў выпырхвалі драўляныя жаўрукі, ільвы на падлокніцах крэслаў, не паспеўшы нарадзіцца, хапалі зубамі разец, а па мядзведзі, якога мой бацька выштукаваў у паляўнічай зале, аднойчы пекануў з рушніцы зляканы княскі госць.

Але то былі нявінныя забаўкі, бо Антось не проста штукарыў, а аздабляў ва ўсім вялікім наваколлі храмы, і я на свае вушы чуў, як варшаўскі прыяцель нашага валадара аддаваў за бацьку табун арабскіх скакуноў.

Па Антосевых жылах бегла адважная кроў. Браты мае, яшчэ не агойтаўшыся як след у новым шыкоўным жытле пасля цеснае майстэрні, ледзь не засталіся сіротамі, а маё жыццё дык наогул вісела на павучынцы. Хтосьці з добрых людзей нашаптаў айцу Геранімусу, што святы Пётра (гэта значыць я) задужа выдае з твару на княскага стайніка Сымона. Яшчэ паўбяды, каб гэты Сымон быў праўдзівае рымскае веры ці, на горшы выпадак, вуніятам. А ён, як на тое, схізмат праваслаўны, які не верыць, што святы дух сыходзіць не толькі ад Бога-Бацькі, але і ад Бога-Сына.

Не Божы знак, а злачынныя падкопы заклятых ворагаў пана Езуса ўгледзеў айцец Геранімус у гэткім

дзіве. Дайшло, шаноўныя, да таго, што пробашч наш стаў у часе набажэнства збівацца, не раўнуючы як падгулялы шкаляр.

Угневаны князь загадаў мяне пашчапаць і спаліць, а бацьку майго Антося, каб мацнела ягоная вера, пасадзіць, не ўважаючы на былыя заслугі, у лёху да мядзведзя. Ды не паспелі замкавыя людзі спраўдзіць жорсткага княжага ўказу, бо прыступіліся да места маскоўскія ваяводы з незлічоным войскам. Два тыдні бацька мой і ўсе мужчыны, чые рукі маглі трымаць зброю, не спускаліся з гарадскіх муроў. Забыўшыся на звадкі і варажнечу, каталікі, вуніяты і праваслаўныя адным гуртам лілі на галовы абложнікам агнёвую смалу, скідвалі прыступныя драбіны ды секліся ў рукапашнай. Добра памяталі жыхары слыннага места, як адны хрысціяне выразалі ў памежным Мсціславе другіх хрысціянаў, не пакінуўшы на вуліцах і дзвюх жывых душ.

Адбараніліся на той раз мае землякі. А тым часам ачахла і полымя княскага гневу. Лагадней стаў паглядаць на мяне і айцец Геранімус, балазе ненавісны вораг ягоны схізмат Сымон падчас вылазу ў варожы табар налажыў галавою, і ўзнялася душа стайнікава прамютка на нябёсы.

О, чаму ніхто не ўклаў у мае драўляныя вусны Слова! Колькі маглі б яны распавесці вам, шаноўныя дбайцы аб роднай гісторыі! Свая адмысловая показка знайшлася б і дзеля кожнага, хто прыходзіць сюды проста падзівіцца.

Вось гэтым дваім, што даўно ўжо не слухаюць Алены, а шэпчуць адно аднаму пяшчотныя словы, якіх у сэрцах іхніх болей, чым у нашай царкве святых, я распавёў бы, як на гарадскім пляцы палілі чараўніцу.

А была яна, скажу вам, шаноўныя, такой самай чараўніцаю, як я — царом Саламонам. Адзінае,

што было ў дачкі клепнара Лявона з Ціхай вуліцы чароўным, дык гэта яе хараство. Пабачылі б вы Хрысціліну паставу — князёўна! А белы, як парцаляна, твар з танюткімі чорнымі бровамі, а гарэхавыя, жывыя, нібы міркіль, вочы, а вейкі, быццам мяккія крыльцы баечных мятлушак... Кажуць, калі Хрысціна прыносіла ў бацькаву майстэрню полудзень, малаточкі маладых чаляднікаў самі сабой выбівалі ў яе гонар сонечную мелодыю. А калі ў нядзелю яна ў сваім зялёным фаляндышавым саяне з кшталтам чорнага аксаміту прыходзіла разам са старым Лявонам на імшу, далібог, у касцёле ставала святлей, і, палохаючы пацеры, па-над галовамі вернікаў луналі чароды грахоўных падумак.

Але яна, гэтая красуня з дзвюма цяжкімі смалянымі косамі, была незачэпаю.

Сам княскі медыкус, бялявы станісты прыгажунчык, што штудыяваў на ўлохскіх універсітэтах лекарскія і грахаводныя навукі, той самы медыкус, па якім сохла безліч жаночых сэрцаў у замку і месце, гэтым разам толькі аблізнуўся.

Не ведала, ой не ведала Хрысціна, што душа ў пана лекара чарнейшая за найчарнейшы атрамант, якім змацоўваюць дамову з д’яблам. І калі захварэла ўлюбёная князева дачка і не адпрэчылі ліхаманку заморскія пігулкі, абвясціў медыкус, што гэта наслала чары на высакародную кроў Лявонава Хрысціна...

Толькі для аднаго чалавека на ўсім белым свеце не была яна незачэпаю, і чалавек гэты стаяў у натоўпе і неўразуменнымі вачыма глядзеў, як чырвоныя языкі, перабягаючы з палена на палена, лісліва падкрадаюцца да босых Хрысціліных ног.

Божа, маліўся я, ты нагадаваў пяццю хлябамі пяць тысяч галодных! Ад твайго слова засохла смакоўніца. Ад дотыку тваёй рукі ў невідушчых расплюшчваліся

вочы! Злітуйся над не вінаватаю ні ў чым, апрача свае прыгажосці, дзяўчынаю! Уратуй яе ад ненажэрнага полымя! Ты чуеш, Божа?

А мо ты хочаш узяць яе на неба? Тады пакарай яе катаў, пакарай медыкуса, бо грэх ягоны трыкротна варты смерці!

Новыя роспачныя малітвы вырываліся з маёй душы, але ён не чуў, а мяне ўжо дапінала гарачае дыханне вогнішча. І тады я пачаў блюзнерыць і ў думках сваіх даходзіў да грахоў, адпусціць якія не можа нават самая дарагая прошча. Але ён застаўся глухі, і тады я ў адчаі звярнуўся да яго астатні раз. Божа, папрасіў я, калі ты ёсць, спапялі мяне.

І ён зноў не пачуў.

А дым ужо ахінуў Хрысцініну постаць, і па-над пляцам разлёгся вусцішны крык звар’яцелага старога Лявона, і ў разнасцежаныя дзверы касцёла згледзеў я, як белыя галубы скінулі па пёрку на цёмна-русую голаў чалавека з неўразуменнымі вачыма. І быў гэты чалавек мой бацька Антось...

Ачуўшыся ад прыгадаў, я бачу поруч аточаную дзецьмі настаўніцу і чую штосьці пра цёмных продкаў і рэлігійную ачмару.

Як вы мяркуеце, шаноўныя, ці ўратавала б мяне гэтая кабета ў той даўні ўжо дзень, калі на цвінтары загарэлася вогнішча з касцёльных абразоў і старадрукаў нашае друкарні, і на самым яго версе, быццам ерэтыкі, ляжалі мы з Паўлам і братамі Янам, Мацеем, Маркам і Лукашом? У перадсмяротнай тузе я глядзеў, як полымя паспешліва гартае кнігі, ператвараючы словы ў тло, а калі агонь падышоў усутыч, я стаў развітвацца з сінім, нібы бацькавы вочы, небам, і апошняе, што ўбачыў, перш чым нізрынуцца ў нябыт, была кніга, якую святы Паўла трымаў ва ўзнятай над полымем руцэ.

Мяне выцягнуў з агню стары настаўнік, і па тым часе, шаноўныя, гэта быў не абы-які ўчынак. А ў дрывотні я пачуваўся, далібог, лепей, чым прарок Іёна ў чэраве ў левіяфана. Праўда, вылячэнню чыхаўкі новы прытулак не спрыяў, ды затое майму ратаўніку ўдалося пераканаць усіх, што яму проста трэ было сухое дрэва на распалку ў печы.

Вы не ўяўляеце, як прыемна адчуваць, што вунь той модны танклявы юнак з рудымі вусамі зрабіў бы на месцы настаўніка тое самае. Ён яшчэ не наблізіўся, адно глянуў здаля, а маё драўлянае сэрца ўжо страпянулася, кранутае чыстым і цёплым струмком яго думак. А думкі ягоныя пра майго бацьку, пра безыменных мастакоў, што малявалі гэтыя дзівосныя абразы, пра зямлю, якая іх нарадзіла. (Ты маніў у сваім пасланні, мой аднайменнік святы Пётра, калі пісаў, што ўсякая плоць, як трава, і ўсякая слава чалавечая, як квет на траве; засохла трава, і квет яе апаў. Ты маніў.)

О не, шаноўныя, я не абмовіўся, што ведаю, аб чым думае гэты юнак.

За столькі гадоў кожны на маім месцы навучыўся б чуць думкі людзей не горш за іхнія словы. А ці трэба здзіўляцца таму, што я магу зазірнуць у кнігу чалавечага лёсу? Бачу ў ёй, што хлопец гэты — мастак і свечка яго душы будзе гарэць моцна і роўна і не пагасне, пакуль ён не збярэцца ў сваю астатнюю дарогу.

Чаму пячатка маўчання ляжыць на маіх вуснах?! Я распавёў бы яму пра мастакоў, што размалёўвалі мой старадаўні прыстанак фрэскамі.

Іх было двох — бацька і сын, і яны гаварылі між сабою той моваю, што і Антось.

Цяпер на месцы фрэсак белая неруш тынку — сам пан Бог не здолеў бы дапамагчы рэстаўратарам пасля таго, як на фрэскі дзесяцігоддзямі любаваліся дажджы і вецер. А тады…

Гэтыя двое, што пачыналі свой дзень з пацераў святому Лукашу[*], былі праўдзівыя цудатворцы. Здавалася, іхнім пэндзлям аддалі барвы самыя зыркія і зіхатлівыя з вясёлак, што ад стварэння свету запальвала над гэтай зямлёю сонца. Здавалася, з вуснаў намаляваных імі сівабародых пракокаў вось-вось зляціць вешчае слова, а кветка ў руках у царыцы Саўскай была гэткай жывою, што на яе аднойчы ўсцешана апусцілася заляцелая ў храм пчала-медавіца…

Князь па-каралеўску адарыў мастакоў золатам з бяздонных сваіх скарбніц ды, мала гэтага, абвясціў наваколлю, што дае ў гонар слынных майстроў баль. Кажуць, болей чым сотню суседзяў і васалаў сабрала ў замку тая бяседа, і на пачэсным месцы сядзелі мастакі ў дараваных князем адамашкавых, з залатым тканнём каптанах, і слугаваў ім на знак асаблівае міласці адмысловы стольчы — накладаў на ўзорыстыя срэбныя сподкі дзічыну, падліваў у венецыянскія келіхі французскае віно. А ў глухім замкавым сутарэнні, куды знадворку не даляціць нават гарматнага стрэлу, ужо чакаў кат з гострым, бы асінае джала, кордам.

Ноч навылёт вірыла застоліца, а на світанні, у няпэўным святле аплытых свечак трохі цвярзейшыя з бяседнікаў змецілі, як бацька і сын заснулі ў высокіх, аздобленых разьбою крэслах, звесіўшы русявыя галовы на грудзі, і княскія людзі асцярожліва падянялі крэслы і панеслі некуды па заблытаных пераходах.

Напоеныя падступным зеллем мастакі ціха ўсміхаліся ў сне і не ведалі, што больш нідзе і ніколі не паўтораць яны свайго дзіва, бо з гэтае раніцы іх вочы будуць заўсёды бачыць адно цемру…

Зірніце, шаноўныя, як лазуркава, пунсова і бурштынава ўспыхнулі вітражы ў заходніх вакенцах! Гэта

---

[*] Апостал Лука лічыўся апекуном мастакоў.

значыць, Алена пабегла ўжо на свае вячэрнія лекцыі на гістарычным факультэце і хутка я застануся самнасам з марудлівай паўнаватаю прыбіральніцай цёткай Ядвісяй.

Узнятыя ёю пылінкі будуць павольна танцаваць у стомленым сонечным промні, і, выбачайце, не будзе ўжо ніякае змогі ўтаймоўваць чыхаўку… Паглядзелі б вы, як пасля майго чыху цётка Ядвіся няўцямнапалахліва азіраецца на бакі і хапатліва жагнаецца на мяне і чамусьці на жалезнага рыцара, які вартуе ўваход. Ну даруйце мне, старому, гэтую бяскрыўдную забаву.

Недабудаваны гараж… Паўтары тысячы доўгу… Тэрмінова трэба майстар, каб змураваць на летніку камін… Цікава, якая нітачка прывяла яго сюды? Ага, хоча вызнаць, ці каштоўныя яго абразы, тыя дзве цёмныя дошкі, на якіх амаль нічога не відаць і якія ён забраў пасля хаўтураў з матчынай хаты. Мо пашэнціць каму-небудзь выгадна збыць, каб вярнуць пазычкі?

Гэты лысаваты дагледжаны чалавек прыпыняецца каля мяне, я на імгненне сустракаюся позіркам з мітуслівымі вачыма за круглымі шкельцамі акуляраў, і гэтага дастаткова, каб кінуць вока ў яго будучыню.

Ён яшчэ не ведае, што там засталося зусім мала дзён. Але журботна мне з іншае прычыны.

Ну што, скажыце, зменіцца, калі ён даведаецца пра пухліну, якая ўжо расце ў ягоным страўніку? Пачне бегаць, шукаць лекі…

Я хацеў бы, шаноўныя, каб ён пачуў пра друкароў з нашае друкарні, што стаяла водбліз гарадскога млына да таго страшнага пажару падчас даўняй вайны са шведамі.

Пра худога і цыбатага, нібы птушка жораў, мніха, які ўзімку і ўлетку хадзіў у адной лапленай сутане і які насмельваўся казаць непачцівыя словы самому кня-

зю, вінавацячы яго ў адступе ад бацькоўскіх звычаяў і слова. Казалі, мніх той быў заможным шляхцічам, ды змяняў поўны трыбух на друкарскі варштат, каб даць люду паспалітаму духоўную лусту, як запавечыў Францыск Скарына са слаўнага места Полацкага.

Згадаў бы я і другога ў друкарскіх справах майстра, чалавека простай сялянскай крыві, што, ратуючыся ад гневу маскоўскага патрыярха, вярнуўся ў сваю Айчыну, знайшоўшы прыстанак у княскай друкарні. Не ведаю ягонага аблічча, бо быў ён не рымскае веры і касцёл абмінаў, не пеажагнаўшыся, але ведаю, што ў астатні свой дзень друкаваў ён лемантар на роднай мове, калі ворагі былі ўжо на вуліцах места, і астатні раз убачыў сонца, баронячы на парозе друкарні кнігі. Лысаваты ўжо далёка адсюль — спяшаецца кудысьці ў вулічным збоі, а я па-ранейшаму думаю пра яго. Ці патрэбна яму тое, што я памятаю?

Раней я меркаваў, што яна, гэтая памяць, наогул не трэба нікому, апрача некалькіх дзівакоў, бо жыць без яе людзям зручней і ўтульней. Ды апошнім часам да мяне ўсё часцей прыходзяць іншыя думкі. Бо ёсць жа Алена, і той мастак з рудымі вусамі, і фацэтны паэт, што складае пра мяне паэму… А пакуль ёсць сейбіты, будуць і ўсходы. Зрэшты, дбаннем рэстаўратараў, стагоддзяў пяць жыцця мне яшчэ забяспечана.

Так што, шаноўныя, пагледзімо.

*1984*

# Малекула

Магчыма, вы таксама памятаеце навелу Сомерсэта Моэма пра рудога жабрака з выпаленых сонцам вулачак і пляцаў Веракруса. Сюжэты маюць уласцівасць паўтарацца, але ў маёй гісторыі не будзе ні цяжкіх чорных грыфаў, ні тугога партманета, ні ветлівай кастыльскай формулы адмаўлення «Dispense Usted por Dios»*, а Моэм узгадаецца толькі таму, што працягнутая рука жабрачкі з полацкага Спасаўскага манастыра будзе дакладнай копіяй намаляванай англійскім калегам кіпцястай птушынай лапы, у якую ператварылася рука няздзейсненага пісьменніка.

Бываючы ў Полацку, я звычайна наведваюся сюды, каб пераканаць сябе, што хоць нешта ў гэтым свеце мяняецца на лепшае, бо цяпер у манастырскім Крыжаўзвіжанскім саборы пахне ладанам, а ў часы майго дзяцінства навакольныя жыхары, парабіўшы перабойкі, трымалі ў занядбаным храме свінняў. Праўда, аргумент гэты не бездакорны, таму што тады на ўтравелых прыступках не дзяжурылі дзясяткі два жабракоў з пакладзенымі ля ног падранымі шапкамі ці расплюшчанымі скрынкамі з-пад абутку.

Кіпцястая лапа належала жабрачцы гадоў на шэсцьдзясят, апранутай, нягледзячы на ліпеньскую спякоту, у страшэнна брудны восеньскі палітон, які даўно ўжо забыўся, што такое гузікі. У яе былі нямытыя, напэўна, ужо колькі месяцаў валасы загадкавага колеру і гэткага ж колеру вочы, якія таксама хацелася назваць нямытымі.

* Бог падасць (ісп.).

Мне цяжка падаваць жабракам каля храмаў. У падземных пераходах — зусім іншае: можа, з тае прычыны, што вулічныя жабракі спадзяюцца адно на тваю шчодрасць, не шантажуючы цябе абавязкам перад Усявышнім. З такімі не надта дабрачыннымі думкамі я падняўся па ўсходах у пустэльную свежасць сабора, але каля шапіка са свечкамі нешта змусіла мяне азірнуцца на жабракоў.

Калісьці я ўжо бачыў дзве такія малінавыя плямы на шыі…

Калісьці я ведаў, да чаго яны падобныя…

Падлога гайданулася ў мяне пад нагамі.

Калісьці я… цалаваў іх…

Некалькі імгненняў памяць дзейнічала, як відэамагнітафон, што перакручвае назад патрэбную касету, а потым я ўбачыў Дзвіну, у якую разам з Сафійкай глядзелася яшчэ незруйнаванае барока сабора святога Стэфана.

У тыя гады Дзвіну нельга было ўявіць без задзвінскай вар'яткі Юлькі, што ўлетку, «каб наша рэчачка не высахла», вёдрамі цягала на бераг ваду з калонкі. Знямогшыся, яна сядала на траву і, баязліва паглядаючы на рыбакоў, зацягвала сваю ўлюбёную песню пра Лілю.

*На бірагу сідзела Ліля,*
*А радам с нею капітан…* —

выводзіла Юлька тонкім дзяціным галаскам, які, відаць, толькі і мог існаваць у яе выпетраным целе. Далей песня рабілася журботнай:

*Уж год прашол, марак ні едзіт,*
*А Ліля к берагу ўсё йдзёт…*

Ніхто з нас тады не ведаў, што Юлька звар'яцела яшчэ перад вайною — пасля допытаў у колішнім кляштары бернардзінаў, дзе, не вытрываўшы, падпісала штосьці страшнае пра каханага хлопца, якога «варанок» павёз у невараць у тую самую ноч, калі Юльку адпусцілі дадому. У нашым дзяцінстве дарослыя былі не надта ахвочыя да такіх успамінаў, хоць Юльку шкадавалі і не давалі ёй памерці з голаду.

Фінал у песні быў трагічны:

*Красотка Ліля утанула,*
*Яе уж большэ ні відно.*

Юльцы выпаў лёс яе гераіні. Аднойчы вудалі налілі спявачцы чарку гарэлкі і яна, канчаткова ўвасобіўшыся ў вобраз сваёй Лілі, кінулася каля чыгуначнага моста ў Дзвіну.

Пустая, зарослая вышэй вокнаў крапівою і здзічэлымі парэчкамі Юльчына хаціна палохала вока на пачатку той вуліцы, дзе жыла Аня Шадурка, найпрыгажэйшая дзяўчына майго класа.

Вядома, Аня адно здавалася мне такой, бо калі я гляджу на выпускное фота нашага 8-га «А», дык знаходжу тварыкі значна прыгажэйшыя. Напрыклад — выдатніцы Светкі Цімафеевай, той самай Светкі, якую праз гадоў дваццаць я сустрэў каля менскага гатэля «Планета» і ўзрадавана прапанаваў дзе-небудзь пасядзець, на што аднакласніца адказала, што можа са мной і пасядзець, і паляжаць, але гэта будзе каштаваць мне са зніжкаю трыццаць баксаў.

Рэч у тым, што Аня першая ператварылася ў жанчыну — з налітымі грудкамі-яблыкамі, з тонкай таліяй, стройнымі і заўсёды загарэлымі нагамі і вачыма зялёнага колеру, у глыбіні якіх плавала нешта такое, што зноў і зноў прыводзіла іхнюю ўладарку ў мае сны.

Аня была гімнастка, кандыдатка ў майстры спорту, і ўвесь час прападала то на спартовых зборах, то на спаборніцтвах, пасля якіх на школьных лінейках яе называлі нашым гонарам, а настаўнікі спраўна выстаўлялі ёй за чвэрць тройкі, бо часу на падручнікі Ані не хапала. Неяк яна, не паспеўшы з'ехаць на чарговае першынство, трапіла на кантрольную па гісторыі і спісала з разгорнутага на каленях падручніка ў свой сшытак, што значэнне паўстання на браняносцы «Пацёмкін» у тым, што рэвалюцыйныя расейскія маракі здаліся румынскім уладам.

У восьмым класе пяцёркі Аня мела выключна за фізкультуру і маляванне. Чаму — за маляванне, мы даведаліся, калі ўбачылі, як яна сядае за школай на матацыкл нашага настаўніка. Аднак неўзабаве мастацкія здольнасці пакінулі Аню, ператварыўшы пяцёркі ў звыклыя траякі. У студэнта кааператыўнага тэхнікума Мішкі Яжэвіча з майго двара не было матацыкла «Ява», затое былі магнітафон з добрымі запісамі «бітлоў» і «ролінгаў» і дубальтовы польскі намёт памаранчавага колеру, што, як звысаку казаў нам гаспадар гэтага багацця, адразу здымаў праблему хаты.

Пасля тых летніх вакацыяў я вярнуўся ў школу, ужо маючы першы мужчынскі досвед. Пазбягаючы лішніх дэталяў, скажу, што маёй настаўніцай была сяброўка стрыечнай сястры, кірпатая жыхарка горада Ленінграда Зінка, якую штогод прывозілі ў бабуліну вёску і з якой мы з маленства разам мыліся ў цётчынай лазні, пакуль аднаго разу не заўважылі, што мыцца такім манерам і далей нам нешта замінае. Дарэчы, Зінчыны ўрокі распачаліся на сухім, з прыліплым бярозавым лісцікам палку ў той самай лазні і паўтараліся штодня, пакуль цётка ледзьве не заспела нас на гарачым, сабраўшыся гнаць у лазні самагонку.

Цяпер я глядзеў на Аню ўжо зусім іншымі вачыма. Начамі мне сніліся пакутлівыя сны, як я кранаю яе грудзі і праводжу рукой па залацістых валасках загарэлых ног, як мы ўзасмокт цалуемся, а потым, задыхаючыся, любімся — то на лазенным палку, то ў замацаваным за нашым класам кабінеце біялогіі, дзе з шафаў за намі ўважліва назіраюць два шкілеты. Мяне (не ў сне, а наяве) заўсёды займала праблема: штучныя гэта шкілеты ці яны калісьці належалі жывым людзям, якія вось гэтымі косткамі елі, пілі і абдымаліся ў ложку. Яшчэ, як памятаю, мы спрабавалі высветліць, ці адрозніваецца чым-небудзь істотным жаночы шкілет ад мужчынскага.

Прачынаючыся пасля тых сноў, я даваў сабе слова, што не пазней за сёння прапаную Ані ўвечары схадзіць у парк на новы атракцыён «Пятля Несцерава», але па дарозе ў школу падступна выплывала якая-небудзь нявыпраўленая тройка па алгебры або чацвёрка па гісторыі, і дата пачатку рашучых дзеянняў зноў пераносілася.

Аня была па-жаночаму назіральнай, і ўсё скончылася тым, што аднойчы на перапынку яна сама папрасіла мяне затрымацца пасля заняткаў у кабінеце. На апошнім уроку геаграфіі я ўжо амаль не чуў настаўніка, а думаў, як запрашу яе ў парк, спытаюся, ці чытала яна Эміля Заля, і паведамлю, што яе радзімыя плямкі падобныя да Новай Зеландыі.

Калі ў кабінеце біялогіі апрача нас засталіся толькі шкілеты, мой сцэнарый быў безнадзейна перакрэслены. Аня — у кароткай жоўтай сукеначцы з тонкім зялёным паяском — узяла мяне за руку і сказала, што я свой хлопец, а таму заўтра павінен прыйсці да яе дадому, дзе маці не будзе, бо яна з’ехала ў Стаўрапаль, а бацька ніколі не хадзіў на бацькоўскія сходы і мяне не ведае, а таму паверыць, калі я скажу, што мой ста-

рэйшы брат ідзе ў войска і што ў суботу мы запрашаем яе, Аню, на праводзіны, і мая мама прасіла перадаць, што пакідае яе пад сваю адказнасць начаваць у нас, бо мы жывём ажно ў ФРГ (з нашага тагачаснага слэнгу ФРГ перакладалася як Фэдэратыўная Рэспубліка Грамы і азначала самую далёкую полацкую ўскраіну).

У мяне ніколі не было ні старэйшых, ні малодшых братоў, але назаўтра я падыходзіў да Аніната дома дакладна ў прызначаны час, бо нарэшце пачалася дыфузія сноў і рэальнасці: на вуснах у мяне гарэў яе ўчарашні, пакінуты пад наглядам шкілетаў і неверагодна смачны ад памады пацалунак з прыкусам, а каламутнае адчуванне таго, што мяне выкарыстоўвалі як хлопчыка на пабягушках, не здольнае было перамагчы грахоўна-салодкага пачуцця дарослай мужчынскай разбэшчанасці, народжанага Аніным абяцаннем разлічыцца са мною адразу пасля выхадных. Я жадаў яе, і пляваць мне было на гэтыя міфічныя праводзіны ў войска і на міфічнага брата, якога звалі Мішкам Яжэвічам, і на вульгарнасць яе абяцанкі, і на папярэджанне, што на двары ў іх злы сабака, які аказаўся ўкормленым ваўкарэзам, ад якога я ледзьве ўратаваўся, вомельгам кінуўшыся назад у весніцы.

Анін бацька быў макароннік. Тады італьянцы траплялiся ў нас так рэдка, што макароннікамі называлі выключна прапаршчыкаў савецкай арміі. Пазмоўніцку міргаючы мне, Аня ўтаймавала ваўкарэза і паклікала бацьку. У вялізным калідоры пахла мышамі і нечым ядомым. Пры сцяне стаяў штабель скрынак, на адной з якіх было сапраўды напісана: макароны. Тамсама, у калідоры, прапаршчык Шадурка, з-за плячэй якога Аня ўсяляк дапамагала мне вачыма, і выслухаў маю старанна адрэпетаваную хлусню, пасля чаго моўчкі пасунуўся ў глыб дома. Зачыніўшы дзверы, Аня захіхікала і прыціснулася да

мяне. Я пацягнуўся да яе вуснаў, але ў доме пачуліся крокі, жаласнае мяўканне, і прапаршчык са словамі: «Лаві мышэй, блядушка», выкінуў у калідор котную рыску.

Разлік адбыўся ў панядзелак у кватэры Анінай сяброўкі з гімнастычнай секцыі.

Аня сустрэла мяне ў прывезенай з замежных спаборніцтваў смарагдавай сукенцы з залацістымі маланкамі на рукавах і кішэнях. Магнітафон заядаў і рваў стужку. Ціха вылаяўшыся, Аня апошні раз пстрыкнула пераключальнікам і павярнулася да мяне. «Ты хоць умееш?» — запыталася яна, страсянуўшы светлымі валасамі стрыжанай русалкі. «Што?» — бязглузда адказаў я. «Джыгі-джыгі», — засмяялася яна, сцягваючы цераз галаў сукенку.

Пад сукенкай на ёй не было анічога, апрача двух трохкутнікаў: большага — сляпуча белай незагарэлае скуры і меншага — густых жарых кудзерак.

Думаю, што, нягледзячы на бесцырымонную Аніну падмогу, мяне напаткаў бы поўны правал, але, ужо згараючы ад сораму і нянавісці да свайго безда- паможна выцягнутага на канапе цела, я інтуітыўна заплюшчыўся і ўявіў сябе на лазенным палку з ле- нінградскай бессаромніцай Зінкай. Там, на палку, усё атрымалася аўтаматычна, і я нават адчуў пах бяроза- вых венікаў і мулкасць дошак пад каленямі. «Толькі не адразу, цярпі, цярпі...» — усцешана зашаптала Аня, калі я ўжо не баяўся расплюшчыць вочы, і выгнулася так, што радзімыя плямкі апынуліся якраз насупраць маіх вуснаў. Я з лёгкім страхам дакрануўся да іх і яшчэ паспеў здзівіцца, што плямкі халодныя, як ваконнае шкло.

Калі мы апрануліся, я па-мужчынску ўпэўнена правёў па іх пальцамі і нарэшце падзяліўся сваім геаграфічным адкрыццём: «Ты ведаеш, яны падоб-

ныя да Новай Зеландыі». «Ну насмяшыў, — адказала Аня і кіўнула на вывадак парцалянавых слонікаў, за якім на серванце стаяў будзільнік. — Зматваемся, а то Ленчына маманя можа раней прыцягнуцца». Выправоджваючы мяне з кватэры, мая другая жанчына папярэдзіла: «Мішка даведаецца — з-пад зямлі дастане».

У аўторак на заняткі я не пайшоў. Я хацеў, каб здарылася адно з двух: або няхай Аня кожны дзень сцягвае перада мной сукенку, альбо няхай яе назаўсёды забяруць куды-небудзь у гімнастычную зборную ў Маскву.

У сераду маці пагнала мяне ў школу, дзе высветлілася, што Шадурка і праўда паехала на спаборніцтвы і ў цэлым горадзе нашу таямніцу цяпер ведалі толькі два шкілеты, якія з гэтае прычыны выклікалі ў мяне ледзь не замілаванне.

Вярнулася Аня за пару дзён да зімовых вакацыяў. Яе з’яўленне ў класе ўразіла нават ціхага дэбіла Дзіму Чыкіна, якога не адпраўлялі ў спецшколу, бо ягоны бацька быў дырэктарам аўтарэмзавода. Аня, чаго раней з ёю ніколі не здаралася, па чарзе абыходзіла ўсе сталы і, цалкам ігнаруючы дзяўчынак, з кожным з хлопцаў віталася па імені. «Прыветулі, Вова, — прамовіла яна такім абыякава-бескалёрным голасам, што мне зрабілася ніякавата. — Прыветулі, Дзіма, я табе жуйку прывезла...» Гэтую дзіўную цырымонію перапыніў прыход нашага фізіка Юліяна Людзвігавіча, што меў мянушку Кулон.

Далей падзеі разгортваліся надзвычай імкліва. Не паспеў Кулон кагосьці выклікаць, як Шадурка падняла руку. «Што ты хочаш, Аня?» — запытаўся фізік, абсалютна, як і мы, упэўнены, што Аня можа хацець чаго заўгодна, але толькі не ісці да дошкі. «Юліян Людзвігавіч, я малекулы бачу», — усхваліва-

на абвясціла Аня. Па кабінеце прашамацеў смех, які змяніўся насцярожаным маўчаннем. «Сядай, Шадурка, гэта не смешна», — сказаў Кулон, і ягоная рука з асадкай папаўзла па журнальным спісе.

Аня села, але адразу зноў падняла руку, прычым, быццам першакласніца, якой карціць атрымаць пяцёрку за вывучаны вершык, цягнула яе ўсе вышэй і вышэй. Кулон падняў вочы. «Што яшчэ, Шадурка?» «Юліян Людзвігавіч, я ўжо атамы бачу, — захлынаючыся ад радасці, загаварыла Аня. — Чэснае камсамольскае. Вось, вось, лётаюць…» Яна выбегла з-за стала ў праход і паказвала пальцам у паветра.

«Нармалёва», — прысвіснуў нехта з «камчаткі». Кулон асцярожна ўзяў Аню пад руку і вывеў з класа.

Аню лекавалі ўсю зіму і вясну: спачатку ў бернардзінскім кляштары, дзе перад вайною выбівалі прызнанне ў Юлькі, а ў пяцідзясятыя гады адчынілі абласную вар'ятню, потым — дзесьці ў Падмаскоўі.

У дзясятым класе наша парачка шкілетаў зноў убачыла Аню. Яна ніколі ні з кім не загаворвала. Яе не выклікалі адказваць і вызвалілі ад выпускных экзаменаў. Яна не ездзіла на зборы і чэмпіянаты і прыкметна пакруглела. Паміж сабой мы са шкадобаю называлі яе Малекулай. Мы даўно ведалі, што на апошніх у Аніным жыцці спаборніцтвах яе згвалцілі трэнеры юніёрскай зборнай. Трох ці чатырох пасля гэтага пасадзілі.

Калі Аня па-ранейшаму бачыла малекулы і атамы, дык вырашыла пра гэта маўчаць. Адзіны чалавек, каму яна магла даверыць сваю таямніцу, быў Мішка Яжэвіч, бо ён, як ні дзіўна, не кінуў з ёю сустракацца і часам чакаў яе пасля ўрокаў на лавачцы каля школьнага саду. Іх разам з памаранчавым намётам бачылі то на дзвінскім беразе за Сафійскім саборам, то ў чы-

гуначнай лесапасадцы, дзе за год да гэтага знайшлі выкінуты з маскоўскага цягніка поліэтыленавы мех з трупам нетутэйшай жанчыны. Старэйшыя хлопцы з нашага двара з зайздрасцю казалі, што Мішка ўладкаваўся, як кароль: трахае дурніцу, і галава ні пра што не баліць.

Прыехаўшы праз год з Менска дадому, я ўбачыў Мішку Яжэвіча з маладой жонкаю і дзіцячым вазком. Малекулы ў горадзе не было. Яе бацьку-макаронніка хацелі пасадзіць за крадзяжы, і ён прадаў дом і з’ехаў у Стаўрапаль. Разам з ім паехала і Аня, якая перад тым працавала прыбіральніцай у цырульні «Ландыш», што месцілася насупраць цяперашняга помніка Францішку Скарыну.

Гадоў праз дзесяць пасля тых падзей Мішка Яжэвіч заснаваў кааператыў, што вырабляў жаночыя паясы, і збудаваў сабе на ціхай заможнай вуліцы двухпавярховы катэдж. Яшчэ гадоў праз дзесяць мне расказалі, што аднойчы Мішка не вярнуўся ўвечары дахаты і раніцою міліцыя павезла ягоную жонку ў лес пад Лепель. Апазнаць Мішку ў выцягнутым са спаленага «фольксвагена» абгарэлым трупе ўдалося па верхняй сківіцы з залатымі зубамі.

І без таго цяжкія хаўтуры былі азмрочаныя двума вусцішнымі здарэннямі. Па-першае, у фатографаў ніяк не атрымліваліся здымкі на жалобны партрэт: пасля павелічэння добрых, здавалася б, фатаграфіяў твар нязменна выходзіў чорны. Нехта падрадзіўся зрабіць партрэт са здымка ў замежным пашпарце, але атрымалася яшчэ горш: на месцы вачэй выступілі чорныя кругі, а на шыі — белы пасак накшталт вяроўкі. Другое здарэнне было яшчэ жудлівейшае: калі рыхтаваліся апускаць труну, у магілу спрабавала кінуцца нікому не вядомая п’яная жабрачка, што збірала на кладах пустыя пляшкі.

У фінале маёй гісторыі Моэм зноў будзе прадстаўлены толькі кіпцястай птушынаю лапай.

Я не спытаюся ў гэтай старэйшай ад мяне гадоў на дваццаць істоты, ці памятае яна Мішку. У мяне не знойдзецца буйной купюры, каб пакласці ў яе зашмальцаваную мужчынскую кепурку з абразком святой Еўфрасінні. А калі б смуглым ад бруду пальцам і заманулася скамечыць мой даляр у маленькі шарык, каб яго праглынула птушка, дык грыфы ўсё роўна засталіся ў Веракрусе, а тут скакалі па непадмеценых прыступках адно сытыя манастырскія вераб'і.

*1995*

# Я марыў стаць шпіёнам

Сёння не будзем гаварыць ні пра паэта, якога амаль год трымаюць у турме за легкадумны вершык, ні пра чыесьці спаленыя партрэты, ні пра новыя арышты.

Давай уявім, што там, за вакном, звычайная для Еўропы прыпозненая вясна, і я распавяду табе якуюнебудзь займальную гісторыю, штосьці такое, аб чым мужчына і жанчына, якія адчулі прыхільнасць адно да аднаго і ўжо не першы год адчуваюць яе да добрага чырвонага віна, могуць гутарыць зараз за столікам кавярні недзе там, дзе разлічваюцца кронамі альбо крэдытнымі карткамі.

Напрыклад?.. Напрыклад, калі пачынаць ab ovo*, паслухай, кім я марыў стаць у дзяцінстве.

Зрэшты, я выказаўся не зусім дакладна. Мары вырастаюць на падмурку хоць нейкага жыццёвага досведу, а я збіраюся казаць пра свае першыя гады, калі толькі пачынаў адасабляць сябе ад навакольнага свету, калі дарослыя ўжо бралі мяне з сабою ў кіно (тэлевізараў на нашай вуліцы ды, пэўна, і ва ўсім горадзе тады не было), але кніга яшчэ доўга заставалася таямніцаю за сямю пячаткамі. Тут, згадзіся, трэба весці гаворку не пра асэнсаваныя мары, а пра своеасаблівыя сны наяве...

Калі ласка, бутэлечку ламбрускі. Што яшчэ? Два келіхі і попелку.

Так, менавіта пра сны наяве, тлумачыць якія мы павінны зыходзячы не з іх літаральнага сэнсу, а паводле той самай методыкі, што і сны звычайныя,

* Тут — ад самага пачатку (лац.).

у якіх злоўленая рыба абяцае не рыбалку, а цяжарнасць, а пажар — грошы.

Калі ў такім веку ў дзіцяці пытаюцца, кім яно хоча стаць, то вядуць дыялог з падсвядомасцю, а таму трохі дзіўна, што дзіцячым адказам на гэтае сакраментальнае пытанне не надавалі належнае ўвагі адэпты псіхааналізу.

Афіцыянт не спяшаецца, і з твайго дазволу я пачну з таго, што выдатна памятаю не толькі тое, кім хацеў быць, але і тое, кім ні ў якім разе не хацеў. Прычым гэты антывыбар, у адрозненне ад выбару са знакам плюс, нярэдка, як гэта здараецца і ў свеце дарослых, быў абгрунтаваны значна лепей. Вытлумачыць, чым той ці іншы чалавек табе не даспадобы, заўсёды, на мой погляд, прасцей, чым знайсці прычыны сваёй прыхільнасці.

Дык вось, гадоў з двух з паловай я быў перакананы, што ніякая сіла не змусіць мяне, як вырасту, зрабіцца міліцэйскім следчым.

Следчым працаваў дзядзька Чаглей, які жыў у нашым драўляным доме праз сценку.

Дзядзька Чаглей прыехаў у Полацак з Сібіры, але ў той дзень, калі ён падхапіў мяне сваімі дужымі валасатымі рукамі пад пашкі і падкінуў над галавой, а я з гэтае верхатуры абсікаў яму бліскучы плех, у той дзень пра паходжанне нашага суседа, як і пра існаванне ягонай далёкае радзімы, я і не здагадваўся, а мой пругкі і трапны струменьчык нарадзіўся не ад нейкага перададзенага па генах асаблівага пачуцця да сібіракоў або да міліцэйскіх следчых, а ўсяго толькі ад лішку радасных пачуццяў, што перапаўнялі маю юную істоту.

Тым не меней пасля гэтага бяскрыўднага здарэння дзядзька Чаглей да скону дзён знелюбіў мяне. Ён ніколі — дарма што сваіх дзяцей яны з цёткай Клавай,

якую ўсе звалі Чаглеіхай, не дачакаліся — не пачаставаў мяне ні цукеркаю, ні марозівам, наогул нічым, апрача нязменна насупленага калючага позірку, якім апошні раз адарыў з труны пасля сваёй ранняе смерці ад хваробы са смешнаю назваю «рак».

Малюючы гэтую псіхалагічную сітуацыю, можна знайсці безліч іншых дэталяў, аднак галоўную ролю ў маім рашучым нежаданні рабіцца следчым адыгралі не Чаглеевы запоі і не абванітаваныя жоўтыя вяргіні пад нашымі вокнамі, а — грыбы лісічкі, якія мама смажыла з цыбуляй і якія наш сусед прынцыпова не еў, заяўляючы, што ў іх у Сібіры такую смакату ўважаюць за паганкі і ўвогуле збіраюць адны баравікі. Помсцячыся сібірскім дзікунам за лісічкі, я і паставіў на прафесіі следчага вечны крыж.

Наступнай непрымальнаю ні пры якіх умовах была прафесія цырульніка. Тут мая непахісная наважлівасць вынікала з бацькавых апаведаў пра франтавога сябра, які ў нейкім вугорскім гарадку, пакуль мой тата-лейтэнант пазіраваў перад фотаапаратам, зайшоў у цырульню пагаліцца і прапаў. Потым тата разам з «нашым» патрулём знайшоў мёртвага сябра ў спіжарні — над тазам крыві і з перарэзаным ад вуха да вуха горлам.

Да пятага класа я наадрэз адмаўляўся хадзіць у нашую цырульню «Ландыш», і бацькі мусілі купіць ручную машынку і карнаць мае шорсткія кудзеры каля кухоннае пліты. Напоўнены цёмнай крывёю таз, відаць, адклаўся ў самой геннай памяці, бо ў мяне ніколі не паўставала дылемы: насіць бараду альбо не, і ніводнага разу ў жыцці я так і не зведаў, што значыць пагаліцца ў цырульні.

Але найбольш зацята я не хацеў — не здзіўляйся — стаць кампазітарам. Я проста панічна баяўся гэтага, бо ў размовах бацькоў і іхніх знаёмых кампазітар

быў нязменным прадметам кпінаў. На лавачцы каля дома ці ў нейкай застоліцы, паміж свежымі гарадскімі плёткамі і сакрэтамі марынавання гуркоў і памідораў, хтосьці абавязкова згадваў «нашага кампазітара», і хутка прысутныя клаліся ад рогату, зноў і зноў пераказваючы тую гісторыю і аздабляючы яе ўсё новымі маляўнічымі драбніцамі. Жанчыны паказвалі на дзяцей і трэслі на мужоў пальцамі, але засцярогі былі перастрахоўкаю: хоць малеча кшталту мяне і заходзілася ад смеху заадно з дарослымі, звязаць звесткі пра нейкую палюбоўніцу, пра пастаўленую ёй на адным месцы пячатку музычнай школы і пра мужаў пісталет, ад кулі якога кампазітар мог загінуць, аднак яму хапіла спрыту ўцячы і схавацца дзесьці ў Менску, звязаць усё гэта ў адзін ланцужок мы былі яшчэ не здольныя.

Ну вось нарэшце і віно. Такое? Тады — за тваё ўменне слухаць.

Развіццё тых падзей ўва ўсім іх ужо міфалагізаваным трагікамізме я ўявіў класе ў восьмым, калі ў музычнай радыёперадачы назвалі прозвішча даволі вядомага і цяпер кампазітара і праз незачыненыя дзверы я міжволі падслухаў, як пракаментаваў паведамленне мой бацька, чалавек наогул суровы і не надта гаваркі, але з несумнеўным талентам апавядальніка.

Той, каго называлі кампазітарам, у гады майго маленства працаваў дырэктарам гарадской музычнай школы, пісаў песні на вершы мясцовых паэтаў і круціў раман з афіцэрскаю жонкай. Як я зразумеў, звычайным месцам іх спатканняў быў дырэктарскі кабінет, у якім дзеля такіх выпадкаў стаяла, як выказаўся мой бацька, дзяжурная канапа. Аднойчы на гэтай канапе кампазітар і паставіў сваёй пасіі там, дзе спіна пераходзіць у больш спакуслівую частку цела, казённую пячатку.

Цяжка сказаць, якая логіка штурхнула яго на гэты неардынарны крок: ці то раптам разгуляліся ўласніцкія інстынкты, ці то пячатка, як тая знакамітая чэхаўская стрэльба, мусіла «стрэліць» ужо з прычыны адной сваёй прысутнасці на месцы дзеяння. Але што б там ні было, на тым самым адмысловым месцы ў кампазітаравай абранніцы з'явіўся фіялетавы адбітак з надпісам: «Полацкая дзіцячая музычная школа». Надпіс, бясспрэчна, атрымаўся добра чытэльны, інакш муж-афіцэр не схапіў бы ўначы пісталет, і праштампаванай прыгажуні не трэба было б начным званком папярэджваць каханка аб небяспецы, а таму — ратавацца ўцёкамі, каб урэшце пераехаць у Менск, скончыць кансерваторыю, сапраўды зрабіцца кампазітарам і доўгі час не выступаць перад публікаю, пабойваючыся, што ў зале можа апынуцца афіцэр з пісталетам.

Карацей, кампазітарам у маленстве я не згадзіўся б стаць ні за якія грошы, нават за тыя, што бацькам ніколі не хапала, каб купіць мне ровар, на якім я, на свой сорам, так і не навучыўся ездзіць.

Затое мяне не трэба было ўгаворваць на вадалаза.

Згодны, давай вып'ем за маю першую мару.

Вадалазаў я ўпершыню ўбачыў, калі ў Дзвіне ўтапілася дзяўчына з суседняй вуліцы.

Яны прыязджалі ўранні на машыне-«казле» і марудліва, як на запаволеных кінакадрах, выгружалі на бераг сваё мудрагелістае прычындалле. Найбольшае захапленне ў маёй душы выклікалі боты з таўшчэзнымі алавянымі падэшвамі, якія мы не маглі нават зрушыць з месца, і круглы шалом з вялізнымі вачыма-ілюмінатарамі.

На трэці дзень дзяўчыну вадалазам выцягнулі з дна і, закруціўшы ў брызент, некуды павезлі.

Вартаўнік лодачнай станцыі дзядзька Мойша сцвярджаў, што за кожнага знойдзенага тапельца да-

юць вялікую прэмію. Прашамацела жудасная чутка, што дзеля гэтага яны самі топяць людзей, чапляюць ім да ног камяні, а потым «знаходзяць» у прыкмечаным месцы.

Я не верыў. Я быў пэўны, што тапельцаў у Дзвіне не будзе бракаваць і без гэтага, і ўяўляў, як вырасту і буду гэтаксама абуваць цяжэзныя боты і шалом з ілюмінатарамі, да якіх пад вадой будуць падплываць і — вочы ў вочы — глядзець на мяне дзвінскія шчупакі. Я буду добра шукаць тапельцаў і часта атрымліваць прэміі, а пасля — самавіта рассцілаць на траве газеціну, няспешна кроіць на ёй сала, не моршчачыся піць з пляшкі з малінавай галоўкаю гарэлку і мачаць зялёны цыбульны хвост у горбачку солі. Кульнуўшы апошнюю чарку і са смакам дажаваўшы цыбуліну, я буду закурваць і, як старэйшы вадалаз дзядзя Коля, спяваць загадкавую песню: «Пара-па-бабам, пара-пабабам...»

Апрача тапельцаў, я павінен быў знайсці на дне ракі яшчэ і жалезную скрыню грошай. Цікава, што тапельцы мне ўпарта не сніліся, а вось скрыню я бачыў у сне шмат разоў і дакладна ведаў, як яна будзе выглядаць: аброслая перлавіцамі і спавітая багавіннем, з пудовым іржавым замком і белым чэрапам са скрыжаванымі косткамі, акурат такім, які быў на трансфарматарных будках і які ў нас чамусьці называлі іванам іванавічам.

Тапельцы прысніцца мне так і не паспелі, бо пасля таго, як дзядзьку Чаглея завезлі на могілкі, у нас з'явіўся новы сусед, а з ім і мая новая мроя.

Суседа, які пасяліўся на кватэры ва ўдавы следчага Чаглея, звалі дзядзькам Жэнем, і ён працаваў паталагаанатамам. Вымавіць гэткае складанае слова, як і не менш складаную першую літару ягонага імя, я, вядома, не мог і таму казаў, што, калі вырасту вялікі, буду, як «дзядзя Зеня».

У дзядзьку Жэню мне не падабалася толькі адно: абсалютна неспасцігальнае нежаданне хоць раз узяць мяне з сабою на працу.

Усё астатняе страшэнна падабалася.

Падабалася, што ад суседа заўсёды струменіў пах адэкалону, які наводзіў на думку, што там, дзе дзядзька працуе, якраз адэкалон і робяць.

Падабалася ягоная жонка, цётка Таня, якая ўлетку кожны дзень купляла мне марозіва.

Падабаліся нават і не надта прыхільныя размовы, што круціліся вакол іхняе сям'і.

Дарослых немаведама чаму абыходзіла, што дзядзька Жэня і цётка Таня нейкія «нераспісаныя».

На маю думку, не было нічога кепскага і ў тым, што яны «нераспісаныя», і ў тым, што, каб ехаць на адпачынак у купэ ўдваіх, дзядзька Жэня купіў у купэйны вагон не два, а чатыры білеты.

Яшчэ падабалася, што, калі на святы цётка Таня клікала маіх бацькоў да сябе пасядзець, на стале ў нашых суседзяў стаяла не гарэлка, а віно.

Ты ведаеш, я не забыў, як яны паміж сабою чокаліся. Кожны раз тройчы: спачатку звычайна, потым вось так, яе келіх зверху, а потым — зверху ягоны.

Яны абое былі высокія, станістыя і чарнявыя. Дзядзька Жэня насіў прыгожыя чорныя вусы, у цёткі Тані над верхняй вуснінай таксама прабіваўся цёмны пушок, які па часе абяцаў ператварыцца ў акуратныя вусікі. Я думаў, што, можа, з гэтае прычыны Чаглеіха і казала пра кватарантаў за вочы — «мае жыды».

Аднаго разу бацькі, кудысьці з'ехаўшы, даручылі клопаты пра мяне дзядзіжэневай жонцы і, калі мы пайшлі палуднаваць у сталоўку гарадскога Дома афіцэраў і цётка Таня замовіла несусветна смачную, як мне здавалася, страву з экзатычнаю назваю «шніцэль», а потым сустрэла сяброў і тыя запыталіся,

ці не ейны я сын, а яна адказала, што так, ейны, і пацікавілася, ці падобны я да яе, тады, памятаю, мне было ніякавата зусім не таму, што такім чынам я сам таксама трапляў у лік «жыдоў». Я чуў лёгкі сорам, што гатовы адмовіцца ад родных бацькоў, але зрабіць з сабою нічога не мог: калі ў паталагаанатамы бяруць толькі «жыдоў», я згодны быў запісацца ў «жыды».

Усё на свеце канчаецца, прычым у дзяцінстве гэта адбываецца хутчэй.

Ці то паўплывала празмерная сакрэтнасць прапахлай адэкалонам дзядзіжэневай прафесіі, ці то прарасло пасеянае фільмамі пра «нашых» разведчыкаў зерне савецкага патрыятызму, але аднойчы я прачнуўся з цвёрдым намерам пайсці ў шпіёны. П'ем за нашых шпіёнаў!

Мяне вабіла не столькі рамантыка, як канкрэтнасць гэтага занятку.

Адрозна ад духмяна-таямнічых сфераў дзейнасці паталагаанатамаў, тут усё выглядала ясна і проста, як яблык-антонаўка з нашага саду.

Мяне і маю радыстку павінны былі скінуць з самалёта над Амерыкай, каб мы прабраліся ў галоўны амерыканскі штаб і выкралі галоўны план атамнага ўдару па Савецкім Саюзе. Ваганняў наконт кандыдатуры напарніцы не існавала: радысткай будзе маё першае мужчынскае захапленне — дачка дырэктара мамінай школы Людачка, з якой я ўпершыню сустрэўся чатыры гады таму на навагодняй ёлцы. Наша ўзаемная сімпатыя выявілася такой моцнаю, што мы дружна намачылі штонікі і потым цэлы год я вымагаў ад мамы завязваць мне хустачку і абвяшчаў, што хачу быць Людачкай. (Гэты момант варта адцеміць: перш чым зрабіцца вадалазам, я імкнуўся пабыць жанчынай.)

Апусціўшыся на парашутах, мы з Людачкай пасяляемся ў маленькім брудным пакоі халоднага і змрочнага амерыканскага хмарачоса. Мы, як дарослыя, абняўшыся, спім у адным ложку і дзеля маскіроўкі гаворым выключна па-амерыканску, а таксама не купляем ананасы, каб амерыканцы не падумалі, што ананасаў у нас няма. З дапамогаю аднаго галоднага беспрацоўнага мурына я прабіраюся ў штаб і, перастраляўшы з кулямёта чалавек васемнаццаць амерыканскіх палкоўнікаў, выкрадаю план бамбавання Масквы і ўсёй нашай вялікай і магутнай Радзімы, пасля чаго вяртаюся ў халодны пакойчык хмарачоса. Мая радыстка Людачка ляжыць у ложку з незнаёмым мурынам; я не ведаю, навошта яны ўдзень накрыліся коўдраю, але адчуваю, што, хоць амерыканскія мурыны і за нас, тут нешта нячыстае, і таму з асалодаю ўсаджваю ў незнаёмага мурына кулямётную чаргу. З ложка ляцяць чырвоныя пырскі, але Людачка не плача, а перавязвае мне раны і складвае рацыю, бо пасланы па нас самалёт ужо ў паветры.

Медалі і ордэны нам уручаў сам галоўны «наш» Хрушчоў, якога дарослыя фамільярна называлі Мікітам і лаялі за нейкую кукурузу і за тое, што ў крамах няма хлеба. Я ж, наадварот, быў удзячны Хрушчову, бо дастаткова было выйсці з весніц на вуліцу, як ад чаргі, што вілася вакол хлебнае крамы, умомант кідалася некалькі цётак, якія ўзахапы ўгаворвалі пастаяць у чарзе разам з імі. У выніку гэтага нескладанага манеўру крамніца давала цётцы лішні бохан хлеба, а я атрымліваў дзвесце грамаў злепленых у камяк ірысак альбо падушачак.

Ты, вядома, разумееш, што тады мне праглася быць шпіёнам выключна і безварыянтна савецкім.

Пэўныя сумневы на гэты конт варухнуцца ў душы толькі праз шмат гадоў у зацішным кутку берлінскага

прадмесця, на мастку цераз ручай на мяжы ўсходняга і заходняга сектараў, дзе дзве сістэмы мянялі сваіх выкрытых агентаў.

Вось, бадай, і ўсё. Тое лета, калі я марыў стаць савецкім шпіёнам, было апошнім перад школаю, у якой нашы летуценныя цнатлівыя душы мусілі канчаткова заблытацца ў шырока раскінутым нераце ўжо зацверджаных без нас ідэй і мараў. Але тут пачынаецца зусім іншая гісторыя.

Ты кажаш, у цябе хлопчык. У такім разе можаш лічыць, што, калі цяпер ён хоча быць вадалазам, паталагаанатамам альбо шпіёнам, у яго ёсць значныя шанцы зрабіцца беларускім пісьменнікам.

Урэшце, апошнім часам мне зноў заманулася падацца ў шпіёны. Як ты думаеш, да чаго б гэта?

*1997*

# Рыба ды іншыя

Ёсць мільён спосабаў пачаць гэты аповед.

Я пачынаю яго так.

Уявіце гарадскую травеньскую раніцу з рэдзенькім туманам, што пахне чаромхаю і хімічнымі злучэннямі. У белай квецені на беразе ракі астатні раз усхліпвае ачмурэлы ад гэтых водараў салавей. Паблізу ягонага схову над аднапавярховымі мяшчанскімі мураванкамі канца дзевятнаццатага стагоддзя падымаецца абшарпаны белы сабор з іржавымі купаламі, а трохі далей — былая кірха з чырвонае цэглы. Яшчэ вельмі рана, і на прыбярэжнай вуліцы можна ўбачыць хіба што ацеслівую постаць нявыспанага вудаля.

Калісьці па гэтай вуліцы прабягаў з вудаю малы Францішак Скарына. Умасціўшыся на цёплым, як чарэнь бацькавай печы, камені, ён пляваў на чарвяка або проста пляваў у ваду, задуменна гледзячы праз Дзвіну на кляштар бернардзінаў, дзе манахі вучылі яго лаціне. Калісьці недзе тут, перад выправаю ў вялікі свет па навуку, прыціскаў да плота дзяўчат безбароды хлапец, якога потым будуць з пашанотаю называць Сімяонам Полацкім.

Зрэшты, падлетак у зашмальцаваных штанах-дудачках і ў светлым курціку з невыразным партрэтам Джона Ленана, што брыдзе ў ранішняй смузе па пустэльнай вуліцы з зашчэпленымі нанач аканіцамі, не шукае сустрэчы з ценямі продкаў. Сёння ўначы ён не заснуў ні на волас з іншае прычыны. Ягоная рука, што сціскае сцізорык, ужо дрыжыць ад знямогі, а павекі ліпнуць на вочы, як мухі на жоўтую ліпучку ў школьнай сталоўцы, дзе ён аднойчы з'еў у заклад трыццаць

essay. 

пончыкаў, запіўшы іх васямнаццаццю шклянкамі брыдкага шэрага кісялю.

Малюючы гэты ідылічны ранішні абразок, я прапусціў адну істотную дэталь. Увесь горад абклеены аб'явамі з паведамленнем, што заўтра тут адкрываецца чэмпіянат СССР. Хлапчук са сцізорыкам пачаў свой мудрагелісты маршрут апоўначы і, крадучыся ад аб'явы да аб'явы, абышоў ужо амаль усе вуліцы. У кожнай абвестцы пра чэмпіянат ён акуратна выразае дзве літары.

Нястомная начная праца прытупіла пільнасць, і хлапчук не заўважае, што яго ўжо даўно засеклі. Ён трапіў на вока міліцыі яшчэ каля помніка Леніну, які тады і ў страшным сне не мог прысніць, што здарыцца гадоў праз дваццаць з ягоным носам.

Прачытаўшы першую адрэдагаваную хлапчуком абвестку, двое міліцыянтаў шматзначна пераглянуліся і дазволілі юнаму правапарушальніку дзейнічаць далей. Яны былі ў гуморы: у краіне разгортвалася змаганне з п'янствам, і ўчора ўвечары начальнік гарадской міліцыі даверыў ім ганаровае заданне — завесці на расстрэл у задзвінскі лес два дзясяткі тутэйшых жлукталёў. Міліцыянты вырашылі браць злачынцу на гарачым тады, як «расстраляныя» дабрыдуць да горада. Да таго часу, па іхніх разліках, ён павінен быў ухадзіцца з усімі аб'явамі.

Калі рыбакі выцягнулі першага соннага курмеля, а з таго боку, дзе за ракой, над лесам, тырчэлі трубы мясцовага гіганта нафтахіміі, з'явіўся на месце бязладны збой «расстраляных» п'янюгаў, у гэтую самую хвілю хлапчук са сцізорыкам бездапаможна тарганууўся і павіс на руках у міліцыянтаў каля апошняй апрацаванай афішы. «Укусіш, сука, — урэжу па нырках, — на ўсякі выпадак незласліва сказаў сяржант. — Усё жыццё юшкай сцаць будзеш».

Праз колькі гадзін у адной з гарадскіх школ быў скліканы агульны сход.

Герой мінулае ночы сядзеў на першым радзе побач з маладжавай кабетаю ў форме. Гэта была добра вядомая ў наваколлі інспектарка дзіцячага пакоя міліцыі Луіза Сцяпанаўна. Днямі яна выступала перад старшакласнікамі з лекцыяй аб прафілактыцы правапарушэнняў, і вучань дзявятага класа Валодзя Паповіч падняў руку і запытаўся, ці перадаецца трыпер праз пацалунак, за што быў неадкладна пастаўлены на міліцэйскі ўлік.

Цёплыя сонечныя промні падаюць на наглядную агітацыю з поснымі тварамі будаўнікоў камунізму. Па шэрагах піянераў і школьнікаў лётае туды-сюды навіна: «Рыбу павязалі». За што — ніхто яшчэ дакладна не ведае. Адны кажуць, што Рыба — а менавіта з такой мянушкаю ходзіць па зямлі начны ліхадзей — напісаў на помніку Леніну кароткае мацернае слова, другія гатовыя прысягнуць, што гэта ён на мінулым тыдні павесіў на таполі пад вокнамі дырэктарскага кабінета ката з прымацаванай да хваста абвесткаю: «Он помогал партизанам». Сам Рыба важыць носам табаку. Яго вялікая, стрыжаная пад канадку галава падае на грудзі. З курціка пазірае на залу пераведзены праз трафарэтку пеўневы профіль Джона Ленана. «Хто гэта такі?» — злавіўшы Рыбу на лесвіцы за вуха, запытаўся неяк дырэктар. «Ленан», — лаканічна адказаў Рыба. «Нешта ён да Уладзіміра Ільіча не падобны», — засумняваўся дырэктар, але чалавек з пэўнай фантазіяй мог убачыць на выцвілым партрэце не тое што Леніна, а нават Мао Цзэдуна, і дырэктар адпусціў Рыбава вуха на волю.

Тым часам педагогам удаецца ўгамаваць залу, і ў дзвярах з’яўляецца дырэктар школы Івановіч.

У ягоных бацькоў было іншае прозвішча. Іншае прозвішча меў да нядаўняга часу і сам дырэктар, але

пасля апошняе вайны на Блізкім Усходзе ён напісаў куды трэба заяву, што не хоча мець з агрэсіўнымі адзінакроўцамі анічога агульнага, нават імя.

Той, хто разглядаў заяву, літасціва дазволіў Кіпервасару зрабіцца Івановічам, а вось з імем і прозвішчам атрымалася замінка. Магчыма, магутныя людзі, што накладалі на такія заявы рэзалюцыі, проста ўсёй сваёй асмяглай душою паважалі старога Ізю, які яшчэ летась налівау каля рынку піва ў шчарбатыя кухлі і які ў далёкія дваццатыя гады мінулага стагоддзя назваў сына Абрамам. А магчыма, яны, гэтыя магутныя людзі, мудра разважылі, што ўчарашняга Кіпервасара небяспечна выпускаць у агульную сажалку з астатнімі Івановічамі, Івановымі ды Іваноўскімі, а таму трэба яго, так бы мовіць, акальцаваць, каб у патрэбны момант доўга не важдацца з сачком. Вось вам, маўляў, Івановіч, але — Абрам.

Абрам Ізрайлевіч ідзе па праходзе, трымаючыся за сэрца, і кідае завучу загадкавыя фразы: «Ну хоць бы чэмпіянат вобласці, ну рэспублікі... Але СССР...»

Напіўшыся нейкіх пігулак, дырэктар выходзіць на сцэну. Ягоны інстытуцкі ромбік на мышыным гарнітуры ад хвалявання перакасіўся. У руках скручаная ў трубку вялікая паперына. На высокім дырэктаравым ілбе, які неўпрыкмет пераходзіць у шыкоўны плех, застылі тры глыбокія зморшчыны, падобныя да трох чаек, што ўзлятаюць дакладна адна над адною.

— У мяне няма слоў, — пасля трагічна цяглай перэрвы пачынае дырэктар.

Луіза Сцяпанаўна папраўляе фрызуру, торгае Рыбу за рукаў, і той няўцямна лыпае вачыма, як выцягнуты з дупла на сонца пугач.

— Слухай, зараза! — гучна шэпча інспектарка.

— У мяне няма слоў, — паўтарае Абрам Ізрайлевіч.

Але словы ў яго ўсё ж знаходзяцца.

— Сёння ўначы міліцыя арыштавала вучня нашай школы Рыбчынскага, — грасуючы, гаворыць дырэктар. — Яго ўзялі на месцы злачынства. Справа набывае палітычную афарбоўку.

Абрам Ізрайлевіч падымае таямнічую папяровую трубку да сіняга выгаленага падбароддзя і паволі разгортвае яе. Зала замірае. Чайкі на дырэктаравым ілбе журботна апускаюць крылы.

— Ну і што тут такога? — чуецца ў вусцішы здзіўлены галасок прымадонны школьнага драматычнага гуртка Нінкі Мароз.

Колькі наступных хвілінаў зала калоціцца ад дзікага рогату. Настаўнік фізкультуры Міхаіл Карпавіч Эпштэйн за вуха цягне да выхаду Валодзю Паповіча. У дзвярах на дапамогу фізруку вырастае школьны вартаўнік Харытонавіч, што за сталінскім часам працаваў кіроўцам на «варанку» і, кажуць, аднойчы назаўсёды завёз у НКВД уласнага бацьку.

На сцэне ўзвышаецца дырэктар. Цяпер ён нечым нагадвае бачаных у тэленавінах мурынаў-пікетоўцаў, якія за штосьці змагаюцца каля Белага дома. У руках у Абрама Ізрайлевіча аб'ява:

ЧЕМПИОНАТ СССР ПО АКАДЕМИЧЕСКОЙ ГРЕБЛЕ

На месцы літар «Г» і «Р» у апошнім слове — вакенца, адкуль выглядвае дырэктараў інстытуцкі ромбік.

Прымадонну Нінку, што выконвала на школьнай сцэне ролю падпольніцы-камсамолкі Улі Громавай, доўга даводзілі пытаннем, ці ўдзельнічала яна ў чэмпіянаце СССР па гэтым самым акадэмічным відзе спорту. Можна толькі здагадвацца, наколькі пакутліва было чуць такое маціцова-ружовым вушкам са смарагдавымі кропелькамі завушніцаў.

Гэта яна, Нінка, была аўтаркаю славутага выслоўя: «Я буду належаць толькі свайму мужу».

Магчыма, на Нінчына маральнае аблічча наклала адбітак тое, што яна даводзілася дачкою начальніку гарадскога аддзела міліцыі. Таму самаму, што вынайшаў задзвінскія расстрэлы п'яніцаў.

Вынаходка была да геніяльнага простая. Падабраных на вуліцах і ў парку жлуктаў адразу сартавалі. Ляжачых везлі ў выцвярэзнік, а хадзячых збіралі на ўнутраным міліцэйскім падворку побач з клеткамі службовых сабак. Да п'яніцаў выходзіў Нінчын бацька.

— Што будзем рабіць, таварыш палкоўнік? — ківаючы на нецвярозы кантынгент, сурова пытаўся дзяжурны па аддзеле. — Можа, сабак спусцім?

Службовыя сабакі заходзіліся пры гэтых словах жудасным брэхам, а п'янюгі прыкметна цверазелі.

— Адставіць сабак!

На двары западала маўчанне, і ў ім ціхія стамлёныя словы начальніка міліцыі гучалі, быццам пісталетныя стрэлы.

— Расстраляць усіх на х.., каб не псавалі наш сацыялістычны горад.

Пасля гэтага небаракаў запіхвалі ў машыны, адвозілі за дваццаць кіламетраў ад горада і «расстрэльвалі» на лясной галявіне з пісталетаў халастымі патронамі. Міліцыя ад'язджала, а «расстраляныя», некаторыя з мокрымі ад страху штанамі, усю ноч валакліся па шашы дамоў. Скардзіцца на Мароза баяліся, але гісторыя неяк выплыла на свет і Нінчынага бацьку адправілі вучыцца ў Маскву ў міліцэйскую акадэмію.

«Я буду належаць толькі свайму мужу», — чуў ад Нінкі кожны, хто асмельваўся нават на самыя бяскрыўдныя прапановы. Аднойчы ў дзясятым класе я, натхніўшыся яе даўгімі смуглявымі ножкамі, што раслі, здаецца, ад самых вушэй, і дзівоснай

аксамітава-брунатнай радзімкаю памерам з капеечную манету на левай шчацэ, адолеў сваю прыродную сарамяжлівасць, падышоў да Нінкі на перапынку і з усмешкаю закаханага блазна выціснуў з сябе некалькі пакутлівых слоў, каб таксама пачуць пазбаўленае нават намёку на ўзаемнасць «Я буду належаць...». Можна падумаць, быццам я прапаноўваў ёй аддацца мне проста на школьнай парце ці ў гардэробе пасля заняткаў, а не схадзіць на вечаровы сеанс у кінатэатр «Космас», дзе я, паводле свайго адчайнага плана, меўся ўсяго толькі пакласці руку на яе нясцерпна круглае калена.

Памятаю, маё юначае пачуццё настолькі пахіснулася, што я паабяцаў гаспадыні цудоўных ножак напісаць на сцяне ейнага дома «Тут жыве Нінка, якая будзе належаць толькі свайму будучаму мужу», а ўнізе дадаць: «Але гэта мы яшчэ паглядзім».

Такі самы мемарыяльны надпіс можна было зрабіць і на нашым менскім студэнцкім інтэрнаце, бо там жыла Вера Кропелька. Апрача акуратных канспектаў, раскошнай касы, што спускалася да таго месца, дзе Верына спіна губляла сваё гордае найменне, і процьмы іншых станоўчых якасцяў, у Веры таксама быў пункцік наконт таго, каму яна будзе належаць, прычым фармулёўка слова ў слова паўтарала Нінчыну, што давала падставы падазраваць абедзвюх у плагіяце.

Што сталася з жаночым *credo* Ніны Мароз, я скажу трохі пазней. А Вера Кропелька, дзякуючы яшчэ аднаму насельніку нашага інтэрната, трапіла ў неафіцыйныя анналы роднага факультэта.

Гэтага насельніка звалі Юлік Канапацкі, і да чацвёртага курса ён пад дабратворным уплывам суседзяў па пакоі са стараннага студэнта, што глядзеў на выкладчыкаў, ловячы ротам мух, ператварыўся ў сваю

процілегласць і почасту, уладкаваўшыся на самым версе аўдыторнага амфітэатра, проста на лекцыі высмоктваў праз саломінку пляшку, а то і дзве некалекцыйнага віна.

У тым слынным пакоі, дзе я прайграў у карты левы чаравік, які потым выкупляў за палову стыпендыі, вёў рэй Віця Кішко. Вельмі нават магчыма, што ён быў нашчадкам магутнага роду беларускіх магнатаў Кішкаў, якія выславіліся як каралеўскія кухмістры, гетманы, дыпламаты і мецэнаты.

Віця быў шчодра надзелены іншымі здольнасцямі. Прапанаваная кімсьці мянушка — Магнат — ад яго адразу ж адляпілася. І прычына, мабыць, хавалася не толькі ў тым, што Віця перакруціў фамільнае прозвішча на французскі капыл.

У той час у нас на гістарычным факультэце пачаў выходзіць самвыдавецкі літаратурны альманах «Мілавіца». Адзін з будучых светачаў айчыннай археалогіі змясціў у першым нумары верш:

*З сівых часін мінуўшчыны былой,*
*З мясцін егіпецкіх, з даліны Ніла,*
*Дайшлі да нас паданні пра чарніла,*
*Што пілі яшчэ чаркаю малой.*

Гэта было сказана не пра Кішко.

Да капейкі прагайдамачыўшы за пару дзён тагачасную трыццацірублёвую стыпендыю, Віця яшчэ з дзень ляжаў на ложку, глядзеў у пыльную столь з павутою па кутах і стоена прыслухоўваўся да сваёй 90-кілаграмовай істоты. Тая ўсё больш прагна патрабавала есці. Віця спускаў з ложка ногі, надзяваў белую нейлонавую кашулю, абуваў чорныя лакіркі, завязваў выйграны ў карты гальштук і з галодным бляскам у вачах блукаў па інтэрнаце, просячы сала. «Пойдзе і жоўтае», — сціпла казаў атожылак магнацкага роду.

У нашым пакоі Віцю неяк пачаставалі пластачкаю сала са зробленым з газетнага фотаздымка вырáзным адбіткам Брэжнева. Нашчадак каралеўскіх кухмістраў паклаў сала з партрэтам на хлебную лусту і, не сашкрабаючы генсека, з годнасцю зжаваў, але замест дзякуя паабяцаў, што наступнага разу ўсіх закладзе і нам прышыюць палітыку.

Узяўшы шэфства над Канапацкім, Віця Кішко выхаваў вучня, што перасягнуў настаўніка — калі не ў чарнільных подзвігах, дзе існаваў парытэт, дык, прынамсі, у картах, бо Юліку ўдалося выйграць у Кішко абое ягоных штаноў. Адыграўшы адны штаны, Віця затаіўся і чакаў дня помсты.

Гэты дзень надышоў разам з днём стыпендыі, калі Юлік вярнуўся каля паўночы ў інтэрнат, відавочна не дабраўшы нормы.

— Ёсць гáра? — запытаўся ён у Віці Кішко.

— Трымаем, — наструніўшыся, адказаў той.

Юлік выцягнуў з кішэні скамечаныя грошы.

— Схавай, смецце, — з годнасцю, вартай сярэднявечных продкаў, прамовіў Віця і выставіў свае ўмовы: — Прабяжыш галяком да жаночага душа і назад — стаўлю тры фугасы.

— Не піз...ш?

— Гадам буду! — Кішко абражана выцяў сябе кулаком у грудзі.

Юлік не вагаўся, адно папрасіў дазволу прыкрыцца ручніком. Інтэрнатаўскі ручнік быў не нашмат большы за фігавы лісток, прыкрыцца ім можна было толькі з аднаго боку, і Віця літасціва згадзіўся. Канапацкі, відавочна, разлічваў на тое, што ўжо позна і па калідоры другога паверха да жаночага душа можна праімчаць, нікога не сустрэўшы. Ён скінуў кашулю з порткамі і, застаўшыся ў плаўках, загадаў Віцю паказаць віно. Той паставіў на стол тры цёмна-зялёныя фугасы «Агдаму».

Юлік сцягнуў плаўкі і прымерыў ручнік, які, каб абкруціць вакол магутных Юлікавых клубоў, трэба было падоўжыць разы ў тры.

— Чакай, — зычліва спыніў Кішко, калі Канапацкі ўзяўся за дзвярную ручку. — Глыні для натхнення. — Ён пасунуў да Юліка адзін з фугасаў.

Пакуль Юлік здзіраў поліэтыленавы корак і каўтаў віно, падступны Віця віхурай праляцеў па калідоры, стукаючы ў дзверы і паведамляючы, што Канапацкі целяшом пабяжыць у жаночы душ.

Калі Юлік, трымаючы перад сабою ручнік, ступіў у калідор, той быў поўны. Падыходзілі людзі з іншых паверхаў. Да гонару Канапацкага, ён не разгубіўся. Набраўшы поўныя грудзі паветра, ён набычыўся і з дзікім крыкам: «Ну, кенты, бля, трымайце мяне!» — рынуў наперад.

А сталася так, што ў душавым пакоі, куды пад агатуканне гледачоў з тарпеднай хуткасцю імчаў Юлік, мылася якраз згаданая раней Вера Кропелька. Дакладней, не мылася, а ўжо надзявала на свае распараныя вабноты махровы халацік, каб адчыніць дзверы акурат у той момант, калі да іх на поўным разгоне, згубіўшы па дарозе выратавальны ручнік, падлятаў аматар «Агдаму».

У наступнае імгненне інтэрнат пачуў роспачнае Верчына верашчанне. Сказаць Юліку, што яна будзе належаць толькі мужу, Кропелька ўжо не паспела: закаціўшы пажаўцелыя ад жаху вочы, яна ціха аб’ехала па сцяне на брудны лінолеум.

Дзіўна, але пасля паўночнага забегу з інтэрната Канапацкага не выселілі. Яго ўратавала здабытая праз каханку-медсястру даведка, што падчас сесіі ёнператаміўся і часова з’ехаў з глузду.

Наогул забег пайшоў Юліку на карысць. На апошнім курсе ён здолеў зменшыць дозы і ажаніўся з дачкою

прарэктара політэхнічнага інстытута. У выніку зрабіўся аспірантам, нешта абараніў і неўзабаве паўстаў перад намі ў іпастасі рэспектабельнага выкладчыка навуковага камунізму ў цесцевай ВНУ. Аднаго разу, калі сентыментальнасць у чарговы раз занесла мяне ў сцены alma mater, у калідоры я сустрэў Юліка ў сінім з іскрынкаю гарнітуры-тройцы. Паглядзеўшы на ягоны скураны дыпламат на замках з шыфрам, я міжволі адзначыў, што туды можна лёгка схаваць фугасаў шэсць «Агдаму». Маё бяскрыўднае пытанне наконт таго, калі, паводле ягонае навукі, мы пабудуем светлую будучыню чалавецтва, Юліку настолькі не спадабалася, што я сфармуляваў наступнае: ці прабегся б ён у чым маці нарадзіла па нашым пятым гістфакаўскім паверсе ад жаночай да мужчынскай прыбіральні за скрынку каньяку.

— Пайшоў ты на х… — прыцішана адрэзаў выкладчык навуковага камунізму…

Цяпер мне здаецца, што забег галяком да жаночага душа — неабходны этап у кар’еры любога выкладчыка навуковага камунізму. Такія подзвігі не мінаюцца марна.

Трэба сказаць, што жыццё ў Канапацкага пасля яго сустрэчы з распаранай Верай Кропелькай склалася значна больш удала, чым лёс Юлікавага суседа па пакоі Артура Завалішына пасля рандэву з выкладчыцай гісторыі сярэднявечча Русаковай.

Неяк у зімовую сесію Арцік здаваў ёй залік адным з апошніх. Маладая дацэнтка паглядзела на рослага бландзіна са значком першаразрадніка на штрыфелі, потым задуменна зірнула ў вакно, за якім гусцела бэзавае сутонне, і, распісаўшыся ў залікоўцы, папрасіла студэнта правесці яе дахаты, бо жыла ў слабаасветленым мікраараёне.

У слабаасветленым мікрараёне нядаўна разведзеная дацэнтка ўзяла Арціка пад руку і не адпусціла ўжо да самых дзвярэй кватэры, за якімі перад студэнтам узнік спачатку каньяк, а затым і выкладчыца — ужо ў нечым эфірна-празрыстым.

Другі акт здачы заліку прайшоў настолькі паспяхова, што Завалішын пачаў днямі не з'яўляцца ў інтэрнаце, насіць мадняцкія кашулі і курыць «*Marlboro*». На ўсе роспыты ён, як і было загадана, адказваў, што знаходзіцца на спартовых зборах.

Аднак фартовы ўдзельнік збораў, у якога ўжо ніколі не павінна было ўзнікнуць праблемаў з вывучэннем гісторыі сярэдніх вякоў, на жаль, не збярог уласнага шчасця. Ён распіўся, пахваліўся сябрам спартовымі поспехамі і пачаў дазваляць сабе выказванні накшталт: «Пайду я сваю старушку трахну».

Зайздроснікі і зласліўцы зрабілі сваю справу. На экзамене ў дацэнта Русаковай Арцік адхапіў такі непахісны дваяк, што так і не здолеў пераздаць курс ні сваёй «старушцы», ні камісіі, а таму апынуўся спярша на завочным аддзяленні, а потым і ўвогуле кудысьці запаветрыў.

Нядаўна адзін наш былы аднакурснік нібыта апазнаў Завалішына ў верхаводзе рэкеціраў, што адбіралі даляры ў суайчыннікаў на польскім баку мяжы. Калі гэта сапраўды быў колішні спецыяліст у гісторыі сярэднявечча, дык на сваёй слізкай сцежцы ён мае выдатную магчымасць раней ці пазней сустрэцца з падпалкоўнікам беларускай міліцыі Віктарам Кішко, які, па чутках, сваю другую зорку атрымаў за паспяховую барацьбу з тымі, хто напрыканцы васьмідзясятых размахваў на пляцах бел-чырвона-белымі сцягамі і змагаўся з навукаю, якую выкладаў Юлік Канапацкі.

Вера Кропелька, паводле адных звестак, выйшла пасля ўніверсітэта замуж за мадагаскарскага князя,

а паводле іншых — за лепельскага сельгастэхніка. Будзьма спадзявацца, што ў кожным разе — ці то ў мадагаскарскім гамаку з матрацам са стравусавага пуху, гледзячы ў цёмнае, як дзёгаць, паўднёвае неба з чужымі сузор'ямі, ці то на мулкім лепельскім ложку вытворчасці сумеснай беларуска-габрэйскай фірмы з адраджэнскай назваю «Пагоня», з якога відаць толькі нізкая столь стандартнай блочнай кватэры, — Вера належыць выключна свайму мужу. Магчыма, пры гэтым яна настальгічна прыгадвае будучага (і ўжо былога) выкладчыка навуковага камунізму Юліка Канапацкага, што аднойчы як геній чыстага хараства ўзнік перад ёю на парозе ўбогага, аздобленага арабескамі цвілі інтэрнатаўскага душа. Магчыма, менавіта гэты ўспамін у цемры задушлівай мадагаскарскай ночы наймацней лучыць Веру з далёкай халоднай радзімаю.

Звесткі пра Ніну Мароз больш пэўныя. Яна стала жонкаю афіцэра-танкіста, якога закінулі выконваць інтэрнацыянальны абавязак у Афганістан.

Пра мужа мне расказала сама Ніна, калі мы сустрэліся ў горадзе нашага дзяцінства і зайшлі ў кавярню «Буслы». Я даведаўся, што муж два разы прыязджаў у адпачынак і прывёз цэлы склад афганскіх кажушкоў і японскай стэрэаапаратуры, што ёй здаецца, быццам ён колецца наркотыкамі, спіць з афганкамі марксісцкай арыентацыі і хоча яе, Ніну, кінуць, а можа, проста хоча загінуць — падарвацца пасля карнай акцыі на міне або нырцануць у туманную горную цясніну на збітым верталёце.

Пасля кавярні мы слухалі прывезены з Афгана магнітафон, і неяк само сабой здарылася тое, што калісьці не ўдалося мне ў кінатэатры «Космас». Мая рука апынулася на цёплым і яшчэ не пастарэлым, адрозна ад твару, Нінчыным калене і лёгка слізганула вышэй.

— Я хачу на падлозе, — сказала, пазіраючы некуды ўбок, Ніна.

Мы любілі адно аднаго на мяккім, відаць, таксама трафейным варсістым дыване пад зялёным таршэрам. Яе вялікая радзімка на левай шчацэ калолася трыма падстрыжанымі валаскамі, яе рукі ды ногі ўмела абдымалі мяне, а вусны шапталі не заслужаныя мною пяшчотныя словы. Да зялёнага круга таршэравага святла падышоў і спакойна назіраў за намі персідскі кот, а мой позірк зноў і зноў натыкаўся на пакінутыя танкістам пасля адпачынку крывыя нажы, і я не мог пазбыцца думкі, што якраз такімі нажамі дабівалі недзе пад Гератам майго найлепшага школьнага сябра Юрку Весялова.

Ад таго вечара, калі нам з Нінаю свяціў зялёны таршэр, заставалася гады два да той пары, калі скасавалі навуку Юліка Канапацкага, а правадыру працоўных, што стаяў каля нашай школы, нехта адбіў нос. Рыба ніякага дачынення да гэтага не меў, бо працаваў партыйным сакратаром у закрытым казахстанскім горадзе, адкуль нешта запускалі, і горка шкадаваў пра ідэалагічна грэшнае дзяцінства, што не дазваляла ісці ўгару хутчэй, чым атрымлівалася.

Што да носа Уладзіміра Ільіча, дык яму зляпілі і прымацавалі новы, аднак у зімовыя маразы ён сам сабою адваліўся, што дало злым языкам магчымасць успомніць брыдкую правадырову хваробу. Урэшце гарадскія ўлады стварылі камісію, і тая выдала даведку пра нізкую эстэтычную каштоўнасць манумента. У экспертным акце фігуравала адметная фраза: «У памятника утрачен нос».

Карацей, ад Уладзіміра Ільіча, як за трыццаць гадоў да гэтага ад Іосіфа Вісарыёнавіча, што ўзвышаўся з другога боку школы, засталося адно ўтравелае ўзножжа.

*1995*

# Рэквіем для бензапілы

У даўно адляцелую ў вырай восень я сустракаўся з жанчынаю, ад якой у пэўны момант нашых спатканняў абавязкова чуў, што, калі я маўчу, яна думае, нібыта патрэбная мне толькі дзеля аднаго. Яна гатавала добры глінтвейн і валодала яшчэ некаторымі рэдкімі якасцямі, а таму, унікаючы непераканаўчых апраўданняў, яе дзяжурную просьбу не маўчаць я звычайна выконваў.

Трэба прызнацца, што метафізічныя развažанні пра мастацтва як санкцыянаваную галюцынацыю альбо пра сон як анклаў смерці, дзе мы вучымся будучаму дасканаламу сну, не выклікалі ў яе прыліву цікавасці, і, каб запаўняць тыя прамежкі часу, калі мы не займаліся нечым больш істотным, была вынайдзеная простая, але надзейная схема. Я апавядаў ёй розныя займальныя гісторыі. Спачатку ў ролі іх герояў фігуравалі калегі, потым універсітэцкія выкладчыкі і аднакурснікі, а паколькі восень стаяла сырая і халодная і нашы маладыя істоты зноў і зноў прагнулі глінтвейну, рэтраспекцыі хутка дасягнулі тэрыторыяў дзяцінства, і мая сяброўка пачула пра Юрку Весялова.

Адрозна ад іншых, гэтая гісторыя не магла ганарыцца закончаным сюжэтам. Пасля ўсяго, што прычынілася з ім у Полацку і Менску, Юрка трапіў у Афганістан, адкуль не вярнуўся ні жывы, ні ў цынкавай труне, дарма што п’яны гарадскі ваенком уручыў ягоным бацькам медаль «За отвагу». А неўзабаве ў Полацак заявіўся маладжавы чалавек у супермодным тады крымпленавым гарнітуры. Ён рэкамендаваўся карэспандэнтам маскоўскай газеты і збіраўся пісаць

пра Весялова нарыс, дзеля чаго найперш імкнуўся высветліць, якое месца ў Юркавым жыцці займалі жанчыны і моцныя напоі. Нічога я таму «карэспандэнту», вядома, не сказаў, хоць абсалютна дакладна ведаў: жанчыны (дакладней, жанчына) і гэтыя напоі (а менавіта пляшка белага сухога віна) сапраўды адыгралі ў лёсе Юркі Весялова фатальную ролю.

Смакуючы ў тую восень духмянае гарачае пітво, я не мог і ўявіць, што праз колькі гадоў у Кліўлендзе, штат Агаё, праз знаёмых беларусаў буду запрошаны ў дом да чалавека з англійскім імем, англійскім прозвішчам і вачыма колеру валошак на ягоным кветніку пад вакном, да чалавека, які адкаркуе рукою без двух пальцаў пляшку віскі і, выправіўшы сваю Пэгі на кухню, раптам пяройдзе з англійскай мовы на расейскую і спытае без усякага акцэнту, ці не даводзілася мне, паколькі я палачанін, чуць пра земляка з прозвішчам Весялоў, а калі на дне пляшкі не застанецца ні кроплі бурштынавага напою, Юркава гісторыя набудзе безнадзейную завершанасць, дзякуючы чаму сёння, зварыўшы кубак глінтвейну, я маю магчымасць расказаць вам яе да канца. Пагатоў не выключана, што сярод вас апынецца жанчына з тых дажджлівых восеньскіх дзён, якая ўзгадалася мне, напэўна, проста з прычыны падабенства яе ножак з ножкамі кліўлендскай жыхаркі Пэгі.

Калі апавядаць усё па парадку, дык варта пачаць з таго, што недзе ў Расеі ёсць горад Гусь-Хрустальны, а там — славутая гута. Я выдатна мог бы абысціся без гэтае геаграфіі, каб да таго часу, як мне ісці ў школу, шклозавод не пабудавалі і ў Полацку і каб з таго Гусь-Хрустальнага не прыехалі да нас расейскія спецыялісты. Карацей, як пяецца ў адной беларускай народнай песні трыццатых гадоў мінулага стагоддзя, «*нам Масква прыслала падкрапленне*».

Не ведаю, якую карысць меў ад тых спецыялістаў новы завод, а вось іхнія дзеці, што жылі ў нашым двары і вучыліся ў нашай школе, назаўсёды засталіся ў полацкай гісторыі як адмыслоўцы ў справах зусім інакшых.

Хлапчукі з Гусь-Хрустальнага гаварылі чыста парасейску, «окалі» і не разумелі, што такое «бурак» і «курмель», але ўражанне, быццам яны з'явіліся з іншай краіны, узнікала зусім не таму. У параўнанні з намі, карэннымі полацкімі мальцамі, «гусі» былі якіясьці дзікія. Не, яны не дзічыліся нас і не былі нецывілізавана праставатымі. Наадварот, у нашым дзіцячым свеце «гусі» рэзка вылучаліся нахабствам, вынаходлівасцю і жорсткасцю.

Не хачу сказаць, што мы самі нагадвалі да агіднага прыстойных мамчыных сынкоў. Аднак нашыя свавольствы, помсты і падрахункі мелі, так бы мовіць, адбітак тутэйшасці, адбываліся з гэтага боку нейкай заўсёды даволі адчувальнай мяжы, «гусі» ж не былі яе часовымі парушальнікамі, а з самага пачатку дзейнічалі з іншага боку.

Помсцячы за парэзаны кухонным нажом і па кавалках выкінуты ў фортку футбольны мяч, мы маглі праз замочную шчыліну перапампаваць вялікім шпрыцом у кватэру пенсіянеру Акімавічу з першага паверха вядро вады, але нікому з нас ніколі не заманулася, уладкаваўшыся на даху нашага пяціпавярховіка, наліваць ваду ў здзьмутыя паветраныя балонікі і скідаць іх на выпадковых мінакоў, ад чаго чалавек са слабымі нервамі мог памерці на месцы з перапуду. Схаваўшыся ў глогу на праспекце Карла Маркса, мы таксама падкідвалі на ходнік стары гаманец на лёсцы або зношаную дамскую сумачку, аднак нам не прыходзіла ў галаў, як Віцю Байцову з нашага класа, зняць штаны і, перапрашаю, проста ў тую сумачку накласці.

І мы не мелі ніякага сантыменту да выкладчыка працы, які за ўрок здольны быў ледзь не кожнаму надаваць сваёй важкай рукою па карку, аднак даўгі цвік увагнаў спадыспаду ў настаўнікава крэсла не хтосьці з нашых, а «гусь» Ігар Гарачоў, які ўжо ў восьмым класе трапіў у скурвендыспансер з дыягназам «ганарэя». Мы, як і «гусі», любілі пагойсаць па падвалах, толькі ўжо няма патрэбы тлумачыць, хто вынайшаў арыгінальны спосаб адключэння падвальных ліхтарняў, дзеля чаго, як высветлілася, дастаткова было наюндзіць у адкручаныя матавыя плафоны, а потым асцярожна закруціць іх назад і пстрыкнуць уключальнікам.

Ужо ў першым класе «гусі» ўвялі звычай, ідучы на летнія вакацыі, знадворку біць аб школьныя сцены чарніліцы-каламаркі. Гэта яны прывязвалі катам да хвастоў бляшанкі з каменнем і мазалі бедакам у прычынным месцы шкіпінарам. Я не выключаю аберацыі памяці, але мне здаецца, што гэта яны з дапамогаю тоўчанага шкла звялі ў «жывым кутку» са свету старую жаўлу Тарцілу, што, як сцвярджаў настаўнік біялогіі, нарадзілася яшчэ да вайны.

Трэба аддаць «гусям» належнае — хоць з імі і так лічылі за лепшае не варагаваць, яны, як быццам знаходзячыся на варожым беразе, нязменна трымаліся разам і былі гатовыя імгненна кінуцца адзін аднаму на падмогу. Апрача ўжо згаданых Ігара Гарачова і спецыяліста па дамскіх сумачках Віці Байцова, у гэтую «гусіную» чараду ўваходзіў Валерка Акаркоў на мянушку Окарак.

Валерка быў на год старэйшы ад сябрукоў і ўз'яднаўся з імі ў нашым 5-м «А» класе, засеўшы з чатырма двойкамі на другі год. Ён прынёс з сабой яшчэ адну мянушку невядомага паходжання — Дагестанец. Магчыма, яна мела сувязь з Валеркавай смуглявасцю і ягонымі цыганскімі вачыма. Першая мянуш-

ка лічылася больш фамільярнай і прызначалася для ўнутранага карыстання сярод «гусей», астатнія ж, каб пазбегнуць непрыемнасцяў, мусілі называць Валерку Дагестанцам. (Цяпер я вазьму рэванш, мянуючы яго выключна Окаркам.)

Окарак адразу заняў у тройцы «гусей» месца верхавода. Тут прычыніліся і ягоная гітара, і блатныя песенькі, і тое, што ён застаўся на другі год ужо зацятым курцом. Дадам, што гэта быў самы прыгожы хлопчык у класе і, калі ў нас пачаліся вечарынкі, якія тады зваліся «блакітнымі агеньчыкамі», дзяўчынкі станавіліся ў чаргу, каб запрасіць Окарка на «белы» танец, тым больш ён не таптаўся па нагах, а добра танцаваў нават вальс, што так і застаўся для мяне недасяжнаю вяршыняй.

Хлапчукі пабойваліся Окарка і стараліся ў блізкія стасункі з ім не ўваходзіць. Што да мяне, дык я люта ненавідзеў яго яшчэ з тых вакацыяў, як пасля трэцяга класа ўпершыню трапіў у піянерскі летнік.

Летнік месціўся пад Полацкам у школе-інтэрнаце, адкуль выхаванцы раз'язджаліся да восені па хатах. Хто не меў куды ехаць, заставаўся і не прызнаваў аніякіх правілаў, ува ўсім даводзячы ўласную гаспадарову зверхнасць. Валерку Акаркова яны прынялі за свайго, і якраз яму была даручаная экзекуцыя над намі, калі наш наймалодшы атрад павялі мыцца. Уварваўшыся з дзікім гіканнем у душавую, гаспадары перакрылі гарачую ваду, сагналі нас у кут, і Окарак з двух шлангаў з насалодаю хвастаў наш спалоханы збой ледзянымі струменямі. Некаторыя хлопчыкі не вытрымлівалі і плакалі, а я трываў з апошніх сілаў і, калоцячыся ад холаду, успамінаў аповед настаўніцы, як фашысты ў мароз палівалі са шлангаў на двары канцлагера нейкага савецкага генерала. Нібыта зазірнуўшы ў мае думкі, хтосьці выгукнуў слова «фа-

шысты», і мы падхапілі: «Фашысты! Фашысты!» За гэта інтэрнатаўская хеўра прыцягнула з распранальні і вымачыла да ніткі яшчэ і ўсё нашае адзенне.

З гадамі забавы Окарка і ягоных «гусей» рабіліся ўсё больш рызыкоўнымі і часам набывалі крымінальнае адценне. Згадваць такія драбніцы, як вытрасеныя з чужых кішэняў у час урока фізкультуры капейкі на булачку або вынесены Окаркам з кнігарні «Светач» за пазухай томік навелаў О'Генры, нават няёмка. У сёмым класе «гусі» абчысцілі аптэчны шапік. Тым разам чародны інстынкт чамусьці не спрацаваў: не патрапляючы падзяліць украдзеныя 56 рублёў пароўну, тройца ўсчала ў начным пад'ездзе бойку і была на месцы ўзятая міліцэйскім патрулём.

У восьмым класе нас паслалі ў калгас на бульбу. Там «гусі» зноў вызначыліся. Іх каларытнае трыа — шыракаплечы бамбіза Гарачоў, цыганісты Окарак і шпінгалет Байцоў — дружна заняло самыя далёкія ад настаўніка разагнаныя камбайнам барозны і выканала норму сабраных вёдзер удвая хутчэй за астатніх. Сакрэт гэткіх дасягненняў праз пару дзён быў раскрыты: кожны з «гусей» выпілаваў з фанеры да свайго вядра другое дно.

У тым самым восьмым класе маладзенькая і схільная без дай прычыны аблівацца малінавай чырваню выкладчыца гісторыі атрымала на ўроку цыдулку з прапановаю спаткацца ўвечары на школьным гарышчы. Каб у яе не заставалася пытанняў наконт мэтаў сустрэчы, запрашэнне суправаджалася некалькімі малюнкамі. Праведзенае класным кіраўніком расследаванне не дало аніякіх вынікаў, калі не лічыць прысланы настаўніцы праз пошту ліст з абяцаннем зашыць «піську» і адрэзаць «сіські». Я не ўяўляў, што можна было ў нашай гістарычкі адрэзаць, аднак не сумняваўся: тут замяшаны Окарак.

Сюжэт з гарышчам і сіськамі скончыўся тым, што ў нас з’явіўся новы настаўнік-гісторык. Аднаго разу ён прыйшоў на ўрок з незашпіленым прарэхам, а аднойчы, калі мы праходзілі Вялікую французскую рэвалюцыю, знячэўку пачаў апавядаць пра блакаду Ленінграда: як там елі людзей і як ягоная сям’я выжыла толькі таму, што бабуля працавала ў Смольным палацы прыбіральніцай і ёй дазвалялі забіраць са сталоў і сметніц надкусаныя лусцікі з ікрой, скрылікі вэнджанай кілбасы, цестачкі ды іншыя недаедкі супрацоўнікаў абкама партыі. Гэтаму немагчыма было даць веры, але наш настаўнік, сеўшы за стол, заплакаў, размазваючы кулакамі слёзы, і мы, здагадаўшыся, што ён п’яны, амаль паверылі ў неверагоднае. А неўзабаве гісторыка — за п’янства ці за такія ўспаміны — выгналі са школы, і ён уладкаваўся грузчыкам у прадуктовай краме насупраць, дзе канчаткова спіўся.

Але пры чым тут Юрка Весялоў? — можаце запытацца вы.

А пры тым, што і ён прыехаў у Полацак з Гусь-Хрустальнага, аднак быў паміж сваімі супляменнікамі сапраўднай белай варонай.

Дзеля пачатку адзначу, што, адрозна ад іншых «гусей», бацькі не вызвалілі яго ад беларускай мовы. Атрымаць вызваленне ў тыя часы было гэтаксама проста, як купіць у летамцы порцыю малочнага марозіва за дзевяць капеек: адны нарадзіліся ў сем’ях вайскоўцаў; другія — у прыгарадных вёсках, ды чамусьці ў дакументах пісаліся расейцамі; трэція лічыліся беларусамі, але, на думку бацькоў, так моцна стамляліся на іншых уроках, што на беларускую мову ўжо не мелі ніякае змогі. У нашым класе з трыццаці вучняў мову вывучалі ўсяго восем чалавек і сярод іх — Юрка Весялоў, які доўга не мог засвоіць «ў» і старанна вымаўляў «кавнер» і «наставнік».

За прысутнасць на ўроках мовы Окарак і кампанія пагардліва ахрысцілі Юрку «колхозником». Гэта была не адзіная прычына нялюбасці. Калі «гусі» падбіралі ключы да аптэкі і дзялілі на трох 56 рублёў, Весялоў чытаў Конан Дойла і Праспера Мерымэ. Між іншым, ён, Юрка, як і я, меў да Окарка даўні рахунак, і мне здаецца, што тады, у летніку, пад ледзяной вадою са шлангаў першы закрычаў «фашысты!» менавіта ён.

Я не скажу, што мы з ім сябравалі. Адбіўшыся з самага пачатку ад «гусінае» чарады, Юрка не пристаў і да ніводнага з нашых хаўрусаў. Відаць, ён і не надта рваўся да кагосьці далучацца, бо атрымаў характар тыповага індывідуаліста. Калі, углядаючыся ў мінулае, я хачу ўбачыць гэтага высокага танклявага падлетка з акуратнай фрызураю-«канадкай» і тонкімі, быццам сплеценымі з адных жылаў, моцнымі рукамі, на якіх ён з дзівоснай лёгкасцю падымаўся па канаце пад самую столь спартовае залы, побач з ім ніколі нікога няма. Да дзявятага класа, пакуль у нас не з’явілася Ларыса Жылкіна, Юрка і за партаю сядзеў адзін. І ўсё ж бясконца трымацца ў такім веку аднаму проста немагчыма, бо можна ўрэшце з’ехаць з глузду.

Развярэджанае самалюбства не дазваляе мне сказаць, што Юрка Весялоў выбраў мяне. Назавем выбар узаемным, хоць факт застаецца фактам: якраз Юрка на перапынку падышоў да мяне і, спакойна гледзячы сваімі неміргатлівымі шэрымі вачыма, абсалютна нечакана пацікавіўся, ці згодны я праверыць смеласць.

Ну што адказваюць на гэткія прапановы ў чатырнаццаць гадоў?

Так пасля ўрокаў мы з ім апынуліся пад мостам цераз Дзвіну.

Юрка растлумачыў, што раку можна перайсці не толькі па версе моста, але і знізу, дзе на выпадак вайны пакінуты ход для мінёраў.

Вастрыня адчуванняў таго дня жывая ў маіх лейкацытах і эрытрацытах і сёння.

Услед за Юркам я караскаўся па хісткіх жалезных драбінах з адламанымі папярэчынамі, праціскаўся праз вузкія брудныя праходы ў бетоне і пераскокваў небяспечныя прамежкі між блокамі, адкуль цягнула вільготным страхам.

Найбольш вусцішным адцінкам экспедыцыі сталіся колькі метраў на падыходзе да трэцяга быка. Падарожнік мог пераадолець іх толькі па дзвюх перакінутых паміж блокамі дошках.

Дошкі, хоць і былі досыць шырокія і тоўстыя, прыкметна прагіналіся. Над якой-небудзь ручаінай я прайшоў бы па іх з завязанымі вачыма, аднак тут, далёка ўнізе, дыхаючы холадам, плыла цёмная восеньская Дзвіна, і мая разагрэтая дамешкам цыганскае крыві фантазія ўмомант намалявала віры і бохаты з аброслымі ракавінкамі тапельцамі. Насельнікаў дзвінскіх глыбіняў змяніў вобраз канатаходца з раскінутымі над безданню рукамі. Якраз так, расставіўшы рукі, і рушыў наперад Юрка. Небяспека хавалася яшчэ і ў тым, што дошкі мелі розную таўшчыню і пружынілі пад нагамі не аднолькава. Я заплюшчыўся і ўбачыў, як Юрка разам з дошкамі ляціць долу. Мільганулася думка, што, калі пашанцуе, гэта не смяротна: узімку, праламаўшы парапет, з моста сарваўся самазвал, але лёд вытрымаў і для кіроўцы ўсё абышлося зрушэннем мазгоў; выпісаўшыся са шпіталя, той напіўся, як рамізнік, і буяніў на вуліцы, а міліцыянтам крычаў, што ён — савецкі касманаўт, а касманаўтаў не забіраюць.

Калі праз імгненне я адкрыў вочы, Юрка стаяў на тым баку прадоння. Мяне цягнула апусціцца на чатыры кропкі і перапаўзці гэтыя метры на карачках. Няхай у далоні і ў калені ўвап’ецца тысяча стрэмак —

выцягваць іх у параўнанні з гэтай хвілінаю будзе суцэльнаю асалодай.

Мост падаў у паветраную яму, а мае вантробы імкліва падымаліся да горла. Тым часам Юрка выняў з кішэні ключ, павярнуўся да мяне спінай і ціхамірна ўзяўся штосьці драпаць. Нейкая віхура сарвала мяне з месца і перанесла да Юркі. Азірнуўшыся, я згледзеў, што дошкі раз’ехаліся, і цяпер адтуль да нас перабраўся б хіба што кот.

На цёплай шурпатай паверхні быка Весялоў надрапаў сваё імя. Я таксама выцягнуў ключ, і побач з «Юрам» з’явілася: «Вова». Юрка падумаў і дабавіў дату нашага падарожжа.

Вы памыляецеся, калі лічыце, што пасля выпрабавання смеласці мы зрабіліся сябрамі. Спатрэбіліся восеньскія, а ўпрыдачу і зімовыя вакацыі, каб Юрка зноў загаварыў са мной, папрасіўшы дазволу глядзець у нас хакейны чэмпіянат свету.

Тагачасныя заўзятары памятаюць, што «залата» тады нязменна дзялілі паміж сабой каманды Савецкага Саюза і Чэхаславакіі. Мы «хварэлі» так зацята, што ад навагодніх святаў нарыхтоўвалі ляскоткі і сустракалі кожную закінутую «нашымі» шайбу дзікім крыкам і выбухамі. Праўда, у той час, калі Юрка Весялоў уладкаваўся поруч са мной насупроць чорнабелага «Нёмана», ляскоткі мы ўжо, здаецца, перараслі. У дзверы стукаліся сямідзясятыя гады, і гульні «нашых» з «чэхамі» набылі палітычны падтэкст. Мінецца шмат гадоў, і на Старамескім пляцы ў Празе знаёмы чэх распавядзе, што ў іх гэта называлася: яны нас танкамі, а мы іх — клюшкамі.

Я пакрывіў бы душой, сцвярджаючы, быццам меў тады нейкае асабістае стаўленне да савецкіх танкаў каля Карлавага моста. Здаровага скепсісу, што паспеў пусціць парасткі ў маёй душы, пакуль хапала адно

на тое, каб тушыць экран, калі з’яўлялася застаўка тэленавінаў. Бацька круціў ручкі нашай дабітай радыёлы «Беларусь» амаль штовечар, я ж настройваў радыёлу на «варожыя галасы» адно дзеля суботніх музычных праграм.

Такім чынам, мы — я, Юрка і бацька — глядзелі гульню з чэхамі: пляскалі, хапаліся за галовы, ускоквалі і нервова расхаджвалі па пакоі. Калі не лічыць ляскотак, усё ішло як звычайна, як летась і пазалетась, але трэцім вокам я заўважыў штосьці не тое. Бацька пляскаў неяк неўпапад, а перахапіўшы мой пагляд, хутка адвёў вочы. Напрыканцы першага перыяду я пераканаўся: бацька хварэе за чэхаў. Мала таго, на ягоным баку, паводле некаторых прыкметаў, быў і Юрка. Але і гэта было не ўсё: я разгублена адчуў, што якісьці спрытны антыпатрыятычны мікроб збунтаваў і маю душу. Я таксама быў далучаны да змовы. Гульню мы дагледзелі ў наструненым маўчанні, не імкнучыся абменьвацца нават позіркамі. Выдатна памятаю, што, нягледзячы на нашую здраду, «нашы» выйгралі. Мы паціснулі адзін аднаму рукі і па-мужчынску стрымана павіншаваліся з перамогай.

Хакей зрабіў тое, што аказалася не пад сілу мосту цераз Дзвіну: увесну мы з Юркам напраўду пасябравалі.

Гэтая падзея мела шмат наступстваў.

Па-першае, я атрымаў доступ да Юркавай бібліятэкі, дзе накінуўся на васьмітамовік Конан Дойла, а потым узяўся за зялёныя фаліянты «Сусветнай гісторыі».

Па-другое, я даведаўся, што Юрка марыць стаць журналістам-міжнароднікам і падарожнічаць па розных краінах. (Падзяліўшыся таямніцаю, ён узяў з мяне пісьмовую прысягу маўчаць.)

Па-трэцяе, дзякуючы Юрку, я ўпершыню выпіў віна. Мой дэбют адбыўся ў дзень заканчэння дзявятага класа. Мы сядзелі з Юркам у ягоным пакоі з кнігамі,

і ён без усякай прадмовы вывудзіў з-за тамоў «Сусветнай гісторыі» пляшку вугорскага рыслінгу.

Мы пілі кіслявы рыслінг з каньячных кілішкаў і закусвалі свежым батонам з разынкамі. Пляшка не паспела апусцець, а я без прывычкі ўжо бачыў Юрку нібыта праз тоўстае шкло акварыума. Юрка заявіў, што ён цвярозы, як вось гэтыя кнігі, бо кожнае лета ездзіць да сваякоў у Закарпацце, а там пачынаюць піць віно з дзіцячых садкоў. У мяне крэўных у Закарпацці не было, а таму пасля пары новых кілішкаў з кніжнае шафы мне выразна падміргнуў барадаты фотапартрэт Хемінгуэя. Спалохаўшыся, я прапанаваў прагуляцца. Юрка глыбакадумна адказаў, што ў такі дзень яму хочацца паглядзець на раку, і мы пайшлі на Верхні замак.

Там, над Дзвіной, якая была сведкаю таго, як мы, рызыкуючы жыццём, выпрацоўвалі адвагу, я загаварыў пра лёхі, што ў сярэднявеччы стваралі пад Полацкам падземны горад-лабірынт, а Юрка ўрачыста паабяцаў, зрабіўшыся журналістам, прывезці сюды міжнародную археалагічную экспедыцыю. Я ўжо здагадваўся, што такое мужчынскае сяброўства: гэта калі можна выпіць віна і адкрыць сябру любую таямніцу.

На Верхнім замку я пачуў, што Юрку падабаецца наша новая вучаніца Ларыса Жылкіна, а на падвесным мосце над Палатой язык у яго конча развязаўся і мне быў даверaны працяг тайніцы: яна, Ларыса, таксама не абыякавая да Юркі. На лета яны абое з'язджаюць, каб у разлуцы выпрабаваць пачуцці, а ўвосень Юрка павінен, як ён выказаўся, да канца быць мужчынам, бо, апрача ўсяго іншага, гэта надзвычай важна для будучага журналіста. Прызнаюся, што Юркаў намер выклікаў у маёй душы паблажлівае пачуццё перавагі, бо я, хоць і не каштаваў віна, смак іншых забароненых пладоў ужо ведаў.

Ларыса была, як я кажу цяпер, зусім не маёй філіжанкаю кавы, ды гэтая тонкая, але без ніводнае вострае костачкі, уся зграбная і гнуткая, як ласка, дзяўчынка з кароткай каштанаваю грыўкай, спакойнымі лініямі правільнага твару і нечакана свавольнымі мушкамі ў вялікіх арэхавых вачах магла, безумоўна, падабацца не толькі Юрку. Вяртаючыся ў той час, я думаю, што з іх атрымалася б добрая пара. Убачыць побач з Юркам Ларысу мне даволі проста: адзінае ў класе вольнае месца чакала яе менавіта за Юркавай партай. Варта дадаць, што ягонай абранніцы вам было б цяжкавата ўтлумачыць, што такое жаночая сарамяжлівасць. На развітальнай школьнай вечарыне перад вакацыямі яна запрасіла суседа па парце на дамскі танец (гэта рэабілітавала яе ў маіх вачах за папярэдняе танга з Окаркам) і сама прапанавала Юрку падвесці яе дадому.

Магічным словам для ўваскрашэння галоўных падзей таго лета з усімі іх барвамі і пахамі для мяне заўсёды будзе «Адэса». Мы з бацькам прабавілі там два жнівеньскія тыдні, жывучы ў гатэлі «Пасаж» на Дзерыбасаўскай, адкуль прыехаў у Полацак надзейна схаваны сшытак вершаў пра карыя ілюмінатары, шкляныя вочы медузаў, трамваі на Аркадзію і хваляломы ланжэронскіх пляжаў.

Большая частка той рыфмаванай прадукцыі мела страшнае прысвячэнне — ГБ, што, зрэшты, расшыфроўвалася зусім бяскрыўдна: Галі Бяляўскай. У першы адэскі дзень я зачапіў за плаўкі асадку і паплыў да далёкага буйка, што быў абраны дзеля ўвекавечвання імя маёй меднавалосай каханкі. У вадзе шарыкавая асадка адмовілася пісаць, але, змагаючыся з хвалямі, я ўсё ж вывеў запаветнае імя на чырвоным баку вяртлявага буйка, а затым употай ад бацькі запіў ладную порцыю марской вады шклянкаю белага

віна з пляжнай бочкі і ў шчаслівай хмельнай знямозе заснуў пад сонцам на гарачым жвіры.

А яшчэ кожны вечар адбываўся наш шпацыр па Дзерыбасаўскай з яе шматмоўным натоўпам адэсітаў і маракоў усіх колераў скуры, вачэй і валасоў, з яе старадаўнімі вагамі, што паказвалі не кілаграмы, а пуды і фунты, з такімі самымі, у пудах і фунтах, дзяленнямі на металёвых рэйках сіламераў у выглядзе круглых плюшавых падушачак са схаванымі спружынкамі (ахвотнікі малацілі па падушачках голымі і валасатымі кулакамі, і на рэйках падскоквалі ўгору рухомыя масянжовыя рамкі з рыскаю, пакуль аднойчы па вуліцы не прагуляўся мурын, які адзін за адным метадычна расправіўся з усімі сіламерамі — заместа кулака ён карыстаўся голенай галавоюяйкам, у выніку чаго рэек з дзяленнямі не хапала і масянжовыя рамкі ляцелі кудысьці ў голле белых акацый); па Дзерыбасаўскай з яе акрабатам-жлуктам у капелюшы і балонні на голым целе, што хадзіў вакол свайго пасланага на ходніку плашча на руках, у той час як ягоная малпачка збірала ў капялюш грошы, каб потым дапамагчы гаспадару распіць у скверы пляшку таннага віна; па Дзерыбасаўскай, што здавалася маёй тагачаснай рамантычнай натуры філіялам Зурбагана і Гель-Г’ю з навелаў Аляксандра Грына…

Мне праглася, каб усё гэта ўбачыў і адчуў мой сябар Юрка. На схіле жніўня мы сядзелі на беразе Палаты недалёка ад старых Ксавэр’еўскіх могілак і па чарзе пілі з рыльца прывезенае Юркам з Закарпацця п’янкое маладое віно.

З некалькіх асцярожных Юркавых слоў вынікала, што пачуццё да суседкі па парце вытрымала праверку часам. Мяне гэта не ўсцешыла. Тымі днямі я ажно двойчы сустракаў Ларысу з Окаркам.

Першы раз яна толькі прысутнічала сярод дваровай публікі, што слухала Валеркавы песні пад гітару. Калі я праходзіў паўз альтанку, адтуль даносіўся ягоны прыемны чысты голас:

*У не-е-й такая маленькая грудь,*
*А губы, губы алые, как маки.*
*Уходит капитан в далекий путь*
*И любит девушку из Нагасаки…*

Другі выпадак быў ужо іншага кшталту. Да ачмурэння нарэзаўшыся на даху нашага дома ў карты, мы выправіліся ў кінатэатр «Радзіма». Следам пацягнуўся сын п’яніц з першага пад’езда Ваня Шпакаў, вучань чацвёртага класа з букетам самых сумнеўных схільнасцяў. Ваня ўжо стаяў на ўліку ў міліцыі — за тое, што скруціў ніпелі ў аўтобусе з узбекскімі артыстамі, якія выступалі ў Полацку пасля знакамітага ташкенцкага землятрусу.

У кінатэатры ішоў адзін са страшэнна папулярных у жыхароў нашага горада індыйскіх фільмаў, але сеанс быў дзённы, і мы выгодна ўладкаваліся на першых радах напалову запоўненай залі. Як толькі кінагероі пачалі цалавацца, чацвёртакласнік Ваня жыццярадасна галёкнуў: «Глядзіце, сасуцца!» Білецёрка паклікала дзяжурнага пажарніка, які выгнаў крыкуна, а заадно і ўсю нашую брацію на вуліцу. У дзвярах я азірнуўся: на пустым заднім радзе сядзела Ларыса з Окаркам.

У верасні нас замест заняткаў зноў на два тыдні завезлі ў вёску капаць бульбу. На полі класны кіраўнік першым чынам праверыў у «гусей» вёдры. Гэтым разам абышлося без вынаходак, аднак неўзабаве бабуля, у якой жылі Окарак і кампанія, абвясціла, што тыя ўкралі ў яе з шафы пятнаццаць рублёў і бутэльку віна, і «гусей» адправілі дахаты. Я тужыў па сваёй Галі і ціха зайздросціў Юрку, які цягаў Ларысе вёдры, прыносіў

ёй з чужых садоў салодкія грушы-сапяжанкі і збіраў на ўзлеску каля бульбянішча ліловыя букецікі верасу.

Гэтая ідылія мусіла мець працяг. Калі мы вярнуліся ў горад, Юрка раскрыў карты: у суботу бацькі з'едуць на летнік, і Ларыса прыйдзе да яго на пляшку віна, што ўжо чакае іх у вядомай мне схоўцы. У мяне Юрка папрасіў транзістар «Акіян», каб злавіць музычны выпуск «Голасу Амерыкі».

З той суботы ў Юркавым лёсе і загучала трагічная нота. Раніцою пасля дня «Х» я патэлефанаваў яму, але, пачуўшы мой голас, Юрка паклаў слухаўку і больш не адгукаўся. Я падумаў, што Ларыса яшчэ ў яго, і вырашыў пакінуць сябра сам-насам з новымі пачуццямі і перажываннямі.

У панядзелак ягонае месца ў класе засталося пустое. Што прычынілася, тады калі ён мусіў «да канца быць мужчынам», я даведаўся на лавачцы каля Дзвіны толькі праз тыдзень. Усе тыя дні Юрка адседжваўся дома і не падыходзіў да тэлефона. Юркавы вочы праваліліся, а нос завастрыўся і зрабіўся падобны да дзюбы грака-альбіноса. Памятаю, што ўсе здагадкі круціліся ў маёй наіўнай галаве вакол дзвюх асноўных версіяў: імпатэнцыя і брыдкая хвароба. Насамрэч здарылася зусім іншае.

Чакаючы ў тую суботу Ларысу, ён зрабіў вусцішнае адкрыццё: схоўка за цёмна-зялёнымі тамамі «Сусветнай гісторыі» была пустая. Хтосьці з бацькоў знайшоў пляшку і захапіў яе на летнік. Грошай на яшчэ адну ў Юркі не хапіла. Гонар не дазволіў яму ні адчыніць Ларысе дзверы, ні з'явіцца ў класе. Калі Юрка апавядаў пра гэта, яго калаціла як у ліхаманцы. Мяне дасюль здзіўляе, што ён наогул здолеў расказаць пра сваю драму.

Я не прыдумаў нічога лепшага, чым засмяяцца і сказаць, што людзей з такім самалюбствам, напэўна,

адзін на мільён. Гэта аказалася жудаснай памылкаю, хоць, далібог, я і сёння не ведаю, як павінен быў паводзіцца.

Там, на нашай лавачцы над ракой, я гаварыў яшчэ нешта — што Ларыса ўсё зразумее, што ён, Юрка, выключны чалавек, што я веру ў іхняе каханне і наша сяброўства. Сустрэўшыся з ім вачыма, я здрыгануўся: ягоны твар зрабіўся мёртвай пагардлівай маскай. Юрка падняўся і, злёгку пакланіўшыся мне, прамовіў: «Вы свободны, сударь». Я і зараз бачу, як ён, рослы і сутулы, з паднятым каўняром брунатнага плашча, брыдзе па беразе ў сутонне, назаўсёды аддаляючыся ад мяне, і за ім бяжыць абчапляны ваўчкамі здзічэлы белы дварняк.

Пасля выхадных класны кіраўнік паведаміў, што бацькі перавялі Весялова ў іншую школу.

Потым мы сустракаліся адно выпадкова і ніколі не размаўлялі. Дый што я мог яму сказаць? Што Ларыса «ходзіць», як гэта тады называлася, з Окаркам і што ён заняў у класе Юркава месца каля сярэдняга вакна? Альбо што неяк мы гулялі з Окаркам у настольны тэніс і, застаўшыся з ім адзін на адзін, я з халадком нянавісці пад сэрцам удавана абыякавым тонам запытаўся, што ў яго з Жылкінай, а ён з нахабным спакоем, дапытліва пазіраючы мне ў вочы і расцягваючы словы, адказаў:

«Еб.сь... Наеб.сь и выкину. А хошь — тебе отдам».

За такі адказ трэба было кінуцца на Окарка з кулакамі, але я ведаў, што ён паўсюль ходзіць з ножычкам. Другі «гусь», Ігар Гарачоў, той самы, што хварэў у восьмым класе на ганарэю і пасадзіў настаўніка працы на цвік, ужо сядзеў за групавое згвалтаванне саракагадовай жанчыны са шклозавода, якую гвалтаўнікі, такія ж падлеткі, як Ігар, злавілі перад начной зменай і, заклеіўшы рот пластырам, зацягнулі

ў будаўнічую бытоўку. На судзе ён трымаўся героем і адмовіўся прызнаць сябе вінаватым на той падставе, што нічога не рабіў, а ўсяго толькі трымаў «цётку» за нагу.

У красавіку ў Ларысы нарадзіўся дзіцёнак. У нашай школе гэта быў другі выпадак. Летась дзесяцікласніца Ірка Кляпацкая нарадзіла маленькага японычыка ад кагосьці з замежцаў, што наладжвалі абсталяванне на нафтаперапрацоўчым заводзе. Мая Галя сказала, што дзіця ў Ларысы атрымалася сямімесячнае і што, як ні дзіўна, гэта якраз добра, прынамсі, значна лепей, чым калі б яно прыйшло на свет на месяц пазней.

Адрозна ад Іркі, якая ўжо ў радзільні адмовілася ад малога і здавала з аднакласнікамі выпускныя экзамены, Ларыса пакінула дзіця сабе і ў школу не вярнулася. Падчас экзаменаў яе можна было ўбачыць з вазком у парку культуры і адпачынку імя 50-годдзя «Великого Октября». Шчаслівы татуля тады ўжо цягнуў тэрмін, бо аднаго разу ў традыцыйнай суботняй бойцы пад таполямі каля танцпляцоўкі пусціў у ход свой ножык, але не патрапіў уцячы ад міліцэйскага нарада. Калі я сустракаў Ларысу з малым, мне заўсёды думалася, што яе сын вырасце, парэжа каго-небудзь ножычкам і ўслед за бацькам пойдзе на зону.

Далейшыя звесткі пра Юрку Весялова не вылучаюцца паўнатой.

Ён таксама вучыўся ў Менску, аднак не на журналістыцы ва ўніверсітэце, як марыў, а чамусьці ў політэхнічным на архітэктуры, і мы не бачыліся. Адзіным выняткам стаўся той раз, калі я адносіў Юрку перададзеныя з дому грошы.

Усе ложкі ў Юркавым інтэрнатаўскім пакоі былі занятыя: на чатырох спалі апранутыя хлопцы, а на пятым, абняўшыся, як каццяняты, — зусім голы Юрка і гэткая ж голая рудая дзяўчына настолькі вульгар-

нага выгляду, што яе адразу хацелася назваць бабай. На засланым газетамі стале сумавалі дзве патэльні з застылым тлушчам і тры ці чатыры пустыя гарэлачныя пляшкі. Мне ўдалося раскатурхаць Юрку, а яму — нейкім дзівам, нягледзячы на маладую бараду, пазнаць мяне. Ледзьве варочаючы языком, ён растлумачыў, што сёння свята — дзень птушак, і, не падымаючыся з ложка, паказаў пальцам на насценны каляндар юнага натураліста. Ягоная сяброўка перавярнулася ў сне на другі бок, і толькі тады, з цяжкасцю злавіўшы мой позірк, Юрка пагладзіў яе па белым азадку і прыкрыў той разам з астатнімі пышнымі вабнотамі коўдраю. «А табе — во!» — тыцнуў ён мне пад нос дулю і палез пад коўдру сам.

Перад адыходам я паспеў заўважыць, што адзін з Юркавых суседзяў не проста спаў, а быў моцна прытарочаны да ложка вяроўкаю. Распускаць марскія вузлы я на ўсякі выпадак не стаў.

Тады я вёў дзённік, дзе ўражанні ад гэтага новага Юркі ўвасобіліся ў вобразе (думаю, не надта ўдалым і дакладным) зламанага гадзінніка.

Напэўна, каляндар юнага натураліста, паводле якога жыў Юркаў пакой, меў шмат святаў, бо праз нейкі час да мяне дайшла чутка, што, ратуючыся ад выключэння, Юрка ўзяў акадэмічны адпачынак.

Жыццё ўжо даўно круціла нас па такіх далёкіх арбітах, што, атрымаўшы на апошнім курсе ліст з вайсковым штэмпелем, я хутчэй паверыў бы ў тое, што пра маю персону ўспомніў раптам сам міністр абароны, чым у тое, быццам мне можа напісаць Юрка Весялоў.

Штэмпель быў маскоўскі, але ліст прыйшоў з Афганістана.

Можна здагадвацца, у якіх шчамлётках адзіноты і безнадзейнасці апынуўся Юрка, калі — і гэта з яго-

ным характарам — колькі разоў называў мяне ў лісце адзіным сябрам.

Палова тэксту на двух аркушах з вучнёўскага сшытка ў кратку засталася пад беспрасветным цэнзарскім атрамантам. Найбольш істотным у ацалелай частцы была згадка пра Валерку Акаркова. Юрка пісаў, што, калі яму давялося ўпершыню страляць у афганца, ён уявіў перад сабой Окарка.

Мяне дагэтуль кусае сумленне: чаму не адказаў Юрку? Можна ж было напісаць у Афганістан і прамаўчаўшы пра Окаркава вяртанне з зоны, як і пра тое, што ён жыў у Ларысы, пакуль праз пару месяцаў зноў не паехаў пад канвоем кудысьці ў Мардовію, пасля чаго Ларыса скруцілася з падазроным тыпам з Задзвіння і ўзялася гандляваць каля Палаца культуры шклозавода півам.

Больш салдацкіх лістоў — ні з маскоўскім, ні з якім іншым штэмпелем — мне не прыходзіла.

Фінал гэтае гісторыі я магу аднавіць толькі са слоў кліўлендца з двума адарванымі пальцамі, таму мая спроба будзе непазбежна пазначаная пячаткаю суб’ектыўнасці. Але ўяўленне малюе апошнія Юркавы хвіліны настолькі выразна, што я наважваюся выкласці сваю версію на паперы. (Відаць, тут прысутнічае і эгаістычнае імкненне пазбыцца сіндрому бензапілы, бо пасля вечара ў Кліўлендзе я не здольны спакойна чуць яе гук, і лепей не ўспамінаць, што чынілася са мною, калі днямі ў нашым двары спускалі стары бераст.)

Заплюшчыўшы вочы, я бачу вечаровую горную цясніну ў ваколіцах Герата. Бой адгрымеў зусім нядаўна, і ў паветры яшчэ стаіць пах парахавога дыму. Юрка з туга скручанымі рукамі ляжыць на спіне ў фіялетавым ценю вострай двухгаловай скалы, падобнай да раскрытай драпежнай глюгі. У ногі яму

ўпіваецца тонкі шнур, хоць ні бегчы, ні нават паўзці з раздробленай галёнкаю немагчыма.

Стамлёны, з гарачымі вуглямі гагатавых вачэй, камандзір афганскіх партызанаў ведае цану кожнаму слову і растуляе вусны не болей пяці разоў. «Жыць хочэш — бэры іслам», — грэбліва перакладае тлумач. Юрка не адказвае, гледзячы ў выцвілае ад спёкі неба, дзе, быццам зрэнка неабдымнага абыякавага вока, плавае сокал.

Камандзір загаворвае зноў, але цяпер тлумач маўчыць, і пад скалою пульсуе чаканне непазбежнасці. Да Юркі кідаецца малады партызан у брудным зялёным турбане, з-пад якога вочы бліскаюць нетутэйшым валошкавым блакітам. «Соглашайся, Веселов, слышь, соглашайся... — захлынаючыся і глытаючы словы, шэпча ён. — Я обрезался, и ничего... Кормежка нормальная... бабы есть такие... закачаешься...» Юрка пазнае сяржанта з іхняе роты, што прапаў падчас акцыі ў мінулым месяцы. Той, яшчэ больш прыцішыўшы голас і палахліва касавурачыся на камандзіра, угаворвае: «А там, слышь, через Пакистан на Запад мотанем... Блядь буду... Не боись... Не мы первые, не мы последние... Ху.ня этот ихний ислам...»

Юрка маўчыць. Магчыма, ён бачыць Дзвіну і нашае падарожжа пад мостам. Магчыма, збірае Ларысе букецік верасу. А можа, гледзячы на афганцаў, узгадвае Окарка...

Але — найверагодней — бязлітасны боль у назе не дае яму засяродзіцца ні на чым, і, прагнучы як мага хутчэй праваліцца ў ратавальную непрытомнасць, ён проста няўцямна глядзіць, як высокі сухарлявы афганец акуратна надзявае даўгі скураны фартух, і да астатняга моманту не разумее, навошта той заводзіць трафейную бензапілу...

*1995*

# Мой знаёмы забойца Сяргей

У празрысты, з лёгкай смужынкаю дзень бабінага лета мы сядзелі на адкрытай тэрасе «Буслоў» і для староннягa вока выглядалі як двое даўніх сяброў, што вырашылі прысвяціць свой вольны дзень малдаўскаму кабернэ. Аднак напраўду мы былі ледзьве знаёмыя, дый знаёмства наша мела своеасаблівы прысмак, бо адзін некалі быў блізкі з жонкаю другога, а другі яе дзіка і страшна забіў.

Трэба, вядома, удакладніць, што здарылася гэта не ўчора і не на мінулым тыдні, а гады праз тры пасля майго з Лінай першага спаткання, якое звяло нас у нейкай душнай летняй кватэры з пыльнымі шторамі, спаткання, што расчаравала мяне, а яшчэ верагодней — нас абаіх, і таму засталося адзіным.

Сяргей забіў Ліну за доўгі і п'яны раман з іншым чалавекам, які назаўтра ж зачыніў кватэру на замок і назаўсёды знік з горада. Лініна маці выступіла на судзе ў абарону забойцы і прасіла зменшыць яму тэрмін.

У тыя часы Сяргей іграў на гітары ў рэстаранным ансамблі. Я глядзеў на ягоныя даўгія пальцы музыкі і марна намагаўся ўявіць, як яны сціскалі Лініна горла, білі яе галаву аб край ванны, а потым тапілі гэтую галаву ў гарачай парнай вадзе.

Ён вярнуўся толькі ўчора, і я аказаўся першым сустрэчным з той часткі ягонага жыцця, што завяршылася ў ванным пакоі. Мы сутыкнуліся каля газетнага шапіка насупроць «Буслоў», і, як ні дзіўна, нягледзячы на пяць гадоў і на зусім кароткі сівы вожык, я пазнаў

яго і без ваганняў згадзіўся пасядзець у кавярні. Мяне вяла, вядома, і прафесійная цікавасць, але і нешта больш істотнае, што не адразу паддаецца асэнсаванню.

Першую пляшку мы выпілі пад знакам маўчання. Унізе, за балюстрадаю, раз-пораз звінелі трамваі, і крыклівая буфетчыца гандлявала на прыпынку бочкавым півам. Бочка была жоўтая, як бярэзінкі ўсцяж трамвайных шляхоў, і на баку ў яе нейкі грамацей прыгожа вывеў блакітнаю фарбай: «Піво».

Я пацягваў віно і разважаў, што можа адбывацца ў душы ў нармальнага саракагадовага мужчыны, які аднойчы выпіў бутэльку гарэлкі, забіў жонку і адседзеў за гэта пяць гадоў. Разважанні заводзілі ў безнадзейны тупік.

Сяргей паклікаў афіцыянтку і замовіў яшчэ пляшку. Колькі кропляў віна расплыліся па белым настольніку, аднак ніякіх рызыкоўных асацыяцыяў у мяне не выклікалі. Я падумаў, што, адрозна ад Сяргея, астатнія знаёмыя мне рэстаранныя музыкі любілі не віно, а больш моцныя напоі. Можа, калі б ён у той вечар выпіў замест гарэлкі вось такога трохгадовага кабернэ, паблізу ад магілаў маіх бацькоў і не з’явілася б новага трафарэтнага помніка з мармуровай крошкі. Пасля гэтае думкі я на ўсялякі выпадак даў сабе слова ніколі не піць нелюбімых напояў.

Ад такога ўзроўню абагульненняў мне зрабілася смешна. Я паспрабаваў выклікаць у памяці Лініна аблічча, але ўспаміналіся адно яе плоскія белыя грудзі і занадта гучны голас, які паведаміў мне, што ў ягонай гаспадыні ніколі не будзе дзяцей, а таму нічога не трэба баяцца. У той душнай кватэры мы пілі цёплае віно, якое чамусьці закусвалі мёдам, і цяпер мне здалося, што ўжо адно гэтае недарэчнае спалучэнне не пакідала нам аніякіх шанцаў на працяг. У дадатак узгадалася яшчэ зялёная сукенка, у якой я неяк сустрэў

Ліну з лысаватым, ніжэйшым за яе на цэлую галаву каханкам, якому наканавана было стаць у яе жыцці апошнім.

На пустую тэрасу падняліся з першага паверха дзве дзеўчынёшкі ў аднолькавых эфірных блузачках і аднолькавых скураных намёках на спаднічкі. Яны ўладкаваліся за суседнім столікам і без лішніх цырымоніяў папрасілі закурыць. Сяргей даў ім па цыгарэціне, а я наліў віна. Дзеўчынёшкі пераглянуліся, і адна запыталася, ці мы выпадкова не крутыя. Я засмяяўся, Сяргею ж пытанне з нейкае прычыны вельмі не спадабалася, і ён гучным шэптам сказаў нашым суседкам пару такіх слоў, што праз хвілю пра іх нагадвала толькі недапітае віно.

Пасля другой пляшкі Сяргей расцёр у попелцы недапалак і знячэўку загаварыў. Напэўна, выпіваць на зоне даводзілася нячаста, і ён відавочна захмялеў. Ягоны кароткі маналог атрымаўся блытаным і досыць дзіўным. Ён пачаўся з коткі, якую Ліна з парады каханка атруціла мыш'яком, але ахвяра ўсё ж выжыла, праўда, страціўшы пры гэтым зрок і слых. Потым я даведаўся пра тое, як у камеры Сяргея хацелі згвалціць блатныя, а яшчэ пра тое, куды зэкі зашываюць металёвыя шарыкі, каб не расчароўваць сваіх абранніц. На заканчэнне Сяргей паведаміў, што на зоне меў трох жанчын.

Я зацікавіўся, як гэта адбываецца там, на зоне, але заміж роспытаў сказаў Сяргею, што ў рэстаране, дзе ён іграў, нядаўна адчынілі вар'етэ, пасля чаго там ужо два разы стралялі. І зноў над сталом запала маўчанне, у якім мне немаведама чаму ўспомнілася школьнае каханне — кругленькая Дзіна, якая прыехала ў наш горад з Архангельска, умела соладка цалавацца ў пустым класе і напрыканцы майго першага ўніверсітэцкага верасня прызналася, што цяжарная ад нейкага Колі.

Трэцюю пляшку мы пілі ўжо з афіцыянткай Ленай, якую Сяргей угаворваў, але так і не ўгаварыў сесці яму на калені. Трамваі ўнізе звінелі часцей і весялей. «Піво» ў жоўтай бочцы скончылася, і ягоныя аматары, маючы на такі выпадак адмысловыя запасы, дружна пацягнуліся ў блізкі лясок.

Насупроць кавярні спыніўся аўтобус, адкуль палезлі грыбнікі з поўнымі кошыкамі апенькаў. Мы ўзялі першую шакаладку і чацвёртую, а магчыма, і пятую, бо тут я не зусім пэўны, пляшку кабернэ і дамовіліся, што заўтра ўранні ўсе разам — я, Сяргей і афіцыянтка Лена — таксама паедзем у грыбы. Я паабяцаў паказаць мясціны, дзе навалам маладых і таўстаногіх, як баравікі, абабкаў, а калі іх раптам не будзе, дык заўсёды можна нарэзаць чорных груздоў.

Тэраса пакрысе запаўнялася публікай, і афіцыянтка Лена ўжо не магла бавіцца з намі. Сяргей абвясціў, што сёння пойдзе да жанчыны, якая да мінулага Новага года пісала яму на зону лісты і слала пасылкі. Пасля гэтых слоў ён выняў з кішэні і падкінуў угору сцізорык. Бяскрыўдны сцізорык вярнуўся ў Сяргееву руку грознаю фінкай. Сяргей склаў яе, паказаў мне кнопку і папрасіў павартаваць «цацку» да раніцы.

Афіцыянтка Лена, як і чакалася, на аўтастанцыю назаўтра не прыйшла, і мы паехалі ў грыбы ўдвух.

Дзень выпаў такі, як і ўчора, — з сонцам, павучынкамі і одумным кружляннем лісцяў над утравелай лесавой дарогаю, што сустрэла нас некранутай расой. На імшыстых купінах у нізавым рэдкаватым ялінніку з дамешкам бярэзінак цярпліва чакалі абабкі. Па вершалінах, спрытна кіруючы пухнатымі хвастамі, доўга лётала над намі шырокімі кругамі пара закаханых вавёрак. Адной ад глыбіні пачуццяў захацелася паразмаўляць са мной, і яна спусцілася зусім нізка.

Спярша мы з Сяргеем часта перагукваліся, але ягоны голас усё аддаляўся і нарэшце заціх. Я трохі пакрычаў і супакоіўся, бо мы ўсё адно павінны былі сустрэцца на недалёкай шашы, якая час ад часу нагадвала пра сябе гулам машын.

На краі балацявіны я нарваўся на цэлую чараду маладых падасінавікаў, і калі, нацешыўшыся гэтым грыбным краявідам, узяўся зразаць першы, спінаю адчуў нечы позірк. Цішыня ўмомант напялася, і трэск сухой галінкі прагучаў, быццам стрэл. Я, прыгнуўшыся, адскочыў убок і, сціскаючы ў руцэ свой кухонны нож, павярнуўся тварам да небяспекі.

За пяць крокаў ад мяне з фінкаю ў адведзенай руцэ стаяў Сяргей. Мяне апякла думка, што ён ведае пра нашае з Лінай адзінае спатканне. Мой труп ён утопіць у балоце, і яго ніколі не знойдуць. Я вырашыў, што без бою не здамся, і пачаў шаптаць малітву. Бясконцую хвіліну мы стаялі насупроць адзін аднаго, а тады ён засмяяўся і, спружыніста крутануўшыся, кінуў фінку ў стаўбур старой яліны. Фінка ўпілася ў дрэва на ўзроўні чалавечага росту і азвалася тонкім меладычна-вусцішным звонам.

Збіраць грыбы пасля такой прыгоды мне расхацелася, і праз чвэрць гадзіны мы ўжо галасавалі на шашы. Гэта была шаша на Рыгу, якою мы з Дзінай, пакуль яна не зацяжарала ад Колі, дамаўляліся ў першае студэнцкае лета дайсці да мора. Машыны з латвійскімі нумарамі пралятали на крэйсерскай хуткасці. Беларускія грузавікі і легкавыя ішлі цішэй, аднак не спыняліся. Нейкія «Жыгулі» пачалі былі гамаваць, ды, наблізіўшыся да нас, кіроўца нечакана рвануў наперад. Я ўважліва паглядзеў на стрыжаную Сяргееву галаву і даў яму сваю кепурку. Гэты нескладаны манеўр змяніў сітуацыю, і неўзабаве мы трэсліся ў кабіне спадарожнага «ЗіЛа».

Сяргей папрасіў спыніцца каля могілак. Сонца пякло па-летняму, і на ўзбочыне мы скінулі штармоўкі і швэдры, застаўшыся ў адных кашулях. Сярод крыжоў і помнікаў сям-там мільгалі падазроныя постаці. Хтосьці, не тоячыся, збіраў бутэлькі, хтосьці — зладзеявата — кветкі.

Хрызантэмы на мамінай магіле былі яшчэ цэлыя.

Сяргей няўпэўнена азіраўся, і я адно тады ўцяміў, што ён не ведае, дзе пахавалі Ліну. Я, безумоўна, не ведаў бы таксама, каб яе магіла не была за пяць крокаў ад помнікаў маім бацькам. «Пайшлі», — сказаў я, і Сяргей зразумеў.

На Лінінай магіле акуратным крыжам зелянелі смолкі. Каля нядаўна пафарбаванай сіняй агароджы вырас вялікі крамяны падасінавік. На фотакерамічным медальёне Ліна выглядала значна цікавейшаю, чым у жыцці. Сяргей пагладзіў адбіты рог помніка і выцягнуў пляскатую пляшачку з нержавейкі.

На закуску ў мяне засталіся два яблыкі і лусцік з сырам. «За што?» — недарэчна запытаўся я. «Не будзем», — адказаў Сяргей і акрапіў з пляшачкі край магільнага грудка.

У пляшачцы аказаўся спірт.

Ехаць дахаты не хацелася, і з могілак мы пайшлі цераз поле да Дзвіны. Сцежка плыла пад нагамі, і, не згаворваючыся, мы павярнулі да стажка саломы.

Сяргей узяўся перабіраць грыбы. Наверсе ў ягоным кошыку ляжаў магільны падасінавік.

Я выцягнуўся на спіне і, адчуваючы, як мякка пагойдваецца пада мною зямля, стаў глядзець у высокае неба і думаць, што добра было б памерці, каб на маёй магілцы таксама вырас падасінавік і каб хтосьці прыйшоў туды і выпіў спірту, а потым ляжаў на цёплай саломе, слухаў, як па шашы з сухім шоргатам праносяцца машыны і думаў, што добра было б памерці…

Я прачнуўся, калі ў хмызняку ўжо варушыліся прыцемкі і ад ракі плыла халодная свежасць.

Сяргея і ягонага кошыка не было, а мой стаяў прыцярушаны дзеля маскіроўкі саломаю. Сонца сядала ў хмару, і прамінулы дзень мог застацца апошнім усплёскам цеплыні перад восеньскай стынню. Я скінуў з грыбоў салому і ўбачыў зверху той самы цізорык, што ўмеў ператварацца ў фінку. Гэта магло азначаць, што Сяргей зноў пайшоў да жанчыны — ці да той, што пісала яму лісты, ці да якой-небудзь яшчэ, і я пажадаў яму, каб зашытыя куды трэба шарыкі ўсё ж не адыгрывалі ў ягоным візіце вырашальнае ролі.

Але ўсё, што мяне абкружала, чамусьці здавалася выцвілым малюнкам са старой дзіцячай кніжкі. Я адчуў, што павінен зараз успомніць нешта надзвычай важнае, тое, што ўжо само страпянулася ў душы і прасілася на свет.

Я спусціўся да ракі і змыў халаднаватай вадою рэшткі сну. На жвірыстым плыткаводдзі гулялі курмелікі, а крыху воддаль, дзе ўжо мацнела плынь, плыла аднекуль з Полацка ясеневая галінка з трыма лісткамі.

І раптам я ўспомніў.

Я ўспомніў, як аднойчы мы купаліся з табой у Дзвіне, і як ты заплыла на быстрак, і, нечакана адчуўшы моцныя абдымкі плыні, спалохалася і рванулася да мяне ўсім сваім маладым палевым целам...

Я стаяў над ракой і яшчэ не зусім цвяроза думаў, што ніколі не здолею забіць цябе.

*1995*

# Вова Цымерман

Блаславёны, хто мае на свеце дом, у якім прамовіў першае слова, навучыўся хадзіць пад стол, а потым датупаў да ганка, бразнуўся з яго і, румзаючы ад страху ды болю, папоўз на збітых каленках да весніцаў.

Тое месца, дзе стаяў некалі наш скарбовы драўляны полацкі дом, ужо даўно занятае прысадзістым бетонавым кубікам Палаца культуры завода шкловалакна. Часам я заходжу ў ненавісную мне спаруду, блукаю па яе пустых калідорах і спрабую ўявіць, дзе што месцілася ў тыя гады, калі паляцеў у космас Юрый Гагарын і нашую вуліцу назвалі ягоным імем.

Сам дом быў, здаецца, там, дзе сёння шатня, «шпакоўня», — акурат на месцы цяперашняй прыбіральні, а пад падлогаю глядзельнае залы, магчыма, ацалела жменька попелу з таго раскладзенага пад маёй улюбёнай папяроўкаю вогнішча, дзе мы некалі спалілі, папярэдне выкалаўшы яму вочы, партрэт Іосіфа Вісарыёнавіча Сталіна. Тады мне было дзевяць гадоў, а Вову Цымерману, што разам з намі браў удзел у карнай акцыі, — на паўтара меней, але гэты рослы мурлаты хлопчык з падобнымі да двух мячыкаў ружовымі шчокамі мог лёгка адужаць любога з нас.

Статыстыка сведчыць, што ў 1885 годзе з кожнае сотні палачанаў габрэямі было шэсцьдзясят шэсць, а на пачатку XX стагоддзя — роўна палова. У гады майго дзяцінства агульныя лічбы, відавочна, змяніліся, але нашага раёна гэта ніяк не датычыла. Вакол нас жылі Шэфы і Гофеншэферы, Ліўшыцы і Эпштэйны, Рафайловічы, Сраліовічы і шматлікія

Герцыковічы, трохі далей — Берманты, Бернштэйны, Кацы, Кацманы і Кацнельсоны. Дзякуючы сваім пазнейшым гістарычным росшукам я заўважыў, што некаторыя прадстаўнікі гэтых слаўных фамілій упарта захоўвалі вернасць прафесіям продкаў. Абодва дарослыя Сраліовічы, напрыклад, працавалі ў гарадской друкарні — праўда, не гаспадарамі, як іхні дзед, а ўсяго толькі метранпажамі з вечна чорнымі ад волава і фарбы пальцамі. Бермант і Бернштэйн, гэтаксама як іх сваякі перад «вялікім кастрычнікам», жывіліся з фатаграфіі.

Чым займаліся сто гадоў таму Герцыковічы, я не даведаўся, аднак сын старога Залмана Айзік, што працаваў завучам нашае школы, меў бясспрэчныя заслугі ў змаганні з шыкоўнай фрызурай будучага беларускага літаратара Вінцэся Мудрова, а пляменнік Айзіка Залманавіча Аркаша Кацман кіраваў пазней папулярнай секцыяй аэробікі. Пасля агульных заняткаў ён зазвычай пакідаў у зацішнай спартовай зале адну са сваіх выхаванак, каб яшчэ з паўгадзіны пазаймацца індывідуальна, а потым прыходзіў я, мы рэзаліся ў пінг-понг, і я прапаноўваў Аркашу трохі адрэдагаваць назву секцыі, дадаўшы перад «б» літару «ё». Гуляючы са мной развітальную партыю напярэдадні ад’езду ў Лос-Анджэлес, Аркаша Кацман прамовіў сакраментальную фразу: «Не пойму я, Володя хоть убей, почему ты вырос среди евреев, а никак приличную квартиру не получишь».

Але гэта прычынілася праз шмат гадоў пасля дзяцінства, а ў той малечы час, жывучы сярод суседзяў, якіх спрэс звалі Хаімамі, Абрамамі, Ізраілямі ды Мойшамі, я ад душы здзіўляўся, што ў майго таты такое нетутэйшае імя — Аляксей.

Дом маіх бацькоў на вуліцы першага касманаўта атачалі будынкі розных установ, дзе пасля шасці

заставаліся толькі вартаўнікі і вахцёры, а таму ўвечары ў нас было пустэльна і ціха. Затое за нашым гародам пачыналіся ажно тры густа населеныя вуліцы з парадкавымі нумарамі пад агульнаю назвай Рабочая. Каб там жылі калі-небудзь нейкія рабочыя, я не памятаю. Там жылі габрэі, і гэтыя вуліцы, прынамсі старэйшая частка іхняга жыхарства, гаварылі на ідыш.

У цёплыя летнія адвячоркі гаспадары выходзілі з драўляных дамовак, уладкоўваліся на лавачках каля гародчыкаў, у якіх раслі бэз, «разбітае сэрца» і жоўтыя вяргіні, і паважна гаманілі на не зразумелай мне мове. На ўтравелых вуліцах, дзе машыны з'яўляліся толькі калі хтосьці паміраў, хадзілі козы і куры, бегалі непародзістыя каты і сабакі рознае масці, і мы з габрэйскімі дзецьмі гулялі ў «пікара» і «калім-бам-ба».

Тоўстая, як капешка, цётка Роза Саламонаўна любіла пачаставаць нас агрэстам або малінамі. На свята з яе пульхных пальцаў можна было атрымаць кавалак габрэйскага мядовага перніка пад экзатычнаю назваю «тэйгэлэх». Цётка Роза працавала касіркаю на атракцыёнах у парку каля Дзвіны і сваім людзям адказвала па-свойму: «Драйсік копэкес білет». З мяне грошай яна ніколі не брала. Па часе я зразумеў, здаецца, прычыну такое дабрачыннасці: мой тата быў пракурорам, а яе сын Фіма цягнуў тэрмін за тое, што зарэзаў жонку. Гэтае злачынства ўяўлялася мне бясконца загадкавым, бо якраз будучы забойца даў мне пачытаць «Маленькага прынца» і яшчэ багата цікавых кніжак.

Тэрмін Фіма атрымаў невялікі, бо ўчыніў смертазабойства, як казалі дарослыя, «на почве ревности». Мая дзіцячая спроба дазнацца, што гэта за «почва», скончылася нічым. Ну і што з таго, што заспеў жонку з іншым? — разважаў я над пачутым тлумачэннем, інтуітыўна падазраючы, што з гэтае прычыны можна

перарэзаць занадта шмат жонак. І потым было зусім незразумела, навошта — калі заспеў яе з іншым — рэзаць менавіта жонку, а не таго іншага.

Ведама ж, нашы суседзі-габрэі не толькі прадавалі кветкі ў парку культуры і адпачынку ды рэзалі жонак. Царскі генерал Міхаіл Без-Карніловіч, што выдаў у 1855 годзе кніжку «Исторические сведения о примечательнейших местах в Белоруссии», пісаў аб полацкіх і наогул прыдзвінскіх габрэях наступнае: «Предприимчивы, любопытны, проницательны. Заранее рассчитают барыши, какие может доставить предпринимаемая операция; исчислят расходы, и тогда только возьмутся за дело. Избегают утомительных работ: между ними найдете много портных, сапожников, шапошников, стекольщиков, лудильщиков, жестянщиков, резчиков печатей, золотых и серебряных дел мастеров; редко встретите кузнеца, плотника, пильщика. В вере тверды, единодушны, любят помогать своим, в особенности когда те пострадают от пожара».

Усё праўда.

Муж цёткі Розы Ізраіль Майсеевіч таксама пазбягаў пыльных ды «утомительных» работ і зарабляў на хлеб начным вартаваннем паркавых атракцыёнаў. Хоць імя гэтага мужнага чалавека ў памяці палачанаў ужо, відаць, сцёрлася, ягоны подзвіг навечна застаўся у няпісаных гарадскіх хроніках. Калі ў парку паставілі атракцыён «Пятля Несцерава», двое міліцыянтаў з дзяжурнага патруля раскатурхалі Ізраіля ў ягонай вартоўні і загадалі пракаціць. Муж цёткі Розы паслухмяна націснуў кнопку і пайшоў дасыпаць. Міліцыянты «пятлялі» ў скляпаным з бляхі самалёце давідна. Знялі іх непрытомных і ледзь жывых. На шчасце, адзін з «лётчыкаў», перад тым як знепрытомнець, здолеў выцягнуць пісталет і разрадзіць абойму ў бок вартоўні, чым і парушыў бескладотны сон

пільнага Ізраіля Майсеевіча. (Перад ад’ездам у Ізраіль муж Розы Саламонаўны, праўда, прызнаваўся, што не заснуў у тую ноч ні на волас.)

І наконт пажару — святая праўда. Калі ў старых Герцыковічаў згарэла палова дома, ім папрыносілі з усіх Рабочых вуліц столькі рэчаў, што сівы як лунь Залман быў проста шчаслівы і хваліўся, быццам у адбудаванай дамоўцы цешыцца са сваёй Сімай не на двух, як да пажару, а ажно на чатырох ложках.

Яшчэ адна Сіма — Сімачка Музыкант, дачка інспектара гарана, — жыла побач з намі ў завулку з глыбокай лужынай, у якую глядзеліся цераз плот падвязаныя сінімі стужкамі мальвы. Смуглявая, з глыбокім малінавым румянкам і зялёнымі мігдалавымі вачыма, Сіма надоўга заняла месца ў маіх эратычных фантазіях і самотных забавах. І дагэтуль, перачытваючы «Найвышэйшую песню Саламонаву», я бачу кранутыя лёгкім загарам Сіміны ножкі — палевыя з блакітнымі жылкамі.

Так, варта было выйсці з дому, прабегчы сотню крокаў, і ты як быццам трапляў у іншую краіну — з яе моваю, з яе аблiччамі і імёнамі, нязвыклымі звычаямі і стравамі.

Неадменнаю часткаю гэтай краіны, над якой дзьмулі далёкія гарачыя вятры, быў дзядзька Грыша Цымерман, што сядзеў на лавачцы каля дагледжанага, пафарбаванага ў тэракотавы колер дамка і задуменна глядзеў выцвілымі лавандавымі вачыма на стогадовую таполю.

Удзень бацька Вовы Цымермана працаваў шаўцом у будцы каля першай у Полацку крамы самаабслугоўвання. Увечары, перш чым выйсці са свайго прапахлага скураю і клеем закутка, каб паглядзець на таполю, ён таксама працаваў шаўцом. Асабліва захапляла мяне тое, як па-цыркавому спрытна дзядзь-

ка Грыша выплёўваў з рота маленькія цвічкі і адным снайперскім ударам заганяў іх у належнае месца. На вайне ён служыў у артылерыі, атрымаў кантузію, і кожны год, на схіле лета, яго апаноўвала замарачэнне. Ён рабіўся гаваркі, апавядаў, як выпіваў з маршалам Жукавым, бачыўся на перадавой з самім Сталіным, а распаліўшыся, пачынаў выгукваць артылерыйскія каманды. Тады дзядзьку забіралі на месяц у задзвінскую вар'ятню. Хворых лекавалі там не толькі медыкаментамі, але і псіхатэрапіяй. Напрыклад, калі медыкам спатрэбілася цэгла, бабінец кляштарнага сабора разабралі, а косткі з пахаванняў пад ім раскідалі проста пад нагамі ў пацыентаў.

Пасля лекаў дзядзька Грыша да наступнага жніўня губляў усю ваяўнічасць, рабіўся ціхмяны ды лагодны і штовечар займаў звычную пазіцыю насупраць таполі. Ягоныя адносіны з гэтым дрэвам прыводзяць мне на памяць пачуцці, што звязвалі палкоўніка Аўрэліяна Буэндыя з каштанам, уткнуўшыся ў які лбом герой Маркеса назаўсёды і развітаўся з нашым светам.

Калі ў гады «развітога сацыялізму» дамы, лавачкі і гародчыкі на Рабочых вуліцах пазносілі, а таполю спляжылі і, прычапіўшы тросам да бульдозера, кудысьці адвалаклі, Цымерманы атрымалі кватэру ў дзевяціпавярховіку побач з іхнім былым падворкам. Дзядзька Грыша штовечар уладкоўваўся каля вакна на пятым паверсе і да цёмнага глядзеў у той бок, дзе некалі шамацела лістотаю ягоная таполя. Думаю, у тыя хвіліны ён па-ранейшаму сядзеў на выслізганай азадкамі лавачцы пры цёплай тэракотавай сцяне. У новай кватэры ніхто ўжо не пачуў ад яго ні ўспамінаў пра Жукава, ні артылерыйскіх камандаў. Не дачакаўшыся жніўня, дзядзька Грыша аднойчы адчыніў вакно...

Але я забягаю наперад. Да вакна, праз якое Воваў бацька задуменна ступіў у лю́бы яму зруйнаваны свет, яшчэ заставалася палова дзяцінства.

Мы пераходзілі з класа ў клас, пачыналі чытаць братоў Стругацкіх і Брэдберы, пісаць любоўныя цыдулкі і цiскаць іхніх адрасатак у школьным гардэробе. Мне падабалася поўненькая аднакласніца Поля Кругляк. У шостым класе я колькі разоў падводзіў яе дахаты і прапаноўваў «дружить». Поля чырванела, апускала вочы і, картавячы «р», ціха казала, што яна згодная толькі на сур'ёзныя адносіны. Я не ведаў, што такое сур'ёзныя адносіны, і маркотна пазіраў услед поўным Поліным нагам, падобным да літровых малочных бутэлек.

Да Сімачкі Музыкант Полі было, безумоўна, далёка, аднак Сіма з бацькамі ўжо з'ехала ў Ізраіль. Выправілася на гістарычную радзіму і шмат іншых суседзяў. З'ехалі Шэфы з сынам Іллюшам, маім аднагодкам, што меў не надта, відаць, зручную для ізраільскага грамадзяніна мянушку з нейкім арабскім прысмакам — Мустафа Ягло-Ягло. З'ехалі Кацнельсоны са сваім Мішам, мянушка ў якога (прышчэпленая, дарэчы, Фімам-забойцам) была шматкроць даўжэйшая, велягурысцейшая і дзіўнейшая — Мабута Чомба Лэя Пінзя Скавародкін.

«Жиды редеют, а ряды жидеют», — са злосцю зацятага антысеміта казаў школьны ваенрук Іван Кірылавіч, што на занятках па грамадзянскай абароне вучыў нас з малалецтва карыстацца супрацьгазам, які аднойчы назваў таямнічым словам «гандон». Я не разумеў ягонае злосці. Мне было шкада аднакласнікаў, што назаўсёды знікалі з майго жыцця разам з мянушкамі, бацькамі, брацікамі і сястрычкамі. У шостым класе афіцыйных габрэяў у нас засталося ўсяго трое — Поля Кругляк, Марк

Альтбрэгін, якому я пякуча зайздросціў, бо ў яго дома было ажно два тэлевізары, і Бора Гасіль.

Бору я не зайздросціў. Выконваючы піянерскае даручэнне, я падцягваў яго па матэматыцы.

Падцягванне Боры адбывалася даволі цікава. Мы займаліся на кухні, дзе валадарыў настоены пах смажанай цыбулі, седзячы за сталом, засланым белаю цыратай у блакітныя краткі. Трэба сказаць, што з маіх тлумачэнняў Бора ніколі нічога не разумеў дый не імкнуўся зразумець, а ўвесь час прапаноўваў згуляць у настольны футбол. Ён працягваў вучыцца па матэматыцы на стабільны дваяк, але я ўпарта прыходзіў да Боры зноў і зноў. Апрача масляных плямаў на сшытках для практыкаванняў, я заўсёды нёс у кішэні жменю дарагіх цукерак «Мишка на севере», атрыманых ад Боравай маці ў якасці незаслужанага ганарару. Плюс гульня ў настольны футбол. Плюс кучаравая Борава сястра Фірка, якая хвалявала маё сэрца не меней за Полю Кругляк.

Падчас нашых заняткаў Фіра зазвычай уладкоўвалася побач на зэдліку і ела мяне пукатымі авечымі вачыма, пакуль я не збіваўся і не заблытваўся ў лічбах. Заўважыўшы гэта, яна дарыла мне задаволеную ўсмешку і, трасянуўшы кудзеркамі, выплывала з кухні, падкрэслена круцячы клубамі і пакідаючы ва ўсёй маёй істоце саладкавую гарачую млявасць. У тыя хвілі ўваччу неадчэпна стаяў малюнак з нядаўняе мінуласці, калі я вучыўся ў чацвёртым класе, а Фіра — у трэцім. Пакінуты на другі год пяцікласнік Вася Шуйскі прапанаваў Фірцы за марозіва схадзіць з ім у зараснікі лопуху за канавай і паказаць, што ў яе пад майточкамі. Калі Фіра вярнулася, тое самае, але ўжо за пяцьдзясят капеек прапанаваў ёй Васькаў прыяцель Валерка Акаркоў, і яна зноў згадзілася. Кажуць, што потым, на зямлі продкаў, Фіра пачала з масажна-

га кабінета, вельмі хутка пайшла ўгору і цяпер кіруе велізарнай сеткаю гэткіх кабінетаў па ўсёй краіне, у што я, успамінаючы тую дзіцячую кухонную млявасць, ахвотна веру.

З кніжкі пра Грышку Распуціна я ўведаў, што сакратаром у яго служыў мазырскі габрэй Сімановіч. Аднойчы геніяльны прыдворны чмут вырашыў падараваць паплечніку залаты спод з надпісам. Надпіс уласнаручна накрэмзаў гравёру на шматку паперы сам Распуцін — «*Лутшиму исивреив*».

Каб у дзяцінстве мне прапанавалі падараваць спод з гэткім надпісам камусьці з маіх знаёмых габрэяў, я без ваганняў выбраў бы Вову Цымермана.

У школьныя гады мы хадзілі як злыганыя. Разам гадавалі прывезенага мною з бабулінай вёскі маладога зайца Колю і разам, пусціўшы слязіну, хавалі ягоныя костачкі ў скрынцы з-пад абутку, калі гаротніка Колю разарваў суседскі сабака Дунай. Разам латашылі чужыя сады, а ў сваіх садах, якія трэслі суседскія хлапчукі, пяклі ў прыску бульбу. Разам палохалі дзяўчынак акулярыстымі вужамі, якіх лавілі ў траўні на прыгарадных азёрах і прыносілі ў школу за пазухай.

Мая маці карміла нас дранікамі, клёцкамі з душамі і старадаўняй полацкай стравай — халоднай варанаю бульбай з брусніцавым сочывам. Маці Вовы Цымермана, настаўніца малодшых класаў Марыя Абрамаўна, частавала рыбай-фіш, фаршмакам і цымусам. Адзінае, што з яе кухарства мне не падабалася — відаць, па генах, — гэта маца.

Разам з Вовам мы першы раз пераплылі туды і назад Дзвіну і, узрушаныя здзейсненым, прысягнулі адзін аднаму вусцішнай сяброўскаю прысягай, якую напісалі ў двух асобніках на аркушах з вучнёўскага сшытка. Прысяга была па-мужчынску лапідарная — «Дружба до гроба», подпісы мы паставілі крывёю,

раскалупаўшы пальцы шпількаю, што замяняла мне гузік на рукаве зялёнай — запомнілася ад урачыстасці моманту — кашулі.

Ды ці мала чаго яшчэ перажылі мы з Вовам.

Нас не здолела развесці нават ізраільска-арабская вайна 1967 года, пасля якой багата полацкіх габрэяў узяліся хуценька мяняць імёны ды прозвішчы, ператвараючыся з Ізраіля ў Іллю, з Абрама ў Аляксандра, а з Макса Моўшавіча ў Марка Міхайлавіча. Вову Цымермана зусім не крыўдзілі мае показкі накшталт той, чый герой слухае па дарозе дахаты радыёперадачу, як габрэі набліжаюцца да Каіра, а потым адчыняе дзверы, а яны ўжо там.

Нас — банальная гісторыя! — развяла ў розныя бакі беларуская дзяўчынка Наталля Усвайская з майго былога дзясятага класа. Пад канец школы яна з непрыкметнага заморка з цыпкастымі нагамі-трысцінкамі, што вучылася на чацвёркі і пяцёркі, неўпрыцям вырасла ў прыгажуню-троечніцу, вакол якое круціліся нават лётчыкі з задзвінскага ляснога аэрадрома. Я прыглядаўся да Наталлі здалёк і, даючы ўначы волю лятункам, удзень рыхтаваўся да іспытаў у БДУ і марыў пра час, калі сустрэну Усвайскую, вярнуўшыся дахаты студэнтам.

Першы, каго я спаткаў, прыехаўшы з Менска, быў Вова Цымерман з Наталляю. На маё ганарлівае паведамленне, што я ўжо студэнт, Вова паклаў даме майго сэрца руку на талію (а праўдзівей, крыху ніжэй) і, тэатральна закаціўшы вочы, прадэкламаваў найагіднейшыя з усіх вядомых мне дагэтуль паэтычных радкоў:

*Натали моя, Натали,*
*Утоми мою плоть, утоли...*

Перад Наталляй стаяў студэнт універсітэта, а яна ўхвальна падхіхіквала нейкаму паршываму дзесяцікласніку. Я моўчкі павярнуўся і з нечалавечай самотаю ў душы пайшоў прэч, выкіроўваючыся на дарогу ведаў і зрабіўшы на сцежцы да яе кароткі прывал у бары «Пралеска», дзе ўпершыню ў жыцці выпіў алкагольны кактэйль «Луна».

Каханка маіх сноў наталяла Вову Цымермана нядоўга. На зімовых вакацыях я са змрочным помслівым задавальненнем даведаўся, што мой супернік не вытрымаў канкурэнцыі з якімсьці задзвінскім лётчыкам, які неўзабаве зрабіў Наталлі дзіця і ўвішна перабазаваўся на іншы лясны аэрадром неабсяжнае краіны.

У душы зноў заварушыліся ачахлыя сяброўскія пачуцці, аднак мы з Вовам ужо рухаліся па розных траекторыях, і цяпер я сачыў за ім адно здаля.

Звесткі, што дасягалі мяне, толькі пацвярджалі маю выснову: сябар дзяцінства быў нетыповым носьбітам нацыянальнага характару свайго народа.

Гэта выяўлялася, скажам, у тым, што Вова Цымерман займаўся не шахматамі, як большасць ягоных схільных да спорту адзінакроўцаў, а вольнай барацьбой і меў па ёй першы разрад.

Пасля школы ён не палез у інстытут, а пайшоў у тэхнікум цераз дарогу ад дому і потым працаваў на аўтарамонтным заводзе з розным жалеззем.

Вова мог няквола выпіць, у тым ліку і за свой кошт.

Адрозна ад шмат каго з супляменнікаў, Вова пайшоў служыць у савецкую армію. Праўда, там ён не скакаў з парашутам і не будаваў БАМ, а граў у аркестры на ўдарных, але дружная армейская сям'я ўсё адно хутка падрыхтавала Цымерману нялёгкае выпрабаванне. Двое дзембялёў паклікалі Вову з рэпетыцыі на паважную размову за казарму. «Слушай, жидяра пар-

хатый, — сказаў, паказаўшы на боты, першы дзембель, родам аднекуль з-пад Растова, — будешь по утрянке вылизывать нам до блеска говнодавы». Другі, больш вытанчаны і адукаваны, бо гадаваўся ў «колыбели революции» Ленінградзе, інтэлігентна дадаў: «В противном случае, сударь, сыграем на ваших гениталиях шестую симфонию Шостаковича». Пасля гэтага Вова паказаў сваім суразмоўцам пару барцоўскіх штукаў, і да самага развітання з роднай вайсковаю часткай тыя дзембелі публічна звярталіся да яго выключна так, як і было загадана, — «господин Циммерман».

Яшчэ Вова быў буйны спецыяліст па жанчынах. Да чутак дадалося і адно маё ўласнае назіранне. Працуючы пасля ўніверсітэта ў гарадской газеце, я атрымаў заданне напісаць рэпартаж, як гараджане дапамагаюць вёсцы. Дабраўшыся з фотакарэспандентам увечары у калгас, мы заспелі ўсіх памагатых на кінасеансе ў клубе. Пасля кожнае часткі кіншчык пакутліва доўга мяняў бабіну і ў зале запальвалі святло. У адным з гэтых перапынкаў я ўгледзеў наперадзе буйную стрыжаную галаву і крутыя плечы Вовы Цымермана, які абдымаў нейкую маладзёну. Праз некалькі хвілінаў пракураная і запляваная семкамі зала пачула сцішаны, але выразны Цымерманаў басок: «Слушай, Зинка, надоело. Пойдем лучше поеб..ся». «Ціха ты!» — цыкнула Зінка, і дзве постаці рушылі да дзвярэй.

З сумам мушу зазначыць, што тады я бачыў Вову астатні раз. Неўзабаве ён паспрабаваў уладкавацца на наваполацкае прадпрыемства пад кодаваю назваю «Измеритель», аднак першы аддзел завярнуў яму дакументы. «Не прошел по шнобелю», — вясёла тлумачыў Вова знаёмым. Але ў душы пакрыўдзіўся і зазбіраўся ў Ізраіль...

Паміж днём, калі я ўзяўся пісаць гэтыя прыгады, і днём, калі я іх скончыў, была ноч, у якую мне

сасніўся Полацак. Чамусьці ён дужа выдаваў на Нью-Ёрк з вядомага фільма «Аднойчы ў Амерыцы», а мы з сябрамі — на падлеткаў, што зрабіліся гангстэрамі. Ноч навылёт мы гойсалі па вуліцах, кагосьці мачылі, рабавалі і гвалцілі, да апошняга патрона адстрэльваючыся ад міліцыі. Ад гэтае страляніны я і прачнуўся. Ляжаў і ўсцешана думаў, што, дзякуй Богу, нікога мы з Вовам Цымерманам насамрэч не згвалтавалі, не абрабавалі і не зарэзалі. А таму засталіся ў нас на дваіх успаміны цнатлівыя ды чуллівыя, якімі няшкода і падзяліцца.

*1993*

# Прароцтвы Розы Герцыковіч

Гэта, вядома, паталогія, але мушу вам сказаць, што, зрабіўшы рэвізію сваім успамінам, я канчаткова пераканаўся: ні ў маленстве, ні потым я, па гамбургскім рахунку, не пазайздросціў ніводнаму чалавеку.

У трэцім класе я быў апантаны мараю пасяліцца з аднакласніцай Верачкай на ўласным атоле ў трапічных шыротах, але чамусьці ані не зайздросціў амерыканскім мільярдэрам, якія маглі купіць сабе дзе-небудзь у Індыйскім акіяне цэлы архіпелаг. З дзяцінства маючы схільнасць да фаталізму, я хваравіта не зайздросціў хлопцам, якія «хадзілі» з прыгажэйшымі за маіх дзяўчатамі. Я (што наогул проста недаравальна) ні разу — якія б шэдэўры яны ні стварылі — не адчуў зайздрасці да калег-літаратараў.

Але шкадаваць мяне за абдзеленасць адным з наймацнейшых, найдзівоснейшых і найшматфарбнейшых чалавечых пачуццяў вы не спяшайцеся. Што такое зайздрасць, я ведаў не горай, а можа, і лепей за самых заўзятых зайздроснікаў. Іхнія эмоцыі скіроўваліся на падобных да сябе саміх, мой жа дыяпазон быў непараўнальна шырэйшы: аб'ектамі зайздрасці мне служылі рэчы, расліны, жывёлы…

Я зайздросціў першаму на нашай вуліцы тэлевізару і з радасцю ператварыўся б у нязграбны і, з сённяшняга гледзішча, убогі чорна-белы «Нёман», вакол якога збіралася ўвечары народу столькі ж, як у малой зале кінатэатра «Радзіма». Яшчэ раней я адчуваў пякучую зайздрасць да дзвінскіх самоў, якія жылі

такім недасяжна цікавым і таямнічым жыццём, што ў параўнанні з ім маё сухаземнае існаванне выглядала суцэльнаю недарэчнасцю. Я не адмовіўся б ператварыцца ў аўтамабіль, альбо ў маю першую кніжку «Русские богатыри», альбо ў цёплы скураны фатэль у бацькавым службовым кабінеце. Кожная з гэтых зайздрасцяў мела сваю гісторыю, вартую навелы, а мо і цэлай аповесці.

Аднак нікому і нічому я не зайздросціў так, як сабаку. Дакладней, сучцы.

Яе звалі Лайка. Яна, калі хто запамятаваў, была першым савецкім касманаўтам.

Лайку запусцілі ўвосень, калі ў нашым садзе ападалі апошнія, салодкія, амаль як папяроўкі, антонаўкі, а ў суседкі Хведараўны, што жыла праз гарод ад нас, наліваліся гаркавай слодыччу калінавыя гронкі. Каліна разам з трыма маладымі вішнямі пазначала пачатак суседчыных уладанняў; плоту паміж гародамі не ставілі, і, калі Хведараўна спускала з ланцуга пярэстага дварняка Дуная, той мог уяўляць сябе гаспадаром вялізнага абшару.

Праўда, ён, гэты абшар, імгненна мізарнеў перад тым, якім валодала хвастатая касманаўтка.

Задзёршы галаву, я стаяў на восеньскім холадзе і намагаўся разгледзець у прасветах хмараў касмічную будку з вялікімі, ужо знаёмымі мне літарамі: СССР. У будцы ляцела да болю родная і блізкая істота.

О, як мне праглася хоць на дзень апынуцца ў ейнай шкуры, каб таксама імчаць над Зямлёй, націскаць лапамі кнопкі кіравання, радасна брахаць на зоркі і дасхочу есці з кансаровак кількі ў тамаце, якімі — я быў непахісна перакананы — Лайку шчодра забяспечылі да канца касмічнае экспедыцыі.

«Марш у хату! Хопіць аблокі пасвіць!» — крычала мама.

Аўтарства другой фразы належала не маме, а маёй бабулі Аўгінні, што жыла ў прыдняпроўскай вёсцы пад Шкловам, куды мяне адвозілі ў траўні на ўсё лета.

Улетку пасвіць аблокі было больш прыемна. Я клаўся на гумнішчы на растрэсенае шаматкое сена, мне пад бок падточваўся кот (бабуля ніколі не давала сваім катам імёнаў, называючы іх проста Катамі або Коткамі), і мы гадзінамі глядзелі на пухнатыя, белыя, быццам безліч дзьмухаўцовых галовак, аблокі. З-за кустоў агрэсту і парэчак мядова пахла канюшына, галава ці то сам нагрэты сонцам дол прыемна плылі ў прасторы, безыменнаму кату сніліся смачныя тлустыя мышы, і ён шчасліва вуркатаў, раз-пораз торгаючы абсечаным за нязводную збрадлівасць хвастом... Дрымота кралася й да мяне, але я балюча шчыкаў сябе за цыпкастую лытку, баючыся, што якраз тады, як на валасок засну, на адным з гэтых мяккіх, як узбітая пярына, аблокаў і праплыве паўз бабуліна гумнішча Бог.

Бабуля Аўгіння паспела ўжо не толькі напалову легальна пахрысціць мяне ў Копыскай царкве, але і развучыць са мною «Ойча наш». Я ведаў, што «Ойча наш» — гэта і ёсць Бог, а «на небясі» — значыць на небе.

Тлумачыць, што такое «іжэ ясі», бабуля, спадзеючыся на ўнукаву кемлівасць, палічыла залішнім. Апраўдваючы ейныя надзеі, я і хацеў падвіжаваць, чым там «Ойча наш» жывіцца. Можа,ількамі ў тамаце з бульбаю ў мундзірах?

Выдатна памятаю, што зайздрасці да Бога — няхай сабе ён і харчаваўся б вылучна маёй улюбёнай гарадской стравою — у маёй маленькай душы і не начавала. Калі я яшчэ і не разумеў, дык адчуваў, што лёсы ў нас з Богам — зусім розныя. Ён быў ужо дужа стары і мусіў, нягледзячы на добрае харчаванне, хутка

памерці, а мяне перапаўняў кураж неўміручасці. Бог быў вялікі начальнік, а я ніякім начальнікам рабіцца ніколі не збіраўся. Апрача ўсяго іншага, я страшэнна баяўся высачыні і меў слабы вестыбулярны апарат: хапала двух колаў на каруселях, каб рот напоўніўся агіднай салодкаю асцой і мяне пачало нудзіць.

Тады, увосень, шукаючы ў небе касмічную будку, якую радыё мудрагеліста менавала біялагічным штучным спадарожнікам Зямлі, пра вестыбулярны недахоп я начыста забыўся, бо, мабыць падсвядома быў перакананы, што, пераўвасобіўшыся ў сабаку, імгненна пазбаўлюся і ўсіх людскіх хібаў.

Пакуль Лайка лётала, а я пасвіў сярод хмараў свае лятункі, на зямлі распачыналіся розныя звязаныя з космасам падзеі.

У нас першым непасрэдным вынікам Лайчынага палёту сталася гераічная гібель Дуная.

Пасаджаны ў скрадзеную на піўзаводзе пустую бочку, суседчын сабака выправіўся ў космас са старой чырвонай пампоўні на беразе Палаты.

На апошнім зямным прыстанку касманаўта № 2 было таксама напісана «СССР» і яшчэ некалькі кароткіх, часта сустраканых на сценах і плоце словаў, чый сэнс у тыя часы заставаўся для мяне загадкаю.

Трагічнае Дунаева прызямленне, мушу сказаць, выклікала ў мяне болей усцехі, чым смутку. Рэч не ў тым, што ад нараджэння я быў хлопчыкам нядобрым і злосным. Проста за месяц да таго Хведараўнін дварняк з'еў на падвячорак майго прывезенага з вёскі зайца Колю, што пару тыдняў пажыў у скрынцы з-пад яблыкаў, а потым уцёк і дні тры дыхаў воляй, грызучы на гародзе капусту й моркву.

Запуск Дуная ажыццявілі Іллюша Шэф і Віця Бундзель. Яны ўжо хадзілі ў школу і ў іх прачыналіся таленты, што потым прывядуць абодвух у турму. Віця

абрабуе ў Лепелі кватэру і атрымае першы тэрмін у дзясятым класе, а Іллюша сядзе за нешта ўжо ў Ізраілі, куды ад'едзе з бацькамі і са сваёй адметнаю магаметанскай мянушкаю — Мустафа.

Гэта Іллюша Шэф навучыць мяне вершыка, праз які я ўпершыню спасцігну сілу паэтычнага слова.

У той вечар бацька прывядзе на вячэру правяральніка з вобласці і за сталом, каб пахваліцца сынам, мама папросіць пачытаць чужому дзядзьку што-небудзь напамяць. Я выстаўлю адну ножку наперад, закладу рукі за спіну і гучна й выразна прадэкламую:

*Вот к чему пришла наука:*
*В космосе летает сука,*
*Прославляя до небес*
*Мать твою капээсэс.*

Бацька зменіцца з твару і, не зводзячы з госця вачэй, выцягне з форменных пракурорскіх штаноў дзягу. Але чужы дзядзька зарагоча, параіць мне не чытаць гэты вершык у дзіцячым садку і конча здыме напругу, падліўшы ў чаркі.

Апярэджваючы час, заўважу, што поспехі СССР у даследаванні космасу будуць у маім жыцці й надалей звязаныя з паэтычнай творчасцю — або народнай, або маёй уласнаю.

Пасля палёту Церашковай на дошцы ў нашым класе з'явіцца новы твор невядомага аўтара. Буйнымі літарамі і без памылак хтосьці выведзе крэйдаю чатыры дастаткова прафесійныя радкі:

*Валентине Терешковой*
*За полёт космический*
*Подарил Хрущев Никита*
*Х.. автоматический.*

Які падарунак прыпас касманаўтцы Хрушчоў, было, вядома, напісана цалкам.

Гэты вершык бацька знайшоў у маім скончаным арыфметычным сшытку. Мы насілі тады прывязаныя да партфеляў торбачкі з чарніліцамі-каламаркамі, а пісалі драўлянымі асадкамі з жалезнымі пёрамі. Гэтыя пёры вечна заядалі, пляваліся й пырскаліся, і старанна перапісаны мною твор на касмічную тэму аздабляла з паўтузіна кляксаў.

Гістарычныя крыніцы сведчаць, што за часамі Вялікага Княства Літоўскага памежная варта айчыны нашых продкаў, каб захаваць у памяці грамадзян дакладную лінію мяжы з суседзямі, практыкавала наступны метад. Мясцовых падлеткаў з усёй шчырасцю секлі бізунамі дакладна на рубяжы дзяржавы. Як пасля той экзекуцыі ў свядомасці да скону заставаліся «сфатаграфаваныя» пад бізуном межавыя камяні й дрэвы, так пасьля цяжкой бацькавай рукі з папругаю недзе ўва мне назаўжды аддрукавалася старонка з кепскім словам і падобнай да незнаёмага касмічнага сузор'я чародкаю кляксаў.

Мой уласны вершык, складзены з нагоды кружляння вакол зямное кулі першага трохмясцовага карабля «Восход», вылучаўся першабытнай ідэалагічнай і лексічнай цнатлівасцю. Але пра тое трохі пазней. Вернемся ў восень, над якою лунала водгулле брэху знакамітай савецкае сучкі.

Сярод тых, каго ейны палёт уразіў, я перадусім згадваю яшчэ адну нашую суседку — Розу Саламонаўну Герцыковіч, якая часта заходзіла да маёй мамы паскардзіцца, што яе нявестка, жонка цёткірозінага сына Фімы, «пагульвае», і якая ўпарта клікала мяне не Вовам, а Бобам.

Цяпер літаральна з неба звалілася новая тэма.

Тоўстая, як дзве ці нават дзве з паловаю мамы, цётка Роза Герцыковіч не любіла размаўляць стоячы і велічна апускалася на нашую зялёную канапу, што пад раптоўным цяжарам скурчвалася і жаласна енчыла, быццам жывое стварэнне.

Выгодна ўладкаваўшыся, Фімава маці бралася апавядаць неверагодныя рэчы. Яна чула, што неўзабаве ў космас запусцяць спадарожнік з мухамі, камарамі, прусакамі ды блышчыцамі. На гэта мама зазначала, што прусакоў і блышчыцаў у нас, дзякуй богу, няма. Закрыўшы на нетактоўную заўвагу вушы, цётка Роза Герцыковіч распрацоўвала касмічнае радовішча далей. Паводле яе словаў, услед за жамярой у міжпланетную прастору стартане спадарожнік з катамі, потым, як яна казала, «зафугуюць» казу.

Я нясмела цікавіўся пра акварыумных рыбак. «Вада расплюхаецца», — адмахвалася суседка і пасля казы прадракала палёт карове.

У ейных словах я адчуваў пэўную супярэчнасць, бо — калі выводзіць на арбіту ўсіх па парадку — пачаць лагічна было б не з Лайкі, а сапраўды з мухаў ці нават з мікробаў. Але суседку гэткія тонкасці не бянтэжылі, і яна прадказвала, што следам за каровамі ў космас пачнуць «фугаваць» крымінальнікаў.

Цётка Роза яшчэ не ведала, што праз некалькі гадоў Фіма ў адзін нешчаслівы вечар заспее жонку з палюбоўнікам і заржа нявернiцу кухонным нажом, а таму не ўтаймоўвала сваёй фантазіі й сцвярджала, што над крымінальнікамі ў космасе будуць ставіць разнастайныя эксперыменты: карміць адной кукурузаю ці адным часныком з цукрам, высвятляць, колькі дзён чалавек вытрымае без ежы і колькі без вады; алкашоў будуць нібыта трымаць на адной гарэлцы, а гвалтаўнікоў — падвешваць у касмічных караблях за яйцы.

Змрочнае суседчына ўяўленне шырока распроствала крылы, і наступнага дня на дадатак да ранейшых жудасцяў мы даведваліся, што касмічныя спадарожнікі з крымінальнікамі стануцца мішэнямі для савецкіх лётчыкаў альбо што яна, цётка Роза Герцыковіч, напіша куды след, каб да крымінальнікаў дзеля нейкіх незразумелых мне даследаванняў запусцілі ейную нявестку.

На жаль ці на шчасце, натхнёныя прароцтвы Фімавай маці не спраўдзіліся. За Лайкай у космас паляцелі не мухі ці козы, а Белка ды Стрэлка. («*І доўга брахалі сабакі // Над нашай савецкай зямлёй*...» — напіша вядомы дзіцячы паэт.) Катоў, кароў і злачынцаў таксама абмінулі і на арбіту адразу закінулі проста чалавека.

Аднойчы на некаторых дамах нашай ціхае вуліцы памянялі шыльдачкі з назваю. Цяпер і наш дом, і школа, дзе я вучыўся ў першым класе, стаялі, як казала настаўніца, на вуліцы першага савецкага касманаўта, і таму мы павінны былі ганарыцца і быць дастойнымі.

Можа, з тае прычыны, што выразаны з часопіса «Огонёк» Лайчын фотапартрэт па-ранейшаму вісеў у мяне над ложкам, несправядлівасць настаўнічыных словаў успрымалася асабліва абвострана. Я атрымаў першы ўрок афіцыйнае хлусні. Усе цудоўна ведалі, што першым касманаўтам была Лайка.

(Паколькі кантрапунктам у нас ідзе тэма зайздрасці, заўважу, што, думаючы пра Юрыя Гагарына, я не знаходзіў у душы ні драбочка згаданага пачуцця. Праз тое самае я чуў глыбокую чалавечую сімпатыю да цёткі Розы Герцыковіч. Ейныя прысвечаныя касманаўтыцы аповеды неабвержна сведчылі, што суседка таксама аніразу не пазайздросціла захмарнаму герою і ніколі не пажадала ягонай долі свайму ўлюбёнцу Фіму.)

Улетку ў мяне зявіліся дадатковыя аргументы: ад майго стрыечнага дзеда, а мамінага роднага дзядзькі Грышы я даведаўся, што Гагарын не быў першым касманаўтам і сярод людзей.

Папярэдні раз дзед Грыша пераведваў родную вёску, калі не быў мне ніякім дзедам, бо мяне яшчэ не існавала на свеце, а мой тата жыў не з мамаю, а з першай жонкаю, бо тая пакуль не хварэла на невылечную сухотку. Дарослыя казалі, што дзед Грыша «засакрэчаны», і, каб пераканацца ў гэтым, досыць было ўбачыць пасылкі, якія прыходзілі ад яго з Масквы перад кожным Новым годам. Уходаўшы тую таўшчэзную чырвоную рыбіну з вясёлкавым пералівам на зрэзе, я цэлы месяц не ўспамінаў пра кілек, а буйныя разынкі ў першакласным шакаладзе побач з абсыпанымі цукрам крамнымі падушачкамі выглядалі прывітаннем з іншае планеты, якая ў сваім развіцці апярэдзіла нашую не на стагодздзе, а назаўсёды.

Дзед Грыша быў абсалютна лысы, і я любіў спотайку разглядваць ягоную спярэшчаную сінімі, чырвонымі й зялёнымі жылкамі кавунаватую галаву, якая моцна выдавала на глобус. Сваякі сцвярджалі, нібыта пра сваю маскоўскую працу дзед не прамовіць ні слова і на Страшным судзе. У памяць урэзалася, як сувора зірнуў ён на маю цётку, а сваю пляменніцу Вольгу, калі тая, пачуўшы з радыё папулярнае тады абяцанне дагнаць і перагнаць Амерыку, пацвердзіла, што так, дагонім, бо босым бегчы лягчэй. Аднак я добра запомніў і тое, як перад бабуляй Аўгінняй дзед аднойчы крышку рассакрэціўся, паведаміўшы, што ма́е справы з нябеснай канцылярыяй.

Другі раз дзед Грыша рассакрэціўся перада мною, калі, паслухаўшы радыёперадачу пра Гагарына, раптам хапянуў без закусі шклянку двойчы перагнанай бабулінай самагонкі і прыцішана сказаў — праўдзівей

не сказаў, а ўсхліпнуў: «Эх, Воўка, колькі мальцаў да Гагарына на запусках папалілі...», дадаўшы яшчэ некалькі словаў, якія мяне вучылі не казаць ніколі.

Я перажыў імгненне, якое называюць момантам ісціны. Маёй дзіцячай душы адкрылася, што слёзы на дзедавых, таксама лысых, амаль без веек, вачах накруціліся не ад магутнага бабулінага самагону, а ад таго, што дзед не толькі ведаў тых мальцаў, але і сам — страшна падумаць — паліў іх...

Злякаўшыся сваёй шчырасці, дзед Грыша папрасіў мяне забыць пачутае, інача́й яго могуць выгнаць з працы, а то й пасадзіць у турму. Я хацеў і надалей атрымліваць перад Новым годам маскоўскія пасылкі, а таму даў «чэснае акцябрацкае» і падмацаваў яго тым, што перахрысціўся, як вучыла бабуля, на абраз Міколы-цудатворцы.

Пасылкі з прысмакамі прыходзілі яшчэ гадоў пяць. Вярнуўшыся з дзедавых хаўтураў у вёску, цётка Вольга абвясціла, што на памінкі прывезлі аднекуль два аўтобусы генералаў.

Ні тады, ні пазней, калі лёталі Быкоўскі з Церашковай і цётка Роза Герцыковіч, апавядаючы, што іх запусцілі дзеля касмічнага размнажэння, абяцала абавязковае з'яўленне на свет уродцаў, я так і не адчуў аніякай ахвоты хоць на момант зрабіцца касманаўтам. Тым не менш, папусціўшыся агульнаму псіхозу, пасля палёту першага шматмясцовага карабля, я напісаў свой першы вершаваны твор:

*Мчится тройка, мчится быстро*
*В корабле «Восход»,*
*И ведет его уверенно*
*Капитан вперед,*
*Там инженер-полковник,*
*Врач, ученый,*

*Отчизны верные сыны.*
*Вокруг земного шара*
*Вперед летят они.*

Потым я даведаюся, што некалькі вядомых замежных палітыкаў, у тым ліку і адзін былы амерыканскі прэзідэнт, увогуле не верылі ў рэальнасць некаторых касмічных караблёў з серыі «Восход», успрымаючы іх як звычайную ідэалагічную туфту.

Неўзабаве па палёце трохпілотнага «Восхода» Фіма Герцыковіч і зарэзаў жонку. Відаць, ад перажыванняў біялагічны механізм, ад якога залежала паўната цёткі Розы, пачаў нарошчваць ейныя кілаграмы з катастрафічнай хуткасцю. З такім самым эфектам, як яна, на нашую гаротную канапу мог, напэўна, сесці сам прывакзальны жалезны Ленін. Карацей, канапе, нягледзячы на маштабныя поспехі СССР у асваенні космасу, надышоў гамон, а на новую ў бацькоў бракавала грошай.

Калі ў часе выпрабавання цяжкагрузнага карабля «Союз» загінуў касманаўт Камароў, цётка Роза Герцыковіч да нас ужо не завітала. Яна не чытала гісторыка Фернана Брадэля, які аднойчы сфармуляў свой славуты пастулат, паводле якога «калі габрэі прыязджаюць у нейкую краіну, гэта адзначае, што жыццё там ідзе добра альбо неўзабаве пойдзе лепей, а калі ад’язджаюць — што яно ідзе дрэнна альбо зменіцца на горшае». Фімава маці проста дачакалася сына з турмы і з’ехала з ім у Ізраіль.

Маёй цётцы Вользе, той самай, што некалі афарыстычна выказалася наконт нашага бегу навыперадкі з Амерыкай, не было куды з’язджаць, і яна воляй-няволяй мусіла заняць нейкае месца ва ўсесаюзных шматмесяцавых размовах пра лёс касманаўта Камарова.

Лёталі чуткі, што камандзір «Союза» не загінуў пры пасадцы, а толькі пакалечыўся. Адны бачылі людзей, што на ўласныя вочы бачылі, як Камароў прызямліўся на полі пад Новасібірскам, вылез з кабіны і папрасіў піва. Другія бажыліся, быццам чулі тое самае праз «варожы голас»...

Я быў пэўны, што падзея гэткага сумеру не абміне на яе гістарычнай радзіме і носбітку старажытнага й слаўнага полацкага прозвішча Герцыковіч. Мне ўяўляліся смуглявыя жыхары віфлеемскіх ваколіц (зрэшты, вельмі падобныя да нашых нядаўніх суседзяў), якія чуюць з алейных цёткірозіных вуснаў, што калі Камароў і ацалеў, дык яго ўсё адно зловяць і заб'юць альбо, у лепшым разе, назаўсёды куды-небудзь заканапацяць, каб ніхто не падумаў, што савецкія газеты, радыё і тэлебачанне схлусілі савецкаму народу.

Пазіцыя цёткі Вольгі ва ўсёй гэтай гісторыі вызначалася яшчэ большай бескампраміснасцю. Іканапісна падцяўшы вусны, маміна сястра сказала, што Бог нарэшце ўзяўся караць летуноў, якія без ягонага дазволу панарабілі ў небе дзірак і сапсавалі надвор'е дый жыццё наогул. Зраблю нота бене: з цёткаю была салідарная большасць кабетаў з яе шклоўскае вёскі Капысіца, што квітнела пад сонцам калгаснага ладу за тры кіламетры ад тады яшчэ невядомай нікому Александрыі, чые жыхары гналі не горшую ад капысіцкае самагонку і не падазравалі, што праз чвэрць стагоддзя адзін іхні землячок узначаліць усенароднае змаганне з нейкай страшнай замежнай Натай.

Не, нікому з іх — ні колішняму александрыйцу, ні першаму касманаўту-беларусу Клімуку, ні другому, Кавалёнку, у якога ў дэбютным палёце нешта не зладзілася і назаўтра ж з хаты ў ягонай маці забралі прывезены напярэдадні тэлевізар, — я, хоць забіце мяне, не зайздросціў.

Калі нейкая кропля зайздрасці і атруціла маю істоту, дык гэта да зусім нянаскага касманаўта Ніла Армстранга. Вось у яго быў сапраўдны палёт. Гэта, ведаеце, як кру́ціцца вакол несусветнае прыгажуні безліч залётнікаў, цалуюць ручкі, падносяць падарункі, нехта за бачок ушчыкне і не болей, а потым з'яўляецца той, што бавіць з ёю ноч і застаецца першаадкрывальнікам.

І кволіцца недзе ў закануркаx душы мара — знайсці, калі зноў патраплю ў Амерыку, старыну Ніла ды запытацца, што ён там такое на Месяцы, у тым Моры Спакою, убачыў ці адчуў, што, кажуць, завязаў з космасам і нават схаваўся ад людзей і жыве самотнікам.

Разумею, што шанцы на адказ блізкія да нуля. Але мне падабаецца думаць, што — калі б яшчэ жыла бабуля Аўгіння — старына Ніл мог бы, замест іхняга віскі, хапянуць са мною чыстага, нібыта сляза дзіцяці, перагону і, як некалі дзед Грыша, раскалоцца ды пасланць усю гэтую касманаўтыку на...

*1997*

# Інтэрнат

Пасля з'яўлення на свет у полацкай радзільні на Верхнім замку я маю ўжо дзясятае па ліку жытло і — дарма што вокны маёй цяперашняй кватэры выходзяць на гармату ля ўвахода ў Нацыянальны музей — рэшту зямнога тэрміну спадзяюся бавіць у клопатах выключна мірных і ў дом свой вечны выправіцца менавіта адсюль.

Перабіраючы ў хатнім зацішку згадкі пра былыя жыццёвыя прыстанкі, я пешчу ўдзячнае пачуццё да кожнага з іх, але нязменна прыходжу да адной высновы: найбольш плённымі з гледзішча экзістэнцыйнага досведу былі гады, звязаныя з сямейным інтэрнатам. Тым самым інтэрнатам, што і сёння можна адшукаць водбліз Дзвіны паміж кінатэатрам «Космас» і манументам першаму намёту наваполацкіх будаўнікоў, да бетоннай агароджы якога былі некалі прышрубаваныя жалезныя літары, што складаліся ў лозунг «Слава строителям коммунизма!».

У нашай інтэрнатаўскай секцыі, апрача кухні з паўтузінам сталоў рознае масці, прыбіральні і душавога пакою,ператворанага кімсьці з гаспадарлівых насельнікаў у спіжарню, савецкія дойліды запраектавалі шэсць жылых пакояў, дзверы якіх выходзілі ў вузкі і прыцемны, як праход у начным агульным вагоне, калідор, дзе змагаліся за месца пад заседжанай мухамі лямпачкай дабітыя дзіцячыя вазочкі, зламаныя ровары і мяхі з бульбаю ды раз-пораз прабягалі сваімі сцежкамі ўкормленыя прусакі.

У пакоі №1 жыў Кубінец з ціхмянай і бяляваю, падобнай да падвальнай расліны жонкаю і сынам-

мікрацэфалам Пецем, які насупор медычным заканамернасцям рос хлопчыкам кемлівым і ў тры гады ўжо бойка чытаў загалоўкі артыкулаў у газеце «Советская Белоруссия», што давала надзею на паступовае павелічэнне дробнай Пецевай галоўкі да сярэднестатыстычных памераў.

«Во дае, сука!» — замілавана казаў, слухаючы Пецю, гаспадар пакоя № 2 шафёр Сцёпа, які вечарамі вымочваў на кухні ў нейкіх хімікаліях скарыстаныя талоны на бензін. Вывеўшы штампы, Сцёпа даводзіў талоны да ладу гарачым прасам і набываў на іх бензін яшчэ раз. У Сцёпы былі два смаркатыя хлопчыкі-блізнюкі і адна рухавая, са спакуслівымі клубамі жонка Таня, якая прыкладна раз на месяц заходзіла да нас папрасіць кніжку пра любоў і прыкладна раз на дзень скардзілася, што малыя дрэнна засынаюць і не даюць ім са Сцёпам нармалёва «пажыць».

Але я не скончыў пра Кубінца. Мянушка, атрыманая пасля службы ў войску на Кубе, прыстала да яго, быццам дадзеная ад нараджэння, і дарэшты сцёрла ў маёй памяці ягонае сапраўднае імя. Кубінец сцвярджаў, што быў у ліку сотні «савецкіх», якім Фідэль Кастра адмысловым указам падараваў аўтамабілі «Волга».

«Волгу» Кубінец напраўду меў, аднак якога-небудзь адмысловага інтарэсу да падарунка барадатага камандантэ не выяўляў: ездзіў на ёй гады ў рады, размовы на аўтамабільныя тэмы не падтрымліваў.

Кубінец увогуле не цікавіўся нічым. Ён не чытаў ні кніг, ні, на ўздзіў сыну Пецю, газет і бясконца звальняўся і ніяк не мог звольніцца з канторы, што займалася зборам харчовых адкідаў.

Адзіным, што змушала ягоныя выцвілыя балотныя вочы загарэцца, былі кубінскія прыгады. На далёкай выспе Свабоды яму падабалася ўсё: прырода, садавіна, «кармёжка» з адбіўнымі, Фідэль, які на свя-

ты адпраўляў кожнаму «савецкаму» персанальную пасылачку з ромам і шакаладам. Але найглыбейшую ўдзячнасць сусед захаваў у сэрцы да тамтэйшых жанчын, што, калі даваць веры Кубінцу, ва ўмовах акружэння імперыялістамі гатовыя былі любіцца з «савецкімі» ў любы момант, дзе заўгодна і па-ўсякаму.

Пра светласкурых грамадзянак далёкай рэвалюцыйнае краіны ён адгукаўся даволі стрымана: маўляў, белыя супроць мурынак ці мулатак — гэта як «Прыма» супроць дарагіх цыгараў, скрынку якіх ён аднойчы атрымаў ад Фідэля на Новы год. Адзіным — затое якім! — выняткам засталася касірка гаванскага кінатэатра, якая была аматаркаю вафляў і шырока практыкавала каронны нумар — акрабатычны снайперскі скачок з высокае шафы на ўзбуджанага кампаньера, што чакаў сваю абранніцу ў ложку.

Калі воіна-інтэрнацыяналіста наведвала натхненне, Сцёпа, заслухаўшыся, спальваў прасам талоны. Але потым Кубінец замаўкаў, і ягоныя вочы ўвомірг і надоўга зацягвала раска абыякавасці. Сцёпа гаротна падлічваў фінансавыя страты, а мне думалася, што служба на Кубе сталася для гаспадара пакоя № 1 найвялікшай жыццёваю драмай. Каб не штодзённая адбіўная, не фідэлеўскія цыгары, не мурынкі і скачкі светласкурай вафлісткі, ён мог бы не страціць смаку ні да беларускіх краявідаў, ні да нашых не менш прыгожых і таленавітых жанчын, а можа, нават і да ўласнае жонкі, якую за вочы і ў вочы Кубінец за худзізну клікаў Вудачкай і з гэтае прычыны ў закутку сваёй дрымотнай душы, магчыма, зайздросціў Сцёпу, што любасна зваў жонку Таню Тумбачкай.

У пакоі № 3 вяла рэй банкірка Тонька — таўсматая, але спрытна змайстраваная вірлавокая жанчынка з глыбокім натуральным румянкам і чутным ува ўсіх шасці пакоях смехам. Гэта цяпер я называю яе

банкіркаю, а тады такія словы да нашых людзей не тое што не стасаваліся, а лічыліся ледзьве не лаянкай.

Тонька жыла са старой маці Ракапаўнай і з мурлатым сынам Вовам, якога звала Ваўцюлём.

Мікеланджэла казаў, што мармур трымціць пры ягоным набліжэнні. Кубінец меў усе падставы сказаць тое самае пра нашую Ракапаўну. Розніца была адно ў тым, што ён не прыкладаў для гэтага трымцення, як і наогул ні да чога, аніякіх высілкаў. Ракапаўна нейкім сёмым пачуццём адчувала, калі Кубінец дома, і тады выйсці з пакоя, зачыненага з сярэдзіны на засаўку, яе не прымусілі б ні Бог, ні д'ябал. На жаль, зацятае сядзенне ў аблозе было не адзінай праявай стасункаў Тоньчынае маці з Кубінцам.

Штотыдзень, зазвычай у сераду, секцыя прачыналася сярод ночы ад вусцішнага ёкату. «Ратуйця! — неслася з пакоя № 3. — Газы!» Гэта быў толькі пачатак. Далей Ракапаўна слёзна благала суседзяў схапіць душагуба, выклікаць «органы» і запраторыць героя кубінскае рэвалюцыі на Калыму. Мацней, чым у Госпада Бога, Ракапаўна верыла ў тое, што ўначы Кубінец падкрадаецца да дзвярэй і адмысловаю помпаю напампоўвае ў ейны пакой праз замочную шчыліну смяротныя газы.

Лямант на блізкіх да ультрагуку рэгістрах доўжыўся з паўгадзіны, потым Тоньцы небяспечна вялікаю дозаю сонных пігулак удавалася ўтаймаваць ахвяру воіна-інтэрнацыяналіста, і мы мелі наперадзе адносна спакойны тыдзень, пасля чаго ўсё, прычым без варыяцый — нібы Ракапаўна зноў і зноў агучвала той самы зацверджаны недзе тэкст, — паўтаралася.

Кубінец, аднак, быў не самым страшным ворагам, бо Ракапаўна ў часе ягонае адсутнасці, рызыкуючы трапіць у пастку, усё ж адважвалася перасоўвацца па секцыі. Кароткімі перабежкамі яна ў зашмальцава-

ным да бляску чугаі з кветкамі несімпатычнага колеру дасягала прыбіральні, а зрэдчас, лякаючы дзяцей і дарослых бяскроўным тварам і рэдкімі разбэрсанымі валасамі, зазірала і на кухню, нязменна наводзячы на думку, што без усялякага грыму з поспехам прайшла б кінаспробы ў самога Хічкока.

Акром Кубінца, Тоньчына маці баялася яшчэ некага. Прычым калі непрыяцель, так бы мовіць, унутраны дазваляў хоць зрэдку трапіць у прыбіральню, дык вонкавы вораг быў настолькі бязлітасны, што тэрыторыю секцыі Пракопаўна пакідала адно раз на год, калі Тонька брала адпачынак, падганяла да інтэрната таксоўку, загружала туды Ваўцюля з валізамі, услед проста на сабе сцягвала маці і везла яе на вакзал, а адтуль — кудысьці на радзіму пад Тамбоў.

Летняя пілігрымка ўплывала на суседку памысна: па яе вяртанні дзесьці з месяц Кубінцава смертазабойчая помпа ржавела без справы і прахопліваецца ўначы даводзілася праз іншае.

Іншым былі польскія народныя песні, што разлягаліся па-над секцыяй, шырокай ручаінаю выплываючы з пакоя № 4.

Пакой займала настаўніца біялогіі Каця з пяцігадовым сынам Ярыкам, які меў галоўку нармальных памераў, але чытаць, адрозна ад Кубінца-малодшага, пакуль не ўмеў, што ў нашым клімаце не выглядала катастрофаю, бо анічога не петрыў у літарах і Тоньчын Ваўцюль, што ўжо мусіў ісці ў школу.

Настаўніца Каця не вызначалася нічым, апрача сваёй усмешкі, якая ўвачавідкі пераўвасабляла замардаваную школьнымі нагрузкамі «вучылку» ў жанчыну, здольную падабацца значна маладзейшым за яе асобам супрацьлеглага полу, прынамсі — выканаўцу польскіх народных песняў. (Падазраю, што адной усмешкі тут было недастаткова, але чаго не ведаю, таго не ведаю.)

Ды пра начнога спевака — трохі пазней.

Пакой №6 за маёй памяццю не адчыніўся ні разу. Хто і ў якім годзе ўключыў за ягонымі дзвярыма — дзякуй богу, што не на поўную гучнасць, — радыёкропку, заставалася таямніцаю і давала падставы для размоваў, што час ад часу ўспыхвалі на кухні на прадмет напісаць куды след і ўрэшце разабрацца. Я свядома не прыслухоўваўся, бо мне было даспадобы ўяўляць, што ў зачыненым пакоі некалі прычынілася забойства і там дагэтуль, слухаючы радыё, ляжыць на канапе ці стаіць у сценавой шафе і таксама слухае навіны і музыку акуратна запакаваны ў герметычны поліэтыленавы мех труп гаспадара — у строгім чорным гарнітуры і пры гальштуку з «паўлінавым вокам». Паводле адной з версіяў, трупаў (і, адпаведна, герметычных празрыстых мяхоў) магло быць два: мужчынскі — у гарнітуры — і жаночы — дасканала прыгожы і абсалютна, калі не лічыць буйных малахітавых завушніц, голы.

Пакой № 5 — паміж трупамі і настаўніцай Кацяй — належаў нашай дружнай сям’і.

Плошчаю выдзеленая нам вальера не дацягвала да адзінаццаці метраў, аднак размясціцца дазваляла вельмі выгодна: пры вакне стаяў стол, пры адной сцяне (той, за якою ад шостае гадзіны раніцы і да паўночы хтосьці праслухоўваў першую праграму радыё) — паўтарачны ложак, пры другой (за якой выконваліся песні братняга польскага народа) — кніжная шафа і дзіцячы ложачак. Над ложачкам вісеў на цвіку зроблены з лесавых карэньчыкаў цмок-дракоша, якога сын любіў перад сном засяроджана разглядваць і ласкава менаваў каконем.

Прасторы на тое, каб займацца падпольнымі абортамі, асабліва пасля нараджэння другога сына, калі рэшту жыццёвага абшару заняў фатэль часоў пер-

шых пяцігодак (у спальным выглядзе ён меў звычку бліжэй да раніцы абломвацца, і я падкладаў пад яго два стосы вішнёвых тамоў «Беларускай Савецкай Энцыклапедыі»), ужо не заставалася. Яе, прасторы, для гэткае спецыфічнае дзейнасці, шчыра кажучы, бракавала і раней, тым не менш перад папаўненнем маёй сям'і хтосьці з суседзяў напісаў заяву, што якраз падпольным абартарыем наш пакой і служыць. Саму заяву нам у міліцыі не паказалі, але выклалі дадатковыя доказы злачынства: мы жылі нелюдзіма і размаўлялі па-беларуску.

Без уліку Пракопаўны і верагоднай голай, са смарагдавымі завушніцамі, жыхаркі пакоя з уключаным радыё, у секцыі атайбаваліся дзве адносна маладыя незанятыя жанчыны, а таму раней ці пазней у нашым калідоры мусілі з'явіцца новыя мужчыны.

Густы ў Тонькі і Каці ў пэўным сэнсе супалі: да абедзвюх хадзілі палякі.

Зрэшты, польскія імёны, польскія вусы і польскае ўсё астатняе настальгічна згадвае шмат хто з жыхарак Прыдзвіння.

У пару іхняе маладосці палякі будавалі ў нас магістральны газаправод, і ў полацкіх ваколіцах густымі чародамі пасвіліся показкі пра мужоў, якія зарана вярталіся з камандзіровак альбо, наадварот, прыбывалі з недаравальным спазненнем, і ўласныя дзеці сустракалі іх на парозе радасным галёканнем: «Дзень добры пану!»

Нягледзячы на складаную кан'юнктуру ўнутранага рынку і неаднаразовыя заявы майго знаёмага Эўгеніюша, што адсюль і да Смаленска — іхняя, польская зямля, я таксама захаваў пра будаўнікоў газаправода пераважна светлыя ўспаміны.

Якраз тым часам я загрымеў з апендыцытам у лякарню.

Выпадак аказаўся гнойным, і мяне рэзалі пад агульным наркозам. Апоўначы я выкараскаўся з беспрасветнае нірваны і пачаў клікаць медсястру.

Як пазней высветлілася, начная сястрычка з дзяжурным доктарам цешыліся ў тыя хвіліны адно адным у працэдурнай, а крыкі і енкі ляжачых хворых толькі абвастралі ім асалоду.

Пачуццё хрысціянскае міласэрнасці было майму польскаму суседу па пасляаперацыйнай палаце калі не вельмі роднае, дык не зусім і чужое. Наслухаўшыся маіх стогнаў, ён дацягнуўся з ложка да графіна з вадой і папусціў ім у адчыненыя дзверы.

Графін гахнуў у калідоры аб сценку; расчырванелая сястрычка, сарваўшыся з наседжанага месца, выбегла з працэдурнай і з нянавісцю ўшпіліла мне супрацьболевы ўкол, а суседа ўзнагародзіла адным з тых позіркаў, якімі адорвала пацыентаў ейная вядомая заакіянская каляжанка міс Гнусен з рамана Кена Кізі «Над зязюліным гняздом».

Бацькі ахрысцілі сына Адольфам, але той ветліва дазволіў — калі мне гэткае імя не да душы — звяртацца да яго проста як да пана Зайкоўскага.

Пан Зайкоўскі апавядаў, што на шпітальным ложку апынуўся пасля таго, як у цёмным завулку «рускія» праламілі яму галаву «за кобет». У якасці пакарання за начную эскападу з графінам Адольфа перавялі ў самую вялікую палату, а да мяне з той жа мэтай падсялілі вашывага хлопчыка Дзіму, у выніку чаго я адзіны раз у жыцці падстрыгся «пад нуль» і згаліў бараду.

Прыблізна тады мая знаёмая Соня, што раз-пораз прыносіла мне ў рэдакцыю гарадской газеты вершы, злюбілася са сваім Вальдакам.

Чараваты і чымсьці падобны да закажанелага ў раннім маленстве брантазаўра, Сонін муж аднойчы выпіў і ў параксізме рэўнасці замест каханае жонкі па-

сек на дробныя трэскі ўсю кухневую мэблю. Гэта была памылка. Дзеля аховы рэшты маёмасці Соня прывяла цвярозага і па-спартоваму падхорцістага Вальдака, які ад таго вечара стала атабарыўся ў Сонінай кватэры. Мужу Колю яны вызначылі месца ў кутку, а неўзабаве кватаранта канчаткова зацкавалі і выправілі ў вольнае плаванне.

Колю, як часта ў такіх выпадках здараецца, ніхто не шкадаваў. Шкадавалі Соню, бо ў Вальдака скончыўся кантракт, а разам з ім адплыло, здавалася, у невараць і шчаслівае Соніна жыццё з кветкамі, шампанскім ды прыбытковым гандлем фірмовымі джынсамі.

Толькі Соню шкадавалі дарэмна.

Завітаўшы пасля доўгага перапынку да мяне ў рэдакцыю, Соня прынесла ўжо не вершы, а мадняцкую скураную валізку. Былая паэтка закурыла добрую цыгарэту і прапанавала мне напісаць пра іхняе з Вальдакам каханне раман. Я пачуў, што Вальдак будуе для іх дзесьці пад Гданьскам дом і ўжо другі год штодня, уранні і ўвечары, піша Соні доўгія любоўныя лісты. «Не веру», — лаканічна сказаў я. Соня расшпіліла валізку і выклала на стол звязкі лістоў, акуратна раскладзеных па днях і месяцах.

Маім суседкам Тоньцы і Каці падфартуніла менней. Кацін Ярык узгадоўваўся хлопчыкам выхаваным ды паслухмяным. Ён рана клаўся спаць, і Каця з маладым каханкам Стасем любілася ў сябе ў пакоі. Ярык не прачынаўся нават тады, як Стась на падпітку заводзіў сваю ўлюбёную «Кукулэчку».

У Тонькі сітуацыя склалася прынцыпова іншая. Ваўцюль, пэўна, пад уплывам неўраўнаважанай бабулі, спаць не любіў і, як заведзены, да позняга шнураваў па калідоры.

Тонька з Казікам і пляшкаю «Выбаровай» сядзелі на кухні, а бліжэй да паўночы, калі жыхары секцыі

распаўзаліся па сваіх закутках і нарэшце ўдавалася ўтаптаць у ложак зняможанага Ваўцюля, Тонька выносіла на кухню вялікі скрутак жоўтага паралону.

Разоў колькі я неабачліва выходзіў папіць вады, пстрыкаў уключальнікам і заспяваў суседку і Казіка ў якой-небудзь маляўнічай пазіцыі. Казік усхопліваўся з паралону і, прыкрываючыся даланёй, мармытаў — урэшце, не надта збянтэжана — «пшэпрашам». Тонька падымацца ленавалася і, лежачы ў паставе Данаі з палатна Джарджоне, адно незадаволена мружыла вочы.

Усё гэта выглядала б больш-менш цывілізавана, каб не безліч прусакоў і прусачкоў, што ад зыркага святла пырскалі з паралону ва ўсе бакі. Мне здавалася, я нават чую тупаценне сотняў лапак, і імгненна націснуць на ўключальнік яшчэ раз мне замінала адно ўсведамленьне таго, што як толькі лямпачка пагасне, сапраўдныя гаспадары нашае кухні зноў адусюль рынуцца на паралон.

Напіўшыся з крана вады, я вяртаўся ў пакой, прабіраўся да стала і вёў далей герояў сваёй першай аповесці, якія захапляліся гістарычнай мінуўшчынай, кахаліся, вандравалі і часам выпівалі. Адна з гераіняў у нядаўным мінулым працавала прастытуткай, але сустрэла сапраўднае каханне і пачала новае жыццё.

Два разы перадрукаваўшы твор на машынцы, я адправіў яго ў моладзевы часопіс і пасля падазрона доўгага маўчання атрымаў з рэдакцыі запрашэнне на гутарку.

У кабінеце галоўнага рэдактара сабраліся некалькі мужчын, чые фатаграфіі рэгулярна з'яўляліся ў друку побач з іх вершамі або прозай.

Апраўдваючы пасаду і статус вядомага паэта, галоўны рэдактар прамаўляў вобразна і пранікнёна. Паводле яго словаў, замест таго, каб падняцца на верхнія паверхі і бачыць светлыя далягляды, аўтар уладкаваўся

ў паўпадвальным памяшканні і ўважліва разглядаў пакінутыя на асфальце пляўкі й недакуркі.

Я даведаўся, што ў жыцці, аказваецца, шмат цудоўнага і ўзнёслага, трэба адно навучыцца гэта заўважаць.

Каб галоўны рэдактар зразумеў, што ні да чога іншага я і не імкнуўся, я расказаў яму, як заходзіцца ўначы ад крыку Пракопаўна і як з сухім шамаценнем разбягаюцца з жоўтага паралону прусакі.

Не буду маляваць сябе героем. Каб змагацца за кожную літару свайго першага буйнафарматнага дзіцяці, я любіў яго занадта моцна.

Тагачаснаму мне ўяўлялася, што аповесць калі кардынальна і не перайначыць мой лёс, дык, ва ўсякім разе, унясе ў яго змены накшталт тых, што адбываюцца з надвор’ем праз магутныя цыклоны і антыцыклоны.

Насамрэч, як ты разумееш, нічога не змяніў ні нумар часопіса з маім опусам, ні нават першая кніжка. Аднаго разу, калі клубастая Сцёпава Таня зноў зайшла да мяне папрасіць кніжку пра любоў, я дзеля эксперыменту прапанаваў ёй беларускамоўны часопіс і ўбачыў на суседчыным твары грэблівую грымаску пакрыўджанай малпачкі.

Сваю першую асобную кватэру-аднапакаёўку я атрымаў зусім не праз грамадскае прызнанне каштоўнасці маіх літаратурных штудыяў, а — дзякуючы руціннай працы ў мясцовай газеце. Кватэрка выходзіла вокнамі на гарадскую прыбіральню, але знаходзілася на сёмым паверсе, што, у адпаведнасці з рэкамендацыямі галоўнага рэдактара моладзевага часопіса, дазваляла бачыць і больш светлыя далягляды, напрыклад, коміны нафтаперапрацоўчага завода, што тырчэлі ўдалечыні, быццам фаласы гіганцкіх мурынаў, якія дзесьці там, за лесам, валяліся на спінах, падставіўшы жываты рахманаму беларускаму сонцу.

Мінулася шмат гадоў. Былі напісаныя і выйшлі мае новыя кніжкі. Ляснулася эсэсэсэрыя, і абвясцілі незалежнасць. Мы чакалі будучыні, але надышло мінулае.

Мае найноўшыя кніжкі былі напісаныя, аднак выдаваць іх не спяшаліся. Я пераехаў у цяперашнюю кватэру з гарматай насупраць, быў звольнены па скарачэнні штатаў, а таксама «за выпуск исторической и другой сомнительной литературы» з працы і стаў часцей бываць у горадзе юнацтва.

Адзін з прыездаў я вырашыў прысвяціць падарожжу па былых адрасах.

Мне сказалі, што ў горадзе бачылі Соню, якая пакінула старую двухпакаёвую «хрушчобу» дачцэ і ўжо даўно жыла ва ўласным доме на балтыйскім узбярэжжы пад Гданьскам. Візіт да Соні я чамусьці запланаваў на вечар, але нарваўся на яе, завярнуўшы па дарозе ў інтэрнат у колішнюю забягайлаўку «Марозка». Некалі гэтая ўстанова дайшла да таго, што сярод белага дня па зале фланіравалі пацукі, потым яна трапіла ў рукі тутэйшага бізнесоўца і перажыла рэнесанс, а ўслед за арыштам новага гаспадара (нібыта за тое, што цёмнымі начамі ён бессаромна адсмоктваў з нафтаправода «Дружба» братнюю расейскую нафту) пачала хутка вяртацца да свайго першабытнага стану. Але працэс рэгенерацыі знаходзіўся яшчэ дзесьці на сярэдзіне дыстанцыі, таму не было нічога дзіўнага, што думка выпіць у «Марозку» піва адначасова з маёй нарадзілася і ў Сонінай галаве.

Соня з Вальдакам стваралі рэдкі ў нашых шыротах вобраз цалкам шчаслівае пары. Адрозна ад абсалютнай большасці суайчыннікаў, Соня чытала некаторыя мае кнігі. У іхнім доме над морам, дзе яны з Вальдакам слухалі беларускую праграму радыё «Свабода», для мяне заўсёды знайшоўся б ціхі пакой з пісьмовым сталом.

Вальдак расхвалявана загаварыў пра беларускія рэферэндумы і прапанаваў у працяг двух першых правесці трэці, а за ім і чацвёрты.

На чацвёрты ён раіў нам вынесці пытанне аб далучэнні да Польшчы.

Прыбіральня ў «Марозку» не працавала, і, падыходзячы да помніка першаму наваполацкаму намёту, я ўжо прыкметна нерваваўся.

Услаўленне будаўнікоў камунізму абкарналі на апошняе слова; разам з ім знік і клічнік, а таму ўвесь лозунг — «Слава строителям» — на асноведзі навакольных аблезлых будынкаў успрымаўся непаважна і досыць двухсэнсоўна. Тым не менш ад рашучых дзеянняў каля манумента я сентыментальна ўстрымаўся.

Дзверы ў нашую інтэрнатаўскую секцыю былі прачыненыя. У калідоры гарэла тая самая самотная лямпачка. На злёгку асмужаным мяхамі з бульбаю даляглядзе вострае вока мастака змеціла б мірную размову трох самавітых прусакоў.

Карыстаючы з адсутнасці жыхароў, я першым чынам наведаў прыбіральню. Няспраўны, як і ў гады яго і маёй маладосці, злівальны бачок радаваў павясноваму жыццядайным цурчаннем вады ў трэснутым унітазе. На дзвярах на ўзроўні вачэй туалетнага сядзельца нечымі працавітымі рукамі быў прыклееены каляровы вусаты партрэцік і выразаны з газеты загаловак: «Больше внимания заготовке кормов для скота». Было відаць, што хтосьці з непрыяцеляў спрабаваў здзерці партрэцік, але ягоны мужны папулізатар зрабіў сваю справу сумленна, і зламысніку ўдалося адарваць адно ражок любімай у народзе выявы.

На пустэльнай удзень кухні маладзён з густымі чорнымі вусамі запіваў півам перасмажаныя секунцы. Па гарэлых, як звычайна ў Каці, секунцах я пазнаў Ярыка.

Распытваць пра лёсы былых суседзяў я не меў ані кроплі ахвоты. Я любіў іх усіх ранейшымі і не хацеў ні ў кім расчароўвацца.

На зваротным шляху я абыякава прамінуў сваю колішнюю вальеру і, агорнуты лёгкім хваляваннем, прыстоіў каля пакоя № 6. З-за вечна зачыненых дзвярэй гучаў прыцішаны голас дыктара першай праграмы беларускага радыё. Я асцярожліва націснуў на ручку. Дзверы не паддаліся. Гэта магло значыць, што некрафільскі сюжэт з двума прыгожымі маладымі трупамі не страціў актуальнасці. Цікава, напрыклад, як успрымаюць радыёаматары з поліэтыленавых мяхоў візіт прэзідэнта ў Кітайскую Народную Рэспубліку альбо сітуацыю вакол кампенсацыі грашовых укладаў?..

Калі вечаровы полацкі аўтобус падыходзіў да сталіцы, мае ўражанні і рэмінісцэнцыі — ад Кубінца да вытанчаных трупаў з пакоя № 6 — утульна, як карты ў пасьянсе, леглі на свае месцы і заставалася адно перанесці іх на паперу.

Я падступна ўявіў, што скажа, пачытаўшы гэты тэкст, галоўны рэдактар моладзевага часопіса, і раптам здрыгануўся ад сцюдзёнага подыху трансцэндэнтнасці. Рэдактар не скажа нічога.

Я ўспомніў, што колькі гадоў таму яго, ужо астылага, знайшлі раніцою на вуліцы. Ён, прыгожы элегантны мужчына і, кажуць, неблагі рэдактар, што ў часы «перестройки» падпісаў у друк «Споведзь» Ларысы Геніюш, ляжаў з праламанай галавою сярод пляўкоў і недакуркаў.

Не магу адбіцца ад думкі, што калі б ён жыў не на трэцім паверсе прэстыжнага дома ў цэнтры, а ў паўпадвальным памяшканні, дык абавязкова прачытаў бы сёння мой мемуар.

*1997*

# Гарэла свечка

Калі пачую знакамітае пастарнакаўскае «Свеча горела на столе, свеча горела...» (а яшчэ — калі парэжу палец), мяне нязменна агортвае той самы ўспамін. У ім за вокнамі таксама з прысвістам круціць завіруха, і гарыць на стале свечка, і на яе дзьме з кута скавыш, але на гэтым падабенства сканчаецца: не падаюць на падлогу жаночыя чаравічкі, не капаюць на скінутую сукенку гарачыя кроплі воску, агонь спакусы не ўздымае, як анёл, сваіх крыжападобных крылаў, і двое каханкаў не знікаюць у снегавой імгле экзістэнцыйнага часу.

У тым успаміне на мяне не міргаючы глядзяць вочы аднакласнікаў, каля свечкі ляжыць аркушык паперы, з якога я зараз павінен прачытаць тэкст прысягі, а класная кіраўнічка працягвае мне лязо: спачатку яго трэба прадэзінфікаваць у язычку полымя, потым чыркнуць сабе па пальцы і распісацца крывёю. Насмешлівыя позіркі аднакласнікаў і спалохныя — аднакласніц робяцца нясцерпнымі. «Не!» — крычу я і, дзьмухнуўшы на свечку, выбягаю ў школьны калідор.

Так зрываецца маё ўрачыстае ўступленне ў атрад чырвоных следапытаў.

Час дзеяння — 1968 год. Месца — наваполацкая школа, куды я прыйшоў, пераехаўшы з Полацка, дзе ў такія гульні мы не гулялі.

Вядома, мікробы пацыфізму ў нашыя правінцыйныя палестыны тады яшчэ не залятаі. Колькі сябе тагачаснага памятаю, мы, як і некалькі пакаленняў нашых папярэднікаў, да самазабыцця захоплена гулялі ў «вайнушку».

Калі я пайшоў у першы клас, трохі старэйшыя хлопчыкі судзілі і, паводле прысуду, павесілі пад мостам над Палатой свайго аднагодка, прызначанага «Гітлерам». Кажуць, такія выпадкі, асабліва ў першыя паваенныя гады, здараліся не толькі ў Полацку.

Ролю эсэсаўца са сваёй ахвоты ў нас звычайна выконваў Коля Кірпічонак. Ён спрытна пырскаў праз шчарбіну асцой і цадзіў «юдэн, камуністэн, камісарэн. Буд'ем немношко стрэляйт» з такой натуральнасцю, што маленькія сэрцы безнадзейна абрываліся ў сцюдзёную бездань. (Мой сябра Вова Цымерман, хоць і быў з усіх нас самы дужы, у такія гульні — відаць, дзякуючы геннай памяці — ніколі не гуляў, затое ў пятым класе, падпільнаваўшы «эсэсаўца» Колю ў вечаровым завулку, моўчкі і з асалодаю збіў таго на горкі яблык.)

Спярша з гэтай вайной-вайнушкаю ўсё было проста ды ясна. «Нашы» непазбежна перамагалі «немцаў». «Нашы» былі спрэс героямі, а «іхнія» — мярзотнікамі. Гэта была такая ж аксіёма, як і тое, што малочнае марозіва ў летамцы ля рынку каштавала роўна дзевяць капеек.

У які час у дзіцячай душы зашкрэблася жамярыца сумневу — узгадаць, бадай, немагчыма.

Мінецца шмат гадоў, пакуль хлопчык, што на допыце пляваў Колю Кірпічонку ў твар і нікога не «выдаваў» (а Коля, выціраючы рукавом плявок, балюча біў «партызана» ў бок нагою ў «эсэсаўскім» кітайскім кедзе), зразумее, што вайна — гэта гераізм і брудная палітычная гульня, адвага і баязлівасьць, разлік і безразважнасць ды шмат чаго іншага, прычым размеркаванага зусім не ў строгай адпаведнасці з тым, чыя вайна — справядлівая, а чыя — не. І яшчэ больш гадоў пройдзе, пакуль той хлопчык сустрэне ў Васіля Гросмана размову начальніка нямецкага канцлагера з ягоным вязнем, адданым бальшавіком, які бачыў Леніна,

і ўкормлены фашыст-інтэлектуал, выпусціўшы элегантны струменьчык духмянага цыгарэтнага дыму, скажа свайму знясіленаму голадам візаві прыкладна наступнае: вайна паміж гітлераўскай Нямеччынай і сталінскай Расеяй ёсць трагічнаю недарэчнасцю, і суцешыцца ў гэтай сітуацыі можна толькі адным — хто б ні ўзяў верх, нашая справа пераможа. А пасля той хлопчык сустрэнецца з людзьмі, якія хацелі ваяваць за Беларусь, не залежную ні ад Масквы, ні ад Берліна, і ўрэшце апынуліся ў магілах пад Монтэ-Касіна і ў сталінскай вечнай мерзлаце або на берагах Антарыё ці на Манхэтэне. А пасля ён сустрэне абчаплянага ордэнамі ды медалямі «ветэрана Вялікай Айчыннай», пра якога будзе дакладна вядома, што гэты чалавек каваў перамогу, усю вайну расстрэльваючы «врагов народа» пад Новасібірскам.

У той час Коля Кірпічонак ужо даўно будзе служыць у КГБ, а Вова Цымерман на ўсякі выпадак з'едзе ў Ізраіль і, напэўна, не даведаецца, што Хатынь спалілі зусім не гітлераўцы, асвейскіх габрэяў і беларусаў стралялі й палілі ў хатах латышы, а на Глыбоччыне і Лепельшчыне лютавалі, пакуль не перакінуліся замольваць грахі да партызанаў, «русские воины» з аддзелаў Радыёнава.

Шмат чаго будзе потым, але пакуль — пра згаданую жамярыцу дзіцячага сумневу.

Можа, яна завалтузілася ў той далёкі Дзень перамогі, калі я ўпершыню ўбачыў бацьку на моцным падпітку. Спачатку ён зняў са свайго пракурорскага кіцеля ордэн Чырвонае Зоркі й дзясятак медалёў, а тады ўзяўся нам з сястрычкаю апавядаць нешта падазрона негераічнае, што зачапілася ў маёй памяці абрыўкамі павучынак з задаўненага бабінага лета: пра панічнае адступленне «нашых» па стэпе да ракі Дон, пра вінныя скляпы вугорскага графа, дзе ў віне з рас-

страляных бочак патанулі колькі дзясяткаў п’яных савецкіх салдацікаў, і пра свайго сябра, якога за нейкую Дусю застрэліў чалавек з дзіўным прозвішчам Смершавец... Блытаныя ўспаміны скончыліся тым, што бацька заплакаў і, мабыць, помсцячы таму Смершаўцу, прабіў сваім пяціфунтовым кулаком сценку нашае фанернае шафы. Я плакаў ад страху. Малая сястрычка румзала, бо хацела паглядзець салют. Мама таксама плакала, цэлы вечар выцягваючы з разбітай бацькавай рукі стрэмкі. Такім, у слязах, і запомнілася тое свята.

А можа, дзіцячая яснасць успрымання мінулае вайны ўпершыню ўскаламуцілася, калі на іншы Дзень перамогі бацькаў брат дзядзька Санька зацягнуў песню, дзе былі загадкавыя ды з відавочным прысмакам неасэнсаванае брыдкасці словы пра савецкага камандзіра, які спачатку камандаваў ротамі, а потым

*В Ленинград пробирался болотами,*
*Целку ломая вдовы...*

А мо вінаватыя былі асцярожныя маміны прыгады пра фольксдойча Паўля з нямецкага гарнізона іхняе прыдняпроўскае вёскі, пра Паўля, які паведамляў вяскоўцам, калі будуць хапаць моладзь на работу ў Нямеччыну або забіраць каровы, які меў пасведчанне нямецкай антыфашыстоўскае арганізацыі, яўна падабаўся маёй маме і танцаваў з ёю на вячорках, які перадаваў партызанам патрэбныя звесткі і ў выніку быў з нечага загаду застрэлены крыху збянтэжанымі хлопцамі з лесу проста за хатаю, куды прынес ім чарговую паперку з нейкімі лічбамі ды малюнкамі?

Мая бабуля Аўгіння, удава расстралянага ў 1933-м «врага народа», наконт тамтэйшых партызанаў выказвалася з нязвычнай для яе ціхмянага характару экспрэсіўнасцю. Найбольш запала мне ў памяць

гісторыя з апошняю карміцелькай вялікай сям'і, маладой кароўкаю Цясюткай, якую хавалі ў адрыне за сенам, але сусед Апанас, колішні камбедавец, раскулачвальнік і даносчык, штосьці спасцярог і прывёў у адрыну сябрукоў з вінтоўкамі, якія слухалі, ці дыхае сена, ды толькі разумная рагуля, чуючы пагібель, прытаіла дыханне і ўратавалася, уратаваўшы гэтым маму з яе сёстрамі, а маімі будучымі цёткамі, што праз паўстагоддзя, калі мама ўжо будзе ў лепшым свеце, запытаюцца ў мяне, куды ж выбралі на самага галоўнага іх зямелю Лукашэнку — у Маскву ці ў Менск?

Мне здаецца, сумневы накшталт маіх варушыліся не толькі ў маёй душы, проста мы старанна хавалі іх, доўжачы сваю «вайнушку» з яе бясспрэчным падзелам на «нашых» і «немцаў», «вайнушку», у якой класе ў пятым у шэрагах байцоў нечакана з'явіліся кулямётчыцы, выведніцы і медсястрычкі, якім было наканавана ўжо зусім хуткаператварыць нас з загрубелых ваякаў у людзей цалкам цывільных, здатных хіба што на лакальную памежную сутычку з рэваншыстамі ФРГ, што — па назве аднаго з полацкіх прадмесцяў — расшыфроўвалася як Федэратыўная Рэспубліка Грамы.

А потым прыйшла завірушная зіма, калі мы перабраліся жыць у Наваполацак і калі на стале ў музеі баявой славы гарэла свечка.

Я думаю, што адмовіўся падпісаць прысягу не толькі праз боязь крыві ці з гігіенічных меркаванняў. Мне ішоў пятнаццаты год, і пры ўсёй тагачаснай інфантыльнасці я мог ужо звязаць некаторыя факты ў не надта артадаксальныя сілагізмы.

Безумоўна, мне было яшчэ рана казаць класнай кіраўнічцы, што больш страшнай за вайну з гітлераўцамі была вайна ўлады з уласным народам, а смерць у Курапатах ці ў нашых полацкіх Бельчыцах

была нашмат больш жудаснай за гераічную смерць пад Сталінградам ці ў аперацыі «Баграціён». Аднак я добра ведаў, што я ўнук пасмяротна рэабілітаванага дзеда Максіма.

Ад бацькі я чуў, што сталінскія «перегибы» ацэньваліся (тады) у дзясяткі тысяч жыццяў, і аднаго разу на ўгаворы класнай усё ж (няхай і бяскроўна) уступіць у следапыты, запрапанаваў збіраць звесткі не толькі пра герояў Вялікай Айчыннай, але і пра тых, каго закатавалі ў НКВД. Класная кіраўнічка паглядзела на мяне, быццам на жыхара паўдзённага паўшар'я Юпітэра або як на чалавека, што ўцёк з вар'ятні ў полацкім Задзвінні.

Вынікам маёй прапановы сталася сур'ёзная размова класнай з маці. Я быў дэфініяваны ідэйна нявыхаваным падлеткам. Пагатоў, вылазка лічылася не першай.

Аднойчы на ўроку гісторыі, пачуўшы ад настаўніцы, што Ленін у эміграцыі «жил впроголодь и ходил в бедной, поношенной одежде», мы з выдатнікам Мішам Пеньяўскім, абурыўшыся гэткай міфалагізацыяй, гучна зарагаталі.

Другім разам мы спрабавалі выступіць супраць рэпетавання на ўроку літаратуры літмантажу да сустрэчы з чарговай дэлегацыяй ветэранаў, дзе мы павінны былі сядзець з гасцямі на сцэне школьнай актавай залы вакол партызанскага вогнішча, зладжанага з вентылятара ды прывязаных да яго піянерскіх гальштукаў. (Трэба, праўда, прызнаць, што наш пратэст меў досыць банальную прычыну — мы не вывучылі сваіх вершаваных тэкстаў, як, зрэшты, і задання з літаратуры.)

Сярод тых, хто прыходзіў у наш клас і ў музей баявой славы ў пінжаках з планкамі баявых узнагародаў, траляліся розныя людзі. Сівы партызанскі камандзір

апавядаў, як адзін перамог у баі сорак сем фашыстаў і, паказваючы ў музеі на партрэт вядомага полацкага падпольніка, крычаў, што гэта «враг», які, працуючы ў гарадской управе, выдаваў савецкіх людзей. Падпольнік, у сваю чаргу, расказваў, што выдаваў не савецкіх людзей, а фальшывыя дакументы, з якімі палачане пазбягалі арышту і вывазу на захад, а партрэт свайго ляснога апанента дапаўняў каларытнымі дэталямі кшталту пасылкі ардзінарцаў у баявыя рэйды з заданнем збіраць па вёсках прыгожых дзяўчат і маладзіц. Памятаю, найбольш мы паверылі бязрукаму вызваліцелю Полацка, у якога вісеў на грудзях усяго адзін медаль «За отвагу», а яшчэ — партызанскаму мінёру, што ўзгадаў, як дзень навылёт нязварушна ляжаў з мінаю каля чыгуначнага насыпу пад носам у нямецкіх патрулёў і, абсіканы з галавы да ногляснымі мурашкамі, бачыў, як у яго паміж пальцаў вырасла трава.

Здаецца, тады я пачуў магнітафонавы запіс песні невядомага маскоўскага барда пра роту, праз якую ўвесну бягуць ручаі й цвітуць пралескі. Хрыпаты, пад Высоцкага, голас спяваў:

*Ах эта рота, ах эта рота,*
*А кто привел ее сюда,*
*Кто положил ее на снег?*
*Ах эта рота, ах эта рота.*
*Нет, не проснется по весне,*
*Нет, не проснется по весне...*

Прыпеў быў такі:

*Наступала по болоту,*
*А потом пошла назад.*
*В сорок третьем эту роту*
*Расстрелял заградотряд.*

Збіраць звесткі пра заградатрады я нашай класнай вырашыў не прапаноўваць. За лепшае палічыў не распытваць яе і пра вёску, якую спалілі разам з жыхарамі не фашысты, а — за тое, што там на пачатку вайны напаілі немцаў малаком, — пераапранутыя ў іхнюю форму энкавэдысты, і пра тое, ці праўда, што быў загад ліквідоўваць адчыненыя на акупаваным абшары беларускія школкі, а заадно пускаць у расход беларускіх настаўнікаў... Гэта мы чулі, калі пасля афіцыйных выступаў ветэраны бралі чарку ды пачыналі адхіляцца ад генеральнай лініі.

Карацей, чырвоным следапытам я не стаў.

А раскруціўся ўвесь гэты клубок ад таго, што я парэзаў лязом палец, а зусім не сабраўся падступна кінуць цень на ветэранаў Другой сусветнай, у тым ліку і на таго яе двойчы параненага салдата, якога звалі Аляксеем Арловым. Я ведаю, што для вас (не ўважаючы на тое, што на вуліцах нашых ачышчаных ад немцаў гарадоў замест чорных гестапаўскіх машын адразу ж завуркаталі варанкі доблесных чэкістаў, не ўважаючы на вяртанне калгаснага прыгону, не ўважаючы на тое, што ў Сібір і Казахстан паехалі ўжо не вёскі, а цэлыя народы, не ўважаючы на тое, што праз нейкія два-тры гады пераможаныя аказаліся сыцейшымі й заможнейшымі за пераможцаў, не ўважаючы на тое, што краіна-пераможца Беларусь у выніку Другой сусветнай вайны страціла Віленшчыну і Беласточчыну) паведамленне пра разгром Гітлера, пэўна, назаўсёды застанецца самым шчаслівым днём.

Для вас перамога да апошняе хвіліны будзе Вялікаю Перамогай.

Але ж вы таксама ўжо даўно зразумелі: выйграўшы вайну, можна прайграць мір.

*1995*

# За што Авін забіў Кавеля

Ніякі Тарквемада з усімі сваімі «іспанскімі чаравікамі» ды іншым спецпрычындаллем не выцягнуў бы з мяне і дзясятай долі таго, што здатны здабыць чырваналобы «Ікарус», які раз на месяц вязе мяне з Наваполацка ў Менск. З перона яшчэ махае мне сын расейскага афіцэра Вінцэсь Мудроў, які вырас там, дзе яго зусім не сеялі, і зрабіўся беларускім пісьменнікам, а ў выстылы салон, што ашчадна захоўвае лёгкі хвалёўны водар паленае гумы, ужо ўрываецца вясёлы рой прыгадак і асацыяцый, даўно і надзейна забытых падзей ды імёнаў, рэалізаваных і неажыццёўленых сюжэтаў. Да мяне паварочваюцца хмурныя няголеныя твары колішніх сяброў, і адразу некалькі пар дасканала адслізганых жаночых ножак пачашчаюць пульс і прымушаюць бразгаць ключамі ад таямніц. Гэты як быццам зусім звычайны аўтобус насамрэч — стварэнне надзвычай высокаарганізаванае і, калі хочаце, нават падступнае: яно выдатна ведае не толькі тое, якой дарогаю мяне везці, але і тое, дзе набраць хуткасці, а дзе крыху загамаваць, каб нейкая марудлівая згадка не засталася самотнічаць на ўзбочыне.

Адразу за аўтавакзалам праплывае аднапавярховая камяніца рэдакцыі газеты з шматсэнсавай назваю «Хімік», у якой я болей за дзесяць гадоў зарабляў на хлеб ды віно і напісаў першы аповед — пра пеўня, што жыў на адным з наваполацкіх гаўбцоў.

Там, дзе цяпер універсітэцкія карпусы, тады разлягалася зусім не гарадская лугавіна. Спачатку на ёй

зацвіталі дзьмухаўцы, а потым — рамонкі і смолкі, сярод якіх проста пад рэдакцыйнымі вокнамі, пачасту скінуўшы верхнюю частку купальніка, запякаліся на сонцы даўганогія істоты з канспектамі. Істоты часта падыходзілі да майго аблюбаванага матылькамі-крапіўнікамі разнасцежанага вакна папрасіць закурыць альбо пазычыць пустую шклянку, дэманструючы злёгку прыкрытую купальнікам ахвоту бліжэй пазнаёміцца з манатоннымі журналісцкімі буднямі за шчыльнымі зялёнымі шторамі, і напрыканцы кожнага траўня я пісаў галоўнаму рэдактару заяву з просьбаю ўвесці на летні перыяд даплату за шкоднасць. У выніку падобных візітаў мой малодшы калега, што дзяжурыў па нумары, назаўтра разам з падпісчыкамі з невялікім здзіўленнем убачыў на першай паласе фотаздымак, акуратна надрукаваны дагары нагамі, а мой старэйшы калега пазнаёміўся з установаю, дагэтуль вядомаю ў горадзе пад бяскрыўднай абрэвіятураю НКВД, што расшыфроўваецца як «Новополоцкий кожвендиспансер». (У тыя часы фасад нашага НКВД аздабляў выцвілы лозунг: «Имя и дело Ленина будут жить в веках».)

Вечарамі ў маім рэдакцыйным кабінеце з'яўляліся наведнікі, цікавейшыя за легкадумных дзённых мятлушак і стракозаў. Аднойчы, у 1980-м, калі маскоўскія ідэолагі пакутліва вырашалі, як адсвяткаваць 600-годдзе Кулікоўскае бітвы, каб не пакрыўдзіць братні татарскі народ, мае дзверы асцярожненька адчыніў ахайны дзядуля з пульхным партфелем і ўстрывожанымі вачыма, што міжволі прыводзілі на памяць позірк пралетарскага паэта Івана Бяздомнага пасля вядомага здарэння на маскоўскіх Патрыяршых сажалках. Згаданая акалічнасць змусіла мяне інстынктыўна трымацца так, каб паміж мною і візітантам абавязкова заставаўся пісьмовы стол.

З гарачага дзядулевага шэпту я даведаўся, што мой госць удзельнічаў у Кулікоўскай сечы, а ў партфелі — напісаныя да яе юбілею ўспаміны.

Да разраду літаратараў належаў і колішні марак рыбалоўнага флоту, якога недзе за ньюфаўндлендскімі банкамі пацягнула за сабой, балюча выцяўшы аб борт, штармавая хваля, што і падказала марскому вандроўніку ідэю і фабулу будучага рамана. Яго навылёт прапахлы селядцамі манускрыпт пачынаўся сакральнаю фразай: «Стране нужна рыба», а завяршаўся падрабязным спісам, дзе фігуравалі набытыя былой няўдзячнай нявесце ў розных кутках свету падарункі з пазначанымі побач коштамі.

А вунь за тымі трыма вокнамі збіралася нашае літаб’яднанне «Крыніцы», сябры якога за прамінулыя гады выдалі цэлую бібліятэку. Аднак гэтым разам асобы, чые імёны ўжо трапілі ў падручнікі і энцыклапедыі, пакідаюць мяне ў спакоі, а з пяшчотаю згадваецца сціплая паэтка, што каля каміна сваіх жаночых успамінаў павінна заўсёды думаць пра літаратуру з ціхай удзячнасцю. Часам я намагаюся ўявіць яе аблічча і прыходжу да высновы, што яно не можа быць ардынарным, як не была ардынарнаю і яе творчая метода, якая назаўсёды застанецца ў гісторыі калі не ўсяго айчыннага прыгожага пісьменства, дык, прынамсі, яго полацкае плыні.

Рэч у тым, што ў дні нашых досыць частых літпаседжанняў прыблізна аб адзінаццатай гадзіне вечара ў маім кабінеце абавязкова званіў тэлефон. «Муж адной паэтэсы» ветліва цікавіўся, калі мы маем разыходзіцца. Я сумленна адказваў, што каля паўночы, і запэўніваў клапатлівага сужэнца, што мы па-рыцарску праводзім усіх нашых дам дахаты. Так доўжылася гады тры, пакуль таямнічы муж, адступіўшы ад завядзёнкі, не папрасіў перадаць на-

шай паэтцы, што сёння ён зойдзе па яе сам. Я мусіў запытацца, як завуць прадстаўніцу гэтай ідылічнай сям'і, і пачуў абсалютна не знаёмае нікому імя…

Перад павароткаю на мост цераз Дзьвіну, пад якім высока над цёмнаю вадою, што хавала карагоды тапельцаў і самоў памерамі з пушчанскіх вепрукоў, мы безразважна здавалі дзіцячыя экзамены на мужнасць, я апошні раз кідаю вока на былую лугавіну, і наўздагон мне лопае крыламі знаёмы пугач, што жыў у жарале старой яліны на ўзлеску.

На мяжы дня і шарай гадзіны пугач выбіраўся са свайго зацішнага жытла на сук, каб, самавіта пакруціўшы вушатай галавой, жудліва павухкаць, зрабіць рытуальны аблёт лугавіны і ўзяць курс на лясное возера, дзе тады яшчэ вадзіліся цеплакроўныя ўндзіны, гатовыя аддацца ўмеламу начному плыўцу на залітым месяцавым святлом плыткаводдзі. Вялікія шэрыя крылы майго пугача рэзалі паветра настолькі бясшумна, што ад іх кругамі разыходзілася густая, настоеная на паху прывялае травы, шматслойная цішыня. Яна ніколі не палохала мяне, а абуджала ў вечаровай сутонлівай душы жаданне ў адной з будучых рэінкарнацый трапіць на свет у іпастасі лупатае птушкі, каб удзень песціцца ў мяккім дупле, а ўвечары паважна выходзіць на духмяны ад разагрэтай сонцам жывіцы сук і, палохаючы вусцішным вуханнем ундзінаў ды іхніх каханкаў, ляцець на смачныя начныя ловы. У той дзень, калі экскаватар узяўся капаць на лугавіне катлаван, пугач выбраўся са схоўкі сярод белага дня і, згубіўшы ад святла арыентацыю, улукаткі паляцеў не ў лес, а ў бок горада і ўжо не вярнуўся…

Апрача мяне, «Ікарус» вязе сёння двух прыстойна апранутых хлопцаў гадоў на дваццаць з гакам, а ў камплекце з імі падарожнічае жыццярадасная рыжая маладзёнка, для якой слова «дыета», мяркуючы па

габарытах, мае такі самы абстрактны сэнс, як, напрыклад і «сінхрафазатрон».

Не паспеўшы ўладкавацца, кампанія бярэцца разгадваць газетную крыжаванку. «Последователь философского направления, противоположного материализму», — чытае рыжая пампушка. «Думай, Федя», — кажа хлопец з падобнымі да прэзідэнцкіх вусікамі. Чыста паголены Федзя думае і выдае адказ: «Пессимист». Маладзёнка лічыць літары і ўсцешана абвяшчае: «Подходит!»

Увесь учарашні дзень падаў пухкі снег, дарожны паказальнік у прыгараднай вёсцы па-гаспадарску вычышчаны, і сустрэча з ім узнаўляе ў памяці чутую ў Лондане гісторыю пра памежны валійскі мост, дзе ўжо колькі стагоддзяў штоночы аднаўляецца нязводны надпіс: «Ангельцы, прэч з Уэльсу!» Не, на паказальніку ніхто не вывеў чаго-небудзь падобнага, кшталту: «Расейцы, прэч з Беларусі!» Пацвярджаючы славутую беларускую талерантнасць, навакольная блазнота, як і ў гады майго маленства, нягледзячы на складаныя метэаўмовы, не забылася старанна падмаляваць збоку да першае літары прыдарожнай назвы лішнюю птушачку, ператварыўшы трывіяльнае Копцева ў рамантычнае прыдзвінскае Жопцева.

Гадоў дваццаць таму Беларускае тэлебачанне любіла круціць задушэўны фільмец з геніяльным пасажам пра тое, што ў юным горадзе вялікай хіміі Наваполацку жыццё гэткае светлае ды шчаслівае, што нават няма могілак, бо людзі папросту не паміраюць: пакуль яшчэ адно пераступілі парог сталасці, а там, маўляў, пераможа камунізм, і, не выключана, савецкія вучоныя раскрыюць таямніцу вечнае маладосці. Не ведаю, чым паілі ды ў якіх лазнях парылі стваральнікаў жыццесцвярджальнае стужкі, але добра памятаю, што на гэтай зялёнай выспе справа ад дарогі на Полацак,

відаць, дзякуючы вялікай хіміі ўжо тады ляжалі пад бярэзінамі двое маіх аднакласнікаў.

Тым часам белымі званіцамі Сафійскага сабора адкрываецца панарама горада, дзе сядзела на гаршку малая князёўна Прадслава, дзе ў вялікі пост мог употайкі кульнуць чарку, закусіўшы яе бел-чырвона-белым салам, вучоны манах Сімяон і дзе рос мой сябра дзяцінства Вова Цымерман, што ад ранніх гадоў меў слабасць не толькі да жанчын, але і да чытання, а таму ў кнізе свайго цяперашняга суайчынніка Амоса Оза мог знайсці прызнанне ў любові да Ерусаліма. «Гэта месца, у якім ты мыеш шкарпэткі, пячэш яечню і ўвесь час адчуваеш сябе на мяжы духоўнага аргазму… І гэты сутык — ключ да таго, што зрабіла мяне пісьменнікам. Усведамленне навакольнае містычнасці, і — з другога боку — усведамленне таго, што ў прарокаў і ў Ісуса дрэнна пахла з чаравікаў…»

Полацак сніў сябе нашым Ерусалімам, але ў горадзе, які ў п'яных трызненнях бачыў сябе трэцім Рымам, умелі разгадваць чужыя сны. Таму адзін з аўгусцейшых «рымлянаў» тапіў полацкіх іншаверцаў у палонках у Інфлянцкую вайну, другі ўласнаручна забіваў у Сафійцы манахаў і закладваў пад яе парахавыя бочкі ў вайну Паўночную, трэці выпрабоўваў перадавую методыку «сноса культовых строений» у нібыта мірным 1964-м.

Заплюшчыўшы вочы, мне зусім нескладана ўбачыць побач з вежамі Сафійкі і купаламі Богаяўленкі барокавыя абрысы сабора святога Стэфана, і тады я зазвычай кажу сабе: не, хараство не бескарыснае, яно існуе хаця б дзеля таго, каб яго ненавідзелі.

Прыазёрная вёска Гомель, што выправіла сустракаць «Ікарус» пярэстага карнавухага сабаку, павінна добра ўрэзацца ў памяць аднаму расейскаму лейтэнанту-танкісту, што выпіў, мабыць, не меней за пляш-

ку спірту ці якой тармазной вадкасці і, ледзьве не трапіўшы на менскай вуліцы пад колы машыны майго сябра, запатрабаваў падкінуць яго, лейтэнанта, у горад Гомель, а на выпрабавальнае пытанне, ці прысягнуў ён на вернасць Рэспублiцы Беларусі, падзяліўся, што «в гробу он видал эту ё.аную Беларусь вместе со всеми бульбашами», якім паабяцаў, — «только рыпнутся», — наладзіць «генеральную танковую утюжку». Пасля гэтае тырады мы, вядома, згадзіліся завезці абаронцу Айчыны прамютка ў самы Гомель, пагатоў нам было ў адну дарогу. Вы памятаеце, ваша благародзіе, як аднойчы прачнуліся ў халодны восеньскі вечар, абдымаючы бетонны слупок з надпісам «Гомель», за якім чамусьці стаяла ўсяго колькі дзясяткаў вясковых хат, а вакол сурова шумеў партызанскі бор? Калі вы яшчэ не згарэлі на «утюжках» Грознага ці Гудэрмесу, вы ўсё, вядома, памятаеце.

Бліжэй да Лепеля снегу робіцца болей. На шашу выходзіць падхорцісты паляўнічы ў плямістым вайсковым камбінезоне, і ланцужок асацыяцый выцягвае наверх імя іншага чалавека з ружжом — таварыша Антанаса Снечкуса, які ў вольны ад блуканняў па лесе час кіраваў ЛітССР у якасці першага сакратара яе кампартыі. Урэшце, таварыш Снечкус не надта ўлягаў у хобі, бо ў летувіскага народа захаваўся яскравы ўспамін усяго пра адзіны паляўнічы подзвіг свайго тагачаснага «бацькі». Неяк узімку да лясной вёсачкі пад Панявежысам прыбіўся параненым лось, якога жыхары выхадзілі і ўзяліся падкормліваць. Удзячная жывёліна хадзіла па вуліцы і не баялася браць з рук у сялянаў хлеб. Аднаго разу на аселіцы спынілася машына, адкуль выйшаў мужчына ў камбінезоне. Пакуль лось даверліва чакаў хлеба, мужчына зняў з пляча вінчэстар і ва ўпор заваліў рагатага прыгажуна на снег. У астатнім Снечкус, кажуць, паводзіўся

збольшага прыстойна: наадрэз адмовіўся прымаць у склад сваёй рэспублікі братнюю Калінінградскую вобласць і ўпёрся, калі ў Маскве пастанавілі будаваць Ігналінскую АЭС. Праўда, станцыю на летувіскім баку Дрысвятаў усё адно паставілі, а горад энергетыкаў у гонар праціўніка будаўніцтва назвалі Снечкусам.

«Высший сан в православии», — даносіцца да мяне з боку аматараў крыжаванак. «Поп». — «Маловато букв». — «Думай, Федя». — «Чего ты все Федя да Федя»...

Дзякуй богу, маскоўскія таварышы не здагадаліся выбраць пад АЭС Лепельскае возера, берагам якога коціцца мой «Ікарус».

Да самага нядаўняга часу за назваю Лепель для мяне хаваўся адно вядомы з сярэднявечча сюжэт пра кузэна лахнэскае пачвары, што атайбаваўся на дне тутэйшага возера і на дэсерт любіў паласавацца грамадзянамі Вялікага Княства Літоўскага з акуратна перакусаных напалам чаўноў, а калі нарэшце здох ад нястраўнасці, дык смурод, калі верыць хронікам, крывеліў беларускія насы нават на Валовай азярыне ў Полацку і, прынамсі, быў ні на каліва не слабейшы, чым у лепельскай вакзальнай прыбіральні.

Аднае восені я вырашыў, што аброслага багавіннем небывальшчыны запісу на пергаміне (і прыбіральні ў якасці пастскрыптума) дзеля знаёмства з горадам усё ж крыху недастаткова, і выправіўся на паэтычны фэст «Лепельскія алітэрацыі», спадзеючыся калі і не наслухацца гэтых самых загадкавых алітэрацый, дык хоць знайсці аскепак таго Лепеля, які Тамаш Зан і Ян Чачот, працуючы там у дырэкцыі Бярэзінскага канала, называлі ў сваіх лістах паўночнай Венецыяй.

Пад адзіным цэлым ліхтаром на дажджлівай вуліцы імя героя «Краткого курса истории ВКП(б)» я з усцехаю прыкмеціў прыгожую здаровай пры-

роднай гожасцю лепяльчанку, глянуўшы на якую адразу падумаў, што якраз такіх аматарак паэзіі нам на дадзеным этапе нацыянальнага адраджэння асабліва бракуе. Распушыўшы падмяклыя пёры, я з ходу запрасіў красулю на фэст у Дом культуры — пры ўмове, што яна пакажа мне дарогу. «Зачэм цібе клуб, пашлі ка мне, у міня бутылка есць», — з вабнай маціцоваю ўсмешкай скорагаворкаю прапанавала цудоўная лепяльчанка.

Амаль без вагання я выбраў клуб, дзе высветлілася, што масцітыя сталічныя творцы паэтычнага радка алітэрацыямі абсалютна не зацікавіліся. У выніку пад спеў зводнага лепельскага хору ветэранаў партыі, вайны і працы пасінелыя ад холаду дзяўчаткі ў нацыянальных строях уручылі мне ў няпаленай зале хлеб-соль на даўжэзным ручніку. (Ручнік адразу паспрабавалі забраць назад, але не на таго нарваліся.) Апрача ўсяго, адносна юная змагарка культурнага фронту Аня атрымала ад начальства катэгарычны загад завесці мяне ў «гаркомаўскі люкс». Па дарозе з ініцыятывы праважатай узнікла рызыковая размова пра крыніцы творчага натхнення. Рызыка рэзка павялічылася, калі выявілася, што Аніна прозвішча Нагулян і яна прыехала да нас з Ерэвана.

Хоць насценны гадзіннік у фае паказваў толькі пачатак дзявятай, дзверы прысадзістага гатэльчыка аказаліся зачыненыя на ключ. У прыцемнай глыбіні памяшкання спінкамі да ўвахода стаялі побач два крэслы, і адтуль звешвалася голая нага. Пачуўшы стукат, нага схавалася. Аня Нагулян зняла чаравік і замалаціла ім у дзверы гэтак тэмпераментна, што аднекуль зверху на нас пасыпалася смецце, а потым звалілася птушынае гняздзечка. Траекторыю руху адміністраткі ад крэслаў да дзвярэй цяжка было назваць найкарацейшаю, аднак магічныя словы

«гаркомаўскі люкс» змусілі яе страпянуцца і намагчыся стаць «на зважай».

Трэба аддаць лепельскім таварышам належнае: «гаркомаўскі люкс» меў цалкам аўтаномны ўваход, прычым жыццё і дзейнасць ягоных насельнікаў былі клапатліва схаваныя ад шараговых вачэй высокім блакітным плотам з замкнёнаю брамкай. Замок у брамцы вырашыў, што я на такія прывілеі не цягну, і занатурыўся. Адміністратарка кінулася па новы ключ, а вяртаючыся, зачапілася ў цемры за маю валізку і бразнулася на мокры асфальт.

Набрынялыя вільгаццю дзверы не паддаваліся, і я наважыўся лезці цераз плот. Адміністратарка размазвала па сваім твары і маёй куртцы кроў, адцягвала мяне ад плота і, румзаючы, сцвярджала, што ўжо заўтра яе выганяць з працы. «Ну што вы мне падсаветуіця?» — жаласна зазіраючы ў мае вочы, пыталася гаротная жанчына. «Нікому не расказвайце сваіх сноў, бо ўладу могуць захапіць фрэйдысты», — сурова адказаў я і своечасова зняў з блакітнага плота адважную дачку армянскага народа, на крутых клубах якой ужо трашчала шчыгульная скураная спадніца.

У люксовых апартаментах я выцягнуў з валізкі пару кніжак і сухое адзенне. «Мне выйти?» — далікатна запытала Аня Нагулян і чамусьці села на канапу. Пытанне пра маіх улюбёных пісьменнікаў усприынялося як хатняя загатоўка. У якасці ілюстрацыі да адказу я разгарнуў узятую з сабою «Вежу з чорнага дрэва» Джона Фаўлза і асуджна працытаваў: «Генры ведаў, што грэх — гэта выклік жыццю, не безразважнасць, а акт мужнасці і ўяўлення». «Какой акт?» — удакладніла Аня Нагулян.

На вячэры з дальняга кутка рэстарана на мяне зайздросна глядзелі вочы паэта з паўднёва-заходніх рубяжоў нашае краіны, вядомага тым, што, паводле

ягонага ж прызнання ў аўтабіяграфічным літаратурна-мастацкім творы, у кожным гастрольным горадзе ён, паэт, як некалі Ферანц Ліст, пакідае спакушаную жанчыну, хоць, адрозна ад славутага папярэдніка, і не зачыняе яе на ўсялякі выпадак на замок. Я падышоў да калегі і з незразумелай зларадн асцю прамовіў чужую фразу: «Ну што, старына? Вакол адны голыя жанчыны, але ўсе ў глухіх сукенках без дэкальтэ».

Усё астатняе ў Лепелі склалася проста цудоўна: у адпаведнасці з праграмаю паэтычнага фэсту адбылася экскурсія ў аграфірму «Белая Русь», якая выпускае папулярны ў працоўных паўночнага рэгіёна Бацькаўшчыны напой «Водар мяты» (вядомы ў малаінтэлігентных колах як «Морда мятая»), а пасля прадугледжанай пратаколам дэгустацыі было прыемна збіраць над лепельскімі каналамі аскалёпкі тутэйшае Венецыі, яшчэ нічога не ведаючы пра намер мясцовых рэкеціраў спагнаць падчас паэтычнае вечарыны з яе заезджых удзельнікаў сімвалічную даніну ў беларускіх рублях альбо ў іх валютным эквіваленце.

За Лепелем галасы аматараў красвордаў, якія раней, нагадваючы зумканне жамяры, успрымаліся пераважна перыферыйным слыхам, пачалі ўсё часцей прабівацца ў мой утульны вопрадзень успамінаў. «Завершение фасада здания… Может, дом?» — «Дура, второе «е». «Главная книга у мусульман». «Тихо, сейчас вспомню. На «кэ». — «Коран!» — «Ты уверен?»

Кароткі прыпынак у Бягомлі, у чыіх ваколіцах нарадзіўся мой знаёмы паэт Янка Юхнавец, што зноў і зноў бачыць гэтыя мясціны ў сваіх нью-ёркскіх вершах-снах, дзе ён вядзе гутаркі то з Машэкам, то са Скарынам, то з таямнічым персанажам, якога завуць Лесасекам і які ўтлумачвае камусьці Невядомаму, што Гісторыя — гэта крушня, а потым робіць удакладненне, што гэта — памяшканне, дзе адбываюцца нелагічныя

выпадкі. Гісторыю пра тое, як у ліпеньскі дзень так званае незалежнасці вось на гэтай аўтастанцыі тутэйшы хлопец павесіў сцяг непажаданых колераў і праз пяць хвілінаў ужо сядзеў у «варанку», Лесасек, безумоўна, назваў бы банальнаю, і тады я дадаў бы апошнюю дэталь: хлопец быў глуханямы.

Ідучы па праходзе, мой спадарожнік з «прэзідэнцкімі» вусікамі кідае позірк на сядзенне побач са мною і гучна, не без нейкага задавальнення паведамляе: «Глянь, Зин, есть ещё чудаки, белорусские книжки читают». Я не бачу, як рэагуе на такое адкрыццё пампушка, але чую яе голас: «Старший сын Адама и Евы, убивший своего брата, четыре буквы». На колькі хвіляў западае маўчанне, потым Зіна няўпэўнена гаворыць: «Кажется, Кай…» — «Дура, а буквы кто считать будет». — «Спокойно, — уключаюцца вусікі. — Я знаю. Авин! Точно! Авин убил Кавеля!»

Усцяж шашы ідзе гандаль яблыкамі, бульбай і сушанымі грыбамі. Тавар пільнуюць дзеці, якім у гэты час яшчэ трэба быць у школе. Мо сённяшні іхні занятак і напраўду больш карысны, чым наведванне ўрокаў гісторыі, дзе ў духу апошніх рэкамендацый «Настаўніцкай газеты» трэба вучыць, што граф Мураўёў (той самы, які Вешальнік), — «гэта энергічны дзяржаўны дзеяч, які з веданнем справы рабіў тое, да чаго быў закліканы» (значыцца, вешаў і расстрэльваў паўстанцаў 1863 года). Юныя гандляркі чапляюць нізкі грыбоў на шыі і з гэтымі маністамі выдаюць маладзенькімі цыганачкамі, такімі самымі, як тая, што калісьці была адной з маіх першых настаўніц у навуцы, якую, на жаль, дагэтуль не выкладаюць у нашых школах.

Стаміўшыся ад разумовых намаганняў, мае суседзі кідаюць крыжаслоў і наладжваюць перакуску. Сёння бог паслаў ім на абед пляшку гарэлкі

«Жириновский», батон і палена варанай кілбасы. Ад апошняга прадукту па салоне разліваецца пах, што матэрыялізуецца ў светлы вобраз роднага ката маёй цёткі, які не будзе есці гэткае кілбасы і пад страшным катаваннем.

Пасля падмацунку дружная кампанія прыкметна весялее і накідваецца на крыжаванку з новымі сіламі. «Страна на юго-востоке евразийского континента из четырех букв. По-моему, Азия». — «Нет такой страны». — «Нет есть. Я сама по телеку видела». — «Небольшая ария». — «А х... ее знает». — «Положительно заряженная электрическая частица. На «пэ». — «Сама ты на «пэ». — «Я, между прочим, могу и обидеться».

Зіна пакрыўджана заціхае, але доўга заставацца без занятку яе няўрымслівая натура не здольная. Яна ўрачыста паднімае сваё цела і пераносіць яго на крок бліжэй да мяне. «Мужчина, извините, у вас чего-нибудь почитать не найдется?» Я хачу падсунуць ёй штосьці з беларускай перыёдыкі, ды Зіна своечасова папярэджвае: «Только по-русски, мужчина, я белорусскую мову не изучала». «Ікарус» падступна падскоквае на выбоіне, і Зініны грудзі плюхаюцца мне ў твар дзвюма безразмернымі медузамі. Адхіснуўшыся, я дзеля эксперымента даю гаспадыні медузаў захоплены ў дарогу том Генры Мілера з двума ягонымі «Тропікамі». Забаўна, вядома, паназіраць, якую эмоцыю намалюе на яе шырокім і круглым, як поўня, твары неўтаймоўная эратычная палітра знакамітага амерыканца, ды аўтобус ужо набліжаецца да плешчаніцкай аўтастанцыі, і мае думкі набываюць іншы накірунак. Высвятляецца, што мы едзем не толькі ў Менск, але і насустрач «Великой Октябрьской социалистической революции», аб чым тактоўна нагадваюць нацягнутыя на цэнтральнай вуліцы кумачовыя транспаранты.

Цяжка абагнацца ад пачуцця, што колькі апошніх гадоў прамінулі нібы ў летаргіі са спакуслівымі снамі, а цяпер мы прахапіліся і ўбачылі вакол усё такое знаёмае і роднае, што хочацца ўткнуцца ў гэтыя транспаранты носам і зайсціся ў ачышчальным плачы блудных сыноў.

Прачнуцца, што праўда, пашчасцілася не ўсім. Дзесьці зусім недалёка грэецца пад снежным пухам магіла майго сябра архітэктара Валеры Слюнчанкі, што аднаўляў усе ацалелыя ад культурнай рэвалюцыі полацкія саборы і памёр, чытаючы Караткевіча, хоць значна больш любіў Басё і Унамуна. Пасля суботнікаў, ладжаных намі разам з рэстаўратарамі ў Сафійцы, Валера чытаў лекцыі пра беларускі рэнесанс і беларускае барока, дэкламаваў вершы Івана Буніна і вучыўся не рэагаваць на рэплікі будучага празаіка Вінцэся Мудрова кшталту: «Хорошие стишата, только вот автор — белоэмигрант». Валера і сам пісаў вершы: пра жанчын і пра восень — па-расейску, а пра маці — па-беларуску. Ён вучыў мяне жыць адным днём і параўноўваў нашае грамадства са слаёным пірагом, дзе пячорныя людзі складаюць зусім не самую тонкую праслойку.

Валера меў хворае сэрца, якое не па чутках ведала, што такое хірургічны скальпель. Калі мы купаліся, ён з вінаватаю ўсмешкай станавіўся на дно, не праплыўшы і дзясятка метраў. Ягоны сын вучыўся ў мастацкай вучэльні, і аднойчы яго з сябрамі адлічылі адтуль за няздатнасць, а ў сапраўднасці — за незалежнасць паводзінаў. Людзей з такім, як у Валеры, пачуццём гонару я сустракаў у жыцці раза паўтара. Можна ўявіць, колькі каштаваў яму паход да дзеяча нацыянальнага адраджэння, які падмахнуў загад аб выключэнні. Дзеяч адказаў Валеру, а потым і мне, суровай водпаведдзю, сэнс якой зводзіўся да таго, што

такім, як Слюнчанка-малодшы, у нацыянальнай навучальнай установе не месца. Каб супакоіцца, Валера прыехаў на летнік і прылёг з кнігаю Караткевіча. Сына праз пару дзён пасля бацькавых хаўтураў хуценька аднавілі ў спісах, а праз год я спаткаў яго сярод рэстаўратараў фрэсак у нашай Спасаўскай царкве, куды ён папрасіўся на практыку, і мы гаварылі з ім на адной мове, у чым не было нават мікраскапічнай заслугі дзеяча нацыянальнага адраджэння. Гэта, вядома, не па-хрысціянску, аднак, калі я бачу цяпер таго дзеяча, мне хочацца схапіць яго за рэдкія валасы і ўпячатаць тварам у нашу родную беларускую глебу, як на Дзяды, у 1988-м, людзі ў форме і ў цывільным спрабавалі ўпячатваць нашыя твары ў мёрзлае поле каля Курапатаў.

Каб суняць у руках здаровы сверб, я гляджу ў снежную далячынь. На дапамогу неспадзявана прыходзяць рыжая Зіна і Генры Мілер. «Слышь, Мишка, а что такое вагина?» «Наверно, что-то с весами связано, — сонным голасам адгукаюцца вусікі. — Может, гиря». «Сам ты гиря, — бярэ рэванш таўстуха. — Это же по-русски!» Поўня з дубальтовым падбароддзем паварочваецца да мяне. «Мужчина, вы не знаете, что такое вагина?» — «Здагадваюся», — унікліва кажу я. «Ну так что?» — «Гэта павінна быць зразумела з кантэксту». — «С чего, с чего?» — Зіна з абражанай мінаю вяртае кнігу і дастае газету з крыжаванкай.

«Известный художник-маринист». — «Шишкин». — «Не подходит». «Репин», — зноў прапануе голены хлапец. «Козел ты, Федя, неграмотный, — нязлосна ўключаецца ў інтэлектуальныя гульні вусаты. — Это же Айвазовский». — «Тютелька в тютельку, — падлічыўшы літары, захоплена выгуквае Зіна. — А как ты догадался?» — «Тут же написано: маринист. Море рисует, понятно?» «А чего напечатали с ошибками:

маринист? Проверочное слово «море», значит надо: «моренист». — «В газете козлы неграмотные сидят, а ты обзываешься», — чуецца голас бязвусага Федзі, і ў памяці высвечваецца выслоўе айчыннага класіка пра тое, што дзяржавы ў часы росквіту нараджаюць вялікіх паэтаў, герояў і каханкаў, а ў часы заняпаду — толькі пыл і шмат начальства. Другі пералік здаецца мне занадта кароткім.

Прыдарожныя гандляры сям-там грэюцца ля вогнішча. «Помещение для хранения оружия, первая «а»...» Я заўважаю, што пачынаю думаць у красвордавым стылі: горад, да якога мы пад'язджаем, сем літараў, першая «л»...

На лагойскай аўтастанцыі дзед з шызым носам прадае сушаныя баравікі. Сцяну за ягонай спінай упрыгожвае напалову здзёрты плакат з кавалкам гатычнага будынка, паловаю коннага рыцара і фрагментам закліку: «...вяртанне ў Еўропу!». Дзед высморкваецца ў два пальцы, выцірае іх аб палітон і, закончыўшы падрыхтоўку да ўрачыстага моманту, дастае з кішэні пачатую пляшку «Русской». Калі вы даўно не бачылі шчаслівага чалавека, паспрабуйце ўявіць таго дзеда з рыльцам ля вуснаў. Пакуль ён закусвае сваю ніштаватую дозу сухім грыбам, я думаю, колькі сотняў ці тысячаў жыхароў Лагойска трэба апытаць, каб нехта адказаў на пытанне пра тутэйшага графа, восем літараў, першая «т», які ў 1856 годзе адчыніў у Вільні музей старажытнасцяў?

За Лагойскам снегу ўжо няма. Дзе-небудзь пад тым Гомелем, куды хацеў трапіць расейскі танкіст, відаць, яшчэ збіраюць радыеактыўныя грыбы. Усё ж мы немалая ў еўрапейскіх сумерах краіна і дакляраваная п'яным лейтэнантам «генеральная утюжка» бульбашоў можа атрымацца не такой ужо хуткай і гладкаю, як мроіцца камусьці са стратэгаў.

Гэтая выснова грэе мяне нядоўга. «Новое европейское государство, восемь букв, — чытае Зіна і сама ж прапануе адказ: — Беларусь». Злёгку пачырванець ад сораму за свой снабізм мне не ўдаецца. «Ну ты даешь, — кажа бязвусы. — Какое это, к черту, государство?» Давай, «прэзідэнт», тваё слова, пад'юджваю я вусатага, аднак той прыкончыў «Жириновского» і ціхамірна кімарыць.

На ролю дэкарацый да гэтае мізансцэны «Ікарус» прапануе цэлы горад з сотнямі асабнякоў, што выраслі тут за гады нашае суверэннае незалежнасці, люструючы эстэтычныя арыентацыі шырокага спектра менталітэтаў — ад мінгрэльскага да александрыйскага. У раннім сутонні гэты цёмны горад-спадарожнік з непадведзенымі камунікацыямі ператвараецца ў разгорнутую метафару «нового европейского государства».

Леваруч мільгаюць бараўлянскія шпіталі, дзе чвэрць стагоддзя таму мой бацька выслухаў смяротны прысуд, пасля якога ўпершыню з вясковага дзяцінства зноў загаварыў, прынамсі са мной, пабеларуску. Аналогія ўжо гатовая адарвацца ад сваёй пратаплазмы і пачаць самастойнае жыццё, аднак дарогу ёй і аўтобусу перагароджвае на ўездзе ў Менск шлагбаўм з аўтаматчыкамі. Праўда, ніякіх трывожных асацыяцый з «ноччу доўгіх нажоў» не ўзнікае. Душа, наадварот, песціцца ў цёплых хвалях спакою за сваіх спадарожнікаў: у той час, калі бяскрылыя разгортваюць крылы, аматарам красвордаў у гэтай краіне нічога не пагражае.

Мой «Ікарус» яшчэ не здолеў прывыкнуць да людзей з аўтаматамі на знаёмай мірнай дарозе, таму на першым скрыжаванні ледзьве паспявае спыніцца перад каламутна-чырвоным вокам святлафора. Так і не даўшы рады «вспомогательной исторической дисци-

плине, изучающей гербы» (10 літараў), затое нечакана бліскуча адолеўшы «человека с одновременными признаками мужского и женского пола» (11 літараў), Зіна з двума сваімі целаахоўнікамі грацыёзна выгружаецца ў раёне вуліцы імя «партийно-правительственного деятеля БССР» (6 літараў, першае «к»), што, як сведчаць шматлікія відавочцы, да самога адыходу ў лепшы свет так і не навучыўся правільна вымаўляць назву «машины для езды, колеса которой приводятся в движение ногами с помощью педалей» (9 літар), упарта мянуючы яе «лісапетам».

Бывай, мой «Ікарус». Пакуль я не цалуюся з табою, як адна вядомая асоба цалавалася з канём на турынскіх вуліцах. Таму далей мяне павязе не машына з шыракаплечымі санітарамі, а звычайны зачуханы тралейбус. Павязе да самага гастранома, каля якога днямі ў маім жыцці — на шчасце кульгаваму голубу і на гора галоднаму алкашу — знайшлося месца подзвігу.

На прыпынку я старанна адганяю думку пра суму нулёў, якая ў выніку дае зусім не нуль, а пагрозліва буйную лічбу. Я веру газетам, вядомым публіцыстам і жывым народным пісьменнікам: вось вырасце новае пакаленне з новымі ідэаламі, сцягамі *etc*... Адзін з гэтага пакалення ўжо вырас настолькі, што просіць у мяне закурыць. Хто сказаў, што новая генерацыя нашых маладых грамадзян пры ўсіх сваіх высокіх ідэалах не будзе мець права выпіць? Пагатоў калі рэалізацыя такога права спрыяе непарушнай сувязі бацькоў і дзяцей, доказам чаго ёсць такі мілы зварот да мяне — проста «барада». Апрача таго, я ўжо ведаю, што мой новы знаёмы — архітэктар. Магчыма, хлапец хутка заменіць Валеру Слюнчанку і адновіць карпусы Полацкай езуіцкай акадэміі альбо віцебскую царкву Звеставання.

Будучы дойлід без лішняй сарамяжлівасьці гатовы падзяліцца творчымі планамі. «Вот мы с тобой, борода, на каком проспекте стоим?.. То-то и оно, что Рокоссовского. А где, я тебя спрашиваю, памятник? Где? — пераможна пытаецца Валераў спадкаемец. — Я думаю, большой ставить не будем. Метров двадцаць пять хватит. Ну что, борода, скажешь?»

Новае пакаленне чакае, і я адказваю пытаннем з крыжаванкі: «Ты ведаеш, як звалі старэйшага сына Адама і Евы, які забіў свайго брата?..»

*1995*

Нічога не памерла ўва мне, толькі ілюзіі.

*Генры Мілер*

У гэтай гісторыі пойдзе гаворка пра падзеі, якія насуперак усяму сапраўды адбыліся, а таксама пра падзеі, якія павінны былі адбыцца, але ў апошні момант сарваліся; якія чакаліся, аднак так і не здарыліся; якія адбыліся не так, не тады і не з тымі; якія здарыліся, але былі прызнаныя несапраўднымі; якія ніколі не адбываліся і не маглі адбыцца, аднак зрабіліся агульнавядомымі і нават трапілі ў энцыклапедыі.

*Рэмінісцэнцыя з забытага аўтара*

Загадкавае слова «Сібір» жыццёвыя вятры ўпершыню закінулі ў маю свадомасць, калі я меў гадоў пяць ад нараджэння, а да нашых полацкіх суседзяў прыехаў з гэтага самага «Сібіру» нейкі крэўны.

Сібірскі сваяк выцягнуў з вагона багаж і ўбачыў на пераходзе праз чыгуначную каляіну папярэджанне: «Сцеражыся цягніка!». Зацкавана азірнуўшыся, ён выплюнуў з рота «беламорыну» і, схапіўшы валізы, вомегам кінуўся далей ад вакзала і ад сціжмы беларускіх зладзюгаў-цягнікоў, гатовых вокамгненна прыставіць ягонаму майну ногі.

Гэтую показку на нашай вуліцы не распавядаў хіба што глуханямы дзед, які жыў са сваімі двума тузінамі катоў каля пампоўні. Слухачы дралі смехам бакі, і я рагатаў разам з усімі, хоць напачатку — адно за кампанію, бо, што такое «цягнік», ведаў не лепей за сібірскага чалдона.

Згадка пра маю першую сустрэчу з Сібірру твар у твар пахне не кедравай жывіцаю і не гарачымі пельменямі, а — свежай чалавечаю юшкай.

Каляндар паказваў чэрвень, пік гэтак званага застою. Пахаваўшы бацьку, я даганяў свой студэнцкі будаўнічы атрад «*Victoria*», што ўжо карміў беларускай крывёю сібірскую камарэчу на стромістых берагах ракі Кець.

Калі вы ўважліва ўгледзіцеся ў новую палітычную карту свету, выдадзеную нядаўна венскай фірмаю «*Freytag und Berndt*», дык знойдзеце ценькую чырвоную нітачку чыгункі, што цягаецца на поўнач ад Томска, безнадзейна абрываючыся ў кропцы з мікраскапічным подпісам *Belyi Jar*. Якраз туды я павінен быў трапіць, каб выпіць з сябрамі за светлую бацькаву памяць ацалелую ад памінкаў пляшку «Белавежскай» ды зарабіць сваю тысячу, або, як тады казалі, дзесяць «кавалкаў», а потым уразіць чым-небудзь адну полацкую ды пару менскіх дзяўчатак, з удаванаю абыякавасцю пракаментаваўшы сітуацыю сакраментальнаю фразай: «Ніхто не забароніць нам жыць прыгожа».

Выгрузіўшыся з фірмовага цягніка «Масква-Томск», у вагоне-рэстаране якога можна было ўдосыць паразважаць над паведамленнем меню пра «котлеты из медвежатины свиные» і «котлеты из медвежатины говяжьи», я на поўныя грудзі ўдыхнуў сібірскага паветра і даведаўся, што адзіны цягнік на Белы Яр адыходзіць праз гадзіну. Прабіцца за такі час праз бітма набітую залу да вакенца касы ўяўлялася задачаю гэткай жа простаю, як далучыць да Беларусі Ямала-Нянецкую аўтаномную акругу. Аніякай чаргі ў касу не існавала; з розных бакоў да вакенца цягнуліся рукі з грашыма, якія адпіхвалі адна адну, і ў выніку касірка, не маючы клопату, спакойна чытала газету.

Я разумею, што «российское могущество будет прирастать Сибирью», што на яе абсягах безліч светлага й глыбока народнага, ды яе візітоўкаю назаўсёды застанецца для мяне жанравая сцэнка, убачаная з падваконня томскага вакзала.

Вугрыстаму дзецюку з запаленымі вачыма падфартуніла пражшчаміцца да касы і са сціснута-пераможным выгукам «Белый Яр!» торкнуць касірцы брудна-жоўты жмуток рублёвак. У той самы момант сіпатае кантральта нема заверашчала: «Ванек, отсеки фраера!» і двухметровы бамбіза з лагодным бурачковым тварам меланхалічна ўпячатаў дзецюку паміж вачэй валасаты пудовы кулак. Кагадзешны трыумфатар абліўся юхаю і засумаваў. Ехаць у Белы Яр яму ўжо відавочна не прагласся. «Товарищи, расступитесь! Человеку плохо!» — нясмела прапішчэла з вакенца касірка, марна спрабуючы перадаць напалову непрытомнаму пасажыру квіток. «Перебьется, дохляк», — пагардліва кінуў хтосьці. Самым вялікім гуманістам выявіўся Ванёк. Не раўнуючы, як выполваюць з ляхі пустазеліну, ён вырваў з натоўпу сваю ўкрываўленую ахвяру і, высока падняўшы яе, запрапанаваў прысутным перадаць «товарища» да выхаду. У аддзяку за гэта, ужо адплываючы ў бок дзвярэй на выцягнутых угору мужчынскіх руках, «товарищ» выпруціўся і трапна харкнуў у твар Ваньку згусткамі крыві, смаркачоў і сліны. Мне зрабілася млосна і востра захацелася назад, у Менск ды ў Полацак.

У *Belyi Jar* я прыбыў на «кукурузніку», заплаціўшы лётчыку дзвюма пляшкамі «зверабою». Пасажыры дамаўляліся з экіпажам, і самалёцік, палохаючы свойскую жывёлу і таежную зверыну, яшчэ два разы незапланавана прызямляўся на аселіцах, прычым аднойчы — бо авіятары адкаркавалі мае пляшкі, не адыходзячы ад штурвала, — ледзьве размінуўся з якойсьці стадолінай.

На аэрадроме ўзвышалася велічная жалезная брама, злева й справа ад якой аніякае абгародкі і не начавала, затое зверху спаруду аздабляла прыкручанае дротам мастацкае пано, з якога брываста-медалясты генсек рабіў падарожніку ручкай, зазначаючы, што «Верной дорогой идете, товарищи». Ён жа паведамляў: «Вас приветствует центр Верхнекетского района Бл.Яр». Прымайстрыўшыся на драбінах, гэтыя пранікнёныя словы з непісьменна-хуліганістым скаротам спрытна падмалёўвала мізэрная істота з такой казлінаю бародкай, што, здавалася, у гумовіках у гэткага служкі музаў могуць парыцца адно капытцы.

На ўзлётным полі і вакол яго дацвітаў малачай, пасвіліся каровы і ніхто не спускаў нікому юхі. Трывожную ноту ў гэтую пастараль унёс пастух, што падпіраў браму, пяшчотна пазіраючы на пастаўлены каля ног зялёны «фаўст» з партвейнам невядомае ў Беларусі маркі «777». Пастух паважна адсмактаў з рыльца колькі глыткоў пітва, прыкладна столькі ж наліў у чарапок свайму сабачку, якога любасна называў Алкашом, і папярэдзіў, што па дарозе з аэрадрома ў цэнтр Верхнякецкага раёна лютуе беглы калгасны бык-вытворца з неардынарным для парнакапытнага мяном — Юдзеніч.

На шчасце, адмахаўшы па тайзе пару кіламетраў, я спаткаўся не з Юдзенічам, а з маім найлепшым сябрам Генікам, які вёз на «казле» скрынку маргарыну, што павінны былі з’есці байцы СБА, і скрынку дагестанскага каньяку «Абрау Дюрсо», што павінны былі выпіць з мясцовым начальствам будатрадаўскія важакі. Генік займаў адказную пасаду нашага загадчыка гаспадаркі. Ён ужо добра засвоіў, што ўсушка, утруска і асабліва шклабой на сібірскіх дарогах — рэч непазбежная, а таму праз паўгадзіны сібірская

рэчаіснасць набыла дагестанскую стэрэаскапічнасць, а камарыныя ўкусы толькі аздаблялі гэтае жыццё.

«Казёл» загамаваў на цэнтральнай плошчы Бл. Яра, і Генік — меў ён такую жарсць да партыйных і дзяржаўных установ — прапанаваў схадзіць за райкам партыі да ветру. Я прагна насычаўся сібірскім каларытам, да якога апрача камар'я належалі старадаўнія каржакаватыя дамы, што, несумнеўна, даўно пусцілі ў зямлю карані, а таксама вусцішная гайня ці то свойскіх, ці то здзічэлых сабак усіх магчымых масцяў, што гойсала вакол, не дазваляючы нам з Генікам ажыццявіць за райкамам свой антыпартыйны намер.

Мы загрузіліся ў аўто, і Генік зноў задуменна паглядзеў на залацістыя плады «Абрау Дюрсо». У вакне мільгануўся глухі й высачэзны, на тры чалавечыя росты, плот з калючым дротам. «Зона», — лапідарна патлумачыў загадчык гаспадаркі, і я паспеў заўважыць яшчэ адзін лозунг — «Запомни сам, скажи другому, что честный труд — дорога к дому».

Даніну тутэйшаму захапленню лозунгамі аддаў і наш будатрад. «Колькі спраў цудоўных намі здзейсніцца!» — было напісана на нацягнутым паміж дзвюма лістоўніцамі кумачовым пасе. Пад ім стаяў з алюмініевай міскаю ў руках яшчэ адзін мой сябрук Мішка Чарнавец, вядомы чытачам нашага гістфакаўскага самвыдавецкага альманаха «Мілавіца» як паэт Міхась Чарніловіч. Міхась то пільна, як варажбітка ў люстэрка, углядаўся ў міску, то кідаў хуткі позірк на гадзіннік. Гэткім самым няўцямным клопатам былі занятыя яшчэ колькі байцоў СБА. «Сорак сем!» — выгукнуў Чарніловіч і выплюхнуў змесціва міскі ў хмызняк. «Пяцьдзясят!» — азваўся нехта, таксама апрастаўшы міску. Як хутка высветлілася, хлопцы лічылі, колькі камароў уваб'ецца ў іхняе едзіва за

хвіліну. Рэшта байцоў эксперыментамі не займалася, а проста бегала з міскамі ды лыжкамі вакол недабудаванай сталоўкі, спрабуючы абагнаць даўгія камарыныя шлейфы, што цягнуліся за кожным, і затаптаць у страўнікі порцыю слізкіх гумовых макаронаў. Той, хто быў з намі летась у казахстанскім будатрадзе, відаць, тужліва прыгадваў нашага кухара карэйца Кіма, які на Дзень будаўніка згатаваў нам фірмовую тушаніну з суслікаў, па буднях жа штодня рэзаў барана, а калі барана не прывезлі, дык зарэзаў на гуляш аднаго са сваіх мясных карэйскіх сабак, і гуляш атрымаўся найсмачнейшым за ўвесь сезон, вось толькі дарма Кім адкрыў нам тую кулінарную таямніцу, прычым яшчэ тады, як увесь атрад сядзеў за сталом.

Дні, адведзеныя нам на здзяйсненне цудоўных спраў, былі цікавейшыя, чым ночы пад накамарнікамі, якія слаба ратавалі ад машкары, павутоў ды іншае заедзі, што прагла ўзяць у нас аналіз крыві. Удзень мы заводзілі знаёмствы з істотамі больш адметнымі. На будаўніцтве цагельні разам з намі рабілі зэкі з зоны і вольныя пасяленцы, або папросту хімікі. Зэкі былі падканвойныя, і даступіцца да іх мы не маглі, затое з хімікамі без цырымоній перакурвалі, а то і выцэджвалі пляшку «777-га», што ў белаярскім абыходку з любасцю зваўся «трыма сямёрачкамі».

У выніку супольных перакураў, па-першае, выявілася, што аэрадромны жывапісец з казлінаю бародкай у мінулым быў дацэнтам (тут яго звалі Рэпіным) Ленінградскай акадэміі мастацтваў і дацягваў на вольным пасяленні тэрмін за небескарыслівую дапамогу будучым майстрам пэндзля ў выкананні дыпломных прац. Апроч ленінаў і брэжневых (Леаніда Ільіча ён дужа не любіў і называў казлом, расцягваючы гэтае слова, як жавальную гумку), дацэнт маляваў парадныя партрэты спецкамендатураўскіх чыноў, прычым

кожнаму замоўцу неадменна «прышпільваў» на пагоны лішнюю зорачку. Ён быў страшэнны мацюкальнік; нягледзячы на несамавітую знешнасць, меў поспех у далёкіх ад мастацтва белаярскіх жанчын і збіраў, а можа, і сам выдумляў анекдоты пра «мянтоў». Адна з ягоных показак, пра юнага скульптара, памятаецца мне да сёння. Міліцыянт пытаецца ў хлопчыка, што ён лепіць. «Дзядзю міліцыянера», — адказвае з пясочніцы юны скульптар. «А з чаго?» — «З пясочку, вадзічкі і гаўняшкі». Дзядзька ў форме, натуральна, дзярэ малому вушы, але назаўтра зноў заспявае таго ў пясочніцы. На пагрозлівае пытанне хлопчык адказвае, што лепіць дзядзю пажарніка. Палагаднелы міліцыянт удакладняе — з чаго? «З вадзічкі і з пясочку». — «А гаўняшка?» Тут юны скульптар хітравата прымружвае вочы: «Э не, тады дзядзя міліцыянер атрымаецца».

З Рэпіным хадзіў, быццам злыганы, гэткі самы дробненькі, як і ягоны патрон, хімік Вася з вострымі блуклівымі вачыма і з мянушкаю Іншапланецянін. У вольным жыцці ён круціў абаранку «МАЗа» і пціху гандляваў рубероідам, цэментам ды іншымі дзяржаўнымі грузамі. Іншапланецянін, што аддана цягаў за Рэпіным фарбы і пэндзлі, пакідаў уражанне чалавека цалкам ураўнаважанага, пакуль не пранікаўся да цябе даверам. Калі так здаралася, ён прапаноўваў адысціся ўбок і, пачынаючы хваляваццa ды бліскаць вачыма, тлумачыў, што ўсе непамыслоты накшталт гандлю рубероідам пасыпаліся на яго пасля сустрэчы на трасе з іншапланецянінам.

Пасланец чужой цывілізацыі паўстаў перад спагадлівым Васем у аблічы адубелай істоты, што галасавала ў марозную ноч на глухой таежнай паваротцы. У кабіне пасажыр хутаўся ў дзіўнаваты серабрысты балахон і трымаўся таксама дзіўна: сам маўчаў,

а слухаючы анекдоты, не смяяўся. Прыгледзеўшыся да спадарожніка, Вася з жахам убачыў у таго на месцы носа чорную дзірку, адкуль штосьці свяцілася. Далей аповед рабіўся блытаным і няўцямным. У ім фігуравалі нейкія велічэзныя срэбныя цыліндры, канцэнтрычныя кругі голай зямлі сярод высачэзных сумётаў, украдзены цэмент і чамусьці — падобны да старога стамлёнага габрэя сівы дзядуля з вялікімі, шэрымі, як у начной мятлушкі, крыламі, што, палохаючы мантажнікаў, лётаў у тайзе ўсцяж ліній электраперадач. (Самае неверагоднае, што пра гэтага дзеда з семіцкімі рысамі я пачуў гадоў праз дзесяць ад аднаго зусім нармальнага полацкага хлопца-вахтавіка, якога штомесяц на два тыдні закідвалі самалётам кудысьці пад Нафтаюганск.)

Перакуры звялі нас і з двума ціхімі хлапцамі-блізнятамі, якіх ніхто ўсё адно не мог адрозніць і таму мянушку яны мелі ў множным ліку — Зваршчыкі. На «хіміі» зварачных апаратаў у іх у руках ніколі не бачылі, але на волі браты сапраўды працавалі зваршчыкамі і недзе пад Цюменню пасадзілі ў трубаправод і акуратна заварылі начальніка ўчастка. Уперад галавою той, разважаючы над праблемай справядлівага закрыцця нарадаў, мог паўзці да самай еўрапейскай часткі СССР, а ўперад нагамі — усяго нейкіх кіламетраў дваццаць. Начальнік здолеў абраць правільны маршрут і, нібы прарок Іёна з чэрава левіяфана, выбраўся з трубаправода на свежы ветрык за дзень да таго, як у трубу пусцілі газ. Дзякуючы гэтаму блізняты атрымалі на судзе няшмат. Зрэшты, калі б начальнік папоўз у Еўропу, мо не атрымалі б нічога, бо сведкаў у тундры не было.

Пару дзён нашая брыгада працавала на белаярскай прыстані докерамі. Поплеч з намі варочалі скрынкі з «777-м» і з няспелымі яблыкамі трое бічоў — два гры-

вастыя нямытыя і няголеныя хлопцы і дзяўчына з русай касой, якую — каб не пракураныя жоўтыя зубы і не прыцьмелыя вочы колеру мешкавіны — можна было б назваць «русской красавицей». Дзяўчына, праўда, скрынкі не цягала, а, асядлаўшы адну з іх, бясконца курыла, запіваючы цыгарэтны дым дагестанскімі «трыма сямёркамі». За ўвесь дзень яна адкрыла рот, здаецца, толькі раз — дзеля таго, каб, схапіўшы мяне за рукаво штармоўкі, прамовіць: «Запомни, мальчишечка: когда идешь к женщине, не забывай захватить плетку». Уражаны тым, што бічоўка чытала Ніцшэ, я ледзьве не выпусціў з рук скрынку з батарэяю бутэлек. Прыгажуня дапамагла мне справіцца з цяжарам, каралеўскім рухам пераправіўшы са скрынкі да сваіх ног яшчэ адну пляшку, і зноў патанула ў філасафічным здумленні.

Увечары, калі на беразе Кеці мы замочвалі з бічамі докерскі заробак — па 50 рублёў на брата, стала вядома, што калегі вучыліся ў маскоўскім авіяцыйным інстытуце, два гады таму прыехалі сюды ў будатрад і, надыхаўшыся сібірскаю вольніцай, назад у сталіцу не вярнуліся. «А пошла она в аэродинамическую задницу!» — з прафесійнай вытанчанасцю выказалася няспраўджаная авіяканструктарка.

Напрыканцы балюшкі бічы пачалі бесцырымонна-слінява цалавацца — усе ўтраіх — і ўрэшце, прыхапіўшы па пляшцы «777-га», дружна налезлі пад перакулены баркас.

Раніцой мы сталіся сведкамі іхняга сняданку. Пакуль хлопцы пахаджалі па беразе, робячы фізічныя практыкаванні, жаўтазубка паслала на траве каля баркаса неверагодна брудную насоўку і падзяліла на тры кавалкі хлебную гарбушку. «Ох, мальчишечка, как бы я тебя вые... — невядома да каго з нас летуценна прамовіла яна і, соладка пацягнуўшыся, какетліва да-

дала: — Но нельзя, дружок, нельзя, ребята заругают, ревнивые — ужас».

У Бл. Яры я паспеў пазнаёміцца і з кучаравым Сашкам родам з-пад Жлабанска, як ён называў Жлобін, дзе прамінула ягонае дзетдомаўскае дзяцінства.

Адно цыганістае Сашкава брыво перасякаў безвалосы шнар — узнагарода за шкадобу да чацвераногіх сяброў.

Паводле няпісанага статуту ў дзетдоме рэгулярна наладжваліся гэтак званыя сабачнікі. Чаму забава так менавалася, уцяміць цяжка, бо ў ёй бралі ўдзел не сабакі, а каты. Злоўленых у наваколлі катоў старэйшыя выхаванцы, адцягнуўшы на загрыўку ў братоў сваіх меншых шкуру, прыбівалі цвікамі да плота, а за дваццаць крокаў ужо чакалі складзеныя загадзя крушні. Ратаваць жывыя мішэні не забаранялася, аднак каменны град не павінен быў ні на хвілю слабець.

У сірочым прытулку бытавалі й іншыя традыцыі. Старэйшыя, напрыклад, вучылі малодшых лаяцца матам. Трохгадовых дзяўчатак абыдзень ставілі на «зважай» і прымушалі па сто разоў голасна паўтараць: «я — б...», «я — б...», «я — б...». Наступнага тыдня дзеўчанятка гэткаю ж методаю доўжыла навуку: «я — п...», «я — п...». Узбагаціўшы лексічны запас вучняў, «педагогі» пераходзілі да арфаграфіі. Дзеці, якія ўжо ведалі грамату, акрамя вусных практыкаванняў, атрымлівалі пісьмовыя заданні. Найбольшай вынаходлівасцю ў гэтым вызначаўся нейкі Халімон. Ён мог загадаць дзяўчу папрактыкавацца не на аркушыку, а ў класным сшытку і абавязкова здаць яго на праверку настаўніцы. Адкупіцца дазвалялася толькі адным спосабам, пра які не хочацца ўзгадваць. Асаблівую асалоду дарылі «выхавацелям» хлопчыкі і дзяўчынкі, што траплялі ў дзетдом з добрых сем’яў, дзе прычынілася якоесьці няшчасце. Малых навучалі курыць, піць

віно, рэзацца ў карты, б'ючы прайгралага па вушах лінаркай або кормячы «вустрыцамі» — пасыпанымі зямлёю слімакамі ці вусенямі.

Старшакласнікі, успамінаў, гледзячы на нас сумнымі антрацытавымі вачыма, Сашка, выбіралі сабе дзяўчатак, звычайна малодшых, і тыя ўвечары, калі сыходзілі выхавацелькі, беглі ў спальню да сваіх уладароў і заставаліся там да раніцы. Узімку дзяўчо, што круцілася ў ложку адно, пякуча зайздросціла парачкам, бо заснуць у выстылым дартуары было амаль немагчыма — торф і дровы адміністрацыя заганяла налева.

За што Сашка адзвінеў два гады на зоне, даведацца мы не паспелі, бо непазначанаю на картах вузкакалейкаю нашая брыгада ад'ехала на халтуру ў таежны пасёлак Ягаднае. (Генік пасля чарговага шклабою прадбачліва склаў з сябе паўнамоцтвы загадчыка гаспадаркі і яшчэ больш прадбачліва, як засведчылі далейшыя падзеі, захапіў з сабою паляўнічую стрэльбу.)

Першы, хто сустрэў нас на новым месцы, быў капітан пасялковае спецкамендатуры. Ягоная прывітальная прамова змусіла задуменна прысвіснуць нават такога бывальца, як колішні марак савецкага рыбалоўнага флоту, наведнік дацкіх, талінскіх і рыжскіх публічных дамоў Міша Гарэлік на мянушку Бугор, які даводзіўся братам байцу Лявону Гарэліку, таму самаму, што друкаваў у «Мілавіцы» свае опусы ў духу вельмі ранняга Джозэфа Конрада пад псеўданімам Джон Галяк.

Усё жыхарства Ягаднага падзялялася на тры вялікія катэгорыі: супрацоўнікі спецкамендатуры, былыя зэкі, што атабарыліся тут пасля «хіміі», і хімікі цяперашнія. У пасёлку «хімічылі» тры сотні мужчын і сотня прадстаўніц лепшай паловы чалавецтва (гэтыя трапілі сюды выключна з Ленінграда і выключна за амаральныя паводзіны). На венерычныя хваробы

ў пасёлку, калі верыць капітану, не хварэлі хіба толькі бурундукі ды вавёркі. У лазню рэкамендавалася не хадзіць, каб не падчапіць заразы. У пясчаных кар’ерах рэкамендавалася не купацца, каб не зарэзалі і, згодна з мясцовай традыцыяй, не прысыпалі пясочкам. Перасоўвацца па пасёлку, асабліва ўвечары, капітан раіў групамі.

Мець з хімікамі і хіміцамі якія-небудзь стасункі катэгарычна не рэкамендавалася. Напэўна, таму нас і пасялілі на ўскраіне Ягаднага, дзе стаяла дзясяткі два занятых хімікамі фінскіх дамкоў і прыкладна столькі ж чакала будучых насельнікаў, што яшчэ цягнулі тэрмін на зоне.

Пакуль гаспадары гэтага «хімкомплексу» былі ў тайзе, мы ў кампаніі з двума прапаршчыкамі блукалі ад дамка да дамка, шукаючы вольную жылплошчу. Незанятых памяшканняў не бракавала, аднак частка з іх была перапрафіляваная ў прыбіральні з адпаведным краявідам і водарам. Некалькі дамкоў ужо адслужылі гэтую пачэсную службу; паветра там пачынала пахнуць тайгой, але культурны слой быў такі магутны, што заставалася толькі паспачуваць археолагам наступных стагоддзяў. Да таго часу сцены, праўда, павінны былі спарахнець, і даследчыкі, прынамсі, не мелі б неабходнасці сушыць мазгі над парадоксам: чаму тубыльцы, нягледзячы на наяўнасць газет і рознага лапушыстага таежнага зяленіва, карысталіся, перапрашаю, пальцамі, якія потым старанна выцiралі аб пабелены тынк?

Нарэшце мы знайшлі два дамкі, дзе яшчэ нядаўна хтосьці жыў, і таму іх не паспелі ператварыць у будучую археалагічную галаваломку. Мы з Генікам, Бугром, Чарніловічам і рудым, як іржавая бляха, Джонам Галяком скінулі заплечнікі там, дзе на падлозе сіратліва ляжаў агульны сшытак з перапісанымі акуратным

дзявочым почыркам песнямі, першая з якіх называлася «Полюбила заключенного». Хлопцы пацягнуліся ў краму, а я на выпадак, відаць, усё ж такі непазбежных кантактаў з тутэйшым жыхарствам наважыўся бліжэй пазнаёміцца з яго фальклорам і разгарнуў спеўнік:

*На равнине широкой*
*Стоит крест деревянный.*
*Его девушка нежно*
*Прижимает к груди,*
*А за ней, как икона,*
*Там запретная зона,*
*И, как свечка у гроба,*
*Часовой на посту…*
*Мы бежали с тобой*
*Зеленеющим маем,*
*Когда тундра надела*
*Свой роскошный наряд…*

Немаведама якой віхураю занесла сюды два вершы Ясеніна і адзін — Арсенія Таркоўскага, ад якога, быццам ад галінкі язміну ў набітым потнымі целамі агульным вагоне, на момант павеяла свежасцю. Далей ішла рарытэтная, амаль спрэс нецэнзурная песня пра тое, як бацька меў трох сыноў, прычым трэці быў гермафрадыт. Я перагарнуў яшчэ старонку. Побач з даволі прафесійным малюнкам таго, што сексолагі таямніча называюць кейраю, тым самым круглявым почыркам уседлівай васьмікласніцы было выведзена:

*Может, фраер в галстучке атласном*
*Вас сейчас целует у ворот…*

Засвоіць ілюстраваны тэкст далей я не паспеў, бо знадворку разлегліся такія вусцішныя ці, дакладней,

велічныя мацюкі, што ў параўнанні з імі нецэнзурны дрыблінг Рэпіна-дацэнта выглядаў як пяціпавярховая хрушчоба побач з нью-ёркскім хмарачосам.

Не было сумневу, што тырады, геніяльна складзеныя амаль выключна з ненарматыўных лексем, належаць жаночаму голасу. Сэнс палымянай філіпікі, аздобленай абяцанкамі нешта адкусіць, адкруціць і адпілаваць па кавалачку, зводзіўся да таго, што я ўварваўся на чужую тэрыторыю.

Услед за ўдарам нагой дзверы адчыніліся, і я ўбачыў на парозе зусім не карготу са з’едзеным пранцамі носам, а зацягнутую ў зашмальцаваныя джынсы танклявую бландзінку гадоў на дваццаць, якую і сёння ўлучыў бы ў дзясятку самых гожых істот жаночага полу, сустрэтых за свае цяперашнія ўжо сорак.

Угледзеўшы сшытак з песнямі, таежная прыгажуня вырвала яго ў мяне з рук і выплюнула проста ў твар вытанчаную кулінарную фантазію на тэму яечні з адпаведных частак майго цела.

«Ты што?» — вырвалася ў мяне. І тут прычынілася малаверагоднае: чароўная мацюкальніца залілася чырванню такой кансістэнцыі, што барвы, здавалася, хапіла ёй і на невялікія мячыкі вызваленых ад станіка грудзей пад лёгкай майкай, і на выштукаваныя нібыта па лякалу клубы, і на даўгія ножкі ў кітайскіх кедах. Працяг атрымаўся гэткі ж неспадзяваны: бландзінка імпэтна павярнулася і кінулася прэч, але яўна не па падмогу.

«Ёсць першы кантакт!» — падумаў я і з ціхім жахам адчуў, у якое пекла ператворыцца нашае жыццё, калі ўсе хіміцы Ягаднага акажуцца падобныя да першай візітанткі.

Увечары Генік узяў аркушык паперы, падзяліў яго рыскаю на дзве часткі і зверху кожнае паставіў + і -. Мінусы былі пералічаныя капітанам спецкаменда-

туры. Плюсаў набралася два: адсутнасць гнюсу, які, адрозна ад нізіннага Бл. Яра, тут збівала ветрам назад у тайгу, і прысутнасць у Ягадным жаночага будатрада «*Amazonki*» з Томскага ўніверсітэта. Амазонкі таксама жылі ў «хімкомплексе». «Трыццаць тры бабцы, гэта, я вам скажу, не сесію спіхнуць...» — задуменна прамовіў Джон Галяк. «Я балдзею...» — прыгаломшана азваўся калега Чарніловіч. Генік ні з пушчы ні з поля паведаміў, нібыта антычныя амазонкі, каб лацвей было прыкладвацца да лука, выразалі сабе ці то левую, ці то правую грудку. «Мы гэтага не дапусцім», — адлучана растуліў вусны Бугор, які паспеў ужо прыняць пару шклянак партвейну, і ў нашым жытле запала затоена-летуценнае маўчанне.

Як паказалі бліжэйшыя дні, атрад «*Amazonki*» мала нагадваў запаведнік непалоханых нявінніц.

Па-першае, там меўся «амазон» — «цяжкі» падлетак Віця, старшакласнік адной з томскіх школ, апошнім подзвігам якога, паводле чутак, была саляная кіслата, прадбачліва налітая на крэсла, куды грацыёзна апусціла сваю дупцю ў тонкай міні-сукеначцы юная настаўніца біялогіі. У будатрадзе Віця сапраўды пачаў новае жыццё. Як з адценнем законнага абурэння пагаворвалі шараговыя амазонкі, першай выхаваннем падлетка грунтоўна занялася камандзірка атрада Аляўціна — рослая фігурыстая дзеўка, што да ўніверсітэта паспела паслужыць у савецкай арміі радысткай. У абдымках другой па ліку выхавацелькі, камісаркі атрада пампушыстай Ноны, Віця, здавалася, мог адно адпачываць.

У нас з амазонкамі таксама склаліся сякія-такія стасункі. У мяне яны спярша ўзніклі з будучым педагогам-матэматыкам Ленай, якую сяброўкі звалі Элен. Я абдымаў Лену на лавачцы каля сталоўкі, а яна, ахутаўшыся цыгарэтным дымам, апавядала, што ў яе

ў радні вадзіліся шведы. У Эленіным аблічча сапраўды прысутнічала штосьці скандынаўскае: роўныя льняныя валасы да сярэдзіны таго месца, на якім атрымала кіслотны апёк гаротная Віцева выкладчыца; ромбападобны твар, ад якога цягнула халаднаватым ветрыкам; гэткія ж, з марскім халадком, светла-шэрыя вочы, што нязменна захоўвалі санлівую абыякавасць, калі я спрабаваў ёй расказваць пра Беларусь, і адразу прачыналіся, як загаворваў пра віленскія начныя рэстарацыі, у прыватнасці пра «Дайнаву», дзе ў тыя часы сівы Шабаняўскас (той самы, чый голас даносіцца з рэпрадуктара ў першыя дні вайны ў рамане Ёнаса Авіжуса «Страчаны прытулак») яшчэ спяваў аб прыгажуні Эліт, якую носяць па свеце «цуда-ножкі», і жанчыны ўскоквалі з-за столікаў і дарылі сівому маэстра чырвоныя ружы.

Не ўважаючы на застрашлівае папярэджанне спецкамендатуры, мы з Элен вечарамі купаліся ў кар'ерах, збіваючы магчымых забойцаў з панталыку тым, што кожны дзень выбіралі новы. Ці трэба ўдакладняць, што мы адважваліся не толькі на гэта? Рассціланне на беразе кар'ера шырокага махровага ручніка напраўду вымагала адвагі, бо дым вогнішча зусім не з'яўляўся радыкальным антыкамарыным сродкам. Аднак укусы прыпякалі ўжо дома, а з водных працэдур мы вярталіся сцішаныя і лагодныя. У падлеску валтузіліся бурундукі ці якія іншыя дробныя звярынкі, па-над вяршалінамі лістоўніц запальваліся першыя зоркі, але пад нагамі яшчэ можна было закмеціць неверагодна буйныя чарніцы, і нашыя вусны былі чорна-сінія, як у здаволеных вампіраў. «Ты знаешь, как будет по-белорусски звезда?» — сентыментальна пытаўся я. Яна ленавата маўчала, і адказваць даводзілася самому: «Зорка». «А любовь, знаешь, как?» — не здаваўся я. «Не-а», — цягнула Элен. «Каханне». «Не может быть», — бескалёр-

ным голасам адгукалася мая спадарожніца, хаваючы позех чоўнікам вузкай далоні.

Нас было ўсяго дзесяць, а амазонак — у 3,3 раза болей, а таму ў атмасферы над Ягадным густа пульсавалі сілавыя лініі здаровай жаночай канкурэнцыі. Аднаго вечара я дзяжурыў у сталоўцы разам з чорненькай амазонкаю Вікай і пачуў з яе вуснаў сваю характарыстыку, якою Элен дзялілася з канфідэнткамі. Паводле Элен, атрымлівалася, што я «ничего мужик», аднак вальтануты, бо замест нармалёвай прэлюдыі абавязкова павінен расказаць пра сваё беларускае балота. Асуджальнасць надзьмутых губак дзяжурнай адрасавалася, вядома, не мне. Віка зрабіла бездакорны ход: я горка шкадаваў, што я — не «цяжкі» падлетак Віця, а Элен — не мая настаўніца біялогіі.

Назаўтра вечаровае люстра кар'ера замест даўгіх ільняных пасмаў убачыла кароткія чорныя кудзеркі. Адрозна ад Элен, дачка патомных філолагаў Віка ажно два дні пабыла непадступнаю. Навучаны сумным досведам, пра Беларусь я даў сабе зарок і не заікацца, але паколькі гуляць у маўчанку таксама не выпадала, на трэці вечар (да чаго толькі ні давядзе ўзбунтаваная кроў!) у абладзе дурнаватага натхнення я неспадзявана заявіў, быццам належу да прыхільнікаў зараастрызму.

Нашая секта існавала ў глыбокім падполлі, але не мела нічога агульнага з аскезай. Асцярожна расшпільваючы гузік за гузікам, я прыцішана выкладваў усё ацалелае ў памяці пасля экзамену па навуковым атэізме — пра светлае божышча з дзівосным імем Ахурамазда, што вяло несупыннае змаганне са сваім адвечным спадужнікам, увасабленнем цёмных сіл Анхрам-Майнью. Будучы філолаг Віка глядзела на «сектанта» круглымі вачыма і відавочна перамагала апошнія перашкоды на шляху да ўступлення ў шэрагі

зараастрыйцаў, якіх яна, міла памыляючыся, называла зорааўстрыйцамі. Узгадваць тое і сумна, і смешна. Дзівуючыся з сябе, я на хаду прыдумваў абрад далучэння да нашае веры, які ў перакладзе з фарсі зваўся «палётам над вяршынямі», і ў Вікі не ўзнікла аніякага сумневу, што дзеля гэтага палёту сапраўды трэба скінуць усё, што на ёй яшчэ заставалася.

Вушкі, далоні, ступачкі і астатняе, што бывае ў жанчыны, у Вікі было маленькае, і, калі я меў патрэбу назваць яе па імені, мне заўсёды хацелася сказаць не проста Віка, а — маленькая Віка.

Вялікі й магутны Ахурамазда быў задаволены намі, пагатоў ацэнка Вічыных інтэлектуальных здольнасцяў, выстаўленая мною пасля «зорааўстрыйцаў», аказалася недаравальна паспешлівай. Маленькая Віка любіла Міхаіла Булгакава, марыла стаць для каго-небудзь Маргарытаю і пачытвала экзістэнцыялістаў. Эпізод пераходу ў зараастрызм яна пазней пракаментавала радкамі Пастарнака:

*Если даже вы в это выгрались,*
*ваша правда. Так надо играть.*

Дадам, што не ад старажылаў, а менавіта ад яе я даведаўся пра закінуты вайсковы аэрадром на ўсход ад Ягаднага, дзе кожная залева вымывала з пяску мармурова-жаўтлявыя чалавечыя чарапы і костачкі, сярод якіх маглі апынуцца і косці майго расстралянага ў 1933-м дзеда Максіма. Аднойчы дарогаю з кар’ера Віка трохі палахліва расказала пра лагер, дзе трымалі іспанскіх інтэрбрыгадаўцаў — нашых, а найбольш замежных, што прыехалі пасля грамадзянскай вайны ў краіну пераможнага сацыялізму. Кіраўнікі лагернага падполля нібыта зарганізавалі ўсеагульныя ўцёкі і ўпэўнена вывелі інтэрбрыгадаўцаў на аточаную кулямётчыкамі прасеку.

Мой найлепшы сябра Генік сустракаўся пад таежнымі сузор'ямі з амазонкай, што мела неамазоністае імя — Варвара, была сібірачкаю шатан ведае ў якім калене і размаўляла прыкладна так: «Ну как? Ништяк? А че стал середь дороги?» Гэта пра яе, перафразаваўшы Ігара Севяраніна, паэт Міхась Чарніловіч сказаў:

*Амазонка из Томска,*
*Амазонка из Томска,*
*Вы безумно прелестны,*
*Особенно сзади...*

На ролю Варварынай суперніцы лёс прызначыў сібірскую татарку Аміну, што з рук у рукі перадала Геніку ў запячатаным канверце свой ліст. Варвары паблізу не было, і Генік бесклапотна рушыў па сцежцы на бераг Кеці, да таго кедра, дзе, як пісала Аміна, яна калісьці назвала нашага былога загадчыка гаспадаркі мядзведзем, хоць з іх дваіх на невялікага мядзведзя выдавала якраз шыракаплечая круглявая прапраўнучка чынгісханаўскага ваяра.

Праз гадзіну ўзмакрэлы і задыханы Генік стаяў у дзвярах нашай фінскай хаціны. Пад кедрам Аміна пачаставала яго вогненнай вадой, потым, напэўна ў адпаведнасці са звычаямі яе старажытнага народа, праспявала пару працяжных гартанных песняў, а потым — мабыць, у працяг звычаю — без лішніх слоў забурыла Геніка на мох.

Калі вы мяркуеце, што хіміцы змірыліся з нашым адносна гарманічным (Міша Бугор казаў — гармальным) суіснаваннем з амазонкамі, дык памыляецеся. Вясёлыя ленінградкі таксама змагаліся за нашы сэрцы, карыстаючыся ў гэтай барацьбе самымі разнастайнымі сродкамі.

Штодня ў абед паводле дамовы з амазонкамі мы прыносілі на кухню тры трохвёдзерныя выварκі вады. Трагізм сітуацыі палягаў у тым, што накрыўка ад выварκі згубілася. Ад студні да сталоўкі было з паўкіламетра, і прыкладна на палове шляху да нас прыстройвалася чародка хіміц. Усе як на падбор сімпатычныя, нафарбаваныя, у кароткіх шчыгульных спаднічках і рознакаляровых маечках з паскамі на тонкіх таліях, яны віліся вакол нас, нібы стракатыя матылькі.

Якая-кольвек з гэтых мятлушак пачынала амаль пяшчотна: «Студентики, а студентики, пожалейте бедных девушек». «Совсем извелись без мужской ласки», — падхоплівала другая стракатая жамярыца. Далей чулася што-небудзь накшталт: «А я бы тому бородастенькому сто раз дала. Слышь, бородастенький? Ты хоть целоваться умеешь?»

Напачатку мы неслі свой крыж у выглядзе цяжкой выварκі моўчкі, аднак валхвіцы вольнага кахання ўмомант ставалі нахабнымі і нагадвалі ўжо не мятлушак, а назойлівых восаў. «Вы только попробуйте нас, мальчики, вас потом за уши не оттащишь», — прапаноўвалі яны, дэманструючы нам не самыя цнатлівыя паставы. «Ану, вали отсюда, стервоза, а то вырублю нах..» — страшным голасам казаў «бородастенький», ды гэта выклікала толькі рогат.

На падыходзе да кухні эскорт рабіўся агрэсіўным. Ленінградкі выкрыквалі пагрозы ў бок амазонак, якія, маўляў, зая...лі беднага Віцюню, абзывалі амазонак сучкамі і блядзямі, а нас — імпатэнтамі. Але найгоршае маячыла наперадзе. Перад самай сталоўкаю адна з нашых спадарожніц раптам «здагадвалася»: «Слушайте, девочки, так это же они заразиться от нас боятся!», колькі яе сяброўак імгненна падляталі да нас і з вясёлым крыкам: «А вот вам сифилис!» плявалі ў ненакрытую выварку.

Пясок хутка выпіваў ваду, і мы асуджана паварочвалі назад да студні. Дзяжурная амазонка здаганяла нас з пачкам соды і патрабавала як след вышараваць выварку, крыўдзіцелькі ж заходзіліся воддаль смехам і абяцалі ператрахаць па чарзе спярша нас, а тады і амазонак.

Урэшце экспедыцыі па ваду пачалі ладзіцца з аховаю: двое цягнулі выварку, а чацвёра адпрэчвалі плявакаў штыкецінамі.

Удзень мы калупалі рыдлёўкамі дол, збівалі апалубку, завіхаліся вакол вялізнай вуркатлівай бетонамяшалкі і аддаваліся крозам пра вечаровыя спатканні.

Блізу паўночы парачкі збіраліся каля раскладзенага на галявіне за «хімкомплексам» вогнішча і задуменна глядзелі на агонь.

З цемры выходзілі і ветліва падсаджваліся на пакладзеныя пры вогнішчы бёрны маладыя хімікі з гітарай. Яны прыладкоўвалі на чырвоным вуголлі конаўкі або імбрыкі на чыфір і заводзілі песню. Гучала «*Прокурор затребовал расстрела*», «*Как над Томском опускается туман, никогда я не прощу тебе обман…*», але найдушэўней атрымлівалася ў іх «*Здравствуй, Невский, здравствуй, Кировский*», бо шмат хто з нашых суседзяў таксама быў з Піцера.

Ідылію гітарных пераборaў, пакладзеных на мулкія мужчынскія плечукі дзявочых галовак і мяккага чыфіравага кайфу руйнавала шумнае з’яўленне гурмы падлеткаў. Яны як па-пісанаму часалі на фені, хваліліся, хто колькі разоў «отодрал» сваю «чучундру», і дэманстратыўна забаўляліся з кнопачнымі ножыкамі, з тронкаў якіх, цьмяна паблісквaючы, вылятaлі вузкія клінкі-джалы.

Спачатку мы мелі гэтую кампанію за малалетніх хімікаў, пагатоў падлеткі ахвотна апавядалі, за што і па якім артыкуле сядзелі, ды сапраўдныя вольныя

пасяленцы пагардліва растлумачылі нам, што гэта ўсяго толькі пасялковая шпана, занятая пошукамі сваіх жыццёвых ідэалаў.

Ленінградкі да вогнішча не прыходзілі. Трэба сказаць, што, хоць яны і чапляліся да нас каля сталоўкі, мужчынскае ўвагі ім ставала. На кожную прыпадала ў сярэднім па трое хімікаў-мужчынаў. Звычайна яны і сяліліся па формуле 3 + 1, праўда, «бугры» мелі права выбару і маглі трымаць невялікі гарэм, ці, па-мясцоваму, «курятник». Спецкамендатура праблемамі палігаміі не займалася.

Амаль кожны дзень нашага існавання быў адзначаны адметнай падзеяю.

То «цяжкі» падлетак Віця, зусім ачмурэлы ад «трох сямёрак» і любошчаў з амазонкаўскім кіраўніцтвам, наловіць у мех з паўтузіна здзічэлых катоў, падыме іх уначы разам з будатрадаўскім сцягам на недарэчна высокі флагшток, а пасля перарэжа на блоку вяроўку, і каты будуць, не заціхаючы ні на секунду, екатаць як рэзаныя, пакуль нейкі піцерскі хлапец за пляшку «777-га» не ўзлезе, нацёршы рукі смалою, па слізкім шосце і не скіне жывой радыёкропкі на дол, а чацвераногія вязні не разбягуцца па наваколлі — усе як адзін цалюткія ды гатовыя да новых прыгодаў.

То двое абхазцаў, якім заставаліся лічаныя дні да волі і ад’езду ў Сухумі, хопяцца ў пасялковай краме за нажы і заробяць новы тэрмін.

То прыедзе маладая жонка начальніка нікалаеўскага порта, што «дахімічваў» у Ягадным за валютныя аперацыі.

Жонку валютчыка адразу ахрысцілі Дзекабрысткай. Мяркуючы па кансервах (ужо ад адных назваў — крабы па-японску, суп з амараў — набягаў поўны рот слінкі), якія яна разагравала каля ганка на раскладзеным паміж дзвюма цаглінамі цяпельцы, а таксама па

мяняных штодня крымпленавых сукенках, партовы дзеяч паспеў сёе-тое прыхаваць.

Увечары шчаслівая пара пад пахмурнымі зіркамі суседзяў пад ручку выходзіла на шпацыр.

Гэта была памылка. Калі валютчыка на два дні адправілі на далёкі аб'ект у тайгу, сем хімікаў у поцемках прыйшлі да Дзекабрысткі і гвалцілі яе (памясцоваму гэта далікатна называлася «рэпетыцыяй хору», а недалікатна — «сходить на хорька») да самае раніцы, папярэдзіўшы, што калі заявіць у спецкамендатуру, праз тры дні на пасялковых кладах з'явяцца дзве новыя магілкі — ейная і — каб не сумавала — каханага мужа. Папярэджанне паўтарылі і начальніку порта, якога дзеля прафілактыкі завалілі сярод белага дня ў пыл і нязлосна, але спрактыкавана і доўга — нібыта рабілі не надта прыемную, аднак абавязковую працу — білі нагамі. На тутэйшым жаргоне апісаная працэдура менавалася «самавучкай». Мы якраз ішлі палуднаваць і ўсё бачылі, ды засталіся гледачамі, бо ўмяшанне ў разборкі абяцала «пику в бок».

Аднаго дня ў небе над пасёлкам з'явіўся пажарны верталёт, падобны да варанага рака з прапелерамі. Ён цягнуў на тросіку закручаны ў брызент лёгкі груз, што гайдаўся, быццам ківач ад ходзікаў. Верталёт скінуў груз на падворку спецкамендатуры, і Ягаднае даведалася: пажарнікі знайшлі на прасецы тое, што засталося ад пецярых зэкаў, якія ў сакавіку рванулі на волю з недалёкай зоны. Праляцеў почут, быццам пятага ўцекача таварышы бралі за «карову» — прасцей кажучы, каб па дарозе з'есці. «Тайга — закон, медведь — хозяин», — пракаментаваў падзею галоўны бугор хімікаў дзядзька Коля-масквіч з вытатуяваным на грудзях партрэтам Сталіна. Той дзядзька Коля, пра якога казалі, што ён жыве ў Сібіры, чаргуючы зону з «хіміяй», яшчэ з ваенных гадоў.

Увесь гэты час я марна выглядаў хіміцу, з якой сустрэўся ў першы дзень. Яна ніколі не з'яўлялася ні сярод плявучых налётчыц у ваколіцах сталоўкі, ні сярод тых жанчын, што развешвалі на вяроўках памытую бялізну сваіх уладароў або нешта гатавалі на цаглінах. Нарэшце гаспадыня спеўніка аб'явілася сама.

«Эй, студент! — пачуў я аднойчы, цягнучы з Генікам цяжкія бляшаныя ношкі бетону. На сцежцы, засунуўшы рукі ў кішэні, пругка пераважвалася з пяткі на насок чароўная мацюкальніца. — Пошли покурим, — з насмешлівым выклікам прапанавала яна і супакоіла: — Не боись, я нынче хорошая». Я не баяўся, бо адчуваў, што той, першы раз паміж намі праскочыла іскра, пасля якой ужо не ўчыніш адно аднаму аніякага кепства.

З цёплага пляскатага каменя на высокім беразе было відно, як далёка ўнізе паўзла па Кеці баржа-самаходка, і я падумаў, што, магчыма, на такой вось баржы сорак гадоў таму везлі на смерць майго галоднага завашыўленага дзеда Максіма.

Чамусьці некаторыя маюць схільнасць расказваць мне свае гісторыі.

Недзе на Васільеўскай выспе бегала ў школу і ў літаратурную студыю дзяўчынка Ірына, якую ў дзясятым класе на школьным вечары ў гонар дня нараджэння камсамола запрасіў на танец незнаёмы юнак Юра, што адрэкамендаваўся філосафам.

У кішэнях у філосафа вяліся грошы, і ён засы́паў Іру кветкамі і закарміў у кавярнях марозівам і яе ўлюбёнымі вяршкамі з курагой і арэхамі, якія было смачна запіваць светлым сухім віном. Потым адбыўся паход у славуты піцерскі «Норд», адкуль яны паехалі да Юры. Калі таксоўка везла Іру дадому, а Юра трымаў яе за руку, слёзы на вачах ужо высахлі і сэрца заходзілася ад радасці, якая называлася: «Я — жанчына!»

Накрэсленая філосафам Юрам будучыня сваёй прастатой і яснасцю нагадвала план школьнага сачынення на тэму «Пячорын — лішні чалавек». Пункт 1. Універсітэцкі факультэт філалогіі. Пункт 2. Вяселле пасля першага курса, — таму што болей Юра ну ніяк не зможа чакаць... Маме пакуль, вядома, ні слова.

Ірыніна мама ні пра што не здагадвалася і здзіўлялася, што заняткі ў літаратурнай студыі зрабіліся амаль штодзённымі.

Пад Новы год у Юры быў дзень нараджэння. Іра ўпотайкі ад маці здала ў «Букініст» пару дарэвалюцыйных кніжак і доўга хадзіла па крамах, бо разумела, што філосафам нельга дарыць банальных падарункаў. Яна выбрала жоўта-зялёнае кашнэ, а ў заалагічным магазіне купіла такое ж масці чыюка і пачала вучыць яго словам «Сакрат» і «Геракліт». За тыдзень, што заставаўся да Юравага дня нараджэння, попка навучыўся даволі чыста вымаўляць «Гера», а замест «Сакрат» вісклівa крычаў «Укралі». На горад падаў іскрысты снег, і жыццё нагадвала зімовую казку.

Пару наступных старонак празмерна далікатныя натуры могуць прапусціць.

Філосаф Юра таксама падрыхтаваў Ірыне падарунак. Пасля некалькіх келіхаў шампанскага каханы сказаў, што, калі ён сапраўды дарагі ёй, Іра павінна аддацца кожнаму з яго запрошаных сяброў. Яна не дала веры вушам, ускочыла, каб уцякаць, ды ногі не слухаліся — віно выканала сваю ролю. А мо і не толькі віно, бо яе агарнула такое пачуццё, быццам усё, што робіцца, адбываецца не з ёю, а з яе двайнікам, з Іркаю № 2, а яна, Ірка № 1, глядзіць на гэта адкульсьці з-за гронкі крышталёвых вісюлек люстры.

Юра пранікліва, як гіпнатызёр, казаў, што ягоныя сябры — людзі шырокіх поглядаў, што ўсе яны надзвычай прыстойныя і глыбокія натуры, што пра гэты

вечар ніхто і ніколі не даведаецца, затое за колькі гадзінаў яна набудзе сексуальны досвед, на які іншым спатрэбяцца гады…

Глыбокіх натур на дзень нараджэння завітала трое. Каб высветліць, хто першы пачне надзяляць Іру сексуальным досведам, яны выцягнулі з калоды па карце. Юра дэмакратычна цягнуў з усімі на роўных; ён дастаў кралю і апынуўся ў чарзе астатнім. Ірыне далі яшчэ выпіць; далей свядомасць дзейнічала ўжо са збоямі: нехта як быццам то зашморгваў, то адшморгваў перад вачыма чорную запавесу. У адным прасвеце яна патрапіла запомніць Юру, які, стоячы над канапаю, цэліўся ў яе з фотаапарата. У другім убачыла, як госці зноў цягнулі карты, прычым адразу двое ўзялі тузоў, і Юра сказаў, што абодва маюць роўныя правы, а таму зараз яна даведаецца нешта новае…

На раніцу Ірка прачнулася ў абдымках у Юры. Ён адразу наліў ёй келіх шампанскага, а потым яшчэ адзін. Ён быў, як заўсёды, пяшчотны і ўважлівы, цалаваў яе ў нос і ў макаўку і ўгаворваў лічыць усё ўчарашняе сном. Яна кахала Юру, а таму пагадзілася: так, гэта сон. Ёй уявілася, што Ірка № 1 вярнулася ўчора з-за крышталёвых вісюлек дахаты і сёння пайшла ў школу. Яна ж, Ірка № 2, працягвае ёй сніцца і ў гэтым сне дазваляе Юру абдымаць сябе і называць ранейшымі ласкавымі імёнамі, з ледзяной яснасцю разумеючы, што сама ўжо не пойдзе ні ў школу, ні дадому.

Да вясны яна жыла ў філосафа Юры, амаль не выходзячы з ягонае аднапакаёўкі, каб не нарвацца на знаёмых. Вечарамі, цыкаючы на жоўта-зялёнага чыюка, наструнена прыслухоўвалася да крокаў на лесвіцы, баючыся, што Юра не прыйдзе. Ды ён нязменна вяртаўся і прыносіў не толькі віно, але раз-пораз і кветкі.

Вясна зрабіла філосафа задуменным і прыдзірлівым. Аднойчы Ірка выключыла ў ванным пакоі

дожджык і пачула, як Юра прыцішаным голасам са знаёмымі цёплымі інтанацыямі запрашае нейкую жанчыну да сябе на дзень нараджэння. Які сцэнар меўся быць гэтым разам, Іра не даведалася. Выслухаўшы яе слязлівыя папрокі, Юра вытрас з чорнага канверта з-пад фотапаперы здымкі з мінулага дня нараджэння, што святкаваўся тры месяцы таму. «Ты что, блядушка, из себя целку строишь? — крычаў ён. — Полюбуйся, полюбуйся на девочку Иришу. Вот она, между прочим, не с Юрочкой любимым, а с Сергеем... а у нее на личике невинном что нарисовано? Нет, господа присяжные заседатели, не ужас, не отвращение. Наша девочка глазки от сладости закатывает...»

Колькі дзён Ірка начавала на вакзале, дзе яе спрабавалі згвалціць двое хлапцоў з багажні. На трэцюю ноч яна даядала пакінутыя на фольгавых талерачках кавалкі хлеба, і яе проста ў буфеце пачало ванітаваць.

Галодная і хворая на грып, яна, як пабіты сабачка, прыцягнулася назад да Юры. Цяпер усялякія сантыменты скончыліся і іхняе жыццё сапраўды пачало нагадваць стасункі паміж гаспадаром і сабакам. Ён карміў яе, часам браў да сябе ў ложак, наводліў біў жалезным эспандэрам, калі яна адмаўлялася выконваць яго мужчынскія каманды, і нават выгульваў — цягаў за сабою па фарцовачных клопатах, ужо не хаваючы, што ягонымі філасофскімі штудыямі быў гандаль джынсамі і кружэлкамі.

Юра кайфаваў ад сваёй бязмежнай улады над Ірай. Калі ў часе супольных выхадаў у горад яму хацелася жанчыны, «філосаф» не чакаў вяртання дадому: у каго-небудзь у кватэры ён, пераміргнуўшыся з гаспадаром, вёў Ірку ў другі пакой ці ў кухню, а на вуліцы — заводзіў у бліжэйшы пад'езд і, расшпіліўшы на джынсах маланку, нагінаў Ірчыну галаву.

Улетку, калі, паводле шчасліва-бесклапотнага зімовага плана, Ірына мела здаваць іспыты на філалагічны факультэт, абмежаваная адно межамі ўласнае фантазіі ўлада над дзяўчом кончa набіла Юру аскоміну і ён прывёў да сябе нейкую Веру, а свайго «сабачку» выгнаў на вуліцу, уручыўшы «на обзаведение хозяйством» 10 рублёў 50 капеек і клетку з чыюкам. На адвітанне Ірына яшчэ мусіла заняцца з «філосафам» любоўю, а прысутная пры гэтым Вера ўпэўнена дастала з шафы фотаапарат.

Я слухаў і намагаўся ўявіць, як папярэдніца гэтай сённяшняй пракуранай навылёт хіміцы, ленінградская дзяўчынка Іра, без пяці хвілін медалістка, чытала на занятках літаратурнай студыі свае верлібры, абмяркоўвала опусы раўналеткаў і называла антыпаэтычным верш аднакласніка «Девочки на танцах», дзе былі радкі: «Коленки всё, коленки всё, коленки, а между ними сердцу так тесно».

На вуліцы Ірку падабраў Жора на мянушку Кот, які меў жывое і карае левае вока і шкляное і блакітнае правае. Жора быў шчодры, але два падарожжы на зону ў Мардовію (недзе там у халодным месяцавым святле сябры і прайгралі ў карты ягонае вока) дарэшты пазбавілі Ката ў адносінах з жанчынамі ўсякай абыходлівасці, і самым ласкавым, што чула Ірка перад хвілінамі блізкасці, былі адрывістыя загады накшталт «Ложись!» або «В стойку!». Калі Жору забралі трэці раз, яна праходзіла па справе сведкай, а потым скарбовым коштам прыехала на «хімію», дзе і занялася складаннем спеўніка, што трапіў да маіх рук у дзень прыезду.

Калі Ірка замаўчала, на плыўнай рачной лукавіне паказалася лава сплаўнога лесу, аднак цяпер я не ўспамінаў дзеда Максіма. Я глядзеў на тонкія Ірчыны шчыкалаткі і прыцэўкі, думаў, наколькі яна прыгажэйшая за маленькую Віку, і не верыў ні ў Жору-Ка-

та, ні ў філосафа Юру, што мог завесці яе на Ліцейным у першы-лепшы пад'езд і расшпіліць джынсы. У закутку душы шкрэблася спадзяванне, што ўсё гэта з разраду туфты, якой кармілі нас прыблатнёныя ягаднінскія падлеткі.

«Ты знаешь, я не верю», — неяк зусім па-дзяцінаму, разгублена і ціха прамовіў я, каб штосьці сказаць. Ірчын твар пабіла чырвонымі плямамі, і яна рванула на галаву маечку з алімпійскімі кольцамі. «А вот это видал?»

Пасля таго я доўга баяўся зірнуць у яркім святле на аголеныя жаночыя грудзі, бо бачыў мала чаго страшнейшага за маладую грудку, спрэс пакрытую густой мёртва-сіняю татуіроўкай.

«А теперь все! Уё.ывай! — раз'юшана працадзіла Ірка. — Понял? Уё.ывай!» Ці то ад непатушанага недакурка, ці то ад самой Ірчынае лютасці пад нагамі ў яе пачало тлець шыгавінне. Яна ўскочыла, і з яе яшчэ свежых чарэшневых вуснаў пасыпалася такое, што маім вушам закарцела скруціцца ў трубачкі, а галаве — ушрубавацца ў плечы і яшчэ далей, каб схавацца дзе-небудзь на дне страўніка.

Сцежка вяла мяне прэч, а ў патыліцу павутамі ўпіваліся набрынялыя нянавісцю словы, сярод якіх «уё...й!» было ці не самым цнатлівым і чыстым.

Прысмак якойсьці зробленай на цёплым камяні над ракою памылкі не пакідаў мяне ўвесь наступны тыдзень. Магчыма, гэтае няўтульнае пачуванне падтрымліваў нарад на будаўніцтва пяці тыпавых драўляных прыбіральняў.

Нам з Генікам выпала капаць ямы ды збіваць седалы з «ачкамі». Пачаўшы з элементарнага класічнага ромба, мы спакваля асвоілі сэрца, а пад канец з дапамогаю нажоўкі і долата быў народжаны шэдэўр у выглядзе пяціканцовай зоркі.

(Праз паўгода, калі нас пацягнуць за самвыдавецкія альманахі — рукапісны наваполацкі «Блакітны ліхтар» і нашу машынапісную родную гістфакаўскую «Мілавіцу», — маёр КДБ пад час прафілактычнае размовы будзе казаць: «Не думайте вилять хвостом. О вас нам известно решительно все. Например, ваши стройотрядовские, так сказать, туалетные художества. В своем националистическом угаре вы дошли до изощренного надругательства над пятиконечной ленинской звездой». Я паспрабую рэабілітавацца, называючы сціплыя дасягненні ў выпілоўванні бяскрыўдным жартам, ды эфект атрымаецца адваротны. «Значит, кто-то спускает штаны, делает в дорогой каждому советскому человеку символ, и это, как вы выражаетесь, «жарт»?» «Гэта даўні салярны сімвал, — буду бараніцца я. — Яшчэ старажытныя індыйцы...» «Можете рассказывать это своим «старажытным» индийцам». «Свастыка, між іншым, таксама сімвал сонца», — неабачліва вырвецца ў мяне, і я нарвуся на ледзяное пракурорскае пытанне: «Почему же вы в таком случае не вырезали свастику?»)

Наш расквечаны сякімі-такімі прыгодамі, але збольшага ўпарадкаваны побыт зрабіў рэзкі паварот, калі празаік Джон Галяк скінуў з сябе дрымоту і нечаканым манеўрам адбіў у начальніка будупраўлення, якому мы падпарадкоўваліся, цёмненькую амазонку Святлану.

Калі вы ніколі не рамантавалі вузкакалеек, забіваючы за дзень у спружыністыя шпалы па пяцьсот кастылёў, вам цяжка будзе даўмецца, чаму мы з такой тугою прыгадвалі сытае вуркатанне бетонамяшалкі і глыбокія ношкі з рошчынаю ці з пірамідаю цэглы.

Таежная вузкакалейка дапамагла ранняму мне больш глыбока адчуць і спасцігнуць ранняга Уладзіміра Караткевіча, якога я тады адкрываў дзякуючы Геніку —

першаму на маім шляху гарадскому чалавеку, што гаварыў па-беларуску не на сцэне і не з тэлеэкрана.

Згадзіцеся: чытаць баладу «Паўлюк Багрым», адлежваючы бакі на панцырным інтэрнатаўскім ложку і смокчучы з рыльца «лідскае» або «жыгулёўскае», — гэта адно, а разгарнуць кніжку ў кароткі перакур, калі ад відна да відна махаеш з-за пляча кувалдай, цаляючы па натурыстых кастылях, — зусім іншае, і здаецца, што гэта якраз пра цябе:

*А ў краіне так цяжка*
*(Асіны ад ганьбы палаюць),*
*І над ёй фанабэрыцца*
*П'яны, разбэшчаны гун.*
*Як пры князю Ўсяславе —*
*Дзень вялікі, а луста малая.*
*Як пры князю Ягайле —*
*На кожную спіну бізун.*

На жаль, новая праца спрыяла адно глыбокаму пранікненню ў таямніцы мастацкае творчасці. З астатнім атрымлівалася тугавата. Праязджаючы паўз нас на вісклівай дрызіне, падобны да хамяка з туга набітымі шчокамі начальнік будупраўлення зларадна галёкаў: «Что, студенты, заеб...сь?»

Колькі дзён мы з непрывычкі сапраўды ледзьве дабрыдалі ўвечары да сваіх тапчагаў, а выпаўзшы на ватных нагах да вогнішча, бездапаможна засыналі на плечуках у пасіяў. Гэта тады Міхась Чарніловіч назваў кувалду найлепшым супрацьзачынальным сродкам. Аднак маладыя арганізмы хутка ўзялі сваё, і Міхасёва дэфініцыя страціла актуальнасць яшчэ да таго, як цёмненькая Святланка засумавала па мужчынскай ласцы настолькі, каб вярнуцца да хамякападобнага начальніка.

З хімікамі мы па-ранейшаму сустракаліся толькі ля вогнішча, што зазвычай настройвае чалавека на міралюбны лад. Паміж намі дзейнічала няпісаная дамова: яны, хімікі, не будуць чапаць ні нас, ні амазонак, а мы, студэнты, не будзем — што б ні прычынілася ў «хімкомплексе» — стукаць мянтам.

Мірнае суіснаванне ляснулася на Дзень будаўніка.

За ўсе два будатрадаўскія месяцы гэтая жнівеньская нядзеля лічылася адзіным выхадным, калі можна было выспацца і наладзіць законную балюшку.

Параіўшыся са сваімі амазонкамі, мы вырашылі адзначыць свята на тэрасе — так зваўся аточаны кедрамі чысты лапік берага, што абрываўся да ракі строма, як мур фартэцы. Блукала пагалоска, быццам за Сталіным з той стромы выпраўлялі ў рай ці ў апраметную падарожнікаў па ГУЛАГу, таму тубыльцы і хімікі не надта ганаравалі тэрасу. Нас такія размовы не спынялі, і кожны (вядома, не адзін) паспеў ужо ацаніць вартасці гэтай падобнай да вялікай альтанкі зацішнае мясціны, дзе апрача ўсяго іншага можна было, не падымаючыся з долу, дасхочу наесціся буйных салодкіх брусніцаў.

Усё ішло б ладам, каб Бугру з Толікам Раслінскім з суседняга фінскага дамка не заманулася ў той дзень выпіць з самае раніцы. Мне цяжка сказаць пра Толіка што-кольвек істотнае, акрамя таго, што ён свяціў з рота залатым зубам і без вялікіх поспехаў займаўся ў секцыі боксу, а таму прывёз у Сібір пальчаткі і часам баксіраваў з «цяжкім» падлеткам Віцем.

Міша Бугор быў асобаю зусім іншага кшталту і маштабу.

Пяць гадоў Міша плаваў на СРТ, што расшыфроўваецца як сярэдні рыбалоўны траўлер. Марское жыццё, якое вынікала з Мішавых аповедаў, цяжка было назваць школаю высокай маральнасці.

Міша піў віскі на Ньюфаўндлендзе і, прымушаючы абарыгенаў акругляць вочы і застрашана бліскаць бялкамі, галёнамі скупляў медычны спірт у аптэках Гаваны і Сант'яга-дэ-Куба. Змыты хваляю за борт ля берагоў Даніі, ён трапіў у партовы шпіталь, а адтуль, дзякуючы знаёмству з польскім матросам, што адразу прызнаў Мішу за земляка, — у тамтэйшы публічны дом.

У доме пад чырвоным ліхтаром прыяцелі сербанулі рому, выбралі з прапанаванага гаспадыняю фотаальбома па дзяўчыне і бадзёра накіраваліся ў нумары.

У самае адказнае імгненне Міша з ягонай маленькай мулаткаю пачулі ненавязлівы стук у дзверы, а ўслед далікатнае пытанне на чысцюткай расейскай мове: «Товарищ Горелик, вы здесь?» Абвялы Міша не паспеў нацягнуць штаноў, як з калідора пачулася ўжо не пытанне, а загад: «Товарищ Горелик, открывайте! Мы знаем, что вы здесь». За дзвярыма стаяў малады супрацоўнік савецкага пасольства, што прыехаў выпісваць Мішу са шпіталя.

Усю ноч Міша на астатнія грошы частаваў дыпламата ў партовых барах, спяваў з ім задушэўныя расейскія песні і выслухоўваў цвёрдыя мужчынскія абяцанні, што ён, супрацоўнік пасольства, — магіла і ўсё застанецца паміж імі двума.

Калі карабель прывёз Мішу ў Талін і зухаваты матрос, ціхамірна пасвістваючы, сышоў на прычал, каля чорнай «Волгі» яго спыніў някідкі чалавек у макінтошы з упраўлення КГБ па рабоце з маракамі, дзе наведніку публічнага дома растлумачылі, што ён зганьбіў годнасць савецкага чалавека і камуніста і заслужыў спісанне на бераг.

Тое Мішава прыбыццё ў порт прыпіскі атрымалася нетыповым. Звычайна, адчуўшы пад нагамі

талінскую набярэжную, Бугор і кампанія такіх самых сяброў-кавалераў абводзілі наваколле фанабэрлівымі позіркамі закінутых у нейкую задрыпаную копанку альбатросаў і плячо ў плячо тупалі на стаянку таксі. Падарожжа ў талінскае прадмесце Пірыта мела свой рытуал. Марскі воўк, які хоць крыху паважаў сябе, браў адразу не меней за тры таксоўкі. У першай ён нядбайна кідаў на сядзенне набыты недзе ў высокіх штармавых шыротах капялюш, у другой месцілася валіза, у трэцяй уладкоўваўся сам гаспадар. Кавалькада машын спынялася водбліз плывучага рэстарана-шхуны, адкуль усцешаныя афіцыянты паспешліва выпраўлялі на бераг розную сухапутную драбязу.

На колькі дзён рыбакі ўсталёўвалі на шхуне акупацыйны рэжым, прычым там і жылі, мыючы перад сном ногі шампанскім. Закуплены з усімі трыбухамі персанал баляваў разам з кліентурай, удасканальваючы веданне вялікай і магутнай мовы старэйшага брата. Усе ўсіх паважалі, і жыццё нагадвала грацыёзную гульню дэльфінаў у аквамарынавым Гольфстрыме.

Але неўпрыцям насоўвалася чуллівая хвіліна развітання з заробленымі ў сусветным акіяне грашыма, пасля чаго афіцыянты і метрдатэль без лішніх цырымоній выкідалі пацяжэлых дэльфінаў на халодны пустэльны прычал. Хлапцы абдымаліся і раз'язджаліся па сваяках, каб, залегшы на дно, перачакаць месяц-паўтара да новага выхаду ў мора.

Каб вы лепей зразумелі, што такое Міша Бугор, трэба ўзгадаць і гісторыю з мухамі.

Рэч у тым, што аднаго разу пасля наведання Пірыты Міша затрымаўся ў Таліне і ў абладзе маркотлівых думак пра няўмольнае набліжэнне зусім цвярозых і галодных дзён на апошнія рублі зайшоў у рэстаранчык, дзе стаўся сведкам жудаснага скандалу. Вастравокі кліент знайшоў у падліўцы муху. Ён на ўсю залу

пагражаў звярнуцца ў цэнтральныя і мясцовыя газеты і на тэлебачанне, а афіцыянты, кухары і дырэктар стаялі перад ім навыцяжку і ўзахапы перапрашаліся. Інцыдэнт скончыўся тым, што рэспектабельнага наведніка, які не любіў падлівак з мухамі, накармілі і напаілі па поўнай праграме, не ўзяўшы ні рубля.

Вярнуўшыся ў матроскі інтэрнат і натыкнуўшыся позіркам на муху, Міша не стаў сушыць мазгі над тым, як гэтая істота прымудраецца шнураваць па столі дагары нагамі. Хутка тузіны з два чацвераногіх спрытнюгаў ужо сушыліся на шматтыражнай газеціне «Моряк Балтики».

Пачатак аперацыі прайшоў бліскуча. Рэстарацыю найшыкоўнейшага на той час талінскага гатэля «*Viru*» Мішаў страўнік пакідаў пад завязку наладаваны адборным пітвом і едзівам. Назаўтра, у «Старым Томасе», абслуга аказалася някемлівай і Мішу давялося тлумачыць, што ва ўсім цывілізаваным свеце кліента ў такіх выпадках кормяць і пояць задарма. На трэці дзень Мішу застукалі ў той момант, калі ён, высербаўшы юшку, задуменна аздабляў карыснай жамярыцаю з цюбіка з-пад лекаў свіную адбіўную. Пра вынаходніка паведаміла прэса, і — хоць Міша паспеў выкарыстаць усяго трох сухіх мух — рахункі за дармовыя пачосткі яму з дапамогаю прадажных газетчыкаў і міліцыі выставілі ажно сем рэстаранаў і кавярняў.

Гісторыю з мухамі я слухаў, седзячы ў салуне. Так мы называлі другі пакой нашай сібірскай хаціны, дзе зладзілі нехлямяжы стол і пару лавак, а малады празаік Джон Галяк здабыў недзе дзіцячы набор для выпальвання і, натхнёны братам, вывеў на вершняку над уваходам: «Тут жывуць дзіцяткі Джона Ячменнае Зярнятка». Міша любіў Бёрнса.

Тамсама, у салуне, сярод пахаў моцнага тытуню, прывялага багуну і потнага мужчынскага цела я пачуў

аднаго вечара драматычны аповед пра Мішаву службу ў савецкай арміі.

Свой ганаровы абавязак перад сацыялістычнаю радзімай ён выконваў у густых пскоўскіх лясах, дзе мясцовыя жыхары (саманазва — «пскопские») растлумачылі маладзенькім салдацікам, што свята ў іх не лічыцца за свята, калі каго-небудзь не зарэжуць. Але яшчэ да першага свята ў трох навабранцаў на дывізійных вучэннях не раскрыліся парашуты, і Міша адчуў, што ніякая сіла, нават пагроза расстрэлу, ужо не змусіць яго скочыць у адкрыты люк самалёта.

На «гражданку» паляцеў роспачны ліст улюбёнаму дзядзьку — вясковаму фельчару. Увесь доўгі дзядзькаў адказ быў прысвечаны ўспамінам пра тое, як у дзяцінстве Міша хварэў на самнамбулізм і па начах непрытомна шпацыраваў з выцягнутымі наперад рукамі па хаце, палохаючы меншых брацікаў і сястрычак.

Тае ж начы шараговы Гарэлік ціхутка падняўся з ложка і з выстаўленымі, як у невідушчага, рукамі рушыў скрозь сімфонію размаітых салдацкіх храпаў да тумбачкі днявальнага. Той таксама хроп, і, каб звярнуць на сябе ўвагу, «лунатык» мусіў двойчы ўрэзаць днявальнаму пендаля. Наперадзе чакаў шпіталь і падазрэнні ў сімуляцыі, але жалезная воля дапамагла сыну простага беларускага селяніна з-пад Вілейкі вытрываць пакутлівы аналіз спіннога мозгу і заняць бажаную пасаду вайсковага пісара, на якой яму ўдалося тры разы выпісаць самому сабе паперы на адпачынак у роднай вёсцы — там, дзе, шморгаючы смаркатым носам, бегала бясштаннае стварэнне, якому наканавана было праз паўтара дзясятка гадоў зацягнуць Мішу ў ложак, потым у сельсавет, а потым зноў у ложак, але ўжо на законных падставах.

Меланхалічна выцадзіўшы ў Джона Ячменнае Зярнятка пару шклянак партвейну, Бугор любіў пафіласофнічаць. «Запомні, Вовік, — вучыў ён, — старасць — гэта калі ўсе маладыя сікухі здаюцца прыгожымі». Развіваючы тэму, ён грубавата разважаў, што жанчыны дзеляцца на тых, якія могуць табе даць, і тых, якія ніколі не дадуць, а таму і першых, і другіх (гэтых — каб адпомсціць) трэба як мага часцей ставіць у нязвыклыя сітуацыі, каб выбіць з каляіны.

Трэба адзначыць, што, нягледзячы на тэарэтычную падкаванасць, жыццё ў Мішы склалася якраз насуперак ягоным прынцыпам.

Пакінуўшы талінскую шхуну-рэстаран, ён прыехаў неяк увосень на сваю дзедзіну над Вяллёй і пайшоў у такі круты загул, што, прачнуўшыся аднойчы раніцой, здзіўлена ўбачыў на падушцы побач з сабою галаву дзеўчынёхі-аднавяскоўкі. Міша асцярожліва выбраўся з-пад коўдры і надзеў нагавіцы, каб ісці дахаты, ды дзяўчына расплюшчыла вочы і растлумачыла, што нікуды ісці не трэба, бо гэта і ёсць ягоная хата, а яны ўжо муж і жонка: учора ў сельсавеце іх распісалі, а вяселле зробяць, як Міша прывязе з плавання грошы.

З таго дня Мішава жыццё пакацілася па куп’і ды выбоінах. У Таліне яго канчаткова спісалі на бераг, неспадзяваная жонка нарадзіла крыклівага дзіцёнка і вымагала грошай, а цешча паграждала аддаць пад суд за дармаедства, бо да сялянскае працы Бугор з яго марскім характарам быў прыстасаваны, як кашалот да дрыгвянай сажалкі.

У выніку пералічаных маласпрыяльных абставін Міша рэгулярна, прыкладна раз на месяц, уцякаў з-пад Вілейкі ва Уладзівасток. Па дарозе ён заяўляўся ў наш студэнцкі інтэрнат да брата і запрашаў нас у рэстаран старога гатэля «Беларусь».

Тым вечаро́м з гаваркім, поўным жыццёвае мудрасці Мішам не было б цаны, каб не адна акалічнасць: ён ніколі не меў грошай, каб разлічыцца, і мы выкладвалі свае стыпендыйныя рублі і траячкі, беручы з яго за гэта слова, што ва Уладзівасток ён паедзе наступнага разу, а заўтра ўранні сядзе на маладзечанскую электрычку.

Чарговымі ўцёкамі ад жонкі сталася Мішава з'яўленне ў шэрагах будатрада «*Victoria*», дзе ён і атрымаў сваю мянушку, што прырасла да колішняга марака, быццам скура.

Дык вось, на Дзень будаўніка Бугру разам з Толем Раслінскім захацелася свята ад самага ранку. Толік меў план, паводле якога спярша трэба было падпаіць нашага земляка Жэню з Асіповічаў, што быў кіроўцам і «хімічыў» за смертазабойчую аварыю. Не ўважаючы на нашы слабыя пратэсты, байцы Гарэлік і Раслінскі ўзброіліся двума фугасамі партвейну і рушылі ў свабодны пошук, дакляраваўшы сустрэцца з намі на тэрасе, дзе хімік Жэня напоіць усіх упокат.

Апоўдні тройца выпівакаў матлянулася пад нашымі вокнамі. Прысадзісты карчавіты Міша ішоў яшчэ роўна, але ступаў асцярожліва, нібы па кладцы. Толік у адной руцэ нёс пляцёнку з трыма фугасамі і чамусьці баксёрскія пальчаткі, а другой падтрымліваў румянашчокага мацака Жэню. «Когда мы придем к власти, — крычаў Раслінскі тугаватаму на вуха хіміку, — ты будешь министром финансов!» Жэня сціскаў у кулаку сіні жмутак пяцёрак, і засталося незразумелым: ці Толевы словы ўжо былі пахвалою, ці толькі заахвочвалі жыхара Асіповічаў да шчодрасці.

Калі мы выцягнулі прызапашаную з нагоды свята скрынку «777-га» на ганак і, маляўніча размясціўшыся на ёй і вакол, закурылі ў чаканні сваіх сябровак, над «хімкомплексам» раптам падзьмуў сіберны ве-

цер трывогі. На дарозе з боку пасёлка паказалася кладаўшчыца Панцялееўна, чыя постаць больш за ўсё існае нагадвала вялікую капусную бочку, да якой знізу, зверху і з бакоў сяк-так прымайстраваныя яшчэ пяць бочачак. Панцялееўна пыліла неяк наўздзіў зварушліва і здалёк крычала, каб мы хаваліся. Узяць у розум, што прычынілася, удалося толькі тады, як бочка з пяццю бочачкамі дакацілася да самага ганка.

Кладаўшчыца з булькатаннем у грудзіне прахрыпела, што хімікі паддалі і ідуць ад крамы нас рэзаць.

Землячок Жэня, мабыць, не расціснуў кулака з пяцёркамі, і Толік Раслінскі, нацягнуўшы баксёрскія пальчаткі, збіў няздатнага прэтэндэнта на партфель міністра фінансаў на горкі яблык. Нашы жлукты недзе зашыліся, а хімікі вось-вось будуць тут. Каля школы іх спрабаваў угамаваць настаўнік Сацук, ды адзін малады хімік выцягнуў лязо і намаляваў гэтаму Сацуку на лбе пяціканцовую зорачку.

«Ховайтесь... вашу мать!» — лямантавала Панцялееўна. І без яе застрашлівага крыку было зразумела, што справы швах. Генік кінуўся па стрэльбу. Чарніловіч схапіў манціроўку, я выцягнуў з заплечніка ёмкую турыстычную сякерку, а руды Лявон, ён жа Джон Галяк, быццам ілюзіяніст зайца, дастаў з запазухі паважную фінку. «Домой!» — раўнуў ён на сваю адбітую ў начальніка будупраўлення Святланку і на іншых амазонак. Аднак тыя нечакана цвёрда адмовіліся, і мы эгаістычна пачуліся трохі весялей. Больш таго, нашы рэдкія шыхты неспадзеўкі папоўніла расчырванелаваяўнічая татарка Аміна з дубальтовым шротнікам.

Маленькая Віка прыўзнялася на дыбачкі і аддана прашаптала мне, што ў яе ёсць з сабою аптэчка.

«Идуть! Убивцы!» — нема заверашчала нашая дабрадзейка Панцялееўна, паказваючы на дарогу, і пакацілася па сцежцы ў тайгу.

Хімікі ішлі пагрозліва няспешна. «Дваццаць тры», — падлічыў, узводзячы брамкі сваёй стрэльбы, шляхетна спакойны Генік.

Разам з мужнымі дочкамі сібірскае зямлі нас было дзевяць плюс дзве стрэльбы. Дзяўчатам, каб іхні выгляд залішне не натхняў гасцей, мы загадалі схавацца ў салуне ў Джона Ячменнае Зярнятка, забяспечыўшы іх дзеля смеласці пляшкай «777-га».

Аміна наадрэз адмовілася здаць мужчынам свой баявы шротнік і засталася побач з намі на ганку.

Хімікі, на якіх глядзелі пяць параў вачэй і дзве пары руляў, крокаў за трыццаць ад нас расступіліся паўкругам, прапускаючы наперад дзядзьку Колю-масквіча. Некаторыя з няпрошаных гасцей былі на добрым падпітку, аднак мы не ведалі, цешыцца з гэтае прычыны або наадварот: п’яныя маглі палезці і пад кулі. Сёй-той відавочна невыпадкова трымаў правую руку кішэні і мог выцягнуць яе адтуль значна раней, чым мы патрапілі б усіх перастраляць.

Проста сказаць, што я спалохаўся, будзе прымітыўна і недакладна.

Мне ўспомнілася нашая бяскрыўдная дзіцячая забава: пастукаць «у кружок» валейбольным мячом. Штораз, калі, прымаючы мяч, даводзілася адступаць спінаю наперад, мяне апаноўвала хмельна-вусцішнае пачуццё бязважкасці, бо гульня ішла не дзе-небудзь на цёплым пляжным пясочку ці на спартовай пляцоўцы, а на плоскім, залітым бітумам даху нашага полацкага шасціпавярховіка, і кожная хрыбетка памятала пра высачыню і адчувала яе магнітнае поле, што з кожным новым крокам да краю ставала стакроць магутнейшым.

Тады, на ганку ў Ягадным, мой хрыбетнік паражыў такое самае адчуванне смяротнае бязважкасці.

Апрача таго, уяўленне за лічаныя імгненні пракруціла перад вачыма поўнаметражную стужку з парахавым дымам, трупамі, перарэзанымі ад вуха да вуха гарлякамі, выпушчанымі з чэраваў сінявата-белымі вантробамі і маленькаю Вікай, якая так і не паспела перавязаць нам ранаў і якую параможцы з агідным гігатаннем бяруць «на хорька», але я гэтага не бачу, бо мая душа ўжо растала ў высокім блакіце і золаце гэтага дня, а ў ашклянелых вачах адбіваюцца мікраскапічныя кедры і асірацелы, без зрэзанага разам з Віцевымі катáмі сцяга, флагшток.

«Эй, студенты! — цяжкавата варочаючы языком, загаварыў дзядзька Коля-масквіч. — Я вот этими руками, — крыху пагойдваючыся на таўстых, як бёрны, нагах, ён растапырыў перад сваім налітым злосцю тварам шырозныя далоні з кароткімі і мясістымі, нібы сардэлькі, пальцамі, — вот этими руками семерых ребят замочил. Для меня зона, что для вас — воля, а химия — так, ни рыба ни мясо, ни тайга ни тундра».

Праваруч мяне, дзе займала абарону Аміна, пачуліся дзіўнаватыя гукі. Я асцярожліва скасавурыўся: татарка, сціснуўшы стрэльбу, напаўголаса спявала ваяўнічую песню свайго народа.

«Слушайте сюда, — казаў далей дзядзька Коля. — Фиксатого отдайте, боксера ху.ва, а вас нам и нах.. не надо…»

Я выцер аб калашыны будатрадаўскіх штаноў узмакрэлыя рукі і падумаў, што сустрэча са смерцю адтэрміноўваецца. Мы крыкнулі, што фіксатага, гэта значыць Толіка, у доме няма і дзядзька Коля-масквіч можа выслаць да нас двух хімікаў-кантралёраў.

Пачаўшыся на драматычнай ноце, прыгода скончылася бурлескна. Абшнарыўшы дамок і напалохаўшы ў салуне дзяўчат, кантралёры патапталіся на ганку,

няўдала паспрабавалі ўшчыкнуць Аміну і раптам нязмушана-элегантна падхапілі нашую скрынку з партвейнам, пасля чаго не надта прыспешваючы хаду, рушылі ў свой стан. Дачка татарскіх стэпаў ускінула дубальтоўку. «Аміна! Па сраках!» — адчайна і ўадначас спуджана выгукнуў Міхась Чарніловіч, але Генік з Джонам Галяком ужо віселі ў татаркі на руках.

Свята згэмталася. Адрозна ад мясцін, дзе служыў Міша Бугор, так нікога і не зарэзалі. Недзе хаваўся ад дзядзькі Колі-масквіча Раслінскі з баксёрскімі пальчаткамі. Недзе скрыгатаў зубамі ад болю настаўнік Сацук з пяціканцовай зоркаю на лбе. Аміна, уладкаваўшыся на ганку, гартанна спявала пераможную татарскую песню, а ў салуне жавалі ад хвалявання беларускае сала, запіваючы яго цёплым партвейнам, нашы бясстрашныя сяброўкі.

У панядзелак ваяўнічыя хімікі працверазелі і даведаліся, што фіксатага з Бугром перакінулі верталётам у Бл. Яр, а паколькі дзядзька Коля-масквіч меў даўгія рукі, герояў Дня будаўніка, выключыўшы за п’янку з атрада, хуценька адправілі на Вялікую зямлю ў родны Менск. Дзядзька Коля загадаў за недагляд зрабіць некалькім сваім людзям «самавучку», а сам у раздрыпаных пачуццях на ўсю ноч зачыніўся з дзвюма хіміцамі.

Са жніўеньскай непазбежнасцю восені набліжаўся гаркавы момант расстання. Вада ў кар’ерах прыкметна пахаладнела, а вечаровыя вогнішчы зрабіліся цішэйшымі і маркотнейшымі. Хімікі зайздросцілі нам, мы папрывыкалі да амазонак, а некаторыя з іх, як засведчылі будучыя падзеі, клапатліва ўзгадоўвалі ў сваіх дзявочых сэрцах не абы-якія надзеі. Моўчкі ўзіраўся ў агонь «цяжкі» падлетак Віця, якому за два месяцы выпала прайсці некалькі курсаў мужчынскіх універсітэтаў. Нават пасялковыя падлеткі ўжо не пус-

калі нам у вочы чмуту́, а сарамліва пыталіся, якія ў Менску ёсць інстытуты і ці цяжка туды паступіць.

У апошні дзень маленькая Віка, расчэсваючы грабянцом кудзеркі, дрыготкім галаском прамовіла: «Ну вот и все. Теперь будем только вспоминать», — а потым ціха, як мышанё, заплакала. Дробныя слёзкі капалі ў шклянку з «трыма сямёркамі», а я не плакаў, а недарэчна думаў, што нават калі Віка будзе капаць у шклянку ўвесь дзень, яе слёзы ўсё адно не зменяць колеру віна.

Чарніловіч са сваёй Насцяю дамовіліся, што яна прыедзе ў Менск і яны занясуць у загс заяву. Джон Галяк з цёмненькай Святланкаю да самага вечара адсутнічалі. Варвара, непрыгожа скрывеліўшыся, таксама заплакала, а Аміна, што пасля Дня будаўніка заслужана прыбілася да нашае кампаніі, выпіла тры шклянкі віна і тры разы пальнула ў цёмнае неба з дубальтоўкі.

Чмыхлівы дызель прывёз нас па «нашай» вузкакалейцы ў Бл. Яр, дзе мы ўбачылі будатрад «*Victoria*» ў апагеі разброду і маральных хістанняў. Шырыню фронту работ вызначала замова на дзве прыбіральні-шпакоўні для аэрадрома, дзе нам з Генікам як ужо вядомым адмыслоўцам з ходу даверылі выканаць пачэсную частку працы. Не маючы за што зацяць рукі, байцы СБА выпівалі, гулялі ў карты на вушы, задзіраліся з мясцоваю шпаной і лавілі брадніком у старыцах рыбу. Камандзір атрада, аспірант Валодзя Засохін, нажлукціўшыся грамадскага каньяку, вырашыў пакатацца на грузавіку і знёс палову дашчанай сталоўкі.

Рэпін-дацэнт тым часам выйшаў на волю, а цыганаваты Сашка вярнуўся на зону: акуратна разабраў у прадуктовай крамцы шыферны дах, украў дзве пляшкі гарэлкі і пару селядцоў, выпіў на мураве про-

ста пад крамнаю сцяной, пажаваў салёны рыбін хвост і бесклапотна задрамаў на месцы злачынства, дзе і быў праз гадзіну забраны міліцыянтамі.

Апошняй прыкметнай падзеяю напярэдадні вяртання на радзіму сталася нашая па-дзіцячаму дурная бойка — не падзялілі шчупакоў — з Чэсем Мікульскім. Мы біліся на беразе старыцы, намагаючыся скінуць ворага ў прыбярэжную бузу з густым багавіннем. Я перамог, каб потым да заканчэння альма-матэр мучыцца згрызотамі сумлення, бо Чэсь пасля Новага года памёр ад раку, і казалі, нібыта, едучы ў будатрад, ён ужо ведаў, колькі яму засталося.

Дзесьці наверсе вырашылі, што збіраць з томскай тайгі ўсю колькітысячную будатрадаўскую брацію ў абласным цэнтры небяспечна, і эшалоны фармавалі і адпраўлялі на захад у гарадку Асіна, якому было наканавана перажыць выпрабаванні, параўнальныя хіба толькі з падзеямі грамадзянскай вайны і замежнае інтэрвенцыі.

Па-першае, у крамах былі раскупленыя ўсе наяўныя прадукты, у тым ліку — і найперш — каламутнае, як вада з калюжыны, тамтэйшае піва, дзе, здавалася, ты на ўласныя вочы, без усякіх мікраскопаў бачыў жывых бактэрый і мікробаў.

Добра, каб гэтую балоціста-жоўтую каламуць спажывалі адно загартаваныя студэнцкія галовы і страўнікі, але ж ёю пачаставалі яшчэ і двух ніштаватых ужо медзведзянятаў, якіх везлі з сабою хлопцы з рыжскага інстытута грамадзянскай авіяцыі. Ачумеўшы ад піва, мядзведзікі ўначы сарваліся з ланцугоў і ўволю нагойсаліся па чэзлым райцэнтраўскім парку, дзе на лавачках і проста на траве спалі будатрадаўцы. З дзясятак байцоў пасля той вясёлае ночкі грузіліся ў эшалоны з забінтаванымі рукамі і галовамі, а яшчэ столькі ж заікаліся. Самі касалапыя мелі выдатны шанец ура-

тавацца, вярнуўшыся ў родную тайгу, ды невядомая цёмная сіла пацягнула іх з парку да райкама партыі, дзе дзяжурны пост міліцыі сустрэў бурых дыверсантаў шчыльным загараджальным агнём.

На свой вагон мы ўрачыста пачапілі лозунг-плагіят з белаярскае зоны пра «честный труд — дорогу к дому».

Дарога дадому выпала галодная, бо цягнік падоўгу стаяў сярод дзікай тайгі, а станцыі, дзе згаладнелыя байцы маглі нечага прыкупіць, мінаў на кур'ерскай хуткасці. Для Новасібірска зрабілі выключэнне, і прывакзальны пляц стаўся сведкам відовішча, як дзве кроплі вады падобнага да штурму Зімовага палаца з рэвалюцыйных фільмаў: байцы ў зеленкаватай будатрадаўскай форме караскаліся на высокую, зачыненую прадбачлівым станцыйным начальствам прывакзальную браму, збівалі з яе замок і, не раўнуючы як экспрапрыятары, ламіліся з пустымі пляцакамі ў вакольныя крамы. Эшалону як найхутчэй далі зялёнае святло, і цэлы ўзвод байцоў з напакаванымі заплечнікамі ўбачыў ад свайго цягніка толькі зялёны хвост.

Пасля Новасібірска сэрца ў чыгуначнікаў адпусцілася, і мы ўжо спыняліся на невялікіх станцыях, дзе да вагонаў кідаліся зграі гандлярак. Любы прадукт — тры разварыстыя бульбіны з салёным агурком, нядошлая таранка-сухарэбрыца, пачак леташняга пячэння — каштаваў рубель.

Гэткую агорклую аднастайнасць парушыла з'яўленне тавару больш дарагога.

Тавар звалі Кацюшай.

Даўно выжлукціўшы падазрона празрыстае навасібірскае піва, мы журботна шукалі нейкую адпаведнасць свайму настрою ў восеньскіх прыўральскіх краявідах, як у купэ літаральна ўварвалася крамя-

ная кірпатая маладзёнка. У руках у яе быў кошык з вафлямі, на шчоках гарэлі ружы, а голас звінеў, як хор вясновых сініцаў: «Приветик, мальчики мои, бедненькие, голодненькие, трезвенькие... Ну чё приуныли? По червончику, и я — ваша. Думайте, мальчики, думайте, другие уже надумали». Яна ўзмахнула пышнай хімічнаю фрызурай, і праз хвілю яе скорагаворка ўжо данеслася да нас з суседняга купэ.

Не трэба падазраваць нас у сквапнасці або ў занадта трывалых маральных прынцыпах. Тым не менш нашае купэ ад спакуслівай прапановы дружна (калі не браць пад увагу пакутлівыя ваганні Чарніловіча) адмовілася. Мабыць, намі кіравала інтуіцыя.

Пералічыўшы сумленна зробленыя чырвончыкі, Кацюша пакінула эшалон ужо далёка за Уралам. Байцы з трох вагонаў тройчы пракрычалі ёй «гіп-гіп-ура!» і асамотнена разбрыліся дзяліцца ўспамінамі пра алькоўныя выкрунтасы сібірскае гетэры ды пра свае мужчынскія здабыткі. Подзвігі байцоў трох менскіх будатрадаў выглядалі гэткімі маштабнымі, што на іх здзяйсненне не хапіла б і дзесяці Кацюшаў. Міхася Чарніловіча такія размовы відочна нервавалі, і ён пачынаў на нас непрыхільна касавурыцца.

На занядбаных абшарах расейскага нечарназем'я волаты чыгуначнага сексу быццам па камандзе замаркоціліся, і па вагонах прашамацела хвастом лёгкая паніка...

Цяпер Міхась Чарніловіч пеўнем хадзіў па чужых купэ і, зларадна малюючы пакутнікам усялякія жахі, бескарысліва прапаноўваў свае медычныя кансультацыі.

Ва ўсеагульным няшчасці адразу ж захлынулася прага помсты нашаму таварышу Юру Асіноўскаму, што апанавала была вагон паміж уральскіх адгор'яў.

Недзе на мяжы Еўропы з Азіяй ціхмяны баец Юра са спалатнелым тварам выйшаў з купэ і дрогкім голасам папрасіў склікаць атрадны сход, дзе мы даведаліся, што ў Асіноўскага прапалі з валізы ўсе чыста грошы. Бязрадасную навіну аздаблялі звесткі пра хворых бацькоў, не вельмі здаровую малодшую сястрычку і хворую на якуюсьці складаную хваробу кароўку. Да пераліку чужых хваробаў бядак сарамяжліва дадаў кранальную драбніцу: ад празмерных перажыванняў у яго страшэнна сапсаваўся страўнік і разгулялася крывавая дыярэя-мытуха.

Найбольшую шкадобу выклікалі не сам Юра і не ягоныя хворыя — рэч звычайная — сваякі, а якраз гарапашная кароўка, што чакае не дачакаецца зарobленых крывавым мазалём будатрадаўскіх рублёў.

Калі ў часе галасавання пра збор грошай, дзве рукі нерашуча «ўстрымаліся», сход закіпеў высакародным абурэннем. У выніку Юра атрымаў на тры сотні болей за іншых байцоў і ягоны малады паарлелы арганізм хутка перамог мытуху.

Як ні горка зноў і зноў расчароўвацца ў людзях самому і расчароўваць астатніх, аднак праўда вымагае, каб яе палыновы келіх выпівалі да дна. Ціхі баец Юра «гнаў карцінку». Двое хлапцоў, тыя самыя, што на сходзе адмовіліся галасаваць «за», не толькі ехалі з Юрам у адным купэ, але і пражылі з ім год у адным пакоі, а таму мелі больш дадзеных для аналізу сітуацыі. Адзін баец да непрытомнасці напаіў акрыялага таварыша, а другі ўчыніў татальныператрус Юраваму багажу, знайшоўшы «скрадзеныя» грошы на дне валізы ў вопрадні з некалькі параў нямытых смярдзючых шкарпэтак.

З прычыны павальных любошчаў з Кацюшай-буфетчыцай «*Victoria*» не спраўдзіла надзей роднага інтэрната. Замест хвацкіх балюшак з удзелам мясцо-

вых вакханак і салютавання коркамі ад шампанскага, байцоў чакалі візіты да венеролагаў і розныя малапрыемныя працэдуры.

Крыху рэабілітаваў сяброў хіба што чацвёртакурснік Вася Максіменка, які, нягледзячы на захворванне, залез уначы з пляшкаю шампанскага на святлафор на рагу вуліц Свярдлова і Ульянаўскай і чытаў адтуль рэдкім мінакам творы Міхаіла Юр’евіча Лермантава. У пратаколе, чым Вася страшэнна ганарыўся, дзяжурны па аддзяленні запісаў, што падчас затрымання грамадзянін Максіменка «оказал сопротивление путем внезапного открытия бутылки советского шампанского и полития им сотрудников милиции». (Ад выгнання з універсітэта нашага сябрука ўратавала не толькі тое, што шампанскае было савецкае, на што, безумоўна, звярнуў увагу сваяк-прарэктар.)

Яшчэ адзін баец выславіўся тым, што ездзіў на заняткі заўсёды «зайцам», а злоўлены кантралёрам, законапаслухмяна даставаў прывезеную з Сібіры сторублёвую купюру, з якой, натуральна, не знаходзілася рэшты. «Заяц» прымільгаўся, і скончылася ўсё тым, што кантралёр у хаўрусе з кіроўцам неразменную купюру папросту адабралі, а яе ўладальніка, папярэдне намяўшы бакі, выкінулі з тралейбуса на высланы жаўталісцем газон.

Цёплы полацкі верасень, што мільгануў паміж маім вяртаннем з Сібіры і пачаткам заняткаў, зачапіўся ў памяці пераважна ўбогім інтэр’ерам бара «Пралеска» і аднайменным кактэйлем няпэўнага смаку, што мы з маім сябрам дзяцінства Санем Македонскім выпівалі перад танцамі ў Палацы культуры завода шкловалакна. («Як звычайна», — з ленаватай няўважлівасцю заўсёднікаў кідалі мы барменцы.) У палацы нас чакалі другакурсніцы кааператыўнага тэхнікума Зіна і Ілона.

Свет яшчэ раз засведчыў сваю недасканаласць: мне падабалася шатэнка Зіна, а Македонскаму — бландзінка Ілона, у іх жа ўсё атрымалася наадварот. «Няхай выбірае жанчына», — прапаноўваў фаталіст Саня, але мая падагрэтая кактэйлем натура бунтоўна ашчаціньвалася, і мы працягвалі «хадзіць» учацвярых.

Роспачнай спробаю вырвацца з зачараванага чатырохкутніка сталася начная паездка на таксі ў тады яшчэ безнадзейна зачынены Спасаўскі манастыр, дзе мы зусім не чыталі малітваў, а пілі шампанскае, каб потым — даруйце, калі можаце, нам, Божа, і ты, нябесная наша заступніца Еўфрасіння — разбіць пляшку і шклянкі аб спярэшчаны мацернымі словамі манастырскі мур.

Пасля Зіна прыслала мне ў Менск ажно два лісты, што ўразілі не так дэманстрацыяй нечаканай вернасці, як узроўнем філалагічнае падрыхтоўкі будучых каапературак. Зіна пісала, нібыта ў Ілоны ёсць новы «паринь», а яна, маўляў, па-ранейшаму ўспамінае мяне і «пикник на графских развалинах», аднак «всиму есть придел». Трэба было разумець, што хутка з’явіцца «паринь» і ў Зіны.

Пакуль я вярнуўся ў Менск, былыя байцы будатрада «*Victoria*» паспелі пазалечваць ганарэю і прамантачыць сібірскія заробкі.

У хуткім часе Чарніловіч са старастаю нашай групы Ліляй падалі заяву ў загс. У ціхага Юры Асіноўскага, учадзеўшы ўначы ў хаце, памерлі бацькі, і ён перавёўся на завочнае аддзяленне і паехаў да сваёй кароўкі. Махнуўшы рукой на старыя будатрадаўскія рахункі, мы з першай стыпендыі сабралі малодшай Юравай сястрычцы ды хворай рагулі сто рублёў.

У Чылі да ўлады прыйшоў Аўгуста Піначэт. У СССР разгортвалася барацьба з п’янствам і алкагалізмам. Наш гістфакаўскі Клуб аматараў піва, схаваўшыся за

абрэвіятураю КАП, дзейнічаў, як і братняя кампартыя Чылі, у глухім падполлі.

Універсітэт трэслі франтальныя рэйды і праверкі.

Падчас аднаго рэйду ў нашым інтэрнаце партыйныя, камсамольскія і прафсаюзныя дзеячы пачулі за замкнёнымі дзвярыма падазроныя шолахі і абклалі пакой, нібы харты. Як толькі дзверы ціхутка прачыніліся, гайня правяральнікаў уварвалася ў пакой і знайшла там зляканага студэнта, які, колькі было змогі, імітаваў падрыхтоўку да семінарскіх заняткаў па гісторыі КПСС. Са сцяннной шафы сакратар партбюро трыумфальна выцягнуў яшчэ больш перапалоханую студэнтачку ў строях Евы. «А мы дружым», — толькі і здолеў прамовіць юны служка Кліо, за што разам з сяброўкаю быў неадкладна выселены з інтэрната. З таго дня варта было якой-небудзь знаёмай парачцы з'явіцца на вачах у гістфакаўскай публікі, як з усіх бакоў гучала яхіднае пытанне: «Што, дружыце?»

Праверка выхаваўчай работы застукала ў інтэрнатаўскім ленінскім пакоі таталізатар. На трох ссунутых сталах для самастойных заняткаў адбываліся прусачыныя скачкі. Нашы вусатыя субкватаранты бегалі па выкладзеных алоўкамі дарожках. Стаўкі даходзілі да двух чырвонцаў. Ажыятаж панаваў такі, што, здавалася, дай ім волю, і свае стаўкі зробяць класікі марксізму-ленінізму, якія сачылі за падзеямі з аляпаватых партрэтаў. Акурат у той самы момант, як фаварыт Біл Шалёная Карова ў глыбокім роздуме супыніўся на сярэдзіне дыстанцыі, у дзверы і ўвалілася праверка, якой было зусім няпроста апанаваць нашую ўвагу, бо ўсе позіркі сышліся ў кропцы, дзе Біл ні з чога ні з якога вырашыў заняцца медытацыяй.

Авалодаўшы становішчам, рэйдавая брыгада абазвала нас будучымі байцамі ідэалагічнага фронту,

адразу ж зазначыўшы, што ніхто з нас гэтай высокай годнасці не заслугоўвае. Абураныя тырады пачыналіся прыкладна так: «Здесь, под портретами вождей…»

Карацей, жыццё ішло сваім парадкам.

Напружыўшы творчыя сілы, мы выпусцілі спачатку орган свайго пакоя № 25 насценгазету «Алігатэр» (назваю служыла налепка ад віннай пляшкі з падмаляванаю ў канцы літарай «р»), а потым — чарговы нумар нашага альманаха «Мілавіца». Пра frandзёрскі насценны орган хтосьці імгненна даклаў начальству, а «Мілавіцу» ўзяў пачытаць камсамольскі сакратар Карагін, і яна знікла на цэлы месяц.

Потым на нас зусім беспадстаўна спішуць і нейчы малюнак-загадку на кавалку ватману, што напярэдадні экзаменаў з'явіўся побач з раскладам заняткаў: тры разложыстыя дубы, перад кожным — бутэлька, а ўнізе — перакуленая дагары нагамі адгадка: «Новы год на вайсковай кафедры».

Ад блізкага знаёмства з таварышам маёрам нас аддзялялі адна толькі сесія і вакацыі.

Згадкі пра Сібір, хімікаў, пясчаныя кар'еры і гарачыя вусны амазонак наведвалі нас усё радзей. Праўда, амазонкі прыслалі віншаванне з «годовщиной Великого Октября». Мы не адгукнуліся на паштоўку: нашы адрасанткі павінны былі зразумець, што мы — вярнуліся, вярнуліся дадому.

Але яны не зразумелі.

Неяк пад Новы год на лекцыю па навуковым камунізме нечакана прыбег задыханы Міхась Чарніловіч, які грыпаваў і адлежваўся ў інтэрнаце. Апрача кажушка на Міхасю было толькі замытае спартовае трыко з пухірамі на каленях і чаравікі на босую нагу.

Таямніцы навуковага камунізму мы спасцігалі ў аўдыторыі-амфітэатры, якая мела запасны ўваход,

што вёў адразу на верхатуру. На схаваных за абгародкаю прыступках хто-небудзь зазвычай жлукціў піва або перакідваўся ў карты. У гэты зацішны куток, куды з верхніх радоў можна было без асаблівых праблемаў трапіць проста ў час лекцыі, нас і сабраў упараны Чарніловіч. «Амазонкі прыпёрліся…» — выдыхнуў ён. Выявілася, што Міхась убачыў сібірачак з нашага вакна на першым паверсе ўжо на самых блізкіх подступах да інтэрната і, паспеўшы насунуць чаравікі ды накінуць кажух, махануў цераз падваконне ў сумёт. Адразу зрабілася ясна, што сярод трох няпрошаных госцяў прыехала Насця, якой улетку Чарніловіч дакляраваў візіт у адзін з менскіх загсаў.

З удзячнай палёгкаю я даведаўся, што маленькай Віцы хапіла розуму не ехаць. Разам з Насцяю прыбыла камісарка «амазонак» пампушыстая Нона, якой належылі неаспрэчныя заслугі ў выхаванні «цяжкога» падлетка Віці. Трэцяя была Элен.

Сітуацыя пакідала няшмат прасторы на манеўры. Чарніловіча, прынесшы яму больш прыстойную апранаху, неадкладна адправілі ў родную вёску.

Генік, Джон Галяк і я адважна ўзялі амазонак на сябе. Досыць паспяхова разыграўшы сцэну сустрэчы пасля доўгай ростані, мы запрасілі сібірачак у «найлепшую менскую рэстарацыю». Гэтую ролю выконваў самы блізкі ад інтэрната рэстаран старога гатэля «Беларусь», што памятаў марскія аповеды Мішы Бугра.

Афіцыйна Чарніловіч адбыў на «студэнцкую навуковую канферэнцыю» ў Ташкент. На правах найбліжэйшага сябра маладога навукоўца менчук Генік запрасіў Насцю спыніцца ў яго. Элен заставалася пры мне.

Рэстаранавы калаўрот унёс карэктывы. Камісарку Нону, не зважаючы на ленаваты супраціў Джона Галяка, узяўся безупынна запрашаць на танец і ўрэш-

це звёз нейкі даўгяла-баскетбаліст. Калі аркестр развітаўся з публікай, а потым вярнуўся і пачаў выконваць песні гасцям з сонечнага Узбекістана, якія выцягвалі з-за халяваў загорнутыя ў смуродныя анучы пачкі грошай, асіраценыя Галяк і Насця з Генікам падаліся ў Генікаву Серабранку, а мы з Элен без вялікага імпэту пацягнуліся ў інтэрнат, дзе я праз вакно запусціў яе ў наш пакой.

Закурыўшы, Элен сваім звычайным бескалёрным тонам прамовіла: «Подонок ваш Михась. Только такой дуре, как Настька, и можно лапши про Ташкент навешать». Зрабіўшы зацяжку, яна працягвала выкрывальніцкую тыраду: «Викуша твоя, между прочим, вовсю с сыном декана трахается. Привета не передавала. Карьерой девочка занялась». Праз некалькі зацяжак я атрымаў новую поўху: «Я тут, кстати, послушала, послушала, и никто на твоем белорусском языке нигде не говорит». У яе голасе прарэзалася відавочная зларадласць.

Чарніловіч аказаўся падонкам. Віка трахалася з дэканавым сынам і рабіла кар'еру, а ў Менску ніхто не размаўляў па-беларуску. Ну што мне заставалася рабіць? Паслаць гэтага пракурора ў клятчастай максі-спадніцы ў марозную ноч да яе скандынаўскіх продкаў? Відаць, такі варыянт сапраўды быў бы найлепшы. Але замест гэтага я паспрабаваў ажывіць у памяці цёплы прыцемак над кар'ерам і шамаценне бурундукоў у падлеску…

Неўзабаве пасля ад'езду амазонак маладзечанская электрычка зноў прывезла ў Менск хранічнага ўцекача ад жонкі Мішу Бугра. У нас, як на тое, надарылася выязное паседжанне Клуба аматараў піва на Генікавым летніку. Марна прачакаўшы да вечара ў халодным інтэрнатаўскім фае, Міша выпіў пляшку гарэлкі і ўсё ж сеў у маскоўскі цягнік.

Ён даехаў да Уладзівастока, наняўся на гандлёвы карабель, што хадзіў у Японію, кінуў піць і сабраў за год кучу грошай.

Ужо купіўшы квіток на самалёт і спакаваўшы дзве валізы падарункаў, Міша выйшаў на шпацыр па пераднавагоднім горадзе і нарваўся на біча.

Біч вылез з каналізацыйнага люка і папрасіў дваццаць капеек на кіно. Бугор зацікавіўся і даў бічу дваццаць рублёў. Той прапанаваў пасядзець. Знаёмства задоўжылася да вясны.

Увесну Міша зарабіў на кабатажнай развалюсе грошы на дарогу і перад летняю сесіяй, даўно аплаканы жонкаю і сваякамі і на ўсякі выпадак памянуты намі, з'явіўся ў нас у пакоі, як вястун з таго свету. Ён піў піва з воблай і апавядаў вусцішныя гісторыі пра жыццё ў падземных уладзівастоцкіх камунікацыях, дзе бічы спяць на трубах цэнтральнага ацяплення і ў лютыя маразы дзясяткамі гінуць ад велізарнай розніцы тэмператур знізу і зверху цела, а дворнікі выцягваюць іх потым праз люкі бусакамі.

З кішэні Міша вытрас жменю перамяшаных з махоркаю кедравых арэхаў.

Гэта было апошняе прывітанне з Сібіры.

*1993*

# КРАЯВІД З МЕНТОЛАВЫМ ПАХАМ

Рукапіс, дасланы ў зялёным канверце

> Цяпер, вядома, можна сцвярджаць што заўгодна: суадносіць дату на паштовым штэмпелі з загадкавай смерцю аднаго літаратара, якога ў тыя самыя дні знайшлі павешаным ва ўласнай кватэры; спрачацца, жаночай ці мужчынскай руцэ належыць буйны круглявы почырк, што не пакінуў на прысланым мне пульхным зялёным канверце зваротнага адраса; строіць кпіны з маёй знаёмай, якая дагэтуль перакананая, быццам той канверт сапраўды захоўваў пах добрых ментолавых цыгарэт, хоць ускосныя дэталі дазваляюць датаваць рукапіс канцом 80-х ці самым пачаткам 90-х гадоў дваццатага стагоддзя… Што да вядомага псіхіятра, якому я прапанаваў выступіць у якасці эксперта, дык ён, вяртаючы гэтыя чатыры дзясяткі драбнютка спісаных старонак, абмежаваўся цьмянай фразаю пра суму выпадковых велічыняў, дзе дапускаецца літаральна ўсё. Магчыма, якраз згаданая акалічнасць і схіліла мяне да публікацыі рукапісу без усялякіх купюраў і каментароў.

Апошнім часам я часта звяртаюся да свайго з'яўлення тут, у старой аднапакаёўцы, якая… Мне хацелася напісаць нешта накшталт, «якая адыграла ў маім жыцці такую ролю», аднак роля працягвае ігранца, і я магу памыліцца ў вызначэнні парадкавага нумара дзеі. Урэшце, сама зацяганая метафара тэатра выглядае тут недарэчнай, хоць я і маю падставы назваць гаспадара кватэры актора м. Але цяпер, калі падзеі таго дня, а праўдзівей, той размовы, адрэстаўраваныя да паўтонаў і запісаныя ў памяці нібыта на відэастужку,

якую можна спыняць, адкручваць назад альбо пускаць на запаволенай хуткасці, я магу сказаць, што актор ён быў кепскі. Ужо адзін спалоханы ўздрыг, калі на кухні ўключылася лядоўня… Альбо мізансцэна з трэцяй параю ключоў… Хоць гэта яшчэ як паглядзець…

Ён стаяў вось там, каля майго адзінага вакна. Няўжо ён імкнуўся захінуць сляды, пакінутыя на падваконні лапамі вераўчанае лесвіцы? А мо спадзяваўся схаваць іх ад самога сябе, як, дарэчы, і пакінуты мне ў спадчыну прайгравальнік? Наогул цяпер мне здаецца, што — асэнсавана або інтуітыўна — ён рухаўся па кватэры дакладна вызначаным маршрутам, што дазваляў не сарвацца і давесці гаворку да канца, каб ніколі больш са мною не бачыцца.

Ён быў прыкладна майго веку, меў нервовы твар і ранняю сівізну. Я чамусьці падумаў, што такія людзі схільныя да інфарктаў. Дадаць да гэтага невыразнага партрэта мне, бадай, няма чаго. Ну, можа, яшчэ ягоную худзізну, якую я, памятаецца, спачатку з прыхільнасцю назваў сам сабе шляхетнаю.

Сустрэўшыся з ім на вуліцы, я прайшоў бы міма — не пазнаўшы ці не захацеўшы пазнаць яго.

Кватэра, якую я вырашыў наняць, знаходзілася ў тым раёне, дзе з сучаснай забудоваю суседзілі зялёныя выспы старога патрыярхальнага горада. Няроўны брук з чародкаю козаў і цяпер успрымаецца там больш натуральна за асфальт з тралейбусам. Відаць, гарадская геаграфія і сталася галоўным аргументам, бо ў тыя дні я меў цвёрды намер бараніць сваю адзіноту і найперш шукаў спакою.

— Там, за паркам, — гаспадар кватэры паказаў у вечаровае вакно, — мяжа горада.

— Мяне гэта не палохае. Вальтэр пісаў, што літаратар павінен жыць паблізу мяжы, каб зручней было ратавацца.

— Вы літаратар? — не падтрымаў майго тону, але відавочна зацікавіўся ён.

Вылаяўшы сябе за легкадумна рассакрэчанае інкогніта, я няпэўна кіўнуў. Згадка пра род маіх заняткаў, безумоўна, была лішняю.

— У такім разе… — з выцвілай усмешкаю загаварыў ён і не скончыў.

Яго манера размовы пачынала раздражняць. Грошы ўжо ляжалі ў ягонай кішэні, а брыжык з ключамі — у маёй. Я мог без абмежаванняў карыстацца кнігамі і пастараўся запомніць колькі непазбежных у такіх выпадках дробных парадаў наконт замкоў, ваконных зашчапак і талонаў на электрычнасць. Усе інструкцыі былі прамоўленыя скорагаворкаю, а заплачаныя мною грошы засталіся неаралічанымі. Яшчэ хвіліну таму ён выдаваў чалавекам, што хоча як найхутчэй развязацца з не надта прыемным клопатам. Але зараз загучала новая, незразумелая мне нота.

— Увосень парк проста чароўны. Асабліва клёны…

Жывучы тут, ён павінен быў ведаць, што гэта не зусім парк, а — старыя лютэранскія могілкі, па якіх гадоў дваццаць назад праехаліся бульдозеры. Я не палічыў патрэбным дзяліцца сваімі ведамі і канчаткова ўпэўніўся, што размова здоўжыцца.

— Вы збіраецеся жыць адзін? — запытаўся ён і папрасіў дазволу закурыць.

Просьба падкрэслівала мой новы статус і таму спадабалася, пытанне — не.

Ён зняў з кніжнай паліцы масіўную металёвую попелку — змрачнаватую чортаву галаву з адбітым рогам і глыбокімі пустымі вачніцамі.

— Гэта для вас істотна? — вярнуўся я да пытання, з кім збіраюся жыць.

— Ва ўсякім выпадку не ў такой ступені, як для вас, — адказаў ён і, імгненна ўсвядоміўшы абсалютна неадпаведную сітуацыі рэзкасць, перапрасіў.

Якраз тады ўключылася лядоўня. Ён зацкавана здрыгануўся і, спалатнеўшы, выпусціў з пальцаў цыгарэту. Гэтага хапіла, каб уся мая ўкведенасць знікла, і я, як са мною часам здараецца пры сустрэчы з чалавечай слабасцю, адчуў такі прыліў шкадавання, што не прыдумаў нічога лепшага, чым паведаміць пра свой развод і прагу самотнага супакою.

— Як вы сказалі? Не хочацца пражываць чужое жыццё? — з дзіўнай інтанацыяй паўтарыў ён і строс попел у адну з чортавых вачніцаў. У ягоных тонкіх пальцах яшчэ не сунялася дрыготка. — Ну, тады ў вас...

Трымаючыся сваёй завядзёнкі, ён абарваў фразу і нечакана выняў другі камплект ключоў.

— Ведаеце, я пакіну вам і іх. Магчыма, у вас усё ж хто-небудзь з'явіцца.

Пасля маіх словаў пра пошукі спакою гэтае дапушчэнне выглядала не зусім лагічна, аднак значна больш нелагічны быў яго наступны ўчынак. У нервовых пальцах з'явіўся ўжо трэці брыжык з ключамі. Гаспадар патрымаў іх на далоні і працягнуў мне.

— Няхай усе ключы будуць у вас. Дакучаць вам візітамі я не збіраюся. Калі спатрэбіцца, патэлефануеце. Цяпер толькі сакавік, значыць, засталося... Не думаю, што вы заўважыце нешта такое...

Я спачувальна выслухаў яго няўцямна-блытанае мармытанне і не звярнуў на апошнія словы амаль ніякае ўвагі. Што я павінен быў заўважыць? Што ў яго праблемы з псіхікай?

Апускаючы два дадатковыя камплекты ключоў у кішэню, я не сумняваўся, што візаві адчувае з гэтае прычыны палёгку. Разгадка магла быць досыць простаю: цяжкія ўспаміны, звязаная з кватэраю асабістая драма... Ці не адтуль, падумаў я, і ранняя сівізна.

Якімі наіўна-трывіяльнымі выглядаюць мае тлумачэнні сёння...

— Ну вось, здаецца, і ўсе фармальнасці. — Патушыўшы ў вачніцы ў чорта недапалак, ён падняўся з канапы, аднак няўпэўнены тон сведчыў, што запас дзіўнаватых пытанняў і прапаноў не вычарпаны.

У такіх сітуацыях прадчуванне рэдка падманвае мяне. Ён прайшоўся ўсцяж сцяны з кніжнымі паліцамі, правёў рукой па запыленых карэньчыках і, няўдала зрабіўшы выгляд, нібы толькі зараз успомніў штосьці важнае, зноў загаварыў:

— Скажыце, у вас ёсць прайгравальнік?

— Не, я аддаю перавагу магнітафону.

— Прайгравальнік таксама добрая рэч. — У ягоным голасе прысутнічаў яўны водцень просьбы.

— Вядома, — суха пагадзіўся я. Да мяне вярталася раздражненне.

— Я хачу пакінуць вам прайгравальнік. Лічыце гэта падарункам.

Я стрымана падзякаваў і абвёў пакой вачыма, аднак неспадзяванага прэзента нідзе не заўважыў.

Нічога не ўдакладняючы, я выразна паглядзеў на гадзіннік, потым на дзве валізы з гаспадаровым скарбам і прапанаваў паднесці іх да тралейбуснага прыпынку. Ён адмовіўся. Выкладзеныя за год наперад грошы давалі мне права зноў кінуць падкрэслены позірк на гадзіннік.

Ён паважыў у руках валізы і замест таго, каб рушыць да выхаду, паставіў іх назад.

— Скажыце… вы любіце… Шапэна?

Цяжка было даць веры, аднак у яго словах мне пачуўся відавочны страх.

— Вы кампазітар? — холадна ўдакладніў я. Усе гэтыя неабавязковыя пытанні з зацягнутымі пярэрвамі і загадкавай эмацыйнай падкладкаю імкліва падвышалі градус ёй укволенасці.

— Кампазітар?.. Не зусім. Я проста хацеў…

— У Шапэна мне падабаюцца прэлюдыі, толькі вельмі прашу нічога больш мне не дарыць.

Адкуль я мог ведаць, што ў тыя хвіліны было сказана самае істотнае за ўвесь вечар?

Перад дзвярыма гаспадар яшчэ раз апусціў валізы на падлогу.

— Ён там, у шафе.

— Хто? — Ува мне падымаўся калючы клубок злосці.

— Прайгравальнік, — прабачліва, нават ліслівa растлумачыў ён. — У сценнай шафе каля ложка.

Я адчуў тое самае, што і ў выпадку з ключамі: немаведама чаму ён хацеў пакінуць гэты прайгравальнік у старой кватэры.

Зачыніўшы нарэшце дзверы, я сеў за стол, паклаў перад сабою адразу ўсе тры камплекты ключоў і з затоенай радасцю падумаў, што прынамсі год буду пазбаўлены візітаў чалавека, што мае схільнасць без дай прычыны дарыць прайгравальнікі і пытацца, ці любіце вы Шапэна.

Назаўтра я прывёз на таксоўцы свае рэчы, а ўвечары адкаркаваў пляшку сухога херасу і аддаўся ціхамірным лятункам аб тым, як за год перачытаю тут штабель чужых кніг і напішу адну сваю. Я прадбачыў, што атрымаецца зборнік апавяданняў свабоднага саракагадовага чалавека, які своечасова звёў падрахункі з мінулым. Памятаючы Борхесава папярэджанне пра непрадказальнасць гэтага ўзросту для мужчыны наогул і для літаратара — асабліва, зазіраць далей не хацелася.

Віно скончылася нечакана хутка. Дапіваючы апошні глыток, я сустрэўся вачыма з масянжовай стодкаю Шывы на кніжнай паліцы. Гэтае чатырохрукае стварэнне і падкінула мне ідэю правесці ў новым жытле інвентарызацыю.

Стараючыся не згадваць самога гаспадара, я прызнаў, што інтэр’ер ягонае кватэры можа прэтэндаваць

на пэўную неардынарнасць і найперш — дзякуючы сцяне, якую ад столі да падлогі займала карта Еўропы. Прычым яна, гэтая жоўта-зялёна-брунатная з плямамі блакіту карта, была не проста наклееная на тынк накшталт шпалераў, але ўзятая, нібы жывапіснае палатно, у адмысловую драўляную асаду, што на пару пядзяў адступала ад паверхні, ствараючы своеасаблівую перспектыву. Карта як быццам адкрывалася воку з шырокага вакна, куды злева не трапляла толькі Пірэнейская паўвыспа, а справа — Уральскі хрыбет. Унізе лінія абрэзу праходзіла прыкладна на шыраце Крыма, пад якім уладкаваўся стол-кніжка. Праваруч гэтага «вакна» цягнулася сцяна, цалкам занятая самаробнымі паліцамі з кнігамі ды трыма тузінамі пустых рознакаліберных пляшак з размаітымі налепкамі, што захапілі ўвесь верхні ярус. На трэцяй зверху паліцы ў атачэнні тузіна шматколерных бляшанак з-пад піва і атабарыўся чараваты шматрукі бажок з круцельскім выразам на ільсняна-тлустым твары. Бажок пазіраў у сапраўднае вакно. Суседні дом стаяў вельмі блізка, і шчытная чорная штора, якая спадала ніжэй за падваконне, не выглядала лішняй.

Годнае месца ў пакоі належала шырокаму ложку-канапе злева ад дзвярэй. Сцяну над ложкам закрывалі панэлі з бардовай скуры. (Таго разу я не звярнуў увагі, што сям-там скура падрапаная нечым вострым, кшталту каціных кіпцюроў.) Збоку ад вакна, над спальным кутком, сцяну аздабляў гадзіннік у драўляным корпусе з вакенцамі і вежачкамі. Праўда, сам гадзіннік быў электронны і мераў час не стрэлкамі, а зялёнымі лічбамі.

Не падымаючыся з ложка, можна было націснуць на некалькі ўштукаваных у панэль жоўтых клавішаў. Першая ўключала дабіты чорна-белы тэлевізар, другая — люмінісцэнтную лямпу над пісьмовым ста-

лом паміж вакном і картаю, трэцяя — вентылятар на століку-кніжцы, дзве наступныя сваіх функцый аніяк не выявілі, а апошняя прынесла прыемную неспадзяванку: дзесьці пры падлозе ўтульна запалілася мяккая падсветка карты. Калі патушыць астатняе святло, «вакно ў Еўропу» глядзелася асабліва маляўніча.

Дзверы пакоя мелі матавае шкло і адчыняліся ўсярэдзіну. Выхад у пад'езд вартаваў, седзячы на пыльнай антрэсолі, памаранчавы плюшавы сабачка. Я выйшаў на лесвічную пляцоўку і націснуў гузік званка. Сабачка заскакаў і зайшоўся вясёлым брэхам. Дзверы зачыняліся на ланцужок і на тры замкі. Я падумаў, што гэта занадта, і наважыў карыстацца двума. У сумешчанай з туалетам лазенцы нічога прыкметнага, апрача вялікага павука, не сустрэлася.

Усё, што я пішу цяпер, можа здацца занудліванеістотным, але я адчуваю неабходнасць зафіксаваць гэтыя дробязі, бо неўзабаве літаральна кожная з іх набудзе велізарную значнасць.

Канец вечара быў далёка, і я прыступіў да больш блізкага знаёмства з пакінутымі аматарам Шапэна рэчамі.

У сценнай шафе пры ложку ляжалі дзве коўдры і дзве падушкі. На ніжняй паліцы стаяў прэзентаваны прайгравальнік. Падбор кружэлак выглядаў досыць страката: Вівальдзі, сярэднявечная лютневая музыка, «*The Beatles*», санаты Чурлёніса, «Песняры» і два маленькія дыскі дзіцячых казак. Запісаў Шапэна насуперак чаканню не аказалася.

У дадатак да карты і гадзінніка ў кватэры прысутнічала яшчэ адна рэч з прэтэнзіяй на арыгінальнасць. Паміж дзвярыма і кніжнымі паліцамі месціўся акаваны меддзю куфар, зроблены, відавочна, не вясковым майстрам, а гарадскім імітатарам, якому не хапіла густу, і ён прымалацій на пярэдні бок пяць

медных літараў: *SEZAM*. (Светлыя драпіны на фарбаванай драўлянай падлозе, якія сведчылі, што гэтую частку абсталюнку — і нярах — падцягвалі да дзвярэй, я заўважу значна пазней.)

Куфар быў пад самае вечка наладаваны розным жалеззем і інструментамі, паўзверх якіх ляжала вераўчаная турыстычная лесвіца з кіпцямі-зачэпамі. З выгляду яна наўрад паспела паўдзельнічаць у сур’ёзных падарожжах. Пакруціўшы знаходку ў руках, я змеціў заводскую налепку з даўжынёю — 10 м і механічна адзначыў, што гэтага якраз хапае, каб спусціцца па сцяне з майго трэцяга паверха.

Пакінуўшы ў спакоі куфар, я заняўся кнігамі. Перад сном заманулася пачытаць, і я зняў з паліцы лімонавы том Акутагавы Руноске. Паміж старонак «Жыцця ідыёта» знайшоўся лісток з вучнёўскага сшытка ў кратку. Дзіцячая рука фламастэрам намалявала на ім пяціпавярховік з жаночым тварам у вакне трэцяга паверха. Малюнак не меў у сабе нічога незвычайнага, а вось надпіс мяне збянтэжыў і нават трохі занепакоіў.

ГЭТА НЕ МОЖА
БОЛЬШ ПРАЦЯГВАЦЦА
НЕ МОЖА

Словы, дзе хавалася трывога, а мо і роспач, належалі відавочна не дзіцёнку, хоць і былі напісаныя буйнымі друкаванымі літарамі, што тоўпіліся і, як сляпыя, натыкаліся адна на адну. Так мог пісаць чалавек на моцным падпітку альбо ў скрайняй расхваляванасці.

Тут, безумоўна, таілася нейкая загадка, і яе бударажлівае адчуванне абяцала пераўтварыцца ў сюжэт, а потым у навелу.

Паляжаўшы колькі хвілінаў у цемры, я павярнуўся да сцяны-карты і ўключыў падсветку. На жоўта-зялё-

най прасторы хутка ўдалося знайсці Парыж, а за ім — Лондан і Стакгольм. Дом аддзяляла ад вуліцы такая адлегласць, што шум транспарту сюды не далятаў. Чорныя кропкі з назвамі еўрапейскіх сталіц зрушыліся з месца і закружыліся ў карагодзе. Я дрымотна націснуў клавішу на панэлі і, засынаючы, паспеў усцешана падумаць, якія ціхія вечары чакаюць мяне наперадзе.

Другі камплект ключоў спатрэбіўся нашмат раней, чым я меркаваў.

Я наняў кватэру ў сакавіку, а на пачатку наступнага месяца яна ўжо чула жаночы голас.

Як і абсалютная большасць такіх знаёмстваў, нашае — ад сустрэчы на стаянцы таксі да пакінутага нумара тэлефона — было наборам банальных словаў і ўчынкаў. Праўда, тэлефон я даў свой — не столькі таму, што Наташа мне адразу спадабалася, як з прычыны беспрасветна здзеклівага маўчання майго белага тэлефоннага апарата.

Я не цешыў сябе спадзяваннямі на прарыў гэтае блакады, але праз два дні тэлефон загаварыў Наташыным голасам.

Яна зрабілася маёй у самы першы візіт сюды і потым прызнавалася, што вельмі праз гэта перажывала. У тыя дні нашы стасункі ўжо дазвалялі мне растлумачыць Наташы, што яна проста даверылася жаночай інтуіцыі, а тая нашэптвала, што новы знаёмы не будзе траціць час на дзеянні, якія адзін ягоны сябар калісьці назваў танцам паўліна. Мая сяброўка згадзілася. Яе русая галоўка з дзвюма падкручанымі каля скроняў даўгімі кудзеркамі ляжала ў мяне на плячы. Чорная штора захінала нас ад дзённага святла і астатняга свету. З прайгравальніка, якому пасля Наташынага з'яўлення я вызначыў месца на століку каля карты, лілася лютневая музыка, а на падлозе пры ложку стаяла пляшка чырвонага віна.

Наташа сказала, што ні ў чым не раскайваецца, і, не падымаючыся, напоўніла шклянкі. За вакном раскашаваў травень, і на сажалцы каля былых лютэранскіх могілак у шарую гадзіну пачыналіся жабіныя канцэрты.

Назваць той час шчаслівым было б няшчыра. Як акрэсліць яго больш дакладна?.. Ён поўніўся жыццёвай энергіяй. Ён быў падарункам лёсу, хоць часам я падазраю, што таемныя сілы, якія неўзабаве зацягнулі мяне ў свой водаварот, усяго толькі вырашылі даць мне адпачынак перад блізкімі выпрабаваннямі.

Адрозна ад некаторых літаратурных герояў, я не жыў ад спаткання да спаткання. Раніцой я сядаў за стол і пісаў тры, а калі шанцавала, то і чатыры старонкі будучай кнігі. За тыдзень чарнавік апавядання звычайна быў гатовы, і, паводле старой звычкі, перад тым як перапісваць опус начыста, я чытаў яго сам сабе ўголас.

Апошні аповед, праўдзівей, ягоны чарнавік, так і застанецца на стале непрачытаны...

Ну навошта гэтае недарэчнае «апошні»? Хіба тое, да чаго я рыхтуюся, не дазволіць мне?.. Адкуль бяруцца сумневы, калі падарожжы не даюць для іх ніякага грунту? А можа, я толькі пераконваю сябе, старанна калекцыянуючы памысныя доказы і заплюшчваючы вочы на тое, што ўпарціцца класціся ў схему?..

Не, цяпер я павінен вярнуцца ў той травень, да Наташы, да жабіных канцэртаў і бэзу на амаль вясковай суседняй вуліцы.

Калі не памыляюся, я яшчэ не згадваў, што пасля разводу звольніўся са службы. Ганарару за папярэднюю кнігу, па маіх падліках, хапала не меней як на год-паўтара, а надаўжэй я даў сабе слова жыццё не планаваць.

Дык вось, ад раніцы я пісаў свае абавязковыя тры старонкі. Потым выпраўляўся на праходку, выбіраючы

ціхія вулачкі з дагледжанымі кветнікамі, лавачкамі і аканіцамі. Памежным слупам паміж гэтымі вуліцамі і новым горадам служыў дзевяціпавярховы дом з гастраномам, дзе я на зваротным шляху купляў пару бутэлек сухога віна.

Мае дачыненні з суседзямі абмяжоўваліся знаёмствам з колішнім электрамантажнікам Лёнем, які будаваў высакавольтныя лініі і, вярнуўшыся аднаго разу з камандзіроўкі, убачыў жонку ў абдымках у шчаслівага суперніка. Лёня выгнаў няверніцу з дому, а сам запіў, сарваўся з мантажнай мачты і атрымаў інвалідную пенсію. Заходзячы пазычыць чарговую пяцёрку, Лёня паўтараў сваю гісторыю ў розных варыянтах, але ніколі не забываў шляхетна адзначыць, што жонка здрадзіла яму не з першым-лепшым аматарам амурных прыгодаў, а з капітанам далёкага плавання. Мне імпанавала, што Лёня хутка развучыў, у які час не трэба турбаваць памаранчавага сабачку, бо ён вартуе нас з Наташаю.

Сабачка вітаў маю сяброўку такім вясёлым брэхам, нібыта чакаў яе разам са мною. Аднак неўзабаве ён ужо мусіў дэманстраваць радасць толькі пацеркамі бурштынавых вачэй, бо я ўручыў Наташы ключы.

Па яе прыходах можна было правяраць гадзіннік. А палове пятай за ёю зачыняліся дзверы, а ў 16.35 мы ўжо любілі адно аднаго. Пяці хвілінаў якраз хапала на тое, каб выпіць келіх віна і скінуць з сябе ўсё, што перашкаджала лавіць доўгія хвіліны асалоды.

Наташа паходзіла са шчаслівага племя тых жанчын, якія ніколі не паўтараюцца і гэта не каштуе ім аніякіх намаганняў, бо атрымліваецца незалежна ад іх волі.

Яе з'яўленне не толькі змяніла мой распарадак, але і ўнесла разнастайнасць у рацыён, бо тая самая інтуіцыя падказала ёй, што каханак мае таемныя

схільнасці гурмана. Пасля таго як мы, вяртаючыся ў рэчаіснасць з першай блізкасці, дапівалі ў ложку нашу першую пляшку віна, Наташа ішла на кухню, каб згатаваць на вячэру што-небудзь цікавейшае за маю заўсёдную яечню ці смажаныя калдунцы.

Кухня бачыла Наташу ў шлафроку, які яна прынесла і акуратна павесіла на плечыкі ў адно з першых, яшчэ насцярожаных наведванняў. Я напісаў «кухня бачыла» і падумаў, што выкарыстаў гэты выраз неасэнсавана, але зусім не выпадкова. У тыя дні я ні за што не напісаў бы так. Тады мая аднапакаёўка ўпэўнена вяла ролю звычайнай кватэры на гарадской ускраіне.

Ага, шлафрок. Той зялёны, з буйнымі шыпшынавымі кветкамі шлафрок напачатку, я дагэтуль памятаю, укалоў мяне думкаю аб тым, дзе вісела гэтая спакуслівая апранашка раней.

Мне падабалася дапамагаць Наташы каля газавай пліты і збіраць на стол, у які мы ператваралі два пастаўленыя пры ложку зэдлі. Новую сустрэчу нашых целаў афарбоўвала ўжо не вострае жаданне, а пяшчота ўзаемнага прыцягнення. Здаволіўшы першы раз смагу, цяпер мы як быццам дапівалі пакінутыя глыткі, каб запасу валодання адно адным хапіла да наступнае, заўтрашняй ці паслязаўтрашняй паловы на пятую.

Шлафрок займаў сваё месца ў шафе, калі электронны гадзіннік у драўляным корпусе паказваў без чвэрці восем. Па дарозе да тралейбуснага прыпынку я браў Наташу за руку і любіў раз-пораз злёгку сціскаць яе сухія цёплыя пальцы, адчуваючы іх адказ. Калі насустрач нам траплялася юная парачка, мая сяброўка вызваляла руку, гаворачы, што маладзёнам будзе смешна: такія старэнькія і трымаюцца за ручкі. Яна какетнічала, бо і сама выдатна ведала, што абсалютная большасць гэтых жаўтаротых дзяўчатак магла б толькі пазайздросціць яе маладому, гнуткаму і такому

таленавітаму целу, якое, здавалася, мела намер ніколі не падпарадкоўвацца часу.

Аскепак былога, ужо амаль чужога жыцця…

Бэзавы травень неўпрыкмет пераліўся ў язмінавы чэрвень; у ліпені Наташа з’ехала на два тыдні ў адпачынак, але такая доўгая ростань нічога не змяніла: у прызначаны дзень я нецярпліва, як хлапчук, чакаў яе, і ключ павярнуўся ў замку роўна а палове пятай.

Усё пачалося напрыканцы жніўня, калі ўслед за спёкаю некуды прапалі і цэлыя раі матылькоў-крапіўнікаў, што яшчэ нядаўна акупавалі наваколле, залятаючы ў адчыненае вакно і бессаромна апускаючыся на нас, куды ім толькі заманецца.

Як нядаўна і як даўно гэта было!.. Часам я сапраўды адчуваю настальгію па тым жыцці, але яна нагадвае настальгію жыхара Атлантыды, якому пашчасціла ўратавацца, калі ягоны мацярык загінуў. Маё былое жыццё паглынулі хвалі. Напісана, вядома, занадта прыгожа, каб быць праўдаю. Проста я адчуваю, што дарогі назад няма.

Але ці маю я права ўпэўнена сцвярджаць, што ўратаваўся?..

У любым выпадку я цудоўна памятаю дату здарэння, што сталася прадвесцем… Які сэнс займацца пошукамі эўфемізмаў? Прадвесцем *прыходаў*. Дакладнейшага тэрміну я не знайшоў, як не вынайшаў і нічога лепшага за *падарожжы*.

Падарожжы стануць другой стадыяй…

Прашу вас адкінуць падазрэнні і не шукаць тут ніякіх сімптомаў. Падрыхтуйцеся чытаць далей з большай увагаю, і гэта пераканае вас у поўнай яснасці майго розуму, якую ён захаваў насуперак усяму, што на яго абрынулася.

Таго дня на праходцы пасля трох ранішніх старонак мне ўспомніўся мой гаспадар. Ужо паўгода ён не

ашчасліўліваў мяне новымі падарункамі, не высвятляў, ці люблю я Шапэна, і наогул ніяк не нагадваў пра сябе, за што я быў яму бязмерна ўдзячны, як, дарэчы, і за прайгравальнік, што аздабляў нашыя з Наташаю спатканні.

Вынікам гэтай прыгадкі сталі змены ў маршруце, якія прывялі мяне ў музычную краму.

Я выбраў кружэлку «*Led Zeppelin*» з маёй улюбёнаю «Лесвіцай у неба», капрысы для скрыпкі Паганіні і ўжо кіруючыся да выхаду, убачыў на стэлажы рамантычны профіль Шапэна. Памяць была напагатове: «Скажыце… вы любіце… Шапэна?» — «Мне падабаюцца прэлюдыі, але вельмі прашу нічога больш мне не дарыць…» Тады я адказаў праўдзіва, а на дыску ў чорна-зялёным канверце, які трымаў цяпер у руках, былі якраз яны, знакамітыя «Дваццаць чатыры прэлюдыі» — ад радаснага парыву першай да трагічных басовых фігурацыяў заключнай.

Дома я паслухаў «Лесвіцу ў неба» і паставіў Шапэна. Адварот кружэлкі пачынаўся з прэлюдыі № 15, якую Жорж Санд, нягледзячы на пратэсты Фрыдэрыка, называла «прэлюдыяй у кропельках». Гэтая пастаральная п'еса з рысамі накцюрну зноў прывяла мяне за пісьмовы стол, натхніўшы яшчэ на адну старонку чарнавіка.

Ад рукапісу адарваў водар ментолавых цыгарэтаў. Дакладней, я пачуў яго трохі раней, але нейкі час пяро яшчэ бегала па паперы, а прыемны пах існаваў на перыферыі ўспрымання, нараджаючы туманныя вобразы тонкай рукі, няярка падведзеных вуснаў, белай цыгарэты з пакінутым памадаю ружовым колцам… Неўзабаве я адчуў лёгкае здзіўленне і падняў галаву. На тле кніжных паліцаў плыла шызая пасмачка дыму. Крыху заінтрыгавана я падышоў да расчыненага вакна і глянуў долу. Унізе сядзеў на лавачцы былы

электрамантажнік Лёня, што зроду не курыў нічога, апрача «Астры». Пасмачка знікла з відавоку, ды пах аказаўся трывалым, нібыта курылі дзесьці зусім блізка, у суседнім пакоі, якога ў мяне не было. Мне падумалася, што Наташы такія водары маглі быць не да густу, і я на ўсялякі выпадак адчыніў дзверы на пляцоўку. З пад'езда звыкла цягнула катамі. Значыцца, вінаватыя былі вакно і тутэйшая мудрагелістая ружа вятроў.

Пачатак вечара не быў адметны нічым, акрамя таго, што мы слухалі новыя кружэлкі, прычым на Шапэна часу не хапіла. Выдатна памятаю, што паставіў прэлюдыі на прайгравальнік, аднак Наташа ўжо прычэсвалася перад нашым вялікім авальным люстрам, і я не стаў апускаць іголку на дыск.

Я вяртаўся ў тым настроі, які Лёня навучыўся вызначаць абсалютна беспамылкова. Удзячны за атрыманую пяцёрку, ён пацягнуўся следам на мой трэці паверх. На пляцоўцы Лёня закурыў, і я аўтаматычна адзначыў, што ў руках у яго пакамечаны пачак «Астры».

У гэты момант мне і здалося, нібыта з-за дзвярэй чуецца музыка. Я напружыў слых і пазнаў «прэлюдыю кропелек». У першыя імгненні — ці то з прычыны бесклапотнага настрою, ці таму, што побач стаяў Лёня — адкрыццё ўспрынялося зусім спакойна. Я крутануў у замку ключ, развітаўся з суседам і апынуўся ў сваім цесным калідорчыку. У кватэры плавала заканчэнне музычнай фразы, і гэта, несумненна, быў прэлюд № 15. Толькі тут да мяне дайшла сутнасць таго, што адбываецца. Чуючы пад сэрцам непрыемны скразнячок, я рыўком адчыніў дзверы ў цёмны пакой і пстрыкнуў выключальнікам.

У пакоі нікога не было, прайгравальнік моўчкі стаяў на месцы, але ў паветры пахла ментолавым цыгарэтным дымам. Я праверыў кухню, лазенку і абе-

дзве сценныя шафы, а потым сеў на непрыбраны ложак і засмяяўся.

Не скажу, каб мой смех прагучаў цалкам пераканаўча.

Музыка за дзвярыма, вядома, прымроілася, але што было рабіць з пахам? Дзесьці я чытаў пра спецыфічныя нюхальныя галюцынацыі, аднак адкуль тады ўзялося блакітнае воблачка на асноведзі чорнай шторы, якое цягнулася да прачыненае форткі?.. Ці не зашмат галюцынацыяў?

Я наліў поўную шклянку віна і, выпіўшы яго маленькімі глыткамі, заняўся аналізам сітуацыі.

Самым натуральным адказам на ўсе пытанні была б нядаўняя прысутнасць у гэтых сценах чалавека з цыгарэтаю. Разам з тым такое тлумачэнне выглядала найбольш хісткім. Калі ў кватэры насамрэч хтосьці знаходзіўся, ён меў усяго хвілінаў пятнаццаць паміж нашым з Наташаю адыходам і маім вяртаннем. За гэты час аматар ментолавых цыгарэтаў павінен быў, па-першае, нейкім чынам трапіць у кватэру, а па-другое, паспець сысці да майго прыходу. Але з якой мэтаю? Каб выкурыць цыгарэту і тым самым пакінуць сведчанне свайго незаконнага ўварвання? Версія выглядала досыць сумнеўнай, хоць і пакідала прастору для далейшай распрацоўкі.

Паводле элементарнай логікі, пранікнуць у кватэру, маючы лічаныя хвіліны, найперш мог чалавек з ключамі. Адны ключы ляжалі ў мяне ў кішэні. Другія Наташа трымала ў касметычцы. Трэці камплект я паўгода таму паклаў у верхнюю шуфляду пісьмовага стала.

Па дарозе да стала позірк спыніўся на попелцы, што стаяла на паліцы паміж Шывам і томам Акутагавы. Аднарогі чорт супакоіў адсутнасцю якіх-небудзь слядоў попелу. Верхняя шуфляда таксама не падвяла. Я наліў сабе віна і ўключыў тэлевізар. Ішоў французскі

дэтэктыў. Упэўніўшыся, што ахвяра мёртвая, забойца спускаўся па аплеценай дзікім вінаградам сцяне. Я адчыніў куфар. Вераўчаная лесвіца была ў наяўнасці, аднак мне ўсё роўна захацелася пераключыць тэлеканал.

Наташын муж, знаходка ў касметычцы, выраб дублікатаў ключоў etc... Ад гэтай гіпотэзы я рашуча адмовіўся. Апрача ўсіх астатніх «нацяжак», ні Наташа, ні яе муж не курылі.

Развагі непазбежна скіраваліся на гаспадара кватэры. Я пракручваў у памяці нашу першую і адзіную размову, і яна мне ўсё больш не падабалася. Сцэна з ключамі... У дадатак да трох ручаных мне з такім кранальным клопатам камплектаў, безумоўна, існавалі яшчэ тры або нават трыццаць тры. А пытанне, ці адзін я збіраюся жыць... Плюс асцярожны і, магчыма, тонка прадуманы намёк, што я магу заўважыць нешта такое...

Мною авалодала несамавітае адчуванне таго, што мяне ўцягваюць альбо ў блазенскі розыгрыш, альбо, наадварот, у добра спланаваны эксперымент. У кожным разе становішча выглядала, далікатна кажучы, дыскамфортным, бо сцэнарый ствараўся без майго ўдзелу хаця б у якасці кансультанта. Праўда, дзесьці на ўзбочыне раз-пораз выплывала з туману тое дзіўнавата-спалоханае гаспадарова пытанне пра Шапэна, але які, скажыце, здаровы розум здатны быў звязаць яго ў адзін ланцужок з набытай сёння мною па ўласнай волі кружэлкаю ў чорна-зялёным канверце і, тым больш, з дымам ментолавых цыгарэтаў?

Як паказала надзвычай блізкая, можна сказаць, затоеная за матавымі дзвярыма будучыня, якраз логіка і была тут найменш патрэбная.

Ладзячыся на сон, я ўпершыню зачыніў уваходныя дзверы на ўсе тры замкі. Я яшчэ не ведаў, што ў доўгай чарадзе наступных начэй гэтая выявіцца ці не самай ціхамірнаю.

Раніца, як зазвычай, унесла ў вечаровыя ацэнкі свае карэктывы. Зрэшты, іншых высноваў, акрамя відавочнага — непасрэднага ці ўскоснага — удзелу ў гэтай таямнічай гісторыі майго гаспадара, я ўчора так і не зрабіў. Дый сама таямнічасць у сонечным святле ўвачавідкі паблякла і атрымала аперэтачны выгляд.

Каля дванаццатай патэлефанавала Наташа. Яна не магла прыйсці, што мяне крыху засмуціла, але я даўно быў у тым веку, калі адмена спаткання не здольная істотна змяніць яркасць навакольных барваў. Паклаўшы слухаўку, я ўспомніў, што паслязаўтра пятніца, а значыць, Наташа, як заўсёды перад выхаднымі, затрымаецца ў мяне даўжэй і вынайдзе нешта арыгінальнае не толькі на кухні.

Пасля дзённай прагулянкі я не напаткаў дома нічога падазронага. Самым выяўным з пахаў быў смачны водар змолатай мною на ручным млынку кавы. Не скажу, што нервы канчаткова ўгамаваліся, аднак заглыбіцца ў пачаты рукапіс удалося без вялікай цяжкасці.

Павячэраўшы філіжанкаю кавы з лусцікам, я сабраўся на шпацыр. Вечар вярнуў учарашняму здарэнню загадкавую значнасць, у выніку чаго зборы адрозніваліся ад звычайных. Найперш я наглуха зачыніў фортку, потым стаў пасярод пакоя і пастараўся запомніць дакладнае размяшчэнне попелкі, масянжовага Шывы, раскладзеных на стале кніг і старонак рукапісу. Дзверы былі, як і нанач, зачыненыя на ўсе тры замкі, а кішэню джынсаў прыемна адцягваў падараваны Наташай паляўнічы нож у скураной похве.

Маршрут руху таксама быў удакладнены. Былыя могілкі з іх слаба асветленымі ваколіцамі выглядалі для позняга шпацыру месцам даволі спрэчным, затое адтуль я добра бачыў свой дом і вакно ў тарцы на трэцім паверсе, якое пакінуў з паднятаю шторай, каб адразу заўважыць святло.

Такім чынам я бадзяўся па колішніх лютэранскіх кладах, дзе нейкім дзівам ацалеў адзін перакулены і абымшэлы надмагільны камень, і час ад часу са зручных кропак кідаў позірк на дом. Кожны раз у такі момант ува мне торгалася нейкая струна і злёгку пераціналася дыханне. Аднак маё вакно нязменна заставалася адзіным цёмным прастакутнікам у сваёй вертыкалі, і хвілінаў праз сорак, настройваючы сябе на іранічны лад, я рушыў дамоў.

Жнівень лічыў астатнія дні, і пад нагамі ўжо траплялiся першыя апалыя кляновыя лісты. Узбегла на памяць мая юначая навела, чый герой пісаў каханай прызнанні на залацістых кляновых лісцях. Ягоным правобразам быў сам аўтар, што пражыў з тых часоў два дзесяцігоддзі і больш ніколі не пісаў такіх лістоў, хоць два ці тры разы яшчэ бываў закаханы і некалі — толькі ў іншым горадзе — вось так блукаў увечары па парку і чакаў, пакуль у суседнім доме загарыцца вакно, святло якога прынясе радасць, што будзе хвалямі нарастаць на лесвічных маршах, каб дасягнуць найвышэйшай адзнакі перад знаёмымі дзвярыма, за якімі гучыць ціхая музыка і чакаюць гарачыя прагныя вусны. Таму закаханаму наканавана было стаць прататыпам чалавека, што сёння глядзеў на іншае вакно і чакаў калі не радасці, дык хоць спакою ад таго, што яно застанецца цёмным, а за дзвярыма сустрэне цішыня.

Музыку я пачуў на пляцоўцы другога паверха. Гэта быў прэлюд № 15, з якога, як я ўжо казаў, пачынаўся другі бок купленай напярэдадні кружэлкі. «Кропелькі» гучалі мацней і выразней, чым учора.

Ногі зрабіліся чужымі, як бывае ад высокае тэмпературы, але загаду падняцца яшчэ на адзін паверх паслухаліся. «Вочка» ў дзвярах заставалася цёмным, ды за імі безумоўна хтосьці быў. Я зняможана

прыхінуўся да лесвічных парэнчаў і паспрабаваў засяродзіцца.

Мелодыя скончылася. Цяпер павінен быў загучаць адметны змрочным каларытам прэлюд № 16, аднак замест яго пасля кароткай пярэрвы зноў зазвінелі «кропелькі». Я выняў нож, праверыў, ці лёгка ён выходзіць з похвы, і, трымаючы зброю ў левай руцэ, правую падняў да званка.

У тое самае імгненне ў кватэры прачнуўся тэлефон. Пакуль ён з доўгай настойлівасцю паўтараў званкі, сэрца паспела зрабіць падарожжа па ўсім целе. Званкі заціхлі адначасова з фінальнымі акордамі прэлюдыі.

З таго боку дзвярэй запала глухая вусціш. «Вочка» па-ранейшаму было цёмнае, але не існавала ніякай гарантыі, што адтуль хтосьці затоена не глядзіць на мяне, таксама сціскаючы ў руцэ нож альбо нешта больш надзейнае. Нядаўні намер націснуць на гузік званка падаўся мне неабачлівым. Бегчы да тэлефона-аўтамата, каб выклікаць міліцыю, значыла дазволіць майму госцю без праблемаў падмазаць пяты. Я чамусьці быў перакананы, што музыку Шапэна слухаў менавіта госць, а не госці.

Выйсце падказаў грукат з размешчанай насупроць Лёневай кватэры. Сусед штосьці майстраваў у калідоры і, на шчасце, быў адносна цвярозы. Яшчэ больш дарэчным падаўся малаток у ягонай руцэ. Я экспромтам папрасіў паглядзець зламаны вентылятар і, не даючы Лёню пакінуць дома малаток, падштурхнуў яго да сваіх дзвярэй. Левую руку я апусціў у кішэню з нажом, правая занялася ключамі. Трэба сказаць, левая чулася спакайней. Лёня зазначыў, што яму хапае аднаго замка і па-філасофску дадаў, што, вядома, калі б іх было, як у мяне, тры, ён, можа, і не жыў бы цяпер адзін, бо жонка з капітанам далёкага плавання зачыніліся б як след і не дазволілі застукаць іх проста ў ложку. Лёня

меў права гаварыць, што хоча, абы трымаў малаток і быў гатовы па маёй камандзе пусціць яго ў ход.

Калідор сустрэў нас пустатой, пакой і кухня — таксама; вокны і форткі былі зачыненыя, дзверы на абедзвюх шафах — зашчэпленыя звонкі, але нос пачуў пах ментолавага дыму яшчэ раней, чым вока запрыкмеціла на фоне вакна свежы струменьчык дыму. Няпрошаны візітант мог хавацца толькі ў лазенцы.

— Лёня! — крыкнуў я, выхопліваючы нож. — У ваннай хтосьці ёсць! За мной!

Уключальнік быў у калідоры. Я тыцнуў у яго пальцам і рвануў дзверы.

З абодвух кранаў капала, а бачок над унітазам сумаваў па сантэхніку.

— Ну ты даеш… — пахітаў галавою Лёня.

Я адкруціў сіні кран, вымыў слізкія ад поту рукі і, набіраючы ваду ў прыгаршчы, астудзіў твар. Затым павольна выцер яго ручніком і напіўся. Наколькі магчыма, я адцягваў вяртанне ў пакой, бо ведаў, што там мяне чакае прынамсі адно, не лічачы дыму, непрыемнае адкрыццё.

Адкрыццяў аказалася болей.

Разгорнутая кніга на пісьмовым стале кінулася ў вочы яшчэ ў ліхаманцы ўварвання. Адыходзячы, усе кнігі я пакінуў закрытымі.

Рэвізія іншых кантрольных рэчаў выклікала недальнае жаданне плюнуць на заплачаныя наперад грошы і заўтра ж з’ехаць з гэтай кватэры, каб забыць і перастаўленага з трэцяй на чацвёртую паліцу індыйскага бажка (на ранейшым месцы застаўся акуратны незапылены квадрацік), і бязладна ператасаваныя старонкі рукапісу, і — найперш — чортаву фізіяномію папяльнічкі з напоўненымі попелам вачніцамі.

Лёня адрамантаваў вентылятар і лашчыў позіркамі выстаўленую на стол пляшку каньяку. Я няроўна

наскрыляў паляўнічым нажом лімон і наліў адразу па палове шклянкі. Усе тлумачэнні і спадзяванні, якімі я сябе закалыхваў, дазвання развеяліся, адкрыўшы голую праўду: хтосьці з невядомым намерам пранікае ў маю кватэру.

Без вялікай ахвоты развітаўшыся з суседам, я зварыў сабе кавы. Зайсці госць мог праз дзверы, але якім чынам яму ўдалося сёння непрыкметна выслізнуць, калі вокны былі зачыненыя з сярэдзіны? Заставаліся сцены, падлога і столь.

Я ўзяўся метадычна праступкваць сцены і дзейнічаў так старанна, што, калі дайшоў да карты Еўропы, костачкі пальцаў наліліся болем. Карта здалася мне найбольш небяспечным месцам. Не, гэтая сцяна не адгукалася замаскаванаю пустатой, а выглядала падазронаю сама сабой — і нязвычнасцю ў якасці часткі інтэр'еру, і сваёй прасторавай перспектывай. Прастукаўшы кухню і калідор, я заняўся падлогаю, а пасля, перастаўляючы крэсла, уважліва агледзеў столь. Калі не лічыць павучка, што хаваўся за гадзіннікам, нічога адметнага я не знайшоў і, як ні дзіўна, прыняў гэты сумнеўны вынік з пэўным задавальненнем. Гадзіннік паказваў палову на першую, і ад мяне патрабавалася дапіць каньяк і заваліцца спаць.

Ноч прайшла спакойна. Мне сніліся не таемныя наведнікі, а мінулае лета і Наташа, з якой мы займаліся любоўю на азёрным плыткаводдзі.

Я прачнуўся спустошана-лёгкі і пад свярдзёлкамі халоднага душу вырашыў не прадпрымаць абсалютна нічога, а чакаць працягу падзеяў. Ці трэба казаць, што якраз гэтага працягу мне хацелася найменей? Я быў бы шчаслівы, каб усе падзеі майго жыцця як мага даўжэй абмяжоўваліся дзённымі сустрэчамі са сваімі рукапісамі і вечаровымі — з жанчынай, якая ўмела любіць не толькі ў снах. Дзякуючы бабулі

я з дзяцінства памятаў колькі малітваў і ў тую раніцу памаліўся за modus vivendi, якога прагнула мая душа.

Наступны дзень прамінуў так, нібы хтосьці сапраўды пачуў малітвы. Але цяпер я ўпэўнены, што насамрэч тая кароткая перадышка была дадзеная, каб падрыхтаваць мяне да новага кроку на ўжо вызначаным шляху.

На другі вечар пасля абстуквання кватэры і знаёмства з гадзіннікавым павучком я таксама вяртаўся дахаты праз былыя могілкі. У шатах старых клёнаў пасяліўся верасень, але вечары захоўвалі вернасць жнівеньскай цеплыні, збіраючы на лавачках юныя пары закаханых.

На падыходзе да дому я зірнуў на сваё вакно і быццам наляцеў на невідочную сцяну: на вконным тле вымалёўваўся светлы сілуэт. Я да болю ў павеках заплюшчыўся і праз хвілю асцярожліва адкрыў вочы. Сілуэт знік. Я казаў сабе пра аптычны падман зменлівага сутоння, аднак ува мне не знайшлося ніводнае клеткі, якая дала б гэтаму веры. Разам з тым я адчуў, як спеліцца рашучасць. Да пад'езда заставалася сотня крокаў. Я перайшоў на бег і апынуўся перад кватэраю меней чым праз хвіліну.

За гэтую хвіліну мне ўспомнілася, як некалі, пасля выхаду першых кніжак, маё самалюбства любіла цешыцца выслоўем кагосьці з лацінаамерыканскіх мэтраў: я гуляю ў пісьменніка, і гульня можа стацца смяротнаю.

У суседзяў злева грымеў магнітафон, і пачуць нешта з-за маіх дзвярэй было немагчыма. Відаць, гэтая акалічнасць і надала мне мужнасці. Не маючы з сабою ні нажа, ні якой іншай хаця б сімвалічнай зброі, я, не марудзячы, адамкнуў дзверы і пстрыкнуў калідорным выключальнікам. З зачыненага цёмнага пакоя даносіўся незразумелы роўны шум. Я набраў

поўныя лёгкія паветра і ўдарыў нагою дзверы. Святло запальвалася адразу за вушаком. На століку каля карты працаваў вентылятар. Узброіўшыся цяжкім Шывам, я кінуўся ў кухню...

Апрача мяне ў кватэры нікога не было. Дакладней, апрача мяне, уключанага некім вентылятара і паху ментолавых цыгарэтаў.

Была яшчэ пляшка каньяку. Я асушыў поўны вінны келіх, спыніў вентылятар і заняўся праверкаю.

Вачніцы папяльнічкі зеўралі пустатой, затое сляды попелу меліся на падлозе каля карты, якую я зноў старанна абследаваў ад Лісабона да Волгі. Наўрад ці я здольны быў адказаць на пытанне, што спадзяваўся знайсці, бо карта была наклееная на глухую сцяну, якая другім бокам выходзіла на вуліцу.

Самым разумным выйсцем здалося вяртанне да сфармуляванага тры дні таму рашэння: пачакаць дадатковых фактаў.

Чаканне не здоўжылася: падзеі, перамінаючыся з нагі на нагу, літаральна стаялі за дзвярыма.

Пасля вялікай дозы каньяку я заснуў досыць хутка, але сон быў неглыбокі — поўны няўлоўных вобразаў, абрыўкаў мелодый, трывожных шолахаў. Зялёная рыбіна свядомасці плавала ў ваколіцах зыбкай мяжы сутонлівай явы і сну. Штосьці замінала ёй апусціцца бліжэй да дна, знайшоўшы спачынак у мяккім багавінні, і гэтае штосьці пачынала акрэслівацца ў ціхім шэпце і лёгкіх кроках.

Я прахапіўся, быццам ад дотыку, і інстынктыўна схапіў пакінутага на падлозе Шыву. Лічбы ў драўляным вакенцы гадзінніка сцвярджалі, што ішла другая гадзіна ночы. Штора засталася неапушчанай, і ў пакоі было дастаткова светла.

Стаіўшы дыханне, я пасунуўся на сярэдзіну ложка, каб убачыць дзверы ў калідор. Цяпер заставалася кры-

ху нахінуцца наперад. У рэдкім цемрыве ўзніклі размытыя абрысы матавай дзвярное шкліны.

Каб Шыва быў жывой істотаю, наступная хвіліна сталася б для яго апошняй. Мая рука сціснула стодку з нечалавечай сілаю: з таго боку дзвярэй прамільгнуў выразны цёмны цень.

Праз некалькі ўдараў сэрца шкло зноў пацямнела.

Страх туга спавіў ногі і замарозіў волю. У абладзе такой усеабдымнай жуды я апынуўся аднойчы ў дзяцінстве, калі, начытаўшыся нанач у пустой кватэры навелаў Праспера Мерымэ, прачнуўся сярод ночы, і, як эпілог вусцішнага сну, да мяне працягвала рукі Венера Ільская, дакладна такая, як у кнізе: з плямамі пацiны і лацінскім надпісам *CAVE AMANTEM** на ўзножжы.

Параўнанне таго начнога жаху з дзіцячым паўсном-галюцынацыяй я, вядома, знайшоў пазней. А тады ўсё ж удалося адарвацца ад ложка і зрабіць крок да дзвярэй. Левая рука намацала выключальнік. Паляўнічы нож ляжаў на адлегласці трох крокаў, якія я пераадолеў шалёным звярыным скачком.

З нажом у правай руцэ і бажком у левай я стаяў перад дзвярыма, фізічна адчуваючы, як хтосьці стаіць за матавым шклом. Дзверы адчыняліся з калідора ў пакой, значыцца, той хтосьці меў яўную перавагу, бо мог са сваёй цемры напасці раптоўна. Я ведаў, што ў такіх выпадках развагі адно нашкодзяць, а таму з ваяўнічым крыкам «А-а-а!» тарганyў дзверы на сябе і вылецеў у цёмны калідор…

Мой нож увайшоў у пустату. Кухоннае вакно сцераглі ўсе шпінгалеты, а дзверы на лесвічную пляцоўку апрача замкоў ахоўваў сталёвы ланцужок. Тое, што з дапамогаю хітрамудрай прылады ланцужок можна скінуць, уваходзячы ў кватэру, хоць і з цяжкас-

* Сцеражыся той, што цябе пакахае (*лац.*).

цю, але дапускалася, аднак магчымасць накінуць яго, выходзячы ў пад'езд, выглядала цалкам нерэальнай. Тым не менш хтосьці пабываў не толькі ў калідоры і ў кухні, але і ў пакоі: не перавандравала ж аднарогая чортава галава з кніжнай паліцы на лядоўню сваім ходам, загрузіўшыся па дарозе попелам ад некалькіх цыгарэтаў, што напоўнілі кухню насычаным пахам ментолавага дыму.

Праўда, я здзіўлена адзначыў, што пах, пры ўсёй таемнасці свайго з'яўлення, дзейнічаў на мяне супакойліва, бо ўпарта не хацеў асацыявацца з кімнебудзь накшталт наёмных забойцаў. Я хутчэй паверыў бы, што цыгарэту курыла жанчына…

Якая жанчына? Што ўмее праходзіць праз сцены?..

Наліваючы каньяк, я падумаў, што, калі гэта не скончыцца, я маю рэальныя шанцы спіцца. Захацелася зірнуць на сябе на пачатку гэтага рызыкоўнага шляху, і я падышоў да авальнага люстра над куфрам. На першы погляд, нічога асаблівага ў маім абліччы не заўважалася. Сівая пасма на правай скроні магла, дапусцім, з'явіцца раней. І ўсё ж узнікла адчуванне, што ў гэтым рослым чалавеку ў зялёнай начной піжаме прысутнічае новая якасць… Нацадзіўшы трэцюю порцыю каньяку, я адшукаў адказ: чалавек у люстэрку меў большае падабенства не з пісьменнікам, а з яго персанажам.

Гэтае назіранне нечакана прыйшлося мне даспадобы. Ёсць такая псіхалагічная гульня-рэкамендацыя: у цяжкай сітуацыі трэба ўявіць, што дзейнічаць зараз будзеце не вы, а створаны вашай фантазіяй чалавек, з якім вы — каб захаваць дыстанцыю для кіравання двайнікам — атаясамляеце сябе толькі да пэўнай мяжы.

Я загадаў свайму двайніку класціся  ды іранічна сачыў, як ён хавае пад падушку нож. Мы з дублёрам

выпілі аднолькавую колькасць каньяку, аднак я быў прыкметна цверазейшы і даў яму каманду перакласці падушку на процілеглы край ложка, каб трымаць дзверы ў сектары агляду.

Ён лёг, нейкі час пазіраў у цемры на бялёсую шкліну, а потым, дзякуючы выпітаму і нескладанай гульні, праваліўся ў сон. Гэтым разам насамрэч праваліўся: сон быў глыбокі і глухі, быццам падарожжа ў закінутых сутарэннях, дзе не мільгане ні сонечнага промня, ні агеньчыка і нават не чуваць, як падаюць са скляпенняў кроплі.

І раптам уладная сіла падхапіла мяне і, пранесшы праз немаведама колькі паверхаў, апусціла на ложак у пакоі, дзе пахла цыгарэтным дымам.

Нож быў выхаплены з-пад падушкі ў той самы момант, а мо і раней, чым я ўбачыў за дзвярыма туманлівы цень.

Цень памарудзіў і растаў у калідорным мораку.

Далей я дзейнічаў, як робат: першым чынам кінуўся да куфра і адным махам падцягнуў яго ўсутыч да дзвярэй. У наступнае імгненне я заўважыў, што ў пакоі ўжо гарыць святло і абедзве мае рукі ўзброеныя.

— Хто ты? І што табе трэба? — гучна сказаў я да матавага шкла, здрыгануўшыся ад гукаў уласнага голасу.

Дзверы маўчалі. Злева, з таямнічай прасторы люстра на мяне касавурыўся чалавек з паляўнічым нажом і схопленай за галаву індыйскай стодкай. Нас зноў зрабілася двое, і сціснутая ўва мне да ўпору спружына злёгку аслабла. Калі не лічыць палахліва прашмыгнулага па ліштэўцы прусака, дзверы не выяўлялі ніякіх прыкметаў небяспекі.

Вочы прымагніціла падлога. Адтуль, дзе стаяў куфар, па брунатных масніцах пралеглі да дзвярэй свежыя драпіны. Тут не было нічога звышнатуральнага, і я не адразу сцяміў, чаму не магу адвесці ад іх позірк.

Не, вочы не падманвалі: па фарбаваных дошках у тым самым накірунку, да дзвярэй, ішла цэлая дарожка старых слядоў. Куфар перацягвалі сюды і раней!

Цяпер я зразумеў прызначэнне вераўчанае лесвіцы. Замацаваўшы яе металёвыя лапы, можна спусціцца з вакна на дол. Вось адкуль узяліся тыя глыбокія ўмяціны на падваконні!..

Памылкі быць не магло: я не першы, каго завабілі ў гэтую пастку! Адчуўшы поўную нервовую знясіленасць, я ўзгадаў, што ў аптэчцы ёсць снатворнае.

Першай заўтрашняй вястункаю рэальнасці сталася думка пра вар'яцтва. У ёй было мала ўтульнага, але меўся і станоўчы момант: усе здарэнні атрымлівалі тлумачэнне, а мне заставаўся паход да псіхіятра.

Але, ледзьве звесіўшы з ложка ногі, я мусіў паставіць на гэтым варыянце крыж, бо ні драпіны на маснічынах, ні яшчэ красамоўнейшыя сляды жалезных лапаў на падваконні і не думалі знікаць.

Дык кім жа быў гаспадар кватэры? Ахвяраю тутэйшай д'ябальшчыны? Ядзе сцэнарыстам ці рэжысёрам? У нашай сакавіцкай размове я выкопваў доказы на карысць і першай, і другой версіяў. Прычым адзін і той жа аргумент, у залежнасці ад ракурсу, і там, і тут выглядаў пераканаўчым. Напрыклад, рэакцыя на лядоўню. Жах, які няма змогі схаваць? А мо чалавек з нервовым тварам і ранняй сівізной па-акторску прафесійна ўжыўся ў ролю?

Я адшукаў візітоўку з яго тэлефонам. Ахвяра ці паляўнічы, у любым выпадку ён паводзіў сябе несумленна, і набіраць ягоны нумар было ніжэй маёй годнасці. Апрача таго, затэлефанаваць значыла б прызнацца ў сваім страху, магчыма, падараваць яму радасць. Паміж маімі разважаннямі прыткнулася і падазрэнне, што ні такога нумара, ні чалавека з такім імем проста не існуе.

Вярнуць куфар на месца ў параўнанні з імклівым начным манеўрам аказалася значна цяжэй. Перад тым як адчыніць дзверы, я паслухаў прастору за іх ненадзейным бар'ерам. Шостае пачуццё падказвала, што зараз пагрозы няма. Я прыслухаўся да самога сябе і ўзяўся, куток за кутком, вычышчаць павучынне начнога страху.

За каваю зноў прыгадаўся гаспадар кватэры з яго худзізною і бязглуздымі, як тады здавалася, пытаннямі, што цяпер набылі злавесны цёмны сэнс. Шапэн і прайгравальнік, безумоўна, былі не апошнімі звёнамі гэтага ланцуга таямніцаў.

Шапэн, музычная крама, прэлюд № 15... У густой смузе бліснуў вогнік. Я выйшаў з кухні і ўважліва паглядзеў на прайгравальнік. У душы змагаліся два аднолькава моцныя жаданні: першае — паставіць «прэлюдыю кропелек» і другое — неадкладна занесці апарат з кружэлкаю ў камісіёнку ці, яшчэ прасцей, пакінуць яго дзе-небудзь на паркавай лавачцы.

Як вы здагадаліся, я выбраў першае.

У тую хвіліну я паабяцаў сабе, што не дазволю страху захапіць уладу, і зрабіў першы крок насустрач... Мне хацелася напісаць «насустрач Ёй», аднак тут гэта будзе занадта рана і не скажа вам ні на драбок болей за папярэднюю фразу.

Я проста ступіў да прайгравальніка, падняў празрыстую пластыкавую накрыўку і, паставіўшы дыск, апусціў іголку.

З маленства, калі гэта адбывалася яшчэ інстынктыўна, я слухаў класічную музыку менавіта так: апусціўшы павекі і крыху прыціснуўшы іх вялікімі пальцамі сашчэпленых рук. Такая пастава, пэўна, здзіўляла маіх суседзяў у канцэртных залах, але мне, аматару, які не атрымаў музычнага выхавання, яна заўсёды дапамагала авалодаць мелодыяй і напоўніць

яе асацыяцыямі і вобразамі, што ўзнікалі на экране ўнутранага зроку.

Вобразы прыходзілі самыя розныя. Парк з палацавым ансамблем у духу палотнаў Барысава-Мусатава і Бакста... Крыгі на восеньскай рацэ... Сонечны ўзлесак з чырвонымі пацеркамі суніцаў...

Таката і фуга рэ мінор Баха нязменна выклікалі на гэтым экране старыя ліпавыя прысады і закрыты экіпаж, з якога выходзіць маладая жанчына ў бэзавай сукенцы. У далечы прысадаў з'яўляецца мужчынская постаць. Яны ідуць, потым бягуць насустрач адно аднаму, жанчына апынаецца ў яго на руках, ён кружыць яе пад вячыстымі дрэвамі, але на ўсёй радасці гэтых дваіх ляжыць пячатка нязбытнага трагізму.

Накцюрнавыя інтанацыі прэлюда № 15 прыносілі мне, можа, не самыя арыгінальныя вобразы і гукі вясёлага плачу вясновых ледзяшоў. Нягледзячы на нервовую наструненасць, так здарылася і цяпер. Кропелькі дазвінелі, і праз хвілю іголка ўзнавіла першыя акорды прэлюда № 16.

Вось тады, па-ранейшаму седзячы з заплюшчанымі вачыма, я і пачуў пах ментолавых цыгарэтаў. Я гатовы быў прысягнуць, што ніякіх староннніх гукаў, апроч музыкі, увесь гэты час у пакоі не было: не адчыняліся дзверы з лесвіцы, не рыпела маснічына перад уваходам у пакой, не чыркалі запалкі і не пстрыкала запальнічка...

Я, не варушачыся, падняў павекі. Над пісьмовым сталом мудрагеліста перапляталіся дзве блакітныя пасмачкі дыму.

Так я высветліў сувязь ментолавага паху і музыкі Шапэна.

Дзеля чысціні эксперымента я яшчэ двойчы ўключаў прайгравальнік, ставячы прэлюды, а потым — «*Led Zeppelin*». У першым выпадку струменьчыкі дыму

павіслі ў тым самым месцы, над сталом, узнікнуўшы — я не заплюшчваў вачэй — як быццам ніадкуль. На «*Led Zeppelin*» рэакцыі не было.

Напісанае трохі раней слова «эксперымент» тут уяўляецца перадчасным. Перыяд эксперыментаў ляжаў наперадзе. А тады я рашуча і назаўсёды адпрэчыў жаданне тэрмінова з'ехаць з кватэры, махнуўшы рукой на аплачаныя і непражытыя паўгода. Я думаў ужо не столькі пра неабходнасць супрацьстаяння страху, як пра свой абавязак літаратара, які сутыкнуўся з невядомым.

Калі ва ўмоўлены час зазваніў тэлефон, я зусім спакойна пагаварыў з Наташаю і выйшаў купіць дзве традыцыйныя пляшкі чырвонага віна.

Была, я ўжо казаў, пятніца, таму Наташа не паглядала на гадзіннік і мы змаглі заняцца любоўю другі, а потым і трэці раз, запіўшы яго глытком каньяку, бо віно ўжо скончылася.

Калі я вярнуўся з тралейбуснага прыпынку, мяне не сустрэлі ні музыка, ні ментолавы пах, ні попел у чортавых вачніцах, і я нават пасмяяўся з версіі, паводле якой госці гіпнатызавалі мяне каля дзвярэй і такім чынам прымудраліся шмыгануць у пад'езд.

Ложак захоўваў Наташыны пахі. Усё падводзіла да думкі, што непасрэдна майму жыццю ніхто не пагражае. Я падміргнуў Шыву, які стаяў на звычайным месцы, і зняў з паліцы том Акутагавы, той самы, што гартаў тут у першы вечар. Складзены ў дзве столкі лісток вучнёўскага сшытка з дзіцячым малюнкам жаночага твару ў вакне ляжаў, як і раней, паміж старонак «Жыцця ідыёта». Я разгарнуў яго і задуменна перачытаў надпіс:

ГЭТА НЕ МОЖА
БОЛЬШ ПРАЦЯГВАЦЦА
НЕ МОЖА

Коўдра зберагла цеплыню нашых целаў. Каб хутчэй заснуць, я хацеў скарыстацца, як і ўчора, паслугамі двайніка, але ўрэшце выбраў звыклы, неаднаразова правераны з вясны сродак: выклікаў у памяці Наташу, павярнуў яе да сябе цёплай спінкаю і моцна абняў пад пашкі.

Раніцою я прачнуўся ў накураным пакоі з пачуццём падрыхтаванасці да самага неспадзяванага. З гэтага і пачаўся адлік дзён, якія я ўмоўна назваў перыядам эксперыментаў.

Эксперыменты — часам з досыць значнымі перапынкамі — доўжыліся ад спалення візітоўкі майго гаспадара да першага сну, які яшчэ не стаў сапраўдным *падарожжам*.

Але не буду спяшацца, як не мае права нічога прапускаць чалавек, што вядзе бартавы журнал, калі карабель адхіліўся ад курсу і яго чакаюць альбо адкрыццё новых земляў і трыумф вяртання, альбо гібель і забыццё.

Так, эксперыменты пачаліся пасля спалення візітоўкі з тэлефонам і адрасам гаспадара. Я ўспрыняў гэта як сімвалічны акт, закліканы пацвердзіць маю рашучасць — калісьці з такой самай змрочнай слодыччу я расклаў ва ўніверсітэцкім скверы маленькае вогнішча з лістоў аднакурсніцы.

Вы памыляецеся, калі мяркуеце, што ў аснове маіх дзеянняў ляжаў нейкі грунтоўна распрацаваны лагічны план. Я зыходзіў з таго, што ў алагічных умовах любая сістэма непазбежна дасць збой, а таму трэба разлічваць на імправізацыю. Карацей кажучы, я заняў кругавую абарону і, намацваючы ў праціўніка слабое месца, ладзіў вылазкі адразу на ўсіх напрамках.

Пра некаторыя з доследаў я ўспамінаю са з’едлівай усмешкаю. Ну, напрыклад, пра белыя з зялёным паскам пачкі цыгарэтаў «*Piere Cardin*», якія я — то нерас-

пячатаныя, то знарок пачатыя — пакідаў, адыходзячы з дому, дзе-небудзь навідавоку, як бы запрашаючы пачаставацца. Яшчэ наіўнейшым было нацягванне ў пакоі і ў калідорчыку нітак. Зрэшты, трэба зазначыць, што і ніткі, і цыгарэты заўжды заставаліся нечапаныя, што ніяк не ўплывала на з'яўленне ці адсутнасць у кватэры ментолавага паху. Пачак быў непачаты і тады, як я знайшоў свежы недакурак.

Папярэднія радкі могуць павеяць на вас легкаважнасцю, ды такое ўражанне будзе бясконца далёкае ад рэчаіснасці. Дастаткова сказаць, што я пачаў курыць. Гэта мела, праўда, і чыста практычны сэнс, бо, каб пазбыцца наслання з пахамі, я курыў толькі ментолавыя цыгарэты. Я ўступіў у гульню, але не ведаў ні яе правілаў, ні ставак, хоць увесь час адчуваў, што стаўкі будуць высокія.

Паўтараю, я дзейнічаў непаслядоўна і навобмацак, аднак цяпер, калі дагарае кастрычнік, эксперыменты паддаюцца сістэматызацыі.

Першую іх групу я ўмоўна назаву тэлефоннай. Наогул тэлефон паводзіў сябе бездакорна. Не лічачы пары памылковых званкоў, ён гаварыў выключна грудным, з лёгкім прыдыханнем Наташыным голасам. Мая сяброўка ні пра што не здагадвалася, а дзякуючы майму курэнню не мела падставаў і для звязаных з ментолавым пахам падазрэнняў. Прызнаюся, што я пачуваўся досыць самазадаволена: я жадаў яе і, не зважаючы ні на што, рытуал нашых спатканняў не зазнаў аніякіх зменаў — ад дзвюх неадменных пляшак да выбару маршрутаў на падсветленай карце Еўропы. Божа мой, якое гэта цяпер мае значэнне… Безумоўна, нельга было абмяжоўвацца адным назіраннем за тэлефонам. Я рэгулярна набіраў свой нумар з аўтамата ў час праходак. Кватэра адказвала доўгімі гудкамі. Часам чуліся кароткія, ды гэта нічога не значыла, бо тэ-

лефон быў спараны з суседскім і, калі там размаўлялі, на маім працаваў блакіратар. Разоў колькі я накручваў дыск тэлефона-аўтамата ў пэўных камбінацыях: адлічваў дзесяць доўгіх сігналаў, якім адпавядала роўна столькі ж званкоў майго белага апарата на куфры, даваў адбой, зноў набіраў нумар і адлічваў яшчэ дзевяць, наступным разам — восем, затым — сем... Я пасылаў свайму верагоднаму госцю сігнал: падазраю, што ты ў мяне, чаму б табе не адгукнуцца... Вынік заўсёды быў аднолькавы.

На куфры я прыціснуў масянжовым Шывам цыдулку прыкладна з такім зместам: хто б вы ні былі, прашу папярэджваць пра візіты загадзя, каб у нас не ўзнікала двухсэнсоўных сітуацый. Мяркуючы па свежым цыгарэтным дыме, маё пасланне прачыталі і — пакінулі без адказу.

Гэтаксама безуважна госці паставіліся да «забытых» на стале запасных ключоў.

Нічога новага не паведаміў замаскаваны сярод кніг дыктафон.

Найбольш казыталі нервы эксперыменты з дзвярным «вочкам». Выпраўляючыся на вечаровую прагулянку альбо ідучы праводзіць Наташу, я не выключаў у калідорчыку святла, а вярнуўшыся, націскаў на гузік званка. Мой ненадзейны плюшавы вартаўнік абзываўся насцярожана-вінаватым брэхам, а я, міжволі сцяўшыся, да болю ўваччу ўтаропліваўся ў «вочка», пасярод якога гарэла светлая кропка. Яна магла пагаснуць у двух выпадках: калі б хтосьці выключыў святло або прынік да «вочка» з таго боку дзвярэй. Кропка не пагасла ні разу.

Перад сном я таксама карыстаўся паслугамі «вочка», але ўжо знаходзячыся ў больш выйгрышнай пазіцыі. Накінуўшы на дзверы ланцужок, я прыкладваўся да «вочка» і аглядаў зведзеныя лінзаю

ў цеснае кола аб’екты: дзверы дзвюх суседніх кватэр, пляцоўку і край лесвічнага марша. Там было пуста, аднак колькі разоў у мяне ўзнікала неадчэпнае адчуванне, што гэтаксама ўважліва, як я, у той самы момант хтосьці глядзіць на мяне ў сваё «вочка», быццам бы гэта я стаю на пляцоўцы перад зачыненым уваходам. Прычым, калі давяраць чуццю, мой контрназіральнік знаходзіўся ў мяне за спінай. Перамагаючы страх, я рэзка азіраўся і са змрочнай іроніяй казаў сам сабе: «Мой дом — мая фартэца».

Самую значную групу эксперыментаў складалі звязаныя з прайгравальнікам. Адсюль цягнулася тонкая нітачка хоць да нейкага тлумачэння сітуацыі, закладнікам якое я стаўся. Факт заставаўся фактам: упершыню ментолавы пах матэрыялізаваўся ў пакоі, калі я купіў кружэлку Шапэна.

Я правёў з прайгравальнікам сотні разнастайных доследаў: з дзясятак разоў пракруціў кожны з маіх дыскаў; паставіўшы Шапэна, выходзіў з дому і раптоўна вяртаўся; пераносіў апарат то ў кухню, то, карыстаючыся электрападаўжальнікам, у лазенку... Не сказаў бы, што ў выніку я істотна прасунуўся наперад. Справаздача пра гэтыя манеўры змясцілася б у два-тры пункты. Пах цыгарэтаў трансцэндэнтным чынам узнікаў у кватэры толькі пры гучанні прэлюда № 15. Разам з тым пад перазвон «кропелек» дым мог і не з’явіцца — наўпроставай залежнасці доследы не выявілі. Іншая рэч, што падчас астатніх мелодый магчымасць з’яўлення паху раўнялася нулю.

Пытанняў набіралася болей, чым адказаў.

Шукаць адсутныя адказы я паспрабаваў у сваёй бібліятэцы.

Адна з кніг, аўтара якой анатацыя рэкамендавала як вучня Алены Блавацкай, на некалькі вечароў завалодала маёй увагаю. Напачатку падаліся цікавымі

думкі аб тым, што сутнасць мужчыны ёсць каханне, аблічча ж ягонае ёсць мудрасць, у той час як сутнасць жанчыны — мудрасць, а аблічча яе — каханне, і я нават наладзіў з Наташаю абмеркаванне.

З той самай кнігі я даведаўся, што ў дадатак да вядомых органаў успрымання кожны з нас мае яшчэ сорак дзевяць, што ў сучаснага чалавека бяздзейнічаюць, як, напрыклад, размешчанае на патыліцы трэцяе, празорлівае вока.

Са значна большай сур'ёзнасцю я чытаў пра астральны, альбо тонкі, свет, у якім таксама, уадначас з прысутнасцю ў свеце фізічным, адбываецца чалавечае жыццё.

Дапусціўшы, што я сплю, іначай кажучы, знаходжуся ў тонкім свеце, я атрымліваў шанец спрытна растлумачыць сітуацыю. Але ж маё жыццё ішло ў свеце рэальным і адчувальным кожную хвіліну — з менскай ускраінай, з вечна нецвярозым Лёнем, са смакам віна, з аксамітам Наташынага цела... і з пахам ментолавых цыгарэт...

Тысячу разоў меў рацыю філосаф, што, даючы вызначэнне чалавеку, назваў яго істотаю, якая да ўсяго прывыкае. Абстрагаваўшыся ад гэтага паху, я сказаў бы, што жыццё ў кастрычніку вярнулася ў звыклае рэчышча. Мне ўдалося закончыць адно апавяданне і накідаць эскіз другога. Пра неазмрочаную радасць спатканняў з Наташаю я ўжо згадваў.

Падвёўшы сяброўку на тралейбус, я выбіраў такі зваротны маршрут, каб трымаць на воку сваё вакно, аднак нічога падазронага ні разу не заўважыў. Спыняючыся на пляцоўцы паміж другім і трэцім паверхамі, а потым каля кватэры, я ператвараўся ў слых, ды ніякіх мелодый ці іншых гукаў з-за маіх дзвярэй не даносілася. Зрэдку пах дыму ў кватэры меў большую насычанасць, чым тады, калі я выкурваў абавязковую цыгарэту пе-

рад адыходам. У такім разе, распрануўшыся, я даставаў з пачка яшчэ адну. Аднак выпадалі вечары, калі ў гэтым не было ніякае неабходнасці, і ўва мне мацнеў голас, які пераконваў, што грудкі попелу ў вачніцах у аднарогага чорта, гэтаксама як уключаны не маёй рукою вентылятар, цені за матавым шклом і ўсё астатняе калі і не прымроілася мне, дык адплыло ў невараць. Здаралася, я толькі прыслухоўваўся да супакойлівага голасу, а здаралася — з ахвотаю браўся дапамагаць яму, успамінаючы просценькую параду Дэйла Карнэгі: пасадзіце непрыемнасці ў купэ і адпраўце цягнік ва ўчарашні дзень.

Я занатоўваю дэталі так падрабязна, бо хачу — гэта ўяўляецца мне вельмі істотным — намаляваць як мага дакладнейшы «партрэт» свайго тагачаснага псіхічнага стану.

Кастрычнік стаяў пагодлівы і прыгожы. Мой унутраны ландшафт вярнуў сабе раўнавагу, і эксперыменты працягваліся ўжо пераважна па інерцыі. Я навучыўся на далёкіх подступах блакаваць няўтульную думку, што хтосьці паралельна ставіць доследы нада мною і што мае ўласныя эксперыменты — толькі запланаваная частка ягоных, падпарадкаваных свайму рытму і свайму строгаму графіку.

Здаецца, я пісаў, што перыяд эксперыментаў завяршыўся першым сном, які не быў у поўным сэнсе *падарожжам*. Згадзіцеся, гучыць настолькі ж няўцямна, як і велягурыста. Эксперыменты вымагаюць канкрэтыкі і матэрыяльных доказаў, таму раблю ўдакладненне: той перыяд завяршыўся недакуркамі са слядамі памады.

Зноў была пятніца, дзень, калі мы з Наташаю належалі адно аднаму даўжэй, чым звычайна. Ад раніцы церусіў дождж — надвор’е, якое яна любіла болей за любое іншае. Нам з ёю ніколі не бывала сумна

ні за сталом, ні ў ложку, але ў дажджлівыя дні мы, дзякуючы Наташы, як быццам пілі ўсё з поўных келіхаў. Яе фантазія абавязкова нараджала што-небудзь незвычайнае на кухні. Яшчэ больш пікантныя стравы падаваліся ў ложак, які ў дождж мая сяброўка залішне рамантычна называла каравелай.

Таго дня наш карабель пад акампанемент кропляў на падваконні плыў наперад пад усімі ветразямі...

Мы выбавіліся з дому каля дзявятай гадзіны, але па дарозе пачалі пад парасонам цалавацца і, не згаворваючыся, павярнулі назад. Я трымаў Наташу за руку, глядзеў на мокрае цёмна-бурштынавае лісцё пад нагамі і ўпершыню думаў, што ў нас з ёю ўсё можа атрымацца і тады, калі мне не трэба будзе праводзіць яе ўвечары на тралейбус.

У калідоры мы, быццам сустрэліся пасля доўгай ростані, проста задыхнуліся ў пацалунку.

Я ўпэўнены: наша фізічнае ўвасабленне, самі чалавечыя целы таксама надзеленыя дарам прадбачання і прадчування і бываюць чуйнейшымі за душы. У той вечар душы залагоджана драмалі, а целы... Целы, чуючы блізкае расстанне, кінуліся развітвацца.

Наташа, сяброўка мая, ты не прачытаеш гэтых старонак, аднак, калі ўсё ж прычыніцца непрагоднае, ведай, што, як мы другі раз ішлі на прыпынак, ішлі, забыўшы парасонку, хутка, быццам уцякаючы, і я стараўся думаць, што ў цябе на твары не слёзы, а дажджавыя кроплі, у тыя хвіліны ты не пачула ад мяне ніводнага хлуслівага слова. Гэта праўда, ні з кім да цябе я не адчуваў сябе настолькі мужчынам і настолькі самім сабою...

Але праўда і тое, што здарылася, калі мы запалілі святло.

Наташа паднялася з ложка і прайшлася па пакоі ва ўсёй раскошы свайго жаночага хараства.

На вішнёвым кіліме стаялі шклянкі, недапітая зялёная бутэлька і попелка. Наташа перанесла шклянкі на пісьмовы стол і вярнулася па чорта з адбітым рогам. Я працягваў любавацца ёю і тады, калі яна, паставіўшы поўную недакуркаў попелку на край стальніцы, павярнулася да мяне з нязвычна разгубленым тварам.

— Можна ў цябе запытацца? — Яе голас вібраваў, як струна.

Я сеў.

— Ты фарбуеш вусны?

— Не разумею... — Надышла мая чарга разгубіцца.

— Тады адкажы, што гэта такое?

Яна выбрала некалькі недакуркаў, паклала іх на далонь і, як бы нечага баючыся, наблізілася да мяне.

Гэта былі пяць ці шэсць скураных ледзьве напалову або адразу патушаных цыгарэтаў «Piere Cardin» з трыма тонкімі — параю залатых і пасярэдзіне іх зялёным — абадкамі, каля якіх густа пунсавелі сляды памады.

Я адчуў поўную бездапаможнасць.

— Зараз я табе ўсё растлумачу...

Я памкнуўся злавіць Наташу за руку, ліхаманкава вырашаючы, з чаго пачаць — з Шапэна, з ментолавага паху, з ценяў за дзвярыма? — і да карэньчыкаў валасоў ненавідзячы сябе за тое, што маўчаў пра гэта раней.

Наташа вырвала руку і спяшаючыся, рыўкамі апраналася.

— Не трэба мяне праводзіць! — выкрыкнула яна ў калідоры.

Мы ішлі пад касымі струменямі дажджу, і я гаварыў пра яе голас, пра тое, што ў мяне нікога, апроч яе, няма, што ў панядзелак буду чакаць яе званка, але ўвесь гэты час мяне не адпускала сцішнаватая думка аб тым, што ці хто чакае мяне дома.

«Прэлюдыю ў кропельках» я пачуў на другім паверсе.

Каб паставіць побач з пляшкай каньяку не адзін, а два кілішкі, мне не хапіла зусім мала. Шыва ляжаў на стале ў такой паставе, нібы яго толькі што разглядвалі і ўжо не мелі часу вярнуць на паліцу. Выключыць прайгравальнік паспелі, але ў попелцы дымела непатушаная цыгарэта. Усё сведчыла, што кватэру пакінулі за некалькі секунд да майго прыходу, не выключана, што ў той момант, калі я ўстаўляў у замочную адтуліну ключ.

Цяпер я быў канчаткова перакананы: гэта былі не госці і не госць, а — госця.

Так, яна безумоўна была жанчынаю, прычым маладой, аб чым казалі не столькі яркая памада на цыгарэтных фільтрах і ўпершыню дамяшаны да ментолавага дыму тонкі водар дарагой парфумы, як прысутнасць у паветры чагосьці істотнейшага за самыя вытанчаныя пахі. Паспрабую канкрэтызаваць… У паветры, у саміх яго малекулах была, як пасля імклівай летняй навальніцы, разлітая непаўторна лёгкая азонавая свежасць.

Я зрабіў добры глыток каньяку і пацікавіўся ў бажка, чыя рука трымала яго пяць хвілінаў таму. Шыва зразумеў нявымаўленае ўголас пытанне і паказаў рачынымі вачамі на лімонавы том Акутагавы.

Сумневы развеяліся: на дзіцячым малюнку было маё вакно.

ГЭТА НЕ МОЖА
БОЛЬШ ПРАЦЯГВАЦЦА
НЕ МОЖА

— крычалі буйныя літары-крывулі.

Я піў каньяк, курыў цыгарэту за цыгарэтай і, не хмялеючы, адчуваў, што скупа адпушчаная мне перадышка скончылася: трэба рыхтавацца да неча-

га новага і не распускаць нервы, як мой невядомы папярэднік, чыя дрыготкая рука вывела гэтыя сем роспачных слоў і, відаць, невыпадкова, знайшла для іх схоўку ў «Жыцці ідыёта»...

Пасля паўночы я ўладкаваўся ў ложку так, каб, прачнуўшыся, бачыць матавыя дзверы, патушыў верхняе святло і, пакінуўшы падсветку геаграфічнай карты, заплюшчыў вочы.

Як ні дзіўна, ноч выпала спакойная.

Я непрабудна праспаў да раніцы, каб зноў адчуць у пакоі ўжо знаёмую азонавую свежасць. Адрозна ад вечара, у паветры не плавала ні пасмаў ментолавага дыму, ні струменьчыкаў парфумавых пахаў — адны фітанцыдныя ручаінкі азону, як быццам ад мяне хвіліну назад пайшла юная жанчына.

Я заплюшчыў вочы і намогся ўспомніць, што мне снілася.

Спробу напаткала амаль поўная няўдача. На апушчаных павеках не ўспыхнула ніякага сюжэта. Але рэшткі сну, яго ледзьве ўлоўныя срэбныя валаконцы, яшчэ захоўвала само цела. Невыразныя, ужо засмужаныя ранішняй рэчаіснасцю адчуванні, прабіваючыся на ўзровень вобразаў, спрабавалі сказаць мне пра цёплыя ласкавыя рукі і хуткія, падобныя да матыльковых дотыкаў, пацалункі. Мая істота ведала: гэтыя базважкія дотыкі мелі працяг, але ён ужо губляўся ў непрагляднай салодкай смузе...

Знешне тая субота не была адметная нічым, апрача таго, што Лёня напіўся да божай моцы і, пакаціўшыся па лесвіцы, зламаў руку. Я ж — зусім не ў сувязі з гэтым — даў сабе слова не піць нічога мацнейшага за віно.

Свой унутраны стан я акрэсліў бы словам «чаканне». «Штосьці павінна вырашыцца», — цвыркалі на абляцелым ясені пад маім вакном вераб'і. «Вырашыцца...» — падпявалі водаправодныя краны. І на-

ват бязмоўны насценны гадзіннік па-свойму нагадваў пра гэта, бо ў чаргаванні яго зялёных лічбаў знікла абыякавая манатоннасць і завялася затоенасць.

Шостым пачуццём ці, можа, усімі тымі сарака дзевяццю органамі ўспрымання, пра якія чытаў у вучня Блавацкай, я прадчуваў… Што? Апрануць тое прадчуванне ў словы было немагчыма. Цяпер, узброены веданнем далейшага, магу сказаць канкрэтней: я падсвядома адчуваў, што трапіў у памежную паласу, у нейтральную зону, за якой ляжыць тэрыторыя з іншымі законамі.

Я чуў блізкую прысутнасць Яе.

Прадбачу, што некаму захочацца паіранізаваць з вялікай літары, таму скажу, што ёй, літары, адведзена чыста функцыянальная роля. Вы не паверыце, Яе імя мне дасюль невядомае.

Хоць хутка, ужо хутка я даведаюся яго…

Але перанясёмся назад, у тую суботу.

Цэлы дзень я не мог знайсці занятку, які б мяне разважыў. Бязмэтна гартаў рукапіс. Паставіў кружэлку з запісамі «Beatles» і амаль адразу памяняў яе… вы ведаеце, на што. Іголка гуказдымальніка зноў і зноў апускалася на чорнае колца з прэлюдам № 15 рэ бемоль мажор, аднак ніякіх пахаў не матэрыялізоўвалася, і ў гэтым я таксама ўгледзеў знак. (Забягаючы наперад, заўважу: з таго дня і да моманту, калі пішу гэтыя радкі, у сценах маёй кватэры, менавіта ў сценах, нічога трансцэндэнтнага больш наогул не прычынялася, хоць, як вы потым убачыце, такое сцверджанне і вымагае агаворак.)

Тры разы званіў тэлефон. Слухаўка маўчала, потым на тым канцы сувязі ішлі кароткія гудкі. Найверагодней, нумар набірала Наташа. Званкі на пэўны час занялі мае думкі, і я склаў для Наташы легенду пра суседку зверху, якой на ўсякі выпадак даў ключы.

Увечары я, каб стаміцца, дайшоў пешшу да самага цэнтра. (Неўзабаве такія доўгія шпацыры зробяцца неадменнаю часткаю кожнага дня, бо цяжка будзе прыдумаць да начных падарожжаў лепшую інтрадукцыю.)

Перад сном я ўпершыню пасля ночы з ценямі за матавым шклом не стаў зачыняць дзверы з калідорчыка, а падушка засталася на сваім месцы пад панэллю з клавішамі. Я націснуў клавішу зялёнае падсветкі і, адчуваючы ў нагах лёгкае гудзенне ад пройдзеных кіламетраў, выцягнуўся пад коўдрай. Зялёныя лічбы ў вакенцы электроннага гадзінніка паказвалі поўнач.

Мы плылі па цёплай азёрнай затоцы. Я сядзеў на вёслах. Яна збірала белыя лілеі. Кроплі вады яшчэ не высахлі на кранутых аліўкавым загарам целах. Мы кіравалі да берага, але не возера, а — выспы. Сам бераг возера сінеў у гарачым мроіве далёка за намі.

Адтуль лодка везла трэцяга пасажыра — грака з перабітым крылом. Мокрага і знясіленага, яна выратавала яго на пачатку нашага плавання. Цяпер птушка абсохла і, седзячы на носе за маімі плячыма, уважліва сачыла, як набліжаецца суша.

Лодка шкрабанула па донным жвіры. Я саскочыў у ваду, схапіўшыся за ланцуг, выцягнуў нос на мылец і намерыўся дапамагчы сысці на дол нашаму пасажыру. Грак не пагадзіўся. Ён сам нязграбна кульнуўся цераз борт і, вахлікам валочачы па пяску пакалечанае крыло, пашкандыбаў у лазовыя зараснікі.

Відаць, гэта было не возера, а вадасховішча: на выспе мы знайшлі здзічэлы яблыневы сад з кустамі спелых жоўтых парэчак. Адна, самая старая і разложыстая, яблыня расла наводшыбе. У яе засені мы апусціліся адно перад адным на калені. Тое, што адбылося потым, не хочацца давяраць словам, бо любое з іх пагражае дэвальваваць вышыню і суладнасць зліцця

нашых целаў, якія перапаўняліся неўтаймоўным імкненнем ператварыцца ў адно цэлае…

За вакном прачыналася нядзеля. Усе рэчы займалі законныя месцы, і ў кватэры абсалютна нічым не пахла.

Сцвярджаць, што я ачуўся свежы, як ранішняя стакротка, было б няшчыра. Я ляжаў у ложку з адчуваннямі чалавека, які выходзіць з наркозу. Праўда, услед за ўколам пацыент уцёк альбо яго перадумалі везці ў аперацыйную, і спатканне цела са свядомасцю абышлося без болю, а было прыпраўленае адно галавакружэннем.

Фарбы сну не выцвілі ні пасля кавы, ні ў час вылазкі да газетнага шапіка. Я сказаў бы болей: грак, які падмятаў пясок хворым крылом з сінім водлівам, а перш чым схавацца ў вербалозе, зусім па-чалавечаму азірнуўся на нас, гэты грак успрымаўся больш жыццёва рэальным, чым знаёмая кіяскёрка.

Мяне мучыла пытанне: няўжо ўвесь учарашні дзень мая істота чакала менавіта гэтага? Гэтага надзвычай рэльефнага і аб’ёмнага, я сказаў бы нават, гіперрэальнага, але ўсяго толькі сну? І, калі адказаць станоўча, што значылі ягоныя сімвалы?..

Нітку думак абарваў тэлефонны званок. Апарат адазваўся сваім улюбёным голасам. Наташа абяцала прыехаць не пазней як праз паўгадзіны. У выхадныя мы ніколі не бачыліся. Я не меў прычын адмаўляцца, аднак упершыню ў гісторыі нашых стасункаў не сустрэў у душы ранейшае радасці.

Паўгадзіны хапіла, каб схадзіць па віно і адмовіцца ад змайстраванай нашармака байкі пра суседку з ключамі.

Наташа прыехала на таксоўцы. Я не збіраўся хлусіць і адначасова не хацеў, праўдзівей, проста не мог дазволіць сабе расказаць ёй пра Шапэна, ментолавы пах і астатняе. Вір падзей укручваў мяне па сваёй спіралі ўсё глыбей, я ўжо належаў яму, але і ён, гэты

вір, належаў мне, ён таксама быў маёй уласнасцю, маёй таямніцаю, якою я не меў намеру, а магчыма, і права ні з кім дзяліцца.

Я быў удзячны Наташы, што яна ні аб чым не пыталася, і мог бы назваць сустрэчу нашых целаў віхураю жадання і асалоды, але гэта была б палова праўды. Недзе злева, каля сэрца, я адчуваў востры крышталік, які мусіў растаць, аднак не прапаў і ані не страціў сцюдзёнай вастрыні граняў.

Наташа надзела шлафрок, і мы пайшлі на кухню; потым палуднавалі і адкаркавалі яшчэ пляшку чырвонага, а там падкралася тая непазбежная хвіліна, калі шлафрок шчыльней прылёг да Наташынага цела, падкрэсліваючы ўсе ягоныя лініі, каб здацца непатрэбным і лішнім…

А злева ад сэрца халадзіў крышталік, і ў ім было закадзіраванае тое, што раздвойвала мяне: адна мая іпастась заставалася з Наташаю, а другая з лабараторнай цікавасцю пазірала на нас з пэўнай дыстанцыі, што вымяралася не прастораю, а часам. Я-першы любіў Наташу, а я-другі глядзеў на гэта, крыху, можа, усяго на колькі дзён, апярэджваючы час, і пачуцці мяне-другога не вешчавалі мне-першаму будучыні.

Разгадка раздваення хавалася дзесьці побач, за бліжэйшым паваротам, і яна адкрылася, калі мая правая рука зноў абдымала Наташыны плечы, а левая ляжала там, дзе яна любіла ляжаць, адчуваючы пругкую падатлівасць Наташыных паўшар'яў.

Сон! Адказ таіўся ў сённяшнім сне, у лодцы з лілеямі і выратаванай птушкай, у тым, што здзейснілася на траве пад яблыняй, лістота якой плавілася і станчалася ў промнях высокага сонца…

Наташа здзіўлена расплюшчыла вочы, і мне давялося зрабіць намаганне, каб вярнуцца з зялёнае выспы на ложак.

Тады яна першы раз сказала, што можа застацца ў мяне да раніцы. Паведамленне заспела мяне знянацку, але я адразу зразумеў, што не хачу гэтага. Стараючыся быць натуральным, я мякка папракнуў яе, што не папярэдзіла загадзя, бо сёння я ад'язджаю і паездку немагчыма адкласці. Яна адвярнулася да сцяны.

Я-першы гладзіў яе па плечуку і, як дзяўчынку, угаворваў, што ўжо ў аўторак буду вартаваць яе крокі на лесвіцы, а я-другі назіраў за гэтай сцэнаю з недаверліва кплівай усмешачкай.

На прыпынку Наташа запыталася, калі ў мяне цягнік. У 23.40, не задумваючыся, схлусіў я.

Каля паўночы зазваніў тэлефон. Пасля секунднага вагання, чамусьці глянуўшы на сябе ў люстэрка, я з цвярозай адвагаю ўзяў слухаўку. Тая памаўчала і Наташыным голасам пажадала шчаслівага падарожжа.

У тую ноч я адкрэсліў мінуласць ад будучыні. Тыдні і месяцы, чыім эпіграфам было Наташына імя, цяпер належалі часу, які магла злучыць з маім толькі ўспышка кароткага ўспаміну, што ненадоўга пакідае пасля сябе прыемны дымок.

Праз колькі дзён я знайшоў у паштовай скрынцы Наташын камплект ключоў і напалохаў імі дрымотных жабаў у паркавай копанцы, якую ўжо браліся шкліць лістападаўскія прымаразкі. Але гэта быў яшчэ не пастскрыптум да нашай гісторыі. У сценнай шафе вісеў зялёны з шыпшынавымі кветкамі шлафрок, і аднойчы я акуратна склаў яго ў поліэтыленавы пакет і «забыў» на прылаўку той самай камісійнае крамы, куды некалі збіраўся здаць прайгравальнік.

Мой учынак быў прадыктаваны не хвілінным настроем, а меў важкія прычыны, пра якія скажу трохі пазней.

Ад моманту, калі я паставіў кропку ў папярэднім сказе, прамінула, паводле некаторых прыкметаў, не

меней за чатыры дні. Гадзіннік паводзіць сябе ўсё больш дзіўна, а ісці да шапіка, каб купіць газету і даведацца, які сёння дзень, мне зусім неахвота. Такіх доўгіх падарожжаў у нас дагэтуль не здаралася. Не выключана, што мне трэба спяшацца і, не надта зважаючы на стыль і паслядоўнасць, засяродзіцца на галоўным.

Галоўнае — падарожжы.

Падарожжы з ёю, якія зрабіліся зместам і сэнсам майго быцця.

У ноч пасля разрыву з Наташай, калі я зразумеў, што не хачу злучаць разарваны час, мы вярталіся з Вільні праз Нарач, дзе дарога паўтарае мудрагелістую канфігурацыю ўзбярэжжа. Яна сядзела за рулём і, убачыўшы чараду лебядзяў, звярнула з шашы. Мы паслалі пры ціхай вячаровай вадзе абрус, якому наканавана было ператварыцца ў прасціну. Белыя птушкі здзіўлена выцягвалі шыі і засталіся развітальным уражаннем перад магутным усплёскам асалоды, якая здзекліва смяялася з усіх чатырох вымярэнняў.

У другую з тых, першых начэй мы трапілі на Палессе. Пераменліва хуткая рака, чые берагі праплывалі паўз нашую маторку, верагодна, звалася Гарынню; над вадою, як звычайна ў тых мясцінах, сядзелі з вудамі жанчыны, а ў прыбярэжным трыснягу я злавіў маленькую, як пяцікапеечная манета, балотную жалвушку.

Час ад часу мы вячэралі ў невялікіх рэстаранчыках, што ў апошнія гады паадчыняліся ў былых гарадскіх падвалах. Памятаю міні-фантан з залатымі рыбкамі-тэлескопамі ў адным з гэтых зацішных месцаў і мініяцюрную сажалку з парачкаю ракаў у другім, дзе карціна над утульна траскучым камінам адкрывала перспектыву гатычных спічакоў старажытнага горада. Дадому мы вярталіся пешкі альбо спынялі таксоўку, і першы дотык Яе рукі на заднім сядзенні ўжо абяцаў, ужо быў весткаю…

І той зімовы вечар сярод бясконцай белай роўнядзі, над якой раз’ятраны вецер гнаў раўналежна зямлі рэдкія, навостраныя, як іголкі, сняжынкі... А пасля — нечаканай радасцю — вялікая сялянская хата, напаленая печ і пярына на гарачай чарэні.

Стан, калі ўранні я чуўся хворым, што пасля наркозу збег ад дактароў, ужо не паўтараўся. Я прачынаўся з разлітай па целе салодкай лёгкасцю, і па венах бегла не кроў, а пералівалася субстанцыя з зашыфраванай формулаю эліксіру маладосці. Я адчуваў сябе бесклапотна, як у дзяцінстве, калі мы ўсе яшчэ неўміручыя.

А потым Яна знікла, пакінуўшы пустой спачатку адну маю ноч, пасля — другую і трэцюю. Напрыканцы тыдня сэрца зашчаміла такая нечалавечая туга, што я ўголас прасіў Яе вярнуцца, выходзячы з кватэры, пісаў цыдулкі з адным толькі словам «Прыйдзі» і бесперастанку ставіў на прайгравальнік кружэлку з прэлюдам № 15.

Тады я і пазбыўся Наташынага шлафрока.

Не думаю, што гэты мой учынак меў вялікую вагу. Найверагодней, сапраўдную прычыну Яе адсутнасці я ніколі не ўведаю. Аднак — Яна вярнулася.

Яна вярнулася да мяне, і з таго самага часу ранішнія абуджэнні страцілі празрыстую дзіцячую бестурботнасць.

Але пакуль я павінен паспець болей сказаць аб падарожжах, чые маршруты, сюжэты і працягласць дзень пры дні мяняліся, пераходзячы ў новую якасць.

Усе нашы вандроўкі пералічыць ужо немагчыма. Выберу некалькі, пагатоў, пра некаторыя не магу сказаць нічога акрэсленага, апрача таго, што нас заносіла неймаверна далёка ад гарадоў, пазначаных на маёй насценнай карце, і наогул ад цывілізацыі.

Аднойчы яна спала на маім плячы ў «Боінгу», перад якім вырастаў з акіяна фантасмагарычны айсберг

Грэнландыі. Смуглявы сцюард прынёс плед, і я шэптам папрасіў яго самога захутаць маю спадарожніцу, таму што баяўся, паварушыўшыся, разбудзіць яе.

Другі раз я чакаў Яе ў пустым бары з тузінам высокіх круглых крэслаў. Яе доўга не было, і я чамусьці згадзіўся патанцаваць з чарнаскурай барменкаю ў глыбока дэкальтаванай джынсовай сукенцы. Знячэўку шчокі ў маёй партнёркі з чорных зрабіліся папялісташэрымі, і, павярнуўшыся ў танцы да дзвярэй, я ўбачыў у іх сонечным атворы Яе. У руцэ Яна трымала наведзены на нас дамскі пісталет. Пасля мы пілі з высокіх кухляў светлае піва, а белы пісталецік ляжаў на стойцы побач з запальнічкай і пачкам ментолавых цыгарэтаў. Яна села мне на калені і сказала, што хоча любіць мяне проста вось тут, на вачах у чорнай спакусніцы.

І той паром праз Ла-Манш... Мора моцна штарміла, і, пакуль мы мужна змагаліся з марской хваробаю, дзеці ў пасажырскім салоне наладзілі спаборніцтва: хто дабярэцца ад дзвярэй да дзвярэй не заваліўшыся.

Здаралася, я пазнаваў свае ўлюбёныя мясціны ў гарадах, дзе выпадала бываць раней: пляц каля Домскага сабора ў Рызе, шматколерныя мураванкі на вуліцы Лай у Таліне, замак у некранутым часам вугорскім гарадку на мяжы з Аўстрыяй. Гэта значыла, маршруты вандраваннаў выбірала не толькі яна, што, прызнаюся, супакойвала маё самалюбства, бо, хай сабе і ўскосна, сведчыла пра нашую роўнасць у стасунках.

Я здымаў з паліцы кнігу вучня Блавацкай і чытаў пра тонкі свет, які не ведаў, што такое час і адлегласць. Дакладней, гэтыя паняткі нібыта існавалі і там, але — зусім інакш, і таму ў сне, альбо пераносячыся ў тонкі свет у нядрэмным стане, тысячы міляў нескладана было пераадолець за секунду, зямное стагоддзе — зблытаць з імгненнем, а імгненне — з вечнасцю. Матэрыя таго свету, сцвярджала кніга, настолькі эла-

стычная, што чалавек стварае там думкаю ўсё, што заўгодна. Іншымі словамі, ён сам робіцца формаю ўласнай думкі, набываючы аблічча, якое адлюстроўвае сутнасць ягоных жаданняў і імкненняў — прычым усе гэтыя ілюзіі ў тым ілюзорным свеце з'яўляюцца такімі ж рэальнымі, як і рэчы ў свеце фізічным.

У кнізе з пакінутымі некім закладкамі мяне прывабіла ідэя аб тым, што калі ў фізічным свеце чалавек можа схаваць сваю сапраўдную сутнасць, дык у тонкім гэта немагчыма. Там чалавек трапляе ў тую сферу, што адпавядае яго духоўнаму развіццю, і той, хто прыходзіць туды свядома, вядзе асэнсаванае жыццё, у адваротным жа выпадку — працягвае такое самае існаванне, як і на зямлі, нават не ўсведамляючы, дзе ён знаходзіцца.

Але ўслед за метафізічнымі развагамі мяне змушалі паверыць, быццам у тонкім свеце не трэба гатаваць сабе ежы і турбавацца пра астатняе, бо тонкае цела атрымлівае ўсё неабходнае, як толькі створыць ва ўяўленні яго вобраз. Аўтар кніжкі, відаць, не надта разлічваў на вераемнасць удасканалення чалавечае натуры, бо не ўстрымаўся ад папярэджвання, што жыхары астральнага свету схільныя злоўжываць дадзенымі ім бясконцымі магчымасцямі, а таму ён, гэты свет, загрувашчаны крышталёвымі замкамі і іншымі ўвасабленнямі зямных мараў.

Чым далей я чытаў, тым саркастычнейшая ўсмешачка змяілася на вуснах. Да маіх падарожжаў гэты трактат меў прыкладна такое дачыненне, якое мелі да праўды сярэднявечныя фаліянты, чые аўтары абвяшчалі нашых продкаў аднавокімі гіпербарэйцамі, асуджанымі бавіць жыццё ў вечных снягах і сумовіцца з белымі мядзведзямі.

Мяне спрабавалі пераканаць, нібыта насельнікі тонкага свету не маюць патрэбы ў сонечным і ў лю-

бым іншым святле, бо самі з’яўляюцца яго крыніцаю, а я не мог забыць, як мы з Ёю раскладалі вогнішча ў начным лесе з усімі яго схаванымі ў цемры шолахамі і страхамі. Мяне ўгаворвалі даць веры, што ў тым свеце існуе агульная для ўсіх мова, а я выдатна памятаў, як у цеснай кавярні, дзе мы, зайшоўшы з марозу, замовілі па вялікай шклянцы глінтвейну, усе, апрача нас, гаварылі па-нямецку.

Над той кавярняю быў гатэльчык, і мы вырашылі там спыніцца. За вокнамі ўзвышаўся не крышталёвы замак, а заснежаны альпійскі перавал; гаспадыня падавала на сняданак каву са свойскімі вяршкамі, а ў прыбіральні стаяў на палічцы канцэнтраваны хваёвы дэзадарант, што ўзнік там, як выглядае, зусім не ў адпаведнасці з жаданнем майго астральнага цела, бо я выбраў бы водар язміну.

Яна любіла светлае віно, і ў вясковай крамцы мы неспадзявана адкрылі пакаштаваную неяк у Вільні «Ларэляй» з яе халаднавата-вытанчаным букетам. Каб трапіць у крамку, трэба было паўгадзіны спускацца ўніз, у даліну. Сцежка вілася ўздоўж жывой і ўзімку рэчкі, што, абсыпаючы падарожніка срэбным пылам, абрывалася з уступу. Якраз там, каля вадаспаду, мне прыйшла ў галаву думка, што наш шырачэзны гатэльны ложак падымалі з даліны гелікоптарам. Мы ведалі, што, пакуль прыйдзем назад, гаспадыня зноў замяніць у нумары ўсю бялізну і туга прышпіліць начышчанымі да бляску меднымі гузікамі-булдавешкамі блакітную накрухмаленую прасціну.

Пра альпійскі гатэльчык я павінен падрабязней сказаць і з іншае прычыны. Пачынаючы з яго, нашы падарожжы ўвайшлі ў новую стадыю.

Тады на маёй ускраіне канчаўся лістапад. Пасля філіжанкі кавы мяне пацягнула на вуліцу. Дзень быў па-зімоваму стылы, на падмерзлай траве бялелі лапікі

снегу. Я здзівіўся, што вуліцы нечакана пустэльныя, бо ўчора ўвечары, калі ўкладваўся спаць, была серада, значыцца, сёння — звычайны чацвер. Уражаны здагадкаю, я павярнуў да газетнага шапіка. Газеты на вітрыне датаваліся суботай.

Адсюль вынікала, што я прабыў у ложку не ноч, а два дні і тры ночы, роўна столькі, за які час мы з ёю заплацілі ў гатэлі. Падумаўшы: «у ложку», я не ўтрымаўся ад усмешкі.

Калі скажу, быццам мяне апанавала радасць, пакрыўлю душой. Але не было і боязі. Патаемна я ўжо чакаў гэтага.

Не маю часу ды і жадання перачытваць ранейшае, таму, пэўна, паўтаруся, згадаўшы, што думку пра вар'яцтва адкінуў яшчэ да развітання з Наташаю. Пра якое вар'яцтва магла ісці гаворка, калі свет, куды я вяртаўся раніцой, успрымаўся мною — у краме, у размове з сантэхнікам або з Лёнем, што прыйшоў па чырвонец, — цалкам адэкватна. Іншая рэч — наколькі мне хацелася вяртацца.

Але ў лістападзе гэтая праблема яшчэ не выходзіла на першы план. Мне хапала ўсведамлення сваёй абранасці і далучанасці да таямніцы. Часам я лавіў сябе на тым, што з пачуццём перавагі пазіраю на мінакоў, а часам дазваляў сабе думаць аб перспектывах, якія давалі мне падарожжы як літаратару.

Абуджэнне ў суботу замест чацвярга сталася рысаю, за якой падзеі атрымалі іншы рытм і новую лінію руху. Удакладню, што гэтых ліній было адразу некалькі і яны ўвесь час перапляталіся ў складаным узаемадзеянні.

Пасля гісторыі з горным гатэлем я купіў наручны гадзіннік, які паказваў таксама дні тыдня, і штовечар клаў яго на панэль над ложкам, каб ведаць, у які дзень вярнуўся. Новы гадзіннік строга трымаўся традыцый-

ных правілаў, чаго нельга было сказаць пра стары насценны. Стары пачаў выкідваць конікі. Не прамінула і тыдня, як, седзячы ўвечары каля тэлевізара, я не столькі ўбачыў, як бакавым зрокам адчуў, што з насценным гадзіннікам не ўсё ў парадку. Мой хранометр у стылі рэтра паказваў 98.47. Секундная стрэлка наручнага гадзінніка замерла на месцы. Я дачакаўся змены апошняй лічбы ў драўляным вакенцы: 98.46. Тут у кватэру пазванілі. Ідучы да дзвярэй, я паспеў падумаць, што, калі такое чыніцца з часам, зараз завітае хто-небудзь з пазаўчарашняга ці паслязаўтрашняга дня. Магчыма, Лёня і з'явіўся адтуль, аднак ён хацеў са мной выпіць, і ўдакладніць сапраўдны час Лёнеў намер аніякім чынам не мог.

Пакуль я выправаджваў суседа, у вакенцы над ложкам выскачылі чатыры нулі.

З тае ночы маршруты падарожжаў пралягалі і ў прасторы, і ў часе.

Калі быць карэктным, дык вандроўкамі ў часе трэба прызнаць ужо некаторыя першыя спатканні, бо, напрыклад, тады, як мы пад наглядам лебедзяў любіліся на беразе летняе Нарачы, за вокнамі мае аднапакаёўкі кружылі белыя мухі. Цяпер жа гэтыя экспедыцыі зрабіліся больш далёкімі і рызыкоўнымі.

Неяк на вуліцы мой позірк спатыкнуўся на вялізным перадвыбарчым партрэце Ліндана Джонсана.

Дадам выпадак у піўнушцы, дзе мы запівалі гумовыя лусцікі нясмачным цёплым півам, а прымацаваны пад столлю тэлевізар паказваў футбольны матч з Бобі Мурам. У той вечар у піўнушцы стралялі — праўда, не па людзях, а па футбалістах на тэлеэкране. Здаецца, гэта адбывалася дзесьці ў Лацінскай Амерыцы, бо Англія выйгравала ў Аргенціны, а рэкламныя ролікі ішлі пад мелодыі танга.

Здаралася, прыблізна вызначыць час, куды нас закідвала, дапамагалі мадэлі аўтамабіляў і адзенне сустрэчных. Думаю, не памылюся, калі скажу, што мы не перасеклі мяжы дзевятнаццатага стагоддзя. За адным выняткам.

Я быў алхімікам і замураваўся ў лабараторыі для бяссонных пошукаў вялікага магістэрыя. Праз тоўстыя муры прабіваліся прыглушаныя гукі вуліцы: грукат колаў па бруку, галасы царкоўных званоў, гоман развар’яванага натоўпу і крыкі на чэшскай мове. Гэта маглі быць і часы Яна Гуса, і шаснаццатае ці сямнаццатае стагоддзі.

Са светам мяне злучала ваконца ва ўнутранай сцяне, да якога Яна прыносіла мне ў кошыку простую ежу і пляшку віна. Віно падтрымлівала мяне, але адначасна распаляла агонь бяссільнае лютасці, што аднаго вечара дайшла да крытычнае кропкі. Я перакуліў перагонны куб і кінуўся крышыць бутлі і бутлікі з рэактывамі, а потым рушыў з кулакамі на неатынкаваныя вільготныя сцены.

Вандраванні рабіліся ўсё больш разгалінаванымі і складанымі ў сваіх акалічнасцях: мы нібы падымаліся па ўсходах, і на кожнай прыступцы чакала сустрэча з датуль нязведаным.

Мы вярталіся ва ўжо знаёмыя месцы і абставіны, шумна радуючыся старым сябрам і заводзячы новых, якія прызначалі нам спатканні ў летніх кавярнях або запрашалі без лішніх цырымоній заходзіць дахаты. Я пражываў фрагменты дзясяткаў іншых жыццяў, прычым без права назваць іх чужымі, бо заўсёды быў не назіральнікам кшталту кінагледача, а дзейнай асобаю з крыві, плоці і жывых чалавечых пачуццяў.

Я бываў маладзейшы за свой цяперашні век альбо на некалькі гадоў старэйшы. Але я нязменна быў, і ў гэтым пераконвала з’яўленне рэчавых доказаў

вандровак: манеты вартасцю 50 песетаў, каталіцкага крыжыка на срэбным ланцужку…

Гэта маглі быць не рэчы, але не менш відавочныя сведчанні нашых пілігрымак. Знак, пакінуты Яе вуснамі каля маёй левай смочкі. Да крыві збітыя ў алхімічнай лабараторыі кулакі…

Убачыўшы запечаную на костачках пальцаў кроў, я знайшоў у згаданай вышэй кнізе патрэбнае месца і з сарданічным смехам перачытаў пасаж аб тым, што ў тонкім свеце цела свабодна пранікае праз сцены і любыя фізічныя перашкоды.

Асобна, далёка ў баку ад астатніх, застаецца сон пра кажаноў.

Кажаноў было двое — большы і меншы.

Гэтыя істоты, якія наяве — з таго часу, як у дзяцінстве адзін з іхніх супляменнікаў спікіраваў на маю кучаравую галаву, — ніколі не выклікалі ў мяне і падабенства сімпатыі, там, у сне, успрымаліся без усякай гідлівасці. Наадварот, іх палёт быў поўны бязгучнай грацыі і гармоніі. Спярша яны лёталі паасобку, кружляючы вакол адно аднаго, быццам вялікія цёмныя матылі, потым меншы кажан, мабыць, стаміўшыся, падчапіўся знізу да большага і той нейкі час вазіў яго. Затым успыхнула святло, і я асэнсаваў, што яны лётаюць у маёй кватэры. Я пішу «яны», але насамрэч «яны» ўадначас былі і намі, мной і Ёю. Я бачыў кажаноў збоку і ў той самы момант адчуваў свой уласны палёт — то лёгкі і імклівы, то павальнейшы, ды не менш прыемны, калі Яна чаплялася да мяне лапкамі.

Так, гэта была мая аднапакаёўка, дзе ўсё знаходзілася на звычных месцах і дзе, разам з тым, прычыніліся змены. У пакоя выцягнуліся сцены, бо знаёмыя рэчы выглядалі зверху, адтуль, дзе мы кружлялі, значна паменшанымі. І раптам я падняў

вочы і згледзеў, што над намі няма столі, замест яе — фіялетавае неба з буйнымі негарадскімі зоркамі.

Гэтае адкрыццё прымусіла мяне звузіць дыяметры кругоў, якія ўжо выходзілі за перыметр сцэнаў, і паступова апусціцца ў іх калодзеж — да гадзінніка ў пыльным корпусе і яшчэ ніжэй, да ложка з бардовымі, падрапанымі нечымі пазногцямі панэлямі і століка з двух зэдляў, дзе стаялі шклянкі з віном, паміж якімі ўтульна ўладкаваўся пачаты зялёны пачак цыгарэт. З дасягнутага бяспечнага ўзроўню вышыні я скасіў вока ўгору і супакоена адзначыў, што зоркі ўжо захінутыя столлю.

Як вы заўважылі, тут я ўпарта карыстаюся тэрмінам сон, а не падарожжа. Так мне лягчэй адганяць трывожную думку, што сон з кажанамі быў пробнаю куляй.

Я ні пры якіх умовах не хачу развітвацца са сваім целам. Яна павінна зразумець. Яна не можа не зразумець мяне, бо ўсё і пачалося з іх, з нашых целаў, якія знайшліся, выбралі адно аднаго з безлічы былых і будучых варыянтаў.

З нашых целаў, што сталіся пасланцамі і разведчыкамі душаў.

Зараз я скажу тое, аб чым дагэтуль маўчаў.

Пакуль што ні разу я не спрабаваў даць вам пра маю спадарожніцу хоць нейкае ўяўленне — намаляваць яе партрэт, акрэсліць характар.

Я не здолею зрабіць гэтага і сёння, бо Яна прыходзіла да мяне ў розных абліччах — то зеленавокай шатэнкаю з круглай радзімкаю пад брывом, то серабрыстай тонкаю бландзінкай з кароткай «марсіянскай» стрыжкай, то… Навошта гэты пералік з наборам зашмальцаваных эпітэтаў, калі безліч яе абліччаў не магла схаваць таго, што гэта заўсёды была Яна — яе сунічныя смочкі, яе бясконца знаёмыя пальцам хрыбеткі, яе лона, якое я называў імем маленькага ла-

скавага звярка, яе вусны, якія даводзілі маю плоць да белага кіпення.

Памятаю, як у зімовым альпійскім гатэльчыку, гледзячы ўранні на яе цела, я маліўся, каб для гэтага цёплага палевага колеру, для даўгіх і тонкіх, але такіх моцных точаных ножак, для літых грудак з пяшчотнымі цёмнымі дзюбкамі, для бездакорнай спіны з раўнюткім паскам храбетніка і дзвюх крутых, зробленых з жывога мармуру палавінак там, дзе спіна губляе сваё найменне, каб для ўсяго, што я бачу, час спыніўся…

Гэта нязменна было Яе цела, якое выпраменьвала ў прыцемку мяккае святло і плавала ў ім, лягчэйшае за касмічную бязважкасць і адначасова па-зямному важкае і поўнае сакавітасці нагрэтага сонцам ананасавага яблыка. Яе святло было часткаю гэтае цеплыні, яго эманацыяй і не мела нічога агульнага з прывіднахалодным свячэннем з аблуднае кніжкі пра тонкі свет.

Характар? Ён таксама быў пераменлівы, як Яе твар, як паверхня рэчкі, што павольна плыве ў одуме і раптам прачынаецца, становіцца капрызліва-гарэзнай, б'ецца ва ўтравелыя, парослыя жабінымі вочкамі берагі, а за паваротаю, за купчастай алешынай зноў робіцца элегічна-сцішанай, набіраючыся сілы і ўпэўненасці перад доўгім пераканатам. І ўсё гэта — з падводнымі плынямі, з падступнымі бохатамі і стракаэінымі затокамі — тая самая чыстая лясная рэчка.

Здаецца, збіваюся на сентыментальнасць… Зрэшты, я пішу зусім не літаратурны твор.

Але як, сапраўды, назваць гэты рукапіс? Супроць дэфініцыі «запавет» пратэстуе ўся мая істота. Дзённік? Дыяруш? Падарожныя нататкі? Справаздача пра экспедыцыю?

Я выконваю абавязак літаратара, а астатняе — жанр і, так бы мовіць, канчатковы дыягназ — будзе

вызначана без майго непасрэднага ўдзелу, магчыма, якраз у тую хвіліну, калі вы дойдзеце да гэтай старонкі.

Яе імя? Я даў Ёй імя пасля першых вандровак, аднак не хачу называць яго тут, бо напраўду дасюль не ведаю яго.

Хіба гэта варта ўвагі ў параўнанні з тым, што Яна — мая жанчына.

А гэта я ведаю з такой самай дакладнасцю, як тое, што я мужчына, што мне 42 гады і кожны новы дзень набліжае мяне да падарожжа, якое станецца найдаўжэйшым, да падарожжа, дзе Яна набудзе нязменнае аблічча і нарэшце назаве сваё імя.

Я яшчэ не гаварыў, што кожнае вандраванне канчалася блізкасцю. Нават там, у нязнаным горадзе і стагоддзі, дзе я быў алхімікам і ў паўднёва-заходнім куце маёй каменнае цэлі са здзеклівай размеранасцю крапала вада. Калі я ў роспачы накінуўся на сцены, Яна выняла пад вакенцам, праз якое падавала мне ежу, некалькі цаглінаў і апынулася ў разгромленай лабараторыі, каб змазаць мне арнікай параненыя рукі і стаць маёй на мулкіх тапчагах каля няроўнай сцяны з зялёнымі ўзорамі цвілі.

Мы любілі адно аднаго ў гатэлях і прапахлай цынамонам белай мураванцы над морам, да якога вялі роўна трыццаць дзве высечаныя ў скале прыступкі. Нашыя целы перапляталіся, зліваючыся ў адну шматрукую, шматногую і шматвокую істоту, на шырокіх і вузкіх ложках, на пухкіх пярынах і праседжаных канапах з колкімі вусамі спружынаў, у фатэлях і на вагонных паліцах, у цемры і перад уважлівымі люстрамі ў старадаўніх асадах, якія ўмелі паказаць самыя патаемныя куточкі гэтага салодкага вар'яцтва. Я не паверу, што Яна забыла тое купэ, і столік, на якім ляжалі яе локці, і сонечных зайчыкаў, што скакалі па аголенасці

веснушкаватых плечукоў, і круглыя вочы старога з роварам на чыгуначным пераездзе.

Яна магла аддацца мне ў самым нечаканым месцы. Аднойчы гэта была пляцоўка агляду над агнямі рэкламаў начнога горада. Другі раз — цёмны міжгародні аўтобус з рэдкімі соннымі пасажырамі на пярэдніх сядзеннях.

Словы бываюць бездапаможныя і ніколі не перададуць усёй пранізлівай асалоды першага дотыку і таго, як *crescendo* распускаецца кветка перарывістага дыхання і як яна ападае пялёсткамі ўскрыкаў.

Ніколі раней у мяне не было жанчыны, здольнай падараваць такія пералівы асацыяцый і адчуванняў. Калі вы чулі пра Геракліта Эфескага, вам няцяжка будзе здагадацца, як я перафразаваў у дачыненні да маёй спадарожніцы яго знакамітае выслоўе.

Кожная новая блізкасць была падарожжам у падарожжы. Калі нашыя целы авалодвалі левітацыяй… Калі, трымаючы Яе ў абдымках, я імчаў па рацэ, па яе рацэ, у лёгкім вастраносым каноэ… Калі неспатольнасць яе вуснаў нараджала жаданне раздваіцца і растраіцца, каб зведаць Яе даастачы…

Калі адчуваў, як рэгенеруюцца мае адмерлыя яшчэ ў дзяцінстве і, напэўна, найлепшыя клеткі…

Не выключана, што я раней пісаў пра гэта, але паўтару: нескончоная чарада падарожжаў нагадвала ўзыходжанне — ад простага да больш складанага, ад зразумелага — да таго, што трэба проста ўзяць на веру.

У гэты шлях калісьці даўным-даўно мы выправіліся ў лодцы з уратаванай птушкай…

Старажытныя індыйцы валодалі ісцінай: найпаўней спасцігнуць адна адну душы могуць толькі ў зліцці сваіх зямных абалонак.

Неяк мы ішлі па вясновай вуліцы насустрач паўднёваму ветру. Нашы рукі не дакраналіся, але ў мяне

ўзнікла пачуццё, што я ўзяў Яе за руку, што раз-пораз, дзелячыся цеплынёй, датыкаюцца нашы плечы, і я зразумеў: гэта ўзаемапранікаюць мая і яе аўры.

Яна сталася першай жанчынаю, што падаравала мне адчуванне Вечнасці. Яно ўзнікала, калі рытмы дзвюх істотаў паступова і няўхільна зліваліся ў адзін суладны рытм, які змяшчаў у сабе ўсе астатнія мелодыі сусвету і, пульсуючы, замяняў сабою сам гэты сусвет, каб выбухнуць сляпучай успышкаю, што нязменна абуджала мяне ў іншай рэальнасці.

Так, кожная блізкасць з Ёю пераносіла мяне ў мае чатыры сцяны. Блізкасць была квітком назад, але з аплачаным зваротным шляхам — з маёй рэчаіснасці ў ейную, дзе нас падпільноўвалі новыя адкрыцці і новыя ўспышкі, што вярталі ў свет, які я меў усё меншае права называць сваім.

Жыццё падзялілася на дзве часткі, і першая сціскалася, як шчыгрынавая скура.

Аднае раніцы я з радасным, зусім нястрашным страхам усвядоміў, што незнаёмы горад, адкуль я вярнуўся, больш рэальны — навобмацак, на пахі і на смак, — чым адліжная графіка астатніх снежаньскіх дзён за адзіным вакном майго пакоя.

Цяпер амаль кожны дзень — нібыта яны, дні, змовіліся між сабою — прыносіў чарговае сведчанне, якому свету я прыналежу мацней і мацней.

Я згадваў ужо рэчавыя доказы падарожжаў, што пачалі з'яўляцца пасля альпійскага гатэля. Іх калекцыю адкрывала светла-ліловая кветка, часцінка сухога букета з бяссмертнікаў і макавых галовак, які стаяў на століку ў нумары, чыю палову займаў той самы неабсяжны ложак, што паднялі з даліны гелікоптарам.

А ўчора ўранні я апынуўся дома з гадзіннікам, на які паглядаю, пішучы гэтыя радкі. На ім няма ніводнае лічбы: тры стрэлкі рухаюцца непасрэдна над вантро-

бамі механізма, а той непрыкрыта анатамуе матэрыю часу, прымушаючы ўладальніка вызначаць гадзіны і хвіліны пераважна інтуітыўна. Я не стаў бы ісці ў заклад, што кожная з трох стрэлак заўсёды мае аднолькавую хуткасць. Відаць, я болей упэўнены ў адваротным.

Такі падарунак Яна зрабіла мне ў турэцкіх кварталах Заходняга Берліна, куды ўвечары турыстам рэкамендавана не завітваць. Мы рызыкнулі, і нічога надзвычайнага з намі не прычынілася, хоць я і палічыў за лепшае спыніць таксі і адарвацца ад кампаніі маладых туркаў, што дружна выйшла следам за намі з піцэрыі, пагатоў Яна была тым разам з серабрыстай «марсіянскай» фрызурай. Асабліва мне не спадабаўся той высокі, са шнарам на левай шчацэ, бо кожны ягоны позірк як быццам зрываў з Яе частку адзення. У таксоўцы я ўздыхнуў з палёгкаю, а Яна, здаецца, з не меншай палёгкаю, зацягнулася цыгарэтай.

Калі не памыляюся, я пісаў пра новы гадзіннік. Дапускаю, што тут больш дарэчным будзе вызначэнне «компас», і з абсалютнай дакладнасцю магу сцвярджаць, што мне даспадобы назіраць за каляровымі жывымі шасцярэнькамі — трыма сінімі, дзвюма чырвонымі і некалькімі залацістымі — назіраць і здагадвацца, якая зараз гадзіна і паводле якога часу.

Сёння на вуліцы, каля паштамта, я спаткаў былога аднакурсніка, і ён падаўся стварэннем значна менш рэальным за таго рослага турка.

Тэлефон у кватэры звоніць неверагодна рэдка (звычайна блытаюць нумар), але калі пра мяне знячэўку ўспамінаюць у нейкай рэдакцыі, я здзіўляюся глыбей, чым калі б патэлефанавалі з той піўнушкі, дзе футбольны заўзятар разрадзіў абойму ў тэлеэкран над стойкаю.

Днямі я зноў знайшоў лісток з дзіцячым малюнкам і каструбаватымі літарамі, і мне зрабілася шка-

да іх аўтара. Потым падумалася, што ён таксама меў магчымасць падарожнічаць з Ёю, і наведала невядомае раней пачуццё, якое не магло быць нічым іншым, апрача рэўнасці. Розум казаў, што нельга раўнаваць да мінулага, да таго, што адбывалася да «нашай эры», але я зманю, сказаўшы, быццам не мучыўся і не трапляў пад уплыў думак, што гаспадар маёй кватэры быў не першы і не ягоная рука пакінула лісток з малюнкам. Напэўна, іх было шмат — тых, хто здаваў і наймаў ціхую аднапакаёўку і вандраваў з Ёю...

Як вы бачыце, атрутнае насенне рэўнасці давала ўсходы...

Яна павінна быць толькі маёй.

Я не буду пакідаць такіх, як мой папярэднік, распісак у бездапаможнасці і з сумнеўным падтэкстам хаваць іх паміж старонак «Жыцця ідыёта».

Каб не быў літаратарам, я б з задавальненнем вызваліў сябе ад пісання тэксту, які вы чытаеце. Але мая прафесія — слова, і мой намер цвёрды — захаваць ёй вернасць да самага канца.

Будзе несумленна прамаўчаць яшчэ пра адно, даволі, на першы погляд, дзіўнае здарэнне. Сёння, пасля той выпадковай сустрэчы паблізу паштамта, мне заманулася праехацца на ліфце. Жаданне ступіць у кабіну, націснуць на кнопку і пачуць, як за плячыма са шматзначным гудам сыходзяцца палавінкі дзвярэй, апанавала настолькі, што праз пяць хвілінаў я ўжо заходзіў у пад'езд найбліжэйшага дома, які мусіў мець ліфт.

Ліфт аказаўся старамодным, яго дзверы зачыняліся пафарбаванай у зялёны колер звычайнай металёваю ручкай. З дзіцячай нецярплівасцю я ўтапіў у панель сцёрты кубік з нумарам самага высокага паверха, і старая, спярэшчаная ад падлогі да столі непрыстойнымі надпісамі кабіна, падстукваючы на стыках, папаўзла ўгору.

Магчыма, вас таксама пераведвала жудлівае адчуванне, што паводзіны ліфта, ва ўладзе якога вы апынуліся, выходзяць за рамкі інструкцый і ён падазрона жвава набірае разгон, пагражаючы не толькі не выпусціць вас на патрэбнай пляцоўцы, але і наогул падняцца вышэй за апошні паверх. Такое пачуццё часам узнікае і ў вагоне метро, асабліва калі напярэдадні прачытаець аповесць пра цягнік, што не выйшаў з горнага тунеля. Але ў метро вакол вас людзі, і прадчуванне імавернасці прарыву гэтай рэальнасці не вельмі выразнае.

У замкнёнай капсуле ліфта, зазвычай сам-насам з сабою, пачуццё такой верагоднасці ў мяне абавязкова абвастралася і нярэдка стварала ў грудзях зону пякучага вакууму. Калісьці з усяго гэтага вырасла маё апавяданне пра чалавека, што вёў з ліфтам небяспечныя гульні, пакуль той не падняў яго да кватэры, за дзвярыма якой героя чакаў ягоны двайнік.

Не, сёння я не сустрэўся ні з двайніком, ні ўвогуле з нечым звышнатуральным і згадваю гэты выпадак выключна дзеля паўнаты карціны.

Педантызм — не мая рыса, аднак я імкнуся не прапусціць нічога істотнага, а таму павінен занатаваць яшчэ адну немалаважную дэталь. Рэч у тым, што я не проста не ведаю Яе імя. Вяртаючыся з падарожжаў, я не магу яго ўспомніць. Я мушу пакуль скарыцца і з тым, што не здольны, нават у агульных рысах, аднавіць нашы размовы. У памяці затрымліваецца адно ўспамін пра голас — малады і абвалакальны, надзелены талентам імгнення зрабіць утульным любое месца, дзе мы апынаемся.

У такім разе мяне можна абвінаваціць у тым, што, называючы рэальнасць падарожжаў жывейшаю за гэтае жыццё, я самому сабе супярэчу. У сапраўднасці— не. Проста існуе зона, уваход у якую будзе вольны,

калі я зраблю апошні крок. Вельмі прыблізна гэта можна параўнаць з адчуваннямі чалавека, які ведае, што неўзабаве да яго вернецца страчаны слых. Як там, у вершы:

*І брамка ў сад*
*адчыніцца сама,*
*як соннік*
*на старонцы зачытанай...*

Адначасова з гэтымі нататкамі напісаны мінімум неабходных лістоў. Іх разашле адзін з нешматлікіх знаёмых, які не забыў майго тэлефоннага нумара.

Яна папярэджаная: я гатовы.

Магчыма, гэта адбудзецца не адразу, і я запасаюся вытрымкай.

У кагосьці з фантастаў ёсць такая навела. У горадзе ствараецца турбюро, дзе запрашаюць наведаць іншую планету — усім падобную да нашай, але, як пераконваюць турыстычныя праспекты, яшчэ не кранутую злом зямной цывілізацыі. Герой бярэ квіток у тую зялёную ідылію і разам з астатнімі ахвотнікамі сядае ў аўтобус, які прывозіць іх не на месца старту касмалёта, а на звычайную лясную галявіну. Замест камфортнае пачакальні — спехам збітая са свежых дошак стадола, негабляваныя лаўкі і пасыпаная пілавіннем падлога. Людзі цярпліва чакаюць і нарэшце пачынаюць здагадвацца, што іх класічна абвялі вакол пальца. Герой далучаецца да тых, хто патрабуе адчыніць выхад. Вярнуўшыся ў аўтобус, ён бачыць, як стадолу залівае блакітнае святло. Людзі кідаюцца назад, але за дзвярыма з крывых аполкаў іх сустракаюць пустыя лаўкі.

Я не вярнуся ў аўтобус.

Не буду рабіць выгляду, быццам мяне не займае пытанне, застанецца мой ложак пустым ці на ім зной-

дуць маё цела. Вам вядома, які варыянт задавальняе мяне болей.

Сёння я выняў з кнігі вучня Блавацкай апошнюю закладку: «У момант смерці, калі свядомасць ужо знаходзіцца ў тонкім свеце, а розум працягвае дзейнічаць яшчэ ў фізічным целе, чалавек за некалькі секунд пражывае ўсё сваё зямное жыццё».

Гэта не пра мяне.

Я заўсёды лічыў, што прыз любога падарожжа — вяртанне. Я хачу калі-небудзь вярнуцца. Можа, гэта здарыцца ў адным з нашых падарожжаў, і разам з Ёю я выкуру тут рытуальную цыгарэту з зялёным паскам на фільтры.

Мой рукапіс наблізіўся да канца.

У мяне настрой, як перад ад'ездам у далёкую вандроўку.

Зараз я пастаўлю на прайгравальнік кружэлку Шапэна і лягу.

Я не ведаю Яе імя, але адчуваю, што вельмі хутка, магчыма, нават у гэтую ноч, пачую яго.

*1996*

# Ордэн Белай Мышы

У адной невялікай паводле еўрапейскіх сумераў канстытуцыйнай манархіі насельніцтва складалася з аднаго караля, аднаго прэм’ера, аднаго шэфа службы бяспекі, аднаго міністра паліцыі, аднаго пракурора... У гэтай дзяржаве быў адзін крымінальнік, адзін палітвязень і адзін палітуцякач. Адзін генерал камандаваў адным палкоўнікам, адным маёрам і адным капітанам. На ўліку ў адзіным прафсаюзе стаялі адзін будаўнік і адзін падрыўнік, адзін прафесар і адзін студэнт, адзін акадэмік і адзін зусім непісьменны грамадзянін. Такое становішча існавала абсалютна ўва ўсіх сферах. У краіне меліся ў наяўнасці адзін алкаголік і адзін наркаман, адзін сутэнёр і адна прафесійная выляжанка, адзін хворы на СНІД і адзін хворы на пранцы. У суседстве з адным уладальнікам шыкоўнай вілы ў смеццевым кантэйнеры жыў адзін бесхацінец. Сярод этнічных меншыняў перапіс зафіксаваў аднаго габрэя, аднаго татарына, аднаго паляка, адну асобу каўказскай нацыянальнасці, аднаго расейца і аднаго албанца. Сексуальныя меншыні нічым не вылучаліся: на аднаго гомасексуаліста прыпадала адна лесбіянка. Адпаведныя службы трымалі на воку аднаго грамадзяніна, якога падазравалі ў педафіліі, а таксама аднаго таемнага заафіла. Гэткі самы баланс захоўваўся і паміж прадстаўнікоў творчых прафесій: краіну цалкам задавальнялі адзін кампазітар, адзін архітэктар, адзін мастак, адзін актор, адзін журналіст і адзін пісьменнік.

Варта зазначыць, што хадзілі глухія чуткі, нібыта ў гэтай краіне не заўсёды ўсё было ўладкавана так

дасканала. Да прыкладу, казалі, быццам калісьці ва ўніверсітэце некалькі прафесараў чыталі лекцыі некалькім студэнтам, якім аднойчы заманулася разам са сваімі выкладчыкамі зачыніцца ў аўдыторыі і скласці бунтоўніцкую петыцыю. Але гэта ўжо іншая гісторыя. А наша адбывалася ў краіне, дзе ўсіх, паўтараю, было па адным, і гэтую акалічнасць неаспрэчна засведчылі сакрэтныя рэляцыі, таемна праслуханыя размовы, зробленыя схаванай камерай здымкі, перлюстраваныя лісты ды іншыя пісьмовыя, аўдыя- і відэаматэрыялы, на аснове якіх аўтар і рэканструяваў падзеі.

Адзін раз на дзень з дакладам да караля з'яўляўся шэф службы бяспекі — невысокі таўстун з вусікамі і бародкай-эспаньёлкай, які больш нагадваў не чалавека сваёй суровай прафесіі, а лекара, што мае прыбытковую практыку і схільнасць да эпікурэйства.

З ранішняга дакладу нязменна вынікала, што ў краіне пануе стабільнасць і назіраюцца выключна пазітыўныя працэсы. А менавіта: растуць аб'ёмы вытворчасці, адукацыйны ўзровень і спажыванне карысных для народа прадуктаў харчавання (у тым ліку алкаголю), а таксама няўхільна паўзе ўгору паказчык нараджальнасці, ад якой (што надзвычай важна ў справе стабільнасці) не адстае і смяротнасць.

Кароль зазвычай спыняў шэфа бяспекі не даслухаўшы. Але аднаго разу звыклы парадак быў парушаны.

Рэч у тым, што адзіны ў краіне ювелір вырабіў на замову манарха адзіны ордэн, каб каралеўства нарэшце займела і аднаго кавалера найвышэйшай дзяржаўнай узнагароды.

Узнагарода называлася ордэнам Белай Мышы I ступені. Убачыць нешта незвычайнае ў такой назве мог толькі іншаземец, зусім не абазнаны

ў мінуўшчыне гэтае краіны, бо ад школьных гадоў кожны яе грамадзянін ведаў, што мыш — старажытны сімвал тутэйшай дзяржаўнасці. Гістарычныя крыніцы сведчылі, што выява грызуна з вострай пыскаю і доўгім хвастом з'явілася на дзяржаўным гербе болей за пяцьсот гадоў таму, за часамі ўладарання аднаго з далёкіх і найвыбітнейшых продкаў цяперашняга манарха, які ўсе свае ўказы нязменна завяршаў традыцыйнай формулай: «а таксама сядзець усім ціха, як мыш пад венікам». Адзінае, што змянілася ў дзяржаўным гербе за пяць стагоддзяў, — гэта колер. Старажытная шэрая мыш пакрысе святлела і ўжо ў мінулым стагоддзі набыла шляхетную белізну, што ў геральдыцы, як вядома, адпавядае срэбру і азначае чысціню, дабро і незалежнасць.

Ордэн ляжаў перад каралём на пурпуровай ядвабнай падушачцы і вясёлкава ззяў усімі сваімі эмалямі і дыяментамі.

Кароль паводле даўняй завядзёнкі не даслухаў даклада, але не адправіў свайго візаві далей мацаваць бяспеку, а запытаўся, каго той бачыць кавалерам найвышэйшай узнагароды. Шэф галоўнай службы краіны колькі разоў пакратаў эспаньёлку, што магло азначаць лёгкую збянтэжанасць. Стары надзейны паплечнік манарха, пэўна ж, ведаў, хто заслугоўваў ордэна нязмерна больш за ўсіх астатніх, аднак вырашыў перамаўчаць.

А кароль або яшчэ не вызначыў найбольш заслужанага кандыдата, або сумняваўся, бо ўважліва праглядаў спіс насельнікаў падуладнай яму дзяржавы.. У глыбокім одуме ён нават ссунуў сызвалоснік, і яго плех заблішчэў у промнях ранішняга сонца, хоць і не так зырка, як ордэн. Трэба, карыстаючыся момантам, зацеміць, што кароль, не ўважаючы на згаданы плех, быў чалавек яшчэ досыць малады, павабны

і поўны сілаў. Ён рэгулярна гуляў у тэніс і, надзеўшы дзеля скідвання вагі бронекамізэльку, бегаў трушком вакол сваёй рэзідэнцыі.

Нарэшце кароль адарваў вочы ад паперы і ўголас падумаў:

— А што калі мы ўзнагародзім нашага пісьменніка?

Шэф бяспекі зноў пакратаў бародку. Аднак цяпер сітуацыя набыла канкрэтнасць, якую ён любіў і ў якой пачуваўся, як вугор у росным ранішнім гаросе.

— Гэта выдатная кандыдатура, ваша вялікасць, — сказаў уладальнік эспаньёлкі. — Але…

Кароль ускінуў брыво і атрымаў цвёрды працяг:

— … у нас у краіне няма ніводнага чытача.

— Сапраўды? — не даў веры манарх. Ён зноў палез у спіс і знайшоў там аднаго астролага, аднаго канібала, аднаго чарнасоценца і аднаго чукчу, а вось чытача насамрэч не было.

Але жыхары краіны нездарма лічылі, што каралеўскае меркаванне цяжка пахіснуць.

— А чаму ты думаеш, — пачуў шэф бяспекі, — што гэта істотна? Мы ж збіраемся ўзнагародзіць пісьменніка, а не чытача. І потым сам пісьменнік, пэўна ж, чытае свае творы. Прынамсі, у той час, калі іх піша.

Шэф бяспекі зірнуў на ордэн і зноў перамаўчаў.

— Сёння я запрашаю пісьменніка на вячэру, — падсумаваў кароль.

Увечары кароль і пісьменнік сядзелі адзін насупраць аднаго за вытанчана сервіраваным сталом. Яны былі прыкладна аднаго веку, дзесьці паміж сарака і пяцьцюдзесяццю гадамі, у пары мужчынскага росквіту, але калі кароль меў каштанавы сызвалоснік, то пісьменнік — натуральную шыкоўную фрызуру такога ж колеру, хоць ужо і кранутую высакароднай сівізною.

У барокавым інтэр’еры залы для вячэраў з блізкімі гасцямі роўна гарэлі ў старадаўніх срэбных кандэлябрах вітыя свечкі з няўлоўным тонкім водарам. Камін дыхаў духмянай цяплынёю, а побач, на зграбнай мармуровай кансолі, чакаў свайго ўладальніка ордэн Белай Мышы.

Утульнасці дадавала і прысутнасць маладой прыгожай жанчыны, якая сядзела за сталом не поруч з каралём і пісьменнікам, а воддаль — так, што магла і чуць размову, і губляць яе нітку, калі б гаспадар з госцем прыцішылі галасы. Густыя кучаравыя агнёвапжарыя валасы прыгажуні, якія вольна падалі на аголеныя плечы, дзівосным чынам спалучаліся з глыбокім аквамарынам вачэй, прыводзячы на памяць гераіняў Праспера Мерымэ. Кароль дыпламатычна называў жанчыну «гаспадыняй», і пра яе сапраўдны статус заставалася толькі здагадвацца, прымаючы пад увагу тую акалічнасць, што манарх ужо колькі гадоў быў удаўцом.

— Я спадзяюся, ты падаруеш мне свае апошнія кнігі, — сказаў кароль.

У звароце да пісьменніка на «ты» не было нічога абразлівага, бо кароль называў на «ты» ўсіх падданых і да ягонае завядзёнкі даўно прывыклі, як прывыклі да традыцыйных у гэтай краіне летніх неўраджаяў і зімовае хлюпоты.

— Не, ваша вялікасць, не падарую, — адказаў пісьменнік, з асалодаю дапіваючы келіх бардоскага.

— Чаму? — непарушна папытаўся кароль і даў пахолку знак напоўніць пісьменніку келіх.

— Мае кнігі ўжо шмат гадоў не выходзілі, — азваўся пісьменнік, узняўшы келіх і па чарзе глянуўшы на манарха і жанчыну.

На языку ў караля, напэўна, круцілася пытанне, з якога часу пісьменнікавы рукапісы больш не перат-

вараюцца ў кнігі, але яго вялікасць быў надзелены дзяржаўнай мудрасцю, і таму ягоны суразмоўца пачуў іншыя словы.

— Але ты ўсё адно застаешся пісьменнікам.

— Магчыма, — сказаў пісьменнік. — Бо я па-ранейшаму пішу. Пішу ў стол...

— Тым больш, — задаволена падхапіў кароль. — Так і павінен жыць сапраўдны пісьменнік. Як казалі рымляне: *Habent sua, fata libelli*. І кнігі маюць свой лёс. Я рады, што не памыліўся і хачу падпісаць указ пра ўзнагароджанне цябе Ордэнам Белай Мышы.

Апошнія словы кароль прамовіў урачыстым тонам і ўзняў келіх, чакаючы, што пісьменнік зробіць тое самае. Але той чамусьці марудзіў.

— Хачу табе канфідэнцыйна прызнацца, — панізіў голас кароль, — што твае зласліўцы не драмалі. Падсунулі мне, разумееш, спіс насельніцтва, знайшлі фармальную падставу...

— Хацелась б ведаць якую, — цэдзячы віно, таксама прыцішана пацікавіўся пісьменнік. — Калі гэта, вядома, не таямніца.

— Якая таямніца! У спісе насельніцтва ў нас нібыта няма ніводнага чытача.

— Важкі аргумент, — прамовіў пісьменнік, і ягоны голас афарбавала глыбока прыхаваная радасць. Зрэшты, гэта магло толькі здавацца.

Кароль зарагатаў, і смех гучаў цалкам шчыра.

— Аргумент... Ты — пісьменнік. Перад табой — вечнасць. Падлі нам віна. — Кароль павярнуўся да пахолка, што непрыкметна стаяў каля вакна, ператвараючыся ў персанажа гістарычных сюжэтаў на старадаўніх барокавых шпалерах, якімі былі аздобленыя сцены.

Пахолак адклеіўся ад сцяны і наблізіўся да караля, потым — да ягонага госця, потым — да жараваласай, якая не брала ўдзелу ў гаворцы, але відавочна

прыслухоўвалася да яе. Пісьменнік задуменна сачыў за прафесійнымі, да аўтаматызму, рухамі пахолка, пакуль не сустрэўся позіркам з уладальніцай дзівосных вачэй. Жанчына збянтэжана ўтупілася ў талерку.

— А што калі вечнасць — не бясконцасць часу, а ягоная адсутнасць?.. — пісьменнік не адводзіў пагляду ад твару і напалову адкрытых грудзей жараваласай. — Можа, вечнасць вымяраецца толькі чалавечым жыццём?

Кароль кінуў у рот масліну.

— Ты варты ордэна ўжо за адны гэтыя словы.

— Але ж, ваша вялікасць, у спісе насамрэч няма ніводнага чытача.

— Ты мяне здзіўляеш, пісьменнік. У спісе няма... да прыкладу, няма ніводнага падданага. Дык што з гэтага вынікае?..

Манарху спадабаўся такі нечаканы ход, і ён пачаў развіваць сваю думку:

— Сярод жыхароў нашае краіны ёсць адзін кароль і адзін пісьменнік. У той самы час няма ніводнага падданага і ніводнага чытача. Якая выснова? А такая, што мы з табой у нечым роўныя. Ты ў нейкім сэнсе таксама кароль, а я ў нейкім сэнсе — пісьменнік. Прапаную за гэта выпіць.

— У вас выдатнае віно, — прыўзняў келіх пісьменнік.

Кароль таксама падняў келіх і, прымружыўшыся, паглядзеў праз яго на суразмоўцу.

— Ты мусіш ведаць, што свет мяняецца ў залежнасці ад таго, якімі вачыма мы на яго глядзім. Цвярозае ўспрыманне — толькі адно з магчымых. Старажытныя германцы нездарма ўсе важныя пастановы абмяркоўвалі двойчы: на цвярозую галаву і — ніштавата прыняўшы.

— Не буду пярэчыць. Адзін мой знаёмы філосаф калісьці казаў, што цвярозасць — гэта маці мяшчан-

ства, а мастацтва і навуку нарадзілі п'яная блудніца з галодным аскетам.

— Выдатна сказана, — пагадзіўся кароль. — Я таксама меў знаёмага філосафа. Памятаю, мы доўга гутарылі з ім пра жыццё і смерць. Memento mori... Але не будзем пра гэта перад галоўнай стравай каралеўскага стала.

Тут кароль упершыню загаварыў да жанчыны:

— Дарагая, распарадзіся падаваць смажанку.

Жаравалосая паднялася і прайшла па зале, пакінуўшы ручаінку пахаў вытанчанай парфумы. Гаспадыня чароўных валасоў аказалася і гаспадыняю цудоўнай постаці, вабноты якой падкрэслівала сукенка з зялёнага адамашку.

— Я не пачуў твайго адказу, — павярнуўся кароль да пісьменніка, позірк якога яшчэ праводзіў крутыя клубы жаравалосай і яе перацягнутую залатым паскам талію балерыны.

Але жанчына зноў з'явілася ў зале, і ўслед двое пахолкаў урачыста ўнеслі і паставілі на стол вялізны срэбны спод з барановай смажанкаю пад чарнаслівам.

— Твой адказ... — нагадаў кароль, накладаючы сабе бараніны. У ягоных вачах запалілася шчырая ўсцеха гурмана. — Настойліва рэкамендую. Гэта традыцыйная страва нашае дынастыі. Ад таго часу, як каралеўская армія ў шаснаццатым стагоддзі дашчэнту разбіла арду нашага заклятага сябра вялікага князя Вавана і захапіла ў палон яго самога і ўсіх ягоных ваяводаў. Злыя языкі кажуць, што пераможцы пакаштавалі тады смажаных кумпякоў самога вялікага князя. Вядома, гэта не болей чым агідныя чуткі, якія запусцілі самі пераможаныя, каб кінуць цень на наш еўрапейскі народ...

Пісьменнік падазрона прыгледзеўся да смажанкі і запіў першыя, яшчэ не смакавыя, а слыхавыя ўражанні віном.

— Здаецца… — загаварыў ён, кладучы на талерку некалькі чарнаслівін, — здаецца, хтосьці з французскіх класікаў пісаў, што чалавек — гэта тое, што ён есць. Стэндаль любіў яечню. Гофман ствараў свае вусцішныя апавяданні, прывязаўшы да носу кавалачак жытняга хлеба з кменам, каб увесь час чуць ягоны водар. А яшчэ ён пісаў на моцным падпітку і чым болей піў, тым вышэй узлятала ягоная фантазія. Леў Талстой страшэнна любіў свежыя гуркі проста з ляхі. А расейскі мастак Саўрасаў, памятаеце, ваша вялікасць, той, што намаляваў гракоў, якія прыляцелі, амаль нічога не еў, а толькі піў гарэлку і закусваў яе журавінамі…

— Кажуць, у нашай краіне гракі ўжо не лётаюць у вырай, — перапыніў гастранамічную тыраду кароль.

— Я таксама заўважыў, — пагадзіўся пісьменнік.

— І чым гэта тлумачаць? — У голасе ў караля нечакана прарэзалася сталёвая нотка.

— Думка арнітолагаў мне невядомая, — ухіліва адказаў пісьменнік. Краем вока ён скасавурыўся на жанчыну і змеціў, што тая наструнена ловіць размову з усімі яе нечаканымі адценнямі і паваротамі.

— Пры чым тут арнітолагі! — уквелена тузануўся ў крэсле кароль. — Я хачу ведаць, чым гэта тлумачаць у вашым асяроддзі.

— Вы мяне крыху здзіўляеце, ваша вялікасць…

— Можаш не адказваць. Я выдатна ведаю гэтую паказку. Гракі баяцца, што ўвосень іх саб'юць на мяжы з зенітак альбо не пусцяць назад, калі яны будуць ляцець з выраю.

— Ваша вялікасць…

— Ну што, ваша пісьменніцкая мосць? Я ўзнагароджваю цябе найвышэйшым ордэнам дзяржавы, а ты круцішся як уюн на патэльні!

Ад твару жаравалосай прыгажуні адхлынула кроў, і вострае пісьменнікава вока імгненна адзначы-

ла гэта. Верагодны кавалер ордэна Белай Мышы з'еў чарнаслівіну, каўтануў віна і загаварыў:

— У мяне ёсць чатыры правілы: не верыць, не баяцца, не прасіць і не дзячыць.

Кароль засяроджана жаваў. Было такое ўражанне, што разам з кавалкам бараніны ён хоча пераджаваць таксама сваю ўкveленасць. І сапраўды, праглынуўшы мяса і запіўшы яго бургундскім, манарх загаварыў амаль зычліва:

— Мы, каралі, — вынятак з правілаў. Пісьменнікі, спадзяюся, таксама. А правілы, мой дарагі, бываюць і ў каралёў. Я, да прыкладу, мог узнагародзіць самога сябе, ды гэта не ў маіх правілах. Рэкамендую келіх бажале.

— З прыемнасцю... Але факт застаецца фактам: я не маю ніводнага чытача і ад гэтага нікуды не схаваешся.

— А ў мяне няма ніводнага падданага.

— Гэта не адно і тое ж. Вы, ваша вялікасць, можаце выдаць указ і прызначыць сваімі падданымі ўсіх жыхароў краіны, апрача дыпламатычнага корпусу.

— Паслухай, пісьменнік... — Ад віна, сытнай ежы і камінавай цеплыні кароль трохі захмялеў і пачаў расцягваць словы. — З такім самым поспехам я мог бы прызначыць усіх нашых суграмадзянаў тваімі чытачамі. Ды толькі ёсць рэчы, якія не вырашаюцца ўказамі. Сказаць, дзе я бачыў такіх падданых? Сапраўдны падданы ганарыцца сваім манархам. Ён называе ў гонар манарха дзяцей...

— Шмат у каго я бачыў вашы партрэты... — асцярожліва азваўся пісьменнік, які раз-пораз хутка пазіраў на відавочна ўстурбаваную ходам гаворкі жанчыну.

— Бачыў вашы партрэты... — перадражніў кароль. — *Res suis vocabulis nominare*! Называй рэчы сваімі імёнамі!

— Ваша вялікасць мае сантымент да лаціны…

— Выдаткі адукацыі! — адмахнуўся манарх. Ягоны твар наліўся чырванню, а язык канчаткова развязаўся. — Ты ведаеш, хто ўгаварыў мяне змяніць наш Статут? Змяніць, каб унесці туды артыкулы пра скасаванне смяротнага прысуду і пра тое, што ў нашай краіне знаходзіцца геаграфічны цэнтр кантынента? Гэты чалавек першы павесіў у кабінеце мой партрэт. А потым ён жа першы і здрадзіў мне. А перад тым як уцячы па каналізацыі за мяжу, пакінуў мне ліст. Ты чуў, што ён там напісаў? Зрэшты, адкуль ты мог чуць! Мой першы прэм'ер-міністр пісаў, што ніколі не любіў мяне. Што нават калі б цэнтр кантынента і самога Сусвету знаходзіўся не проста ў маёй краіне, а непасрэдна ў маёй задніцы і нават калі б пра гэта сведчыў Статут, ён усё роўна не сеў бы са мной нават паср… на адным полі…

— Ваша вялікасць, тут жанчына…

— Дзе? А, яна… Яна ўсё ведае. Ну і што ты скажаш, пісьменнік, пра гэты ліст?

— Пакідаючы сэнс на сумленні аўтара, скажу, што сфармулявана даволі хвостка. Адчуваецца стыль.

Пачуўшы апошнія словы, жанчына ледзь прыкметна здрыганулася.

— Вось-вось, — працягваў кароль. — Ты не здагадваешся, хто мог яму дапамагчы? Што гэта за стыліст?

Пісьменнік задуменна пасмоктваў віно і маўчаў. Але кароль, відаць, і не спадзяваўся нешта даведацца. Ён дажаваў маслінку, выплюнуў костачку на далонь і стрэліў ёю ў полымя каміну.

— Назавем рэчы сваімі імёнамі. — Голас манарха зноў гучаў спакойна, нібы нядаўні ўсплеск эмоцыяў быў проста тэатральнаю карцінкай. — Цябе ніхто не чытае, а мяне ніхто не любіць. Я прапаную выгодныя ўмовы. Тваім чытачом буду я…

— А я — вашым падданым?

— Не здагадаўся. Маім улюбёным пісьменнікам. Я мяркую, разам нам не будзе сумна. Будзем сустракацца вось тут, ля каміна. Ты кажаш, вечнасць — гэта адсутнасць часу. А што ў такім разе смерць? Мой знаёмы філосаф лічыў, што смерць — нішто, але што мы, ну *там*, будзем адчуваць гэтае нішто. Карацей кажучы, ты згодны.

Кароль глынуў віна і загадаў падаваць дэсерт. Пахолак з абліччам шпалернага героя нячутна выйшаў.

— Ваша вялікасць... — загаварыў пісьменнік, нічым не выяўляючы згоды.

Кароль папераджальна падняў руку.

— Больш ні слова! З твайго дазволу я на хвілінку адлучуся. Улічы яшчэ тое, што найвышэйшая дзяржаўная ўзнагарода дасць табе магчымасць выдаць свае кнігі.

Калі дзверы за манархам зачыніліся, пісьменнік цераз стол паслаў жанчыне красамоўны позірк, у якім адбівалася цэлая гама эмоцый — ад непрыхаванага захаплення да спадзявання на параду.

Жаравалосая неяк няпэўна пахітала галавою, што можна было трактаваць і як засцярогу, і як заахвочванне. Пасля гэтага маўклівага дыялогу пісьменнік падняўся і, зрабіўшы некалькі крокаў, працягнуў ёй сваю візітоўку.

— Як вас завуць?

Ён хацеў сказаць штосьці яшчэ, але жанчына прыклала палец да вуснаў і, хутка схаваўшы візітоўку, паказала пісьменніку вачыма на ягонае крэсла. Той ледзьве паспеў сесці і ўзяць у рукі келіх, як у дзвярах з'явіўся гаспадар.

— А вось і я! — весела абвясціў ён, памахваючы мабільным тэлефонам. — Вы тут не сумавалі? Як справядліва казалі ў часы Тамаша Аквінскага, а таксама і значна пазней, *solus cum sola non cogitabuntur orare*

*«Pater noster»*[*]. Хоць вы мяне зарэжце, люблю лаціну. Яснасць думкі, чаканнасць фразы… А дзе, дарэчы, наш дэсерт?

Расчырванелы пахолак, намагаючыся не сустрэцца вачыма з гаспадаром, паставіў на стол садавіну і высокія крышталёвыя вазачкі з узбітымі вяршкамі.

— Пайшоў прэч! — загадаў кароль. — На кухню!

Ён уладкаваўся ў крэсле, зрабіў добры глыток віна і працягваў, нібыта і не пакідаў залы:

— Той філосаф, з якім мы абмяркоўвалі праблемы жыцця і смерці, чамусьці лічыў, што смерць — субстанцыя сіняга колеру. А бывала, ён наогул пачынаў гаварыць гатовымі афарызмамі. Як гэта?.. Нават перапраўляючыся цераз Стыкс, людзі баяцца патануць. Нядрэнна, а? А ты, пісьменнік, не баяўся б, праўда?

— Што вы хочаце гэтым сказаць, ваша вялікасць?

Пісьменнік не мог не бачыць, што ўсё аблічча жаравалосай выяўляла трывогу.

— Ды так, успомнілася… Аднойчы ён пайшоў з сябрам у лазню… Цікава, да чаго гэта на ноч успамінаюцца філосафы…

Кароль яшчэ раз адпіў з келіха і без прыкметнай сувязі з папярэднім прамовіў:

— Часам трэба стаць Кантам дзеля бюста якой-небудзь бландзінкі. Альбо Гегелем дзеля дупці якой-небудзь брунеткі.

Наступныя словы таксама сведчылі, што думка манарха рухалася пакручастым і цяжкавытлумачальным шляхам.

— Скажы, пісьменнік, у цябе ёсць жонка?

— На жаль…

— На жаль, ёсць ці, на жаль, няма?

[*] Застаўшыся сам-насам, ён і яна не будуць чытаць «Ойча наш» (*лац.*).

— Мне ўзгадваецца старая сентэнцыя. Дрэнная жонка — не прычына філасофіі. Дрэнная жонка — яе вынік. У мяне жонкі ніколі не было. Магчыма, таму, што я не філосаф.

— А як наконт дзяцей? Дзеці ў цябе ёсць?

— Напэўна, ёсць.

— Ах ты, стары сатыр! — ухвальна зарагатаў кароль. — Як гэта пісаў хтосьці з вашае братыі: ведае дам і верыць у іх прызначэнне. — І адразу, зноў парушаючы логіку размовы, пацікавіўся: — А ты выпадкова не заходзіў па дарозе сюды ў WC?

— Як мне памятаецца, не, — адказаў пісьменнік. Ён кінуў позірк на жанчыну і, заўважыўшы ў яе вачах вясёлыя агеньчыкі, заахвочана прадоўжыў: — А што, ваша вялікасць, там захоўваюцца нейкія дзяржаўныя таямніцы?

— Там з'явілася налепка. Уяві, што ты сеў на ачко, узняў вочы, а насупраць — твой партрэт з ідыёцкім надпісам: «Рукі прэч ад нашых дзяцей!». Пляваць я хацеў на іхніх дзяцей!

Кароль асушыў келіх, не прапаноўваючы зрабіць гэта і пісьменніку, але той самахоць узяў гаспадара за прыклад. Пасля пэўнай расслабленасці з жартоўнаю, як здавалася, пікіроўкаю атмасфера за сталом відочна змянілася, што пацвердзіў і голас караля, які, не ўважаючы на выпітае, загучаў зусім цвяроза — цвёрда і нават жорстка.

— Значыцца, так. Рады паведаміць, што ў цябе з'явіўся чытач. Я папрасіў шэфа бяспекі зірнуць, што ты там пісаў у стол. З гэтага вынікае прынамсі адно: фармальную прычыну тваіх сумневаў мы ліквідавалі. Прапаную тост за твайго чытача і твой ордэн!

Жанчына цалкам ператварылася ў слых.

Тым часам пісьменнік ані не сумеўся, а, наадварот, выглядаў нават чымсьці задаволеным.

— Магу прыняць прапанову толькі часткова.

Кароль ускінуў вочы і затрымаў келіх каля вуснаў.

— Я прадбачыў такое развіццё падзеяў, ваша вялікасць. У гэты момант мае рукапісы ўжо за мяжой. Пісьменнік можа не мець чытача, але мець адданага сябра.

— О! Адданы сябар — гэта бясцэнны капітал,— іранічна прамовіў манарх. — А ты, бачу, непапраўны аптыміст.

— Ваша вялікасць, уся розніца паміж аптымістам і песімістам палягае ў прапанаванай імі даце канца свету.

— Няблага сказана. Зрэшты, гэта не мяняе сутнасці справы. Калі твае рукапісы сапраўды за мяжой, значыць, у цябе з'явіўся замежны чытач. Тым лепей. Выдатнае пацверджанне поспехаў айчыннай літаратуры. Я падпішу ўказ пра тваё ўзнагароджанне сёння ж.

Пісьменнік па-ранейшаму выглядаў спакойным. Хваляванне выдавалі толькі крыху больш звычайнага падціснутыя вусны. Ён, відаць, зразумеў, што час для жартаў вычарпаны.

— Але я магу не з'явіцца на цырымонію ганаравання. Будзе скандал.

— А мне да фені. Ды ніякага скандалу і не будзе. Наша газета надрукуе ўказ і паведамленне, што ордэн уручаны непасрэдна ў палацы. У цёплай, амаль сямейнай абстаноўцы. Ты сказаў спіч з падзякаю ўраду і асабіста каралю за клопат пра нацыянальную літаратуру. *Mundus vult decipi, ergo decipiatur*. Свет хоча быць падманутым, дык няхай падманваецца. Пра тое, што не паспеў я выйсці адліць, як ты пачаў не без узаемнасці клеіць маю жанчыну, я загадаю не пісаць...

Келіх у руках у жаравалосай затрымцеў, і колькі кропляў праліліся на белы настольнік, стварыўшы на

ім мудрагелісты відарыс, што нагадваў нейкае знаёмае сузор'е.

— Вось яна, удзячнасць падданых! — з удаванай скрухаю прамовіў кароль. — Я лічыў яе найлепшым доказам таго, што жанчыны маёй краіны — найпрыгажэйшыя ў свеце. Яе вейкі былі для мяне крыламі вачэй, а вусны — сцежкаю ў Эдэм. Я называў яе ўвасабленнем жаноцкасці і вернасці. Аказалася ж, што яна — гэта ўвасабленне падступнасці і здрады. Падыдзі сюды…

Жаравалосая прыгажуня наблізілася да манарха, аднак спынілася за плячыма ў пісьменніка.

Але кароль як быццам ужо забыўся пра яе існаванне. Ён пакалупаўся срэбнай лыжачкай у вазачцы з вяршкамі і загаварыў пра іншае:

— Ты не ўлічыў аднаго, пісьменнік. Калі я казаў пра вашае падабенства з каралямі, я ані не крывіў душой. Але мы, каралі, маем справу з рэальнымі людзьмі. А вы, пісьменнікі, — з народжанымі вашай фантазіяй фантомамі. А нейкі ёлуп яшчэ назваў вас інжынерамі чалавечых душ. Гэта мы — інжынеры чалавечых душ. Было забаўна назіраць, як ты намагаешся выслізнуць… Але я высакародны і літасцівы манарх. Апрача ордэна я ўзнагароджваю цябе яшчэ і гэтай жанчынаю. Забярэш яе з сабой. У жылах у яе продкаў не было блакітнае крыві, але трахаецца яна як каралева. А калі згадаць нашу нябожчыцу каралеву, — кароль тэатральна ўзвёў вочы ўгору, — то непараўнальна лепей…

Пісьменнік падняўся.

— Я не дазволю казаць пра жанчыну ў такім тоне!

— Спакойна, пісьменнік, — стомлена прамовіў кароль. — Ты ж не хочаш, каб заўтра ў сталічнай каналізацыі знайшлі свежанькі труп маладой прыгажуні. Пагатоў калі яна трахаецца як каралева, — з відочным задавальненнем паўтарыў ён. — Вось бачыш, не хо-

чаш. І я цябе разумею. Такія экзэмпляры — наш нацыянальны скарб.

Жанчына прыціснулася да пісьменніка. Той абняў яе за дрыготкія адкрытыя плечы.

— Мне няма чаго сказаць вам, ваша вялікасць. Апрача таго, што… Вы ведаеце, кнігі, як і дзеці, нараджаюцца ў пісьменнікаў ад жанчын. Мы можам ісці?

— Ідзі і памятай, што ты — як адзіны наш пісьменнік і адзіны кавалер ордэна Белай Мышы — заўсёды пад маёй апекаю і абаронай.

— А яна? — Пісьменнік узяў жанчыну за руку.

— А яна — пад тваёй. Ты ж моцны. У нечым ты амаль роўны каралю. Але ёсць і розніца. Кароль можа паклапаціцца пра пісьменніка лепей, чым пісьменнік пра караля. Ты памятаеш, што адказаў іспанскі кароль на пытанне французскага калегі пра тое, як маецца Сервантэс?.. Ідзіце з Богам.

Застаўшыся адзін, манарх з хвіліну пасядзеў у задуменні, потым са смакам з'еў персік і выклікаў да сябе шэфа службы бяспекі.

Чалавек з абліччам сямейнага доктара-эпікурэйца ўжо чакаў за дзвярыма. Ён паставіў каля каміна дзве скураныя валізкі, выцягнуў нататнік і падрыхтаваўся да нечарговага даклада, ды кароль рухам рукі спыніў яго.

— Пісьменнік жыве адзін?

— Але.

— Гэта добра. Калі чалавек пазбаўлены сямейнае мітусні, ён засяроджваецца на вечных праблемах. Між іншым, цырымонія ўзнагароджання ўжо адбылася. Заўтра ў газеце з'явіцца паведамленне. Пісьменнік выступіў з узнёслай прамоваю.

— Не зрабіць гэтага было б вяршыняю няўдзячнасці, — імгненна знайшоў патрэбны тон шэф бяспекі.

— Пагатоў атрымаўшы да ордэна дадатак ў выглядзе былой каралеўскай наложніцы. Зрэшты, табе ўжо далажылі. Сядай.

Кароль наліў суразмоўніку віна і падсунуў талерку.

— Дзе рукапісы?

Шэф бяспекі, перажоўваючы кавалак халоднай бараніны, паказаў вачыма на прынесеныя ім пульхныя валізкі.

— Праблемаў з сябрам не ўзнікала?

— Мы душэўна паразмаўлялі, і я выправіў яго да пісьменніка за пяць хвілінаў да таго, як тэлефанаваць пра вашае запрашэнне. Пісака, вядома, адразу насцярожыўся, і праз гадзіну сябар сеў у таксоўку з гэтым вось багажом. Адзінае, што там кодавыя замкі. З эстэтычных меркаванняў я вырашыў іх не чапаць. Можаце зрабіць дэфларацыю ўласнымі рукамі.

— А што, нельга было спытаць код?

— Мы не паспелі, — крыху занепакоіўся шэф бяспекі.

— Што значыць не паспелі? — падазрона запытаўся кароль.

— Працавалі ў цэйтноце, — унікліва сказаў уладальнік бародкі-эспаньёлкі і асцярожліва змяніў тэму. — Ваша вялікасць, істотная акалічнасць: пісьменнік не прызнаваў камп’ютара і пісаў простай шарыкавай асадкай.

— Мне заўсёды падабаліся людзі кансерватыўнага складу, — заўважыў кароль. — Іх лепей разумееш. З імі меней клопату. Але ў свеце няма дасканаласці. Гэтыя людзі абцяжараныя сваімі старамоднымі ўяўленнямі. Таму клопату хапае. Якія варыянты развіцця сюжэта ты прапануеш?

Шэф бяспекі вырваў з нататніка спісаны з абодвух бакоў аркуш. Кароль прабег яго вачыма і незадаволена зморшчыўся.

— Тыператаміўся. Першае абсалютна непрымальнае. І другое. І трэцяе. Папаўзуць чуткі. Пункт чаты-

ры… Ты што, зусім з’ехаў з глузду? Сёння я чапляю яму на грудзі ордэн, а заўтра ём сам… Дарэчы, я падпісаў таемны ўказ. Насамрэч ордэн атрымаеш ты.

Начальнік бяспекі з неўласцівым яму, здавалася б, спрытам спружыніста ўскочыў і па-вайсковаму выцягнуўся.

Ордэн Белай Мышы па-ранейшаму ляжаў на ядвабнай падушачцы, пераліваючыся дыяментамі, якія ад пошугаў агню ў каміне набывалі густы крывавы колер. Кароль падняўся ўслед за позным госцем і прышпіліў яму ўзнагароду насупроць сэрца.

— Ну а цяпер скажы, ты хочаш заўтра ўчыніць суіцыд?

Манарх сеў і перагарнуў аркуш з прапановамі.

— Ужо лепей… А што?.. Стары добры сродак, выпрабаваны на філосафе. Толькі не проста доўгатэрміновая камандзіроўка, а — творчая. Творчая доўгатэрміновая камандзіроўка. Берлін, Рым, Парыж… Што там яшчэ?.. У паведамленні для прэсы абавязкова падкрэсліць: за кошт дзяржавы. І гэта — святая праўда.

— Калі будзем выпраўляць, ваша вялікасць?

Адказ у караля ўжо быў гатовы:

— Мяркую, аптымальны час — сённяшняя ноч. — Манарх глянуў на старадаўні насценны гадзіннік з двума амурамі. — Скажам, а першай. Аформіш ад’езд уласнаручна.

— Жанчына?

— Каб яму не было сумна…

— А вы дазволіце?..

— Ах ты, стары грахаводнік!

— Ваша вялікасць, хіба не вы любіце паўтараць, што грахі — гэта ўчынкі, якія прыемна ўспамінаць?

— Яна ж будзе яшчэ цёпленькая ад ягоных абдымкаў…

— У гэтым ёсць свой шарм. За адным разам пакажам пісьменніку цікавае кіно. Так бы мовіць, на дарожку…

Апошнія словы каралю чамусьці не спадабаліся. Ён дэманстрацыйна глянуў на гадзіннік. Залатыя стрэлкі-алебарды рыхтаваліся сустрэцца на лічбе XII.

Пачуўшы, як «мерседэс» шэфа бяспекі крануўся, кароль загадаў неадкладна выклікаць міністра паліцыі.

Галоўны паліцыянт краіны быў поўнаю супрацьлегласцю шэфа бяспекі: высокі, падхорцісты і да бляску выгалены. Кароль сардэчна павітаўся з ім за руку, пасадзіў госця за стол і наліў віна.

— Не, нічога не здарылася, — адказаў манарх на запытальны позірк. — Проста захацелася пасядзець з чалавекам, якому давяраеш, нібы самому сабе. У краіне такіх двое: ты і начальнік службы бяспекі. Ён толькі што пайшоў. Дзяржаўныя справы… Засталося пару нюансаў, якія мы не паспелі абмеркаваць. Я не затрымаю цябе. Праз гадзіну будзеш абдымаць сваю здобную жоначку або каго захочаш. А пакуль узбадзёрся старым добрым бургундскім. Бараніна, праўда, астыла.

Міністр паліцыі акуратна асушыў келіх, прамакнуў вусны сурвэткаю і агледзеў стол.

— Рэкамендую ласіную каўбаску, — сказаў кароль.

Галоўны паліцыянт пасунуў да сябе талерку і са смакам узяўся закусваць. Тым часам кароль падсеў да бюро ў стылі ампір і пачаў хутка пісаць. Праз колькі хвілінаў на пакладзеным перад ім аркушы начальнік паліцыі прачытаў: «Сёння табе не давядзецца спаць. Паступілі самыя дакладныя звесткі, што блізу гадзіны ночы ў сталіцы будзе здзейсненае дзёрзкае і цынічнае забойства. Пра астатняе пагаворым у парку. Сцены маюць вушы і ў каралеўскіх рэзідэнцыях».

Міністр наліў сабе бургундскага, засяроджана выпіў і ўстаў. Кароль узяў яго пад руку і ўжо ў дзвярах уголас дадаў да напісанага:

— У адных людзях жыве Бог, у другіх — д’ябал, а ў некаторых — адно глісты і мікробы.

Вярнуўшыся праз чвэрць гадзіны ў залу, кароль напоўніў свой келіх, але піць не стаў. Ён падышоў да дзвюх прынесеных шэфам бяспекі скураных валізак, паважыў іх у руках і выбраў больш пакоўную. Паклаў яе на камінную дошку, трохі пакруціў колцы замкоў і, упэўніўшыся ў іхняй надзейнасці, дастаў з шуфляды бюро вялікі паляўнічы нож. Праверыўшы ягоную вастрыню, кароль застаўся задаволены і ўвагнаў джала ў валізку. Нож лёгка разрэзаў светла-брунатную скуру па перыметры.

Валізка была наладаваная простымі папяровымі тэчкамі на тасёмках. Кароль пасунуў да каміна цяжкое, абабітае зялёным аксамітам крэсла, паставіў на камінавую дошку келіх з віном і паклаў на калені верхнюю тэчку. Ён не спяшаючыся развязаў белыя тасёмкі, але раптам ускочыў і з лютасцю шпурнуў тэчку ў камін. З наступнай тэчкаю ўсё паўтарылася. Другую валізку ён распаласаваў нажам крыж-накрыж і рвануў скуру рукой. Вынік быў той самы.

У гэтым месцы крыніцы, якімі карыстаўся аўтар, пачынаюць пярэчыць адна адной, прычым розначытанні набываюць настолькі прынцыповы характар, што змушаюць падаць абодва варыянты.

Паводле першага, у тэчках ляжала некранута-чыстая папера. Паводле другога, папера ў тэчках таксама ўяўляла сабой белую неруш, але пасярод кожнага верхняга аркуша было каліграфічным почыркам выведзена: «А вось табе х...»

Прааналізаваўшы ўсе дадзеныя, чытач можа самастойна выбраць найбольш верагодны працяг.

*2001*

# Маша і мядзведзі

*Дзецям да 16 гадоў*
*прысвячаецца*

Не верыць у рэінкарнацыю — дэбільна проста.

А калі яна ўсё ж існуе? А калі ў апошнім з тваіх папярэдніх жыццяў ты сапраўды — як убачыла ў эзатэрычных табліцах адна абазнаная жанчына — дыхаў п’янкім паветрам васямнаццатага стагоддзя, прачынаючыся і засынаючы ў абліччы папулярнай мексіканскай танцоркі, асобы спакуслівай, падступнай і, бясспрэчна, тэмпераментнай не толькі на сцэне?

У якім увасабленні і праз колькі гадоў ці стагоддзяў ты зноў прыйдзеш у гэтую юдоль пасля змушанага або добраахвотнага развітання з сённяшнім целам і сённяшняй свядомасцю?

Ці залежаць хоць нейкім чынам наступныя з’яўленні на свет ад тваіх цяперашніх прынцыпаў і паводзін? (Няўжо меў рацыю Платон, які ў адным са сваіх славутых дыялогаў бязлітасна сцвярджаў, што гулякаў, абжораў і жлукталёў у наступных увасабленнях чакае безальтэрнатыўны лёс асла?)

Ці марыш ты адпачыць ад чалавечае іпастасі і здзейсніць прарыў з інтэлектуальнага холаду ў новы свет, знайшоўшы для душы зусім іншую цялесную абалонку з абсалютна незнаёмым дыяпазонам магчымага і немагчымага?

Ці будзе ўлічанае тваё жаданне ўцялесніцца ў нейкім канкрэтным абліччы або ў пэўным месцы? Можа (у спадзяванні на тое, што дзесьці там, умоўна кажучы, «наверсе», прыслухаюцца), гэтае жаданне

сапраўды варта публічна агучыць, як, прыкладам, Іосіф Бродскі, які шмат разоў паўтараў, што ў новым увасабленні хацеў бы жыць у Венецыі — хоць катом, хоць пацуком.

Пра такія рэчы добра бывае паразважаць у звярынцы, асабліва калі сонца паварочвае на вясну, калі зноў верыцца ў лепшае, а ў кішэні ў цябе — зграбная булькатлівая біклажка з нержавейкі.

Вось перад табою, да прыкладу, леў.

Ва ўмовах дзікае прыроды ён, як паведамляе шыльдачка, жыве пятнаццаць гадоў, у няволі — усе трыццаць. Чаму б ты на ягоным месцы аддаў перавагу? Што лепей? Пагойсаць адмеранае табе лёсам па саване, паесці дасхочу свежыны, розных там антылопаў, зебраў ды жырафаў, і ўжо на другім дзясятку заручыцца з зямлёю? Або ўдвая даўжэй на ўсім гатовым займацца філасофскімі назіраннямі за чалавечай пародаю, каб урэшце прыйсці да высновы, што ў звярынцы, як і ў чалавечай турме, самае страшнае — што ты не можаш зачыніцца з сярэдзіны.

Па гамбургскім рахунку, скарачаць сваё жыццё гэтаксама цікава, як і яго расцягваць. А ўсё ж як наконт кампраміснага варыянта? На пятнаццатым годзе волі, пакаштаваўшы ўсяго на свеце (у тым ліку, вядома, і карыснай для львінага арганізма чалавечыны), можна самахоць здацца ў заапарк і, бязгрэшна гледзячы людзям у вочы, атрымаць яшчэ адзін жыццёвы тэрмін з гарантаванаю пайкай. Які з трох шляхоў абяцае найбольш прыстойную рэінкарнацыю?

Побач з ільвом — самец малпы, гібон, які, песцячы позіркам вабных жанчын, натхнёна займаецца мастурбацыяй, што выклікае здаровую цікавасць у юных аматараў прыроды, якіх бацькі мусяць жывасілам цягнуць да іншых клетак. Кім быў у мінулым існаванні ён? Сексуальным маньякам? Хлопчыкам з чарно-

бульскай зоны, які ціха сканаў ад лейкеміі, так і не паспеўшы зрабіцца мужчынам?

А твой зялёны рахманы брат кракадзіл, што ў зімовай кватэры-камеры не можа нават выпрастаць хваста і гібее, уяўляючы сабой жывы пытальнік без кропкі?

У адоранага амаль чалавечай прыгажосцю, але нязмерна больш дасканала складзенага пітона прасторы болей, хапае і тром жвавым белым курапаткам, ягонаму падвячорку. Хто ведае, ці не былі гэтыя грацыёзныя бесклапотныя істоты ў ранейшым жыцці прафесійнымі выляжанкамі і венерычкамі, а мо — выдатніцамі і сакратарамі камсамольскіх камітэтаў...

Між іншым, часам табе самому таксама маніцца пасля смерці вярнуцца птушкаю. Нездарма ты некалі ўяўляў свае пераўвасабленні ў грака і яго самотныя палёты над горадам з прызямленнямі ў самых нечаканых месцах — ад вар’ятні да падваконня кухні адной здрадлівай сяброўкі.

Чаму грак, а не якісь там бусел? Мо таму, што тады не трэба будзе адлятаць на зіму, а ты адчуваеш, што з гадамі можаш зрабіцца лайдакаватым і цяжкім на пад’ём персанажам, які лічыць, што, маючы розум, са свайго вакна можна ўбачыць болей, чым аб’ехаўшы цэлы свет?

Але вось галоўная праблема: ці будзеш ты ў іпастасі грака памятаць, што ты — гэта ты? А калі не, калі не будзе прынцыповай розніцы паміж табой у новай цялеснай «апранасе» і табой, хворым, крый божа, на хваробу Альцгеймера, пры якой чалавек страчвае сваю памяць, а значыць і сваё «я», калі так, дык ці не ўсё адно, вернешся ты або не, а калі і вернешся, то хіба істотна — у чыім абліччы: халаднакроўнай вужакі, перапоўненага каханнем марцовага ката, балотнай п’явіцы або блакітнага матылька-аднадзёнка? Не, ма-

быць, кот усё ж мае перавагі перад вужакай. Але ты рызыкуеш апынуцца ў зачараваным коле, бо мяркуеш пра свае новыя верагодныя ўвасабленні выключна з чалавечага гледзішча. А дзе, скажы, гарантыя, што ў момант свайго смяротнага ўкусу вужака не перажывае асалоды і шчасця, стакроць мацнейшых і шматстайнейшых за твае адчуванні пры самым фантастычным аргазме?

Дарэчы, пра аргазм. З якой прычыны табе ў гэты момант зазвычай прагнецца хоць на імгненне стаць жанчынаю, каб даведацца, што адчувае таямнічая істота, з якой ты дзеліш ложак? Можа, ніякай мексіканскай танцоркі напраўду ніколі не існавала, бо ў адваротным выпадку ты ну хоць нешта, нейкае каліва, але мусіў бы памятаць. Нельга ж пагадзіцца, што тая белазубая смуглявачка з пышным бюстам і ўсім астатнім сваім-тваім жаночым багаццем служыла эталонам фрыгіднасці і за свае пяцьдзясят тры (як паказалі эзатэрычныя табліцы) вірлівыя гады так нічога і не адчула.

Адзінае, на што ты катэгарычна не пагаджаешся, — вярнуцца раслінаю. Ты згодны з філосафамі: любая, няхай сабе найпрыгажэйшая кветка ўсё адно асуджаная на сляпое, паўсоннае, прыкутае да зямлі існаванне. А вось непрыкметны камарык насаты тварык — свабодны: звоніць у свой невідочны званочак, вырабляе складаныя піруэты ў сонечным промні, сам вызначае сабе шлях і выбірае ахвяру. Жывёла мае выбар, і ў гэтым сэнсе нябачная воку інфузорыя, якая займае сабой нейкую тысячную долю кроплі, сапраўды незалежная ад усяго астатняга сусвету, а велічэзны клён, на галінцы якога яна вісіць, — несвабодны. Вырасці клёнам, каб нейкі апівуда пускаў на цябе свой пенлівы струмень і яму нельга было даць выспятка, ты не згодны. Няхай ужо тады будзе мікракосм інфузорыі...

(Цікава, колькі інфузорыяў затаілася ў сусвеце тваёй біклажкі?)

Блукаючы ад клеткі да клеткі, ад глытка да глытка і ад рэфлексіі да рэфлексіі, ты настолькі заблытваешся ў іхнім багавінні, што ледзьве не прапускаеш падзеі, якая нядаўна крыху ўзбунтавала ціхамірную плынь аднастайных тутэйшых дзён, напоўніўшы сэрцы жыхароў і наведнікаў звярынымі і чалавечымі пачуццямі.

Зрэшты, у здарэнні няма нічога неардынарнага: белыя мядзведзі з'елі дзяўчынку Машу.

Гэтую афарбаваную светлым фаталістычным сумам гісторыю ты чуеш адразу ў некалькіх сагрэтых чалавечай спагадаю інтэрпрэтацыях.

Паводле першай, брацік неабачліва паставіў сястрычку на верх агароджы, а малой заманулася пагуляць з «мядзведзікамі». Праз хвілю аматары прыроды ўбачылі, што ласкавыя, амаль плюшавыя «мішуткі» хацелі есці. (Некаторыя заўсёднікі звярынца ўдакладняюць, што дзяўчынка Маша летась прыехала з бацькамі з Расеі.)

Другая версія сцвярджае, нібыта дзеці раслі ў моцна пітушчай сям'і і брацік асэнсавана падштурхнуў любую сястрыцу, як часам птушаняты выкідаюць слабейшых з гнязда, каб самім мець лепшы наедак.

Апалагеты трэцяга варыянта перакананыя, што Маша, ад якой засталіся адны пажаваныя ружовыя майточкі, была не такая ўжо малая і паспела запусціць свае вострыя зубкі ў сакавіты яблык зямных спакусаў, бо хварэла на СНІД і заразіла блізу сотні мужчын і пару дзясяткаў жанчын і дзяўчатак. Прыгнечаная сумленнем, пачвара татальнага сексу і выправілася ў ружовых майтках на гасціны да дружнай сям'і мядзведзяў, эгаістычна не думаючы, што можа заразіць яшчэ і іх.

У апошняга варыянта ёсць падварыянт, згодна з якім перадаць невылечную пошасць хворая ад нараджэння Маша, не ведаючы пра тое, здолела адно свайму каханаму Гошу. Пасля жахлівага прысуду медыкаў юная пара проста на ганку дыспансера паклялася разам звесці падрахункі з жорсткай рэчаіснасцю, аднак у астатні момант Гоша выявіў агідную слабасць характару і цяпер да скону дзён будзе сніць пагардлівую ўсмешку на вуснах каханай, пасланую яму ўжо з пашчы паўночнага драпежніка.

Значна менш прыхільнікаў маюць іншыя версіі. Напрыклад, што Маша ані не хварэла на СНІД, а легкадумна закахалася і страціла нявіннасць у пяшчотных абдымках мясцовага плэйбоя, гнюснага вашывага бізнэсоўца, які нават у непаўторныя хвіліны пяшчоты тэлефанаваў кудысьці праз мабільнік і замаўляў вагон рыбы. Гэты монстр ніколі не дазваляў сабе быць з адной жанчынаю болей за адзін раз, а крыху экзатычны спосаб самагубства пакінутая Маша абрала з тае прычыны, што пісала вершы, а значыць, была натураю артыстычнай і нават у драбніцах не цярпела банальнасці.

Ты аўтаматычна шукаеш рыфму да слова «мядзведзь»: «ледзь-ледзь», «смярдзець»... Далей выплывае нешта спрэс непрыстойнае.

Пакуль тое, нейкая цётухна прапануе іншы жаласны сюжэт. Маша чакала дзіця; адпаведная апаратура ўжо паказала, што народзіцца хлопчык, і шчаслівая маці выбрала яму імя — Саша. Але імя выявілася нешанцоўным, бо развіццё падзеяў атрымала незапланаваны паварот: Сашаў бацька, які рыхтаваўся стаць Машыным законным спадарожнікам жыцця, прадэманстраваў усім зацікаўленым бакам завераныя гербавай пячаткаю дакументы, адкуль вынікала, што ён — інвалід савецкай арміі, дзе хапянуў дозу

радыяцыі, якой з гакам хапіла, каб стаць поўным імпатэнтам і ніколі не мець дзяцей. «Вось табе і Саша!» — пераможна заявіў інвалід савецкай арміі і, весела насвістваючы расейскую песеньку пра тое, што «Сладку ягоду рвали вместе, горьку ягоду — я одна», развітаўся з будучай маці, якая на апошнія грошы набыла квіток у звярынец.

Гэты досыць трывіяльны сюжэт табе чамусьці не падабаецца: магчыма, шкада Сашу, якога драпежнікі з'елі разам з Машай, спыніўшы працэс ягонае рэінкарнацыі на самым пачатку.

Больш сімпатычнай выглядае версія, паводле якой ахвяра мядзведжага апетыту была транссексуалкай, што пасля аперацыі ператварылася ў Мішу, але аднойчы, і трэба сказаць, у самы пікантны і напружаны момант, у скляпаным дактарамі шчаслівым арганізме неспадзявана пачалася рэакцыя адчужэння, і трансплантаваны орган адваліўся, што і змусіла агорнутага роспаччу Мішу, зноў перавернутага ў Машу, аддацца на разарванне белым мядзведзям.

І, бадай, самае неверагоднае, што ты выслухаў каля вальеры, — нібыта Маша не мела аніякага дачынення ні да малалетніх дзяўчатак, ні да няшчасных закаханых і хворых на СНІД, а жыла на вуліцы Калектарнай у тым доме, дзе прымаюць шклатару, і была сямідзесяцігадовай бабуляю, якую дзеці і ўнукі выгналі з дому за тое, што ўначы яна моцна храпла і будзіла канарэйку. Вось бабуля і пайшла да мядзведзяў, бо любіла жывёлаў і рэгулярна падкормлівала галубоў каля помніку Дзяржынскаму. У такі варыянт, пры ўсёй ягонай вонкавай абгрунтаванасці, паверыць архіскладана: перапезці высокую жалезную загарадку вальеры няпроста нават спрытнай жыццярадаснай дзяўчыне ў ружовых майтках, а спагадлівыя наведнікі звярынца напэўна засаромеліся б падсаджваць бабу-

лю, уважаючы на ейны век і ўсеагульную павагу, бо Маша штодня па шмат разоў займала некаму чаргу да вакенца прыёму шклатары і брала за паслугу амаль сімвалічныя ганарары. Наўрад ці бабулі дапамаглі караскацца на агароджу і родныя ёй людзі, таму што, як ты разумееш, яны не ставілі задачы кардынальнай ліквідацыі бабы Машы. Праблема палягала адно ў моцным храпе, і не выключана, што, жывучы ў натуральных прыродных умовах і на адпаведнай дыеце, бабуля магла хутка перавыхавацца і трыумфальна вярнуцца ў свае пенаты на Калектарнай.

Зрэшты, няма ніякай гарантыі, што ўсё гэта — не больш чым брудныя інсінуацыі. Рэальнасць жа перад табою: засраная вальера і зграя прадстаўнікоў арктычнае фаўны — калісьці, відаць, сапраўды белых, сытых і поўных мядзведжае годнасці.

Што ім мроіцца ў звыклым галаднаватым паўсне? Неабсяжная, зіхоткая ў месяцавым святле снегавая роўнядзь? Атамны ледакол «Ленін» на ахопленым паўночным ззяннем даляглядзе? Некалькі кашчавых нясмачных палярнікаў? Ясачка цікавасці і спадзявання прачынаецца ў зацягнутых каламутнай плеўкаю вачах адно тады, калі да сталёвых прэнтаў набліжаецца якая-небудзь таўсмаценькая бестурботная дзяўчынка, што, безумоўна, сведчыць на карысць версіяў пра браціка і сястрыцу.

Цалкам рэальны і развязны цынічны тып у модным чорным паліто і шэрай кепурцы, які — дарма што вакол дзеці — гучна прапануе паставіць на бетоннай скале ў вальеры помнік: вясёлага масянжовага мядзведзя з дзяўчынкаю ў зубах. Шэрая кепурка мяркуе, што мядзведзі заслугоўваюць на помнік ужо хаця б з тае прычыны, што не пагрэбавалі чалавекам. Чорная фантазія гэтага суб'екта прыводзіць на ўспамін інфернальных персанажаў Міхаіла Булгакава, але сам

змрочны Азазела не дадумаўся б да таго, што лепей бы расейскую дзяўчынку Машу праглынуў пітон, бо пасля такога абеду ён сыты цэлых паўгода, а мядзведзі ўжо ўвечары таго самага дня са смакам схрумсталі б штук пяць свежых дзяўчатак. Апрача таго, каб Машаю заняўся пітон, нейкі час яе, ці, праўдзівей, ейныя дзявочыя абрысы яшчэ можна было б бачыць, што крыху супакоіла б боль незваротнае страты ў душах бацькоў і хлопчыка, якому Маша падабалася.

Публіка нервуецца (маўляў, адкуль толькі бяруцца гэткія вырадкі) і — абсалютна дарэмна, бо, як вядома, чым вышэйшая генетычная разнастайнасць віду, тым вышэйшыя патэнцыяльныя магчымасці яго развіцця.

Суб'ект у чорным паліто прапануе прысутным ушанаваць памяць дзяўчынкі Машы хвілінаю маўчання і першы здымае сваю шэрую кепурку. Гэта моцны ход, які адразу змушае абураныя галасы сціхнуць.

Але ты выдатна ўсведамляеш, што нельга дазваляць эмоцыям расцугліцца. Калі зыходзіць з магчымасці рэінкарнацыі, гісторыя з дзяўчынкай успрымаецца зусім не так трагічна і з яе лёгка пераключыцца на праблему наступнага Машынага ўвасаблення. Як і дзе яна вернецца да тваіх сучаснікаў ці нашчадкаў? Залатой рыбкаю дзе-небудзь у Тайландзе або галоднай белай мядзведзіцай у засранай вальеры пасярод тваёй краіны?..

Тым часам думка зрываецца са звыклай арбіты, і ты пачынаеш разважаць прыкладна так. Калі ў пэўным сэнсе можна казаць пра рэінкарнацыю жывых істотаў у герояў мастацкіх твораў, то чаму б не дапусціць, што праз нейкі час літаратурны герой, у сваю чаргу, уцелясняецца ў чалавеку або іншай Божай тварыне? Гаротны Муму за ягоныя пакуты няхай бы атрымаў кампенсацыю ў выглядзе поп-зоркі, а жорсткую барыню добра было б пусціць бегаць па памыйках аблезлай

сучкай-бесхацінкай. Хто наогул возьмецца даказаць, што свет літаратурных вобразаў менш рэальны за наш? Пэўна, не адзін ты і не толькі прыкладаючыся да сваёй біклажкі заўважаеш, што часцей не мастацтва наследуе жыццю, а якраз жыццё — мастацтву. Дастаткова згадаць авіятараны хмарачосаў у Нью-Ёрку, катастрофу з разраду тых, якія значна раней нам ужо паказвалі ў галівудскіх фільмах.

Але зараз цябе цікавяць не арабскія тэрарысты, а мірныя, вечна недакормленыя мядзведзі, якія за месяц апрыходавалі б усіх байцоў Бэн Ладэна.

Нейкае, яшчэ не да канца ўсвядомленае жаданне не адпускае цябе ад вальеры, прымушаючы наразаць вакол яе новыя і новыя кругі.

Паводзіны мядзведзяў, безумоўна, заслугоўваюць павагі. Яны, як і ты сам, відавочна стаяць на тым, што калі ў змаганні нельга перамагчы, то неабходна прынамсі не паддацца. Яны кінулі выклік сваім турэмнікам, з'еўшы на падвячорак прадстаўніцу іхняй пароды, якая, стаўшы дарослай, наўрад ці змагалася б за правы абяздоленых жывёлаў, бо, кажуць, займалася ў школьным гуртку юных натуралістаў, дзе вучні звычайна мучаюць небараку вожыка, здадзеную кімнебудзь старую чарапаху ды пару анемічных вавёрак. Ты сам быў такім гурткоўцам і добра памятаеш, як лагодную зялёную жаўліцу Тарцілу вы кармілі газетамі з партрэтам Мікіты Сяргеевіча Хрушчова (што, як ні дзіўна, пайшло ёй на карысць), а лядашчую вавёрачку пачаставалі аднойчы адмысловымі арэхамі, якія праз шпрыц начынілі гарчыцай.

Мядзведзі пра згаданыя эксперыменты, трэба спадзявацца, не ведаюць. Іх чацвёра: бацька, маці і два маладзёны. Ужо па іхніх паставах і выгоднасці месца, занятага дзеля дзённае дрымоты, ты бачыш, што рэй у сям'і вядзе стары бялун, у якога жыццё

ў няволі так дарэшты і не знішчыла прыроднае велічы. Ты з усё большай павагаю прыглядаешся да патрыярха, бо гэта відавочна ён у крытычны момант, маланкава ацаніўшы сітуацыю, прыняў адзіна правільную пастанову: «Есці!»

Твой унутраны краявід ачышчаецца ад туману, і ты разумееш, што прымагнічвае цябе да вальеры: імкненне ўступіць са старым мядзведзем у кантакт. Табе ўяўляецца, што дзеля гэтага не абавязкова лезці да яго (з усімі непрадказальнымі вынікамі такой экспедыцыі). Мо хопіць таго, што ты на імгненне спаткаешся з ім вачыма і, як часам здараецца ў свеце людзей, галоўная інфармацыя будзе счытаная — важна толькі гранічна сканцэнтравацца і настроіць свой унутраны прыймач на адпаведную хвалю.

Што ты прагнеш даведацца найперш, дык гэта тое, кім ён хадзіў па зямлі ў мінулым жыцці. Ты мусіш ухапіць нейкую зачэпку, нітачку, якая дапаможа раскруціць клубок аналогій і асацыяцый. Аднак злавіць позірк уладара вальеры надзвычай няпроста, бо ён цяпер у абдымках свайго мядзведжага Марфея: заснуў на санцагрэі пад штучнай скалой з падазронымі цёмнымі плямамі.

З паўночнага боку вальеры — адтуль, дзе рэзідэнцыя паўліна з выскубаным на сувеніры хвастом — да скалы можна падысці бліжэй. Але чым парушыць ціхамірны сон белага патрыярха? У кішэні твайго паліто — жменя цукерак «Чырвоная Шапачка». На абгортках якраз тое, што трэба, — апетытная дзяўчынка з кошыкам. (Праўда, на месцы ваўка ты б пакрыўдзіўся, бо яго адсутнасць на малюнку пахне дыскрымінацыяй, і застаецца суцяшацца думкаю, што акурат у гэты час ён, воўк, змястоўна бавіць час з бабуляю.)

Першая і другая цукеркі не далятаюць, але прыстрэльванне ідзе ўдала, і ўжо трэцяя «Шапачка»

трапляе ў брудна-белы азадак, а чацвёртая і пятая кладуцца на цэмент перад самай пысаю соннага драпежніка. Той падымае галаву — і вось ён, чаканы момант! Вашыя позіркі сустракаюцца, і паміж імі напраўду ўзнікае невідочны, але жывы, пульсоўны ток, канал сувязі — і яно невыпадкова, бо гэтыя вочы, дзве спелыя чорныя слівіны — фантастыка! — нібыта знаёмыя табе, ты ўжо калісьці глядзеў у іх, а таму з падвойнай энергіяй намагаешся выцягнуць з прыцемкаў свядомасці свайго белага візаві хоць якуюсьці звестку пра ягонае ранейшае, дамядзведжае жыццё.

Неверагодна, але, здаецца, нешта выходзіць, і ты, зняможаны сеансам сувязі, сядаеш на лавачку каля паўліна і, апусціўшы павекі, пракручваеш сам сабе атрыманы інфармацыйны ролік. Чаму б не прызнаць «карцінку» сігналам, пасланым тваім маўклівым суразмоўцам з тых сховаў, дзе дрэмле пад попелам незлічоных гадоў непрадказальная памяць продкаў?

Вогнішча, яркая нетутэйшая зеляніна, цёмныя расфарбаваныя постаці аголеных людзей, правадыр на ўзвышэнні — таксама голы, адно са скураным паскам на таліі, адкуль, прыкрываючы мужчынскае багацце, звісае лахман з нейкім цьмяна знаёмым з твайго дзяцінства значком, які зачаравана разглядвае малы мурза з сінім пяром у жорсткіх чорных кучарах. Ты падкручваеш колца павелічэння і бачыш акцябрацкі значок з амаль дзявочым тварыкам яшчэ бяскрыўднага Валодзі Ульянава…

Але пры чым тут незабыўны амфітэатр вашай студэнцкай аўдыторыі і прафесар з цудоўным рэдкім імем Гілер Мардухавіч, які аднойчы самахоць стаў ардынарным Генадзем Міхайлавічам, за што яму напэўна давядзецца заплаціць падатак пры рэінкарнацыі.

Аўдыторыя, Гілер Мардухавіч і твой аднакурснік з яшчэ больш дзівосным імем Мбамба (што з аф-

рыканскай перакладаецца прыкладна як «аматар чалавекаў»), з якім ты па чарзе смокчаш праз саломінку «Портвейн розовый крепкий» (0,7 л), захінуўшы зялёную пляшку чырвоным падручнікам гісторыі КПСС. А побач, таксама з саломінкаю ў зубах, пасмоктвае «Лідскае» вялікая аматарка піва Маша Тарабанава, што не толькі круціла з Мбамбам раман, але і збіралася да твайго чорнага сябра на летнія вакацыі, а потым у загс, балазе вірусу СНІДу тады яшчэ не існавала (прынамсі ў вашых шыротах пра яго не чулі), а грошай яе каханы не лічыў і штосуботы паіў упокат увесь ваш інтэрнатаўскі пакой армянскім каньяком, а танны партвейн вы з ім цадзілі з тае прычыны, што гэты суворы напой быў для загартаванага сына экватарыяльных лясоў нечым накшталт мінералкі. Аднак у апошні момант Маша, на жаль, перадумала ехаць, бо папаўзлі недарэчныя, яўна запушчаныя зайздросніцамі чуткі, быццам у таго племя, што ўзгадавала Мбамбу, існуе мудры, асвечаны стагоддзямі звычай з'ядаць нявестаў, якіх не ўпадабаюць бацькі закаханага юнака.

Ты робіш з біклажкі добры глыток, і шампаністая хваля ўражанняў і ўспамінаў адкочваецца назад, пакідаючы на беразе свядомасці выразны след.

Усё выцягваецца ў мудрагелісты, але цалкам лагічны ланцужок. Правадыр з акцябрацкім Валодзем Ульянавым у раёне амбівалентнага органа — гэта тата Мбамбы, хлопчыка з сінім пяром у валасах, які потым дзякуючы левым поглядам таты, пераканананага марксіста і героя вайны з каланізатарамі, атрымаў накіраванне ў БДУ імя Леніна.

Маша Тарабанава так і не нарадзіла Мбамбу сына, які называўся б Мбамба Мбамба Мбамба Мбамба, бо народ твайго колішняга аднакурсніка трымаецца старажытнага звычаю, калі да сына пераходзіць бацька-

ва імя, якое проста паўтараецца два разы. Насамрэч твой афрыканскі сябар зваўся, згодна з пашпартам, Мбамба Мбамба, а вось тата ў яго быў проста Мбамба, бо, як звалі ўжо ягонага бацьку, не ведала нават маці Мбамбы-першага, таму, дарэчы, яго, так і ахрысцілі Мбамбам (у перакладзе з іхняй афрыканскай — не толькі двухсэнсоўнае «аматар чалавекаў», але і «выблядак»), што, аднак, не зашкодзіла носьбіту гэткага праўдзівага імя зрабіцца правадыром свайго свабодалюбнага народа.

Але Маша не прыехала; Мбамба Мбамба на вакацыях засумаваў, узначаліў змаганне з хеўраю мааістаў з суседняга племя і, як пісалі газеты, мужна загінуў у няроўным баі. Як шмат нават у глабальнай ідэалагічнай барацьбе залежыць ад выпадковасці! Каб Тарабанава не купілася на брудныя чуткі, твая краіна магла мець сёння надзейнага хаўрусніка на чорным кантыненце.

Што ж да саміх тых чутак, дык аднаго разу, выпіўшы за кошт народа Мбамбы бутэльку рому «Havana Club», ты адкрыта запытаўся ў сябра, ці ўваходзіць чалавечына ў меню ягоных супляменнікаў, і твой сябар, бязгрэшнае дзіця джунгляў, асветленых ідэямі самага перадавога вучэння, шчыра адказаў, што, як ты і думаў, усё гэта лухта: ніякіх нявестаў, нават белых, у іх не ядуць і наогул пасля заваёвы незалежнасці ваяры, даеўшы палонных каланізатараў і каланізатарак, урачыста прысягнулі зрабіць крок насустрач забабонам усясветнай цывілізацыі і конча адмовіцца ад ужывання такога карыснага прадукту. Вынятак зрабілі толькі для Дня незалежнасці, калі маленькі Мбамбаў народ чыста рытуальна, так, што не паспявае адчуць і смаку, з’ядае некалькіх былых каланізатараў, якіх ловяць і прывозяць у родныя мясціны юнакі з іхняга племя, што служаць у сталіцы, ходзяць, як

і ён, Мбамба, у штанах і ахоўваюць там міжнародны аэрапорт, у чыіх ваколіцах найчасцей трапляюцца былыя каланізатары, якіх зазвычаена гатаваць з living прыправамі. (Вось чаму Мбамба старанна скупляў у краме насупроць вашага інтэрнату духмяную грузінскую прыправу «хмелі-сунелі».)

Трымаючы ў галаве аднакурсніцу Машу, ты на ўсялякі выпадак пацікавіўся, ці не ўлетку адзначае народ Мбамбы Мбамбы сваё свята вызвалення. Не, сказаў твой цемнаскуры сябра, на жаль, якраз узімку, калі ў іх на экватары сезон дажджоў, а ён здае тут экзамены, і, не здагадваючыся пра падтэкст твае цікавасці, прастадушна дадаў, што, зрэшты, дата Дня незалежнасці даволі рухомая і яе ўжо не раз мянялі праз рэферэндумы, прычым кожнае племя, паводле іхняе дэмакратычнае канстытуцыі, мае права правесці ўласны рэферэндум і вызначыць сабе найбольш зручную дату галоўнага дзяржаўнага свята.

Толькі цяпер, у звярынцы, у цябе мільгае думка, што менавіта ў зімовую сесію, калі Мбамба актыўна запасаўся «хмелямі-сунелямі», бясследна знік ваш выкладчык лаціны Беньямін Айзікавіч Пільман, але ты з палёгкаю смяешся, узгадаўшы, што згуба потым усплыла на гістарычнай радзіме, дзе ўзнялася ад шараговага савецкага дацэнта да намесніка міністра адукацыі. Дый не такі быў Мбамба Мбамба чалавек, каб есці з «хмелямі-сунелямі» выкладчыкаў роднага факультэта...

Вось як бывае: прыйдзеш у звярынец прыгожа адпачыць, а тут столькі ўсяго абрынецца, што застаецца адно выгодней уладкавацца на лавачцы і, расшпіліўшы пад амаль вясновымі сонечнымі промнямі чорнае паліто ды накрыўшы шэрай кепуркаю родную біклажку, паспрабаваць неяк выбавіцца з гэтага завалу.

Дзеля пачатку ты вырашаеш засяродзіцца на праблеме асабістае рэінкарнацыі. Натуральна, што пасля апошніх падзей ты проста асуджаны «прымерыць» іпастась мядзведзя, праўда, адразу зарэзерваваўшы сабе варыянт з айчыннай бурай пародай.

Спярша ты ўспамінаеш усё, што ведаеш пра будучага віртуальнага ўладальніка тваёй душы.

Першая згадка — пра дзіцячы садок, дзе перад Новым годам цябе прызначылі мядзведзем, і мама змайстравала табе ўбор з брунатных штонікаў, сваёй старой кофты і каптурыка з круглымі вушамі. Пад святочнай ялінкаю кожны звер мусіў абараніць свой навагодні строй — расказаць Дзеду Марозу вершык, атрымаўшы ў выніку жменю ліпучых цукерак-ірысак. Знайсці табе вершык мама папрасіла суседа Грышу, чарнявага, з густымі, як быццам намаляванымі бровамі, хлопчыка, які ўжо вучыўся ў школе. Грышаў вершык быў кароткі і вельмі табе спадабаўся. Менавіта яго ў патрэбны момант і пачуў ад цябе Дзед Мароз:

*Миша, серенький медведь,*
*Научил меня пер...ть.*

Наступны — ужо дарослы — верш ты ўпадабаў, чытаючы расейскую класічную літаратуру:

*Приятно зреть,*
*Когда большой медведь*
*Ведет под ручку*
*Маленькую сучку.*

Трэба заўважыць, што героі гэтага лапідарнага твора нязменна выклікаюць у цябе самыя светлыя пачуцці.

Затым у тваіх прыгадах ідуць добра знаёмыя ўсім народныя казкі, сярод якіх адметнае месца, вядома,

займае вегетарыянская гісторыя пад назваю «Маша і мядзведзі». Сёння ты яшчэ раз пераканаўся, што жыццё разнастайнейшае, весялейшае і смачнейшае за самую цікавую казку. (Вось таксама забаўны нюанс: уплыў казачнага свету на рэчаіснасць. Тая Маша, ад якой ацалелі толькі майточкі, магла начытацца казак і паспрабаваць інтэрпаляваць са свету вечна п'яных бацькоў і галоднага брацiка ў тую ідылію, дзе маленькі Мішутка амаль ласкава пытаецца, хто еў з ягонай місачкі.)

Ад казак ты плаўна пераходзіш да славутай навелы Праспера Мерымэ «Локіс» — пра графа-пярэваратня, народжанага графіняю, што страціла розум, адстаўшы на паляванні ад сваіх і апынуўшыся ў пяшчотных абдымках мядзведзя, які на ўсю поўніцу скарыстаў свой шанец. Навела заўсёды была блізкая табе не толькі жывым паўнакроўным вобразам графа (каму ты, як і ягонаму лясному тату, па-добраму зайздросціў), але і ейнай геаграфічнаю прывязкаю, бо французскі класік апісаў падзеі, што адбываліся ў братняй жмудскай частцы Вялікага Княства Літоўскага, а «локіс» у перакладзе з мовы жмудзінаў і азначае «мядзведзь».

Ну, граф з такім, дарэчы, мілагучным беларускім імем — Міхал Шэмет — быў экстрэмалам, так шэнціць не кожнаму. А што ты чуў пра сціплых шараговых мядзведзяў, якія адносна нядаўна так шчыльна насялялі тваю краіну, што ў прыдзвінскіх лясах нейкія 150 гадоў таму паляўнічыя здабывалі, бывала, за аблаву дзесятак касалапых, ніколі не адмаўляючыся пры гэтым пачаставацца мядзведжымі секунцамі ды паляндвіцамі.

Гэты экскурс у гісторыю наганяе на цябе лёгкі сум, і ты паварочваеш да больш памысных рэчаў. Напрыклад — да меню бурага мядзведзя. Як табе памятаецца, рацыён у яго, адрозна ад твайго сябра Мбам-

бы, пераважна раслінны: ягады, арэхі, авёс, жалуды, што не выклікае ў цябе пярэчанняў, тым больш у ім ёсць і спажыўныя прадукты жывёльнага паходжання: жамяра, жабы, грызуны, рыбка, капытныя… Хіба не прыемна паласавацца на зайздрасць французам свежай, халодненькай жабкаю, зажаваць жменю ружовых жыццярадасных чарвякоў якім-небудзь маладым суслікам, закінуць за шчаку парачку салодкіх сялявак або курмелікаў, а на мядзведжы Дзень Волі можна ўпаляваць казулю, дзіка, а як падфартуніць, то і нешта арыгінальнейшае…

Услед за мядзведжым меню з памяці ўсплываюць звязаныя з ім гісторыі: чутыя і перажытыя. Бо зусім побач з тваім Полацкам — Бярэзінскі запаведнік, а там мядзведзяў болей, чым ува ўсіх разам узятых краінах Еўразвяза.

Гісторыя нумар адзін — пра старога вясковага настаўніка біялогіі. Настаўнік меў слабы зрок, а таксама пункцік — нястомна бараніў мурашак, бо лічыў іх найкарыснейшымі істотамі. Ідзе, значыцца, настаўнік лясной дарогаю і бачыць, як нейкі боўдзіла варушыць мурашнік. Стары паводле сваёй завядзёнкі наважыў таго боўдзілу ўлякнуць, каб і дзясятаму заказаў, — падкраўся ззаду ды як раўне: «Ты што, урадзіцель ёб.ны, робіш?!» — і нагой пад азадак. «Урадзіцель» — брык — і не варушыцца, ды яшчэ ў паветры неяк цікава запахла. Настаўнік працёр акуляры і сам ледзь у штаны не нарабіў: ляжыць побач з мурашнікам у кучы г… вялізны мядзведзь з лапаю ў роце і ўжо не дыхае. Паласаваўся, называецца, кісленькім…

Або другая гісторыя. Ходзіць чалавек па грыбах і чуе раптам, як у нетрах штосьці дзеецца. Падышоў бліжэй, а там мядзведзь хавае пад ламаччам задзёртую казу, каб сок пусціла, бо ён, гурман, любіць мяса з душком… Грыбнік і вокам не зміргнуў, як апынуўся

на дрэве. Мядзведзь, пакуль тое, казу схаваў, паюндзіў ад задавальнення на малады баравік ды рушыў па сваім звярыным клопаце. А чалавек ужо трохі агойтаўся і касалапаму з дрэва наўздагон: «Мэ-э-э...» Той вярнуўся, адкапаў «заначку», панюхаў, пакруціў і так і гэтак ды, супакоіўшыся, закідаў хлуддзём назад. Толькі сыходзіць, а тут аднекуль: «Мэ-э-э...» Мішка вярнуўся, зноў, але ўжо палахліва азіраючыся, паўтарыў свае манеўры з козачкай, зноў пасунуўся паціху ў лес, а грыбнік трэці раз: «Мэ-э-э!» І тады мядзведзь як падмазаў пяты — толькі лес трашчаў.

Трэба сказаць, што размовам пра мядзведжую палахлівасць ты не надта даеш веры. Найхутчэй гэта — дзеля свайго заспакаення, прыдумалі вы, людзі. А калі і сапраўды трапляюцца сярод тваіх будучых братоў баязліўцы, дык хапае і надзеленых не абы-якой мужнасцю і вытрымкай — такіх, як герой трэцяй гісторыі.

Выходзіць у адной вёсцы пад Лепелем гаспадар на ганак, а ў садзе, проста перад хатаю, сядзіць на яблыні мядзведзь ды есць спелыя малінаўкі. Мужык трапіўся няўломак і замест хавацца як гаркне: «Пайшоў на х...!» Але не на таго нарваўся: касалапы адно трохі здзівіўся, а малінаўкі як цюмрыў, так і цюмрыць. Ужо ўся сям'я з ганка мацюкала ляснога госця, а той, каб не заміналі вячэраць, усяго што задам да іх павярнуўся. І толькі калі гаспадар пальнуў угару з дубальтоўкі, адно тады твой верагодны лясны суродзіч дазволіў сабе ўлучыцца, так бы мовіць, у дыялог з чалавекам: зароў, абтрос, схапіўшыся за галіны, усю яблыню, а потым саскочыў долу ды давай шпурляць яблыкамі па хаце, пакуль не павыбіваў усе вокны, што, дарэчы, абвяргае пашыраную думку, быццам мядзведзі дрэнна бачаць. Мізансцэна з мужным мядзведзем на яблыні такая выразная, што ты з цяжкасцю сціраеш яе з сеткавіны вачэй.

Тым часам з дзяцінства выплывае яшчэ адна гісторыя, праўда, цалкам кніжная, як і «Локіс», але нязмерна жудлівейшая за расказаную Прасперам Мерымэ, бо ў таго дзейнічалі звяры звыклыя і родныя, няхай і з невялікімі адхіленнямі ад нормы: ну маглі там заняцца любоўю з графіняю або перакінуцца ў чалавека і назад, што на гэтых тэрыторыях, спрадвеку ўпадабаных ваўкалакамі, — навіна невялікая.

У восьмым класе ў зашмальцаваным зборніку фантастыкі ты прачытаў аповед, які ўразіў цябе так глыбока, што ты зноў, як маленькі, не хацеў заставацца дома адзін, баяўся цемры, але, на шчасце, не пачаў зноў сікацца. У аповедзе вялося пра сакрэтную лясную лабараторыю, дзе вучоныя стварылі мядзведзяў, надзеленых магутным інтэлектам. Тыя, быццам семкі, лускалі задачы з вышэйшай матэматыкі, распрацоўвалі абаронныя праграмы, а ў рэдкія хвіліны адпачынку з гройсмайстарскай лёгкасцю ставілі маты сваім прафесарам, а пасля і самім шахматным мэтрам, якіх прывозілі ў лабараторыю на трэнінгі. Потым ад вялікага розуму ў эксперыментальных мядзведзяў стала выкочвацца поўсць, на лбах з'явіліся амаль чалавечыя плехі, а крыху пазней, калі чацвераногія інтэлектуалы асвоілі людскую мову, яны з'елі ўсіх высакалобых прафесараў, выпілі за іхнюю светлую памяць у лабараторным бары ўсё віскі і закусілі аховаю, а ў час дэсерту акурат пад'ехалі на чарговы турнір гросмайстры, якім мядзведзі сумленна прапанавалі згуляць на жыццё, і, хоць шахматысты згадзіліся, шанцаў ніхто з іх не меў. Пераможцы турніру разбегліся па навакольных лясах дзеля бліжэйшага знаёмства з мясцовым жыхарствам, але адразу адчулі сябе дыскамфортна, бо тубыльцы кепска гулялі ў шахматы, не ведалі найвышэйшай матэматыкі і не маглі забяспечыць інтэлектуальныя запатрабаванні былых пад-

доследных, што выклікала ў апошніх абгрунтаваную ўкveленасць і не спрыяла рацыянальнаму харчаванню.

Пакуль згадваеш дзіцячыя страхі, у атмасферы звярынца штосьці адбываецца: ты фізічна адчуваеш разлітыя ў паветры хваляванне, трывогу і, напятае да тонкага звону чаканне.

Зверыну пачынаюць карміць.

Твой сусед, абскубаны паўлін, атрымлівае тры жмені крупаў. Мядзведзям прыносяць брудны тазік рыбы. Выгляд і памер пайкі непазбежна наводзяць на думку пра злоўжыванні службовым становішчам.

Мядзведзі прыніжана падымаюцца, адзін гаспадар вальеры гідліва паварочвае галаву ў процілеглы бок. Ты таксама адварочваешся, аднак з іншае прычыны: яда — працэс зусім не публічны, а выключна асабісты. Як, напэўна, пакутуюць звяры, змушаныя штодня карміцца навідавоку ў зайздрослівага натоўпу гледачоў! (У выпадку з Машай было тое самае, адно што ўдалося зменшыць цікаўную зграю на аднаго гледача.) Пітону лягчэй: добра падсілкуешся і да наступнага абеду — цэлы месяц.

Яда, безумоўна, рэч інтымная. Невыпадкова мужчына запрашае жанчыну разам павячэраць: ад супольнай трапезы недалёка да супольнага ложка. Калі ты ясі з кім-небудзь, робішся яму амаль як брат. Каб ты разам з мядзведзямі з'еў Машу, мог бы цяпер гэтаксама выцягнуцца пад скалой, бо стаў бы для іх сваім. Або каб у касалапай кампаніі параведаў адвячоркам на Радаўніцу вясковыя могілкі, дзе на кожным грудку стаіць чарка з размаітымі закускамі, якімі спрадвеку любяць у гэты дзень частавацца пасля людзей полацкія мядзведзі, памінаючы чалавечых, а мо і сваіх продкаў.

Дарэчы, на тваім жыццёвым шляху ўжо была магчымасць раздзяліць з мядзведзямі харч.

Калі заплюшчыць вочы і падставіць твар сонцу, вельмі лёгка аднавіць палескі ландшафт, хуткую Гарынь і ваш памаранчавы намёт на беразе. Надвечар на тым баку глыбокай, але вузкай ракі з лесу выйшаў мядзведзь. Буйны, ахайны і бадзёры, ён годна рэпрэзентаваў сваю папуляцыю, а накіроўваўся, найверагодней, на недалёкі пчальнік, з гаспадаром якога меў гешэфты.

Аматар мёду ў роздуме пазіраў на намёт і нетутэйшую публіку, што заступіла яму дарогу. Роздум доўжыўся, пакуль з-за павароту не паказалася, вьючы сірэнай, баржа-самаходка, якія тады яшчэ нястомна шнуравалі па Гарыні. Мядзведзь нехаця адступіў у прыбярэжны падлесак, аднак у сутонні з'явіўся зноў і, дэманструючы паважнасць намераў, наблізіўся да самае вады, прычым нават пакратаў яе лапаю.

Замест таго каб пранікнуцца клопатам ляснога брата, вы расклалі каля намёту вялікае вогнішча, але імпэту збіраць і падкідваць у агонь дровы вам хапіла ўсяго да другой гадзіны ночы, а тады, захмялелыя ад крынічна чыстага паветра, а таксама ад аднаго чысцюткага, як сляза, прадукта тамтэйшага вырабу, вы дружна ўзяліся важыць носам табаку. Мядзведзь стаічна чакаў і быў узнагароджаны: перш чым залезці ў намёт ды адключыцца, вы яшчэ здолелі скаардынаваць бураму падарожніку маршрут, пакінуўшы яму на пні за сотню метраў убаку бохан «Нарачанскага» хлеба і пару бляшанак згушчонкі. Раніцой пачастунак знік, а вільготны прыбярэжны пясок збярог выразныя, надзіва падобныя да чалавечых пяціпалыя сляды. Нехта з вас, памятаецца, узгадаў з гэтае нагоды паданне, што даўней мядзведзі былі людзьмі, а можа, і наадварот.

Пад ракурсам сённяшніх падзей тая прыгода выглядае зусім іначай. А што, калі ты страціў унікальную маг-

чымасць твар у твар сустрэцца са сваім будучым увасабленнем, пасля чаго твой лёс мог бы крута змяніцца і, верагодна, ты даўно ўжо перажыў бы рэінкарнацыю…

Наастачу — апошняя з вядомых табе «мядзведжых» гісторыяў — зноў, як і першая, пра педагога, гэтым разам пра настаўніцу расейскай мовы, прысланую ў заходнебеларускую каталіцкую вёску. Тая сціплая працаўніца на ніве народнай асветы несла цёмнаму мясцоваму люду святло свайго «великого и могучего языка», несла ахвярна і самааддана, але нядоўга: у сцюдзёную калядную ноч на снезе ў беларускім лесе ад жанчыны-педагога засталіся толькі спярэшчаныя «двойкамі» вучнёўскія сшыткі ды арэнбургская пуховая хустка. Пазней мужная выкладчыца стане гераіняю балады папулярнага айчыннага барда, але там, як і ў кожным мастацкім творы, ёсць прынамсі дзве невялікія недакладнасці: насамрэч настаўніцу прыслалі не з Бійска, а з Валакаламска, а з'елі яе на святочную вячэру не нацыяналістычна настроеныя санітары лесу — ваўкі, а мядзведзі-патрыёты, што ты мусіш канстатаваць з пачуццём глыбокага чалавечага смутку, мімаходзь заўважаючы паміж настаўніцай расейскай мовы і расейскай дзяўчынкаю Машай нейкую лёгкую містычную сувязь.

Згадка пра прыезджую здалёк выкладчыцу братняга «языка» наводзіць на думку пра падарожжы, якія, пакуль ты ў чалавечай іпастасі, займаюць у тваёй іерархіі каштоўнасцяў надзвычай высокае месца — напэўна, з тае прычыны, што адзін з тваіх продкаў належаў да вандроўнага цыганскага племя. (Між іншым, якраз цыганы, паводле згаданага нядаўна палескага падання, і былі раней мядзведзямі, або мядзведзі былі цыганамі.)

Нарадзіўшыся ў бурай шкуры, ты відавочна атрымаеш прынцыпова іншыя магчымасці вандраваць

па свеце. З аднаго боку, здымаецца з парадку дня пытанне фінансаў, затое, з другога, падарожнічаць давядзецца на сваіх чатырох, што, зрэшты, больш пазнавальна і карысна для здароўя. Гэта значыць, вырушыўшы ўвесну з-пад Менска і перасоўваючыся пераважна начнымі перабежкамі, Каляды можна будзе сустрэць недзе пад Лісабонам. Паглядзіш, як жывуць твае заходнееўрапейскія суродзічы, а мімаходзь высветліш, на якой мове яны гавораць: ці то на адной — незалежна, з-пад Докшыцаў ты паходзіш ці з-пад Жэневы — ці то ў кожнай краіне мова свая, а для міжнародных сувязяў існуе нейкі мядзведжы «інгліш».

Але цікава, як ты збіраешся перасякаць дзяржаўныя межы і, найперш — надзейна перакрытую заходнюю мяжу тваёй дзяржавы, патрыётам якой ты, верагодна, застанешся і ў мядзведжай іпастасі? Перспектыва быць расстраляным на кантрольнай паласе як пераапрануты вораг сваімі ж хлопцамі з зялёнымі пагонамі цябе прываблівае мала.

Застаюцца падарожжы праз слаба кантраляваныя ўсходнія рубяжы краіны, на якіх дзеля пачатку варта будзе наладзіць абследаванне вашага колішняга этнічнага абшару, што на ўсходзе сягае, як вядома, далёка за Смаленск. На поўнач дарога таксама адкрытая: з полацкіх лясоў за тыдзень ты, не надта спяшаючыся, дасягнеш запаведнага пушкінскага Міхайлаўскага, затрымаешся на колькі дзён у тых паэтычных мясцінах, каб сустрэць для натхнення якую-небудзь сваю Машу або, на горшы выпадак, Арыну Радзівонаўну, і рушыш далей, на Лугу і Санкт-Пецярбург — шляхам, які не адолеў напалеонаўскі маршал Удзіно і які некалі ў адваротным кірунку мераў штолета сваімі шырокімі крокамі твой знакаміты суайчыннік і зямляк Ян Баршчэўскі, што меў санты-

мент да мядзведзяў, а таму, мяркуючы па шматлікіх паспяховых вандроўках праз лясы, карыстаўся выдадзенай імі «ахоўнай граматай».

Ну, здаецца, з праблемамі і рацыёну, і бязвізавых падарожжаў ты збольшага разабраўся, але непазбежна паўстае новая, не менш хвалюючая — зімовая спячка.

Неабавязкова быць яйкам на патэльні, каб уявіць, як атрымліваецца яечня. Ты ведаеш рэсурсы свайго цела і духу і цешышся імі, як музыка-віртуоз радуецца роднаму інструменту, цалкам усведамляючы ягоныя магчымасці. Ты ўяўляеш, як надыходзіць верасень. Ты ўжо дасхочу наеўся суніцаў, чарніцаў, малінаў ды тваіх улюбёных буякоў-дурніцаў. Натуральна, што, паводле спаконвечнай мядзведжай традыцыі, сам ты ягадаў не збіраў, а цярпліва чакаў, пакуль ягадніцы набяруць поўныя вёдры. Потым па-гаспадарску палохаў руплівых жанок і спакойна ласаваўся сумленна зарobленым дэсертам, а калі хтосьці не пагаджаўся з законнай экспрапрыяцыяй, твой абед мог зрабіцца больш разнастайным.

Назапашаны за лета тлушч адпаліруецца восеньскімі арэхамі і жалудамі, тузінам гладзенькіх грызуноў і, калі пашанцуе, кім-небудзь яшчэ, але гэта ўжо твая гастранамічная таямніца. Урэшце трэба ладзіцца на сон; як след адаспацца за зіму — любата, і тут бурыя мядзведзі маюць велізарную перавагу перад сваімі белымі сваякамі, бо на радзіме ў апошніх такі калатун, што асабліва не разаспішся. А добры здаровы сон, як пісаў нехта з класікаў, — найлепшая страва на банкеце жыцця, пагатоў гэтая страва павялічвае працягласць самога банкету. Мядзведзь у сярэднім жыве гадоў дваццаць, але калі шанаваць сябе і паўнавартасна адпачываць ва ўтульным высланым імхом бярлогу ад падарожжаў, дзяўчынак Машаў ды іншага летняга клопату, то можна, відаць, дацягнуць і да трыццаці.

У тваёй лясной старонцы кожны сабака ведае, што праціраць вочы і выходзіць пасля зімы на людзі ў мядзведзяў зазвычаена на Звеставанне, якое, паводле грыгарыянскага календара, прыпадае на 25 сакавіка. Такім чынам атрымліваецца падвойнае светлае свята, што проста вымагае з'есці на полудзень каго-небудзь больш істотнага за сусліка.

Аднак вось што архіважна: ці спіць з табою твая мядзведзіца, а як спіць, то колькі прыкладна разоў вы прачынаецеся, каб за кошт запасных калорыяў аддацца любові ды зноў, пяшчотна абняўшыся, адчаліць у спакойнае мора мядовага сну, дзе цябе чакаюць зялёныя выспы, густа населеныя размаітай спажыўнай фаўнай і нечаканымі прыгодамі.

Дык усё ж ці спіць разам з табою твая бурая, з белаю плямкай на грудзях сяброўка?

Зразумела, чаму глуха маўчаць пра гэта энцыклапедычныя даведнікі савецкага часу, калі сексу не было ні ў гарадах і вёсках, ні ў неабсяжных палях і лясах тваёй шчаслівай радзімы. Але ж неяк ты зазірнуў у энцыклапедыю часоў незалежнасці і высветліў, што там праблема па-ранейшаму пакідаецца за кадрам. Калі твая мядзведзіца і сапраўды ўзімку смокча лапу асобна — яўны непарадак, і ты яшчэ падумаеш. Вядома, ад устрымання ніхто яшчэ не памёр, але ніхто і не нарадзіўся...

Ты ўздрыгваеш, адчуўшы на плячы нечую цяжкую руку або лапу. Не, гэта не гаспадар вальеры, а ўсяго толькі працаўнік звярынца — дзяцюк з круглымі шчокамі ды яшчэ не зусім шызым носам (фізіягноміка падказвае, што наступнага разу ён можа нарадзіцца хамяком).

Звярынец зачыняецца? Тады ў цябе адна невялікая просьба: вось грошы, няхай белыя мядзведзі з'ядуць заўтра лішнія дзесяць кілаграмаў добрага мясно-

га філе, толькі скажыце, калі будзе кармленне, каб прыйсці парадавацца разам з імі.

І апошняе: чаму пустуе клетка бурых мядзведзяў? Былі на кіназдымках? Чаму былі?

Верагодны хамяк напружана маўчыць. Здаецца, яшчэ крыху, і будзе чуваць, як у ягонай галаве варушацца думкі. Нарэшце ён збянтэжана мармыча пра няшчасны выпадак з рэжысёрам. Толькі рэжысёрам. Значыцца, аператара чатырохлапыя акторы пакінулі, каб той мог зняць фінальныя кадры жыцця свайго калегі?.. Лагічна.

Аднак табе ўжо бракуе часу ацаніць атрыманыя наастачу ўсцешлівыя звесткі. З няўхільнасцю навальнічнае хмары насоўваецца хваля, якой ты чакаў і баяўся.

Трымаючы ў руцэ біклажку з пакінутым глытком, ты падыходзіш да тоўстых жалезных прэнтаў мядзведжае вальеры, і тваё сэрца падае ў глыбокую студню. Але не ад страху: стары белы мядзведзь падымаецца і, з годнасцю пацягнуўшыся, таксама ідзе да агароджы. Дзве спелыя чарнаслівіны знаходзяць твой замглёны блакітнай слязінаю позірк, і час спыняецца.

Бывай, стары бялун! Самае лепшае, што твой маўклівы суразмоўца мог бы зрабіць зараз для цябе — пералезці цераз загародку, каб ты з сям'ёю яго з'еў. Магчыма, калі-небудзь так і станецца, але пакуль у яго, уладальніка шэрай кепуркі і бліскучай біклажкі, яшчэ ёсць колькі справаў, што вымагаюць чалавечае іпастасі. І калі гэта не плён запаленай фантазіі, калі ў мінулым жыцці ты сапраўды вучыўся ў БДУ імя Леніна, ведай: гэты белы чалавек ніколі не забудзе ні смаку «Портвейна розового крепкого» праз саломінку, ні Машы, якая, пасля тваёй гераічнай смерці ў баі з афрыканскімі мааістамі, атрымала вольную, ні таго, што Мбамба быў добрым сынам і ніколі, нават пас-

ля трэцяй пляшкі, не гуляў, як легкадумныя белыя аднакурснікі, у карты на штаны, бо трымаў у памяці запавет бацькі, героя барацьбы супроць каланізатараў і аматара вострых прыправаў, — толькі штаны адрозніваюць адукаванага чалавека ад дзікуна…

Жалезная брама звярынца з мілагучным рыпеннем зачыняецца за табой. Ты адчуваеш, што хочаш сказаць сваім двухногім братам-людзям нешта важнае. Ты хочаш сказаць ім, каб заўсёды памяталі: выходзячы са звярынца, радуйцеся, што можаце вярнуцца сюды не толькі наведнікамі.

*2001*

# Genius loci

Не буду спрачацца, ідэя належала табе, і я прыняў яе адразу — ты яшчэ не паспела пакінуць у попелцы першы, патушаны з тваёй нязменнай дзіцячай стараннасцю недакурак. Памятаецца, я казаў табе, што, калі ты курыш першую цыгарэту, твар у цябе робіцца летуценным і адстаронена-незнаёмым — толькі крыху, але дастаткова для таго, каб выглядаць не тваім, а — тваёй сястры-блізнючкі, у якой усё такое самае і разам з тым — не. Падобнае ўражанне ўзнікала і тады, як, сцішыўшыся пасля апошніх ласкаў, ты з лёгкім уздрыгам мякка падала ў кароткі сон, а я, вартуючы яго, касавурыў вока на тваю галоўку, што ляжала побач на падушцы.

Ідэя была геніяльна простая: калі ўспамінаць нашу кавярню, дык адну яе — без усякіх прадмоў, эпілогаў і розных лірычных адхілаў кшталту першай раніцы, у якую мы прачнуліся абняўшыся, але бязгрэшныя, як пяцікласнікі, бо ў астатняе імгненне ты, быццам жнівеньская жужэлка, абавязкова прымудралася выслізнуць. Альбо кшталту кладак над возерам з пахмурным найменнем Люхава, нават уначы насычаных сонечнай энергіяй, кладак і слоіка са светлякамі, чыё зеленаватае мігценне зусім не здавалася халодным…

Але мы дамовіліся гаварыць выключна пра кавярню. Як на школьных уроках літаратуры: адзінства часу, месца і дзеяння.

Пра кавярню, што яшчэ не выветрылася з памяці жыхароў трох куртатых вулачак, якія насуперак уся-

лякай логіцы ацалелі ад сярэднявечнага прадмесця. У цесных дварах з арэлямі і абымшэлымі альтанкамі вам пацвердзяць: насупраць тралейбуснага прыпынку, там, дзе цяпер салон італійскага абутку, тады сапраўды была кавярня.

Да таго дня, калі мы ўпершыню не праехалі міма, а зайшлі і селі за столік пад пастэльным восеньскім краявідам з парушанай перспектывай, схаваная пад шклом стандартная шыльда з дзвярэй кавярні ўжо знікла: ці то не задаволіла эстэтычны густ новага гаспадара, ці то яму падалася неарыгінальнаю назва, а найверагодней — і першае, і другое. Між тым новай шыльды так і не павесілі, і неўзабаве хтосьці вывеў на глухой бакавой сцяне стары назоў — спачатку крэйдай, а потым, паўзверх, нітрафарбаю з балончыка. Смарагдавыя літары на шэрай асноведзі глядзеліся, па-мойму, не горш за малахітавы кулон на тваёй купленай у краме «*Second hand*» папялястай кофтачцы...

Некалі я пісаў фантастычныя апавяданні, і адно з іх мела сюжэт пра вынаходніка апарата, які — быццам з грамафонавай кружэлкі ці са стужкі магнітафона — умеў «счытваць» галасы з рэчаў, што былі сведкамі нейкіх размоў і здарэнняў. У апавяданні адбылося забойства, раскрыць якое дапамагло звычайнае кухоннае крэсла.

Не, у кавярні, як табе вядома, нікога на нашай памяці не забілі, аднак ты ўяві, колькі маглі б распавесці яе расхістаныя сінія крэслы. Праўда, у нашым выпадку ўсё наадварот: крэслы даўно згарэлі на звалцы, а мы зараз уваскрасім іх разам з ненадзейнымі спінкамі і парэзамі, адкуль прасіўся на свет жоўты паралон набіўкі. Потым мы адновім дрогкі кутавы столік і бурнатную, чыста выцертую стойку ў процілеглым канцы маленькае, усяго на пяць столікаў, залы. За стойкай зоймуць свае месцы рослы румяны бармен, падобны

да зробленай добрым майстрам-чырванадрэўшчыкам шафы, і ягоная кругляvenькая здобная памочніца; яны няблага разумелі па-беларуску, прынамсі, ведалі, што такое кілішак, і ніколі не блыталі каву з какавай.

У той дзень, калі я не здолеў прыдумаць табе біяграфіі…

Так, гэта ўжо за межамі нашае дамовы, але, пагадзіся, каб не мая бяскрыўдная гульня, ты не сядзела б сёння ў фатэлі каля вакна і не казала, што трох пляшак белага сухога віна якраз дастаткова — не дзвюх і не чатырох, а менавіта трох.

Значыцца, ты згодная: зробім выключэнне. Я маю на ўвазе не віно, а гісторыю нашага знаёмства. Праўдзівей — ягоную тэхналогію.

Ты не забыла, мы пазнаёміліся дзякуючы маёй звычцы складаць чужыя біяграфіі. Аб'ектам эксперыментаў амаль кожны раз былі жанчыны. Па-першае, яны хутчэй заводзілі ўяўленне, а па-другое, самі абставіны, калі без дазволу жанчыны ўступаеш з ёю ў кантакт, стваралі падтэкст зваблівай шматварыянтнасці.

Звычайна ўсё адбывалася так. У тралейбусе ці вагоне метро мой позірк цалкам самастойна, без усякае разумовае каманды выбіраў жанчыну або дзяўчыну — зусім неабавязкова самую прывабную, — пасля чаго, таксама незалежна ад мяне, спрацоўвала патрэбная спружынка, патайны механізм пачынаў бесперабойна дзейнічаць, і праз хвіліну-дзве я меў першую порцыю дадзеных: узрост, прафесія, муж, дзеці. Калі мы ехалі разам досыць доўга, гульня працягвалася і я атрымліваў дадатковыя звесткі: характар, захапленні, любімы пісьменнік альбо яго адсутнасць з прычыны нецікавасці да літаратуры… На пятым ці шостым прыпынку я «ведаў», куды мая спадарожніца накіроўваецца, якім кветкам і колерам аддае перава-

гу, што п’е з большаю асалодай. А на чарзе стаяў блок інтымнае інфармацыі: як сустракаюць яе вусны пацалунак каханка, што ўмеюць рабіць самі, што такое для яе вернасць…

Прычым хачу табе сказаць: у маёй давядзенай да аўтаматызму гульні ніколі не ўзнікала неаднаразова апісаных сітуацый, калі пасля некалькіх слоў і поглядаў прыходзіць упэўненасць, што выпадковы візаві створаны не для каго-небудзь, а для вас; а потым — станцыя, прыпынак, і ён ці яна назаўсёды выходзяць, пакідаючы ў душы трагічнае адчуванне незваротнасці імгнення. Паўтараю, са мною (можа, таму, што я кіраваўся правілам не заводзіць з «паддоследнымі» ніякіх размоў) нічога падобнага, у тым ліку і ў той травеньскі надвячорак, не здаралася.

Тады здарылася іншае.

Блукаючы па душным тралейбусе, мой позірк, як зазвычай сам сабою, адшукаў найбольш цікавую яму істоту. Пазней я падзяліўся з табой першым уражаннем: іспанка. Вочы колеру пераспелае вішні вінаватыя тут былі не болей за густы роўны загар злёгку кірпатага твару ў абладзе доўгіх, чорных з сіняю іскрынкаю валасоў. Колькі наступных хвілінаў я акрэсліў бы як суцэльнае здзіўленне. Бездакорна наладжаны механізм гульні ўпершыню даў збой: фантазія мела адволі падстаў страпянуцца і раскрыць крылы, але паводзіла сябе падазрона абыякава.

Ты ведаеш, я не належу да празмерна сарамяжлівых, і, магчыма, памятаеш, што было далей. Каля цырка ты сабралася выходзіць, а мне ўдалося вышмыгнуць першым і падаць табе руку. Ты з подзівам у пераспелых вішнях абаперлася на яе, намагаючыся разгледзець за цёмнымі акулярамі і рудаватай барадою каго-небудзь знаёмага, і пачула словы, якія сярэднестатыстычную пасажырку грамадскага транспарту непазбежна

прывялі б да думкі пра стан здароўя суразмоўніка: «Даруйце, што не здолееў прыдумаць вам біяграфіі».

Увесь вечар мы гулялі па горадзе, елі за вынесенымі на вуліцу столікамі марозіва, а калі неба пахаладнела, купілі шампанскага, пераглянуўшыся, зразумелі, што бутэлькі будзе да смешнага мала, узялі яшчэ дзве і спынілі таксоўку.

Прызнаюся, ты здалася мне даступнаю, і гэта была не апошняя мая памылка...

Больш ні слова. Толькі пра кавярню. Пра нашую кавярню з такой мілай у сваёй банальнасці назваю — «Сябры».

Мы прыходзілі туды пасля спатканняў у пакоі за зялёнымі шторамі. Часам наперадзе маячыў цэлы вольны вечар, часам і ты, і я з прабачлівымі ўсмешкамі выбягалі з кавярні камусьці тэлефанаваць. Метафара сіямскіх блізнятаў, якая раз-пораз усплывала ў размовах, выглядала мастацкай празмернасцю, аднак вельмі часта развітанне на парозе кватэры ці на прыпынку ўспрымалася б не іначай як злачынства.

Лета, за выняткам лічаных ліпеньскіх дзён з навылёт прагрэтымі сонцам азёрнымі кладкамі, выпала халоднае і дажджлівае, і ў кавярні мы найчасцей замаўлялі арэхавы лікёр, што, як і ўсё астатняе, там налівалі ў блакітныя пластыкавыя кубачкі — дакладна з такіх частавалі мінералкаю і ліманадам сцюардэсы ўнутраных авіяліній. Некалькі глыткоў густой бурштынавай вадкасці з мігдалавым смакам хутка саграваліі і прыносілі амаль хатнюю ўтульнасць.

Выбар напояў не прэтэндаваў на багацце: апроч двух-трох гатункаў лікёру вы мелі магчымасць спытаць шампанскага, каньяку і дарагога нямецкага ці галандскага піва ў бляшанках. Дадайце сюды цыгарэты, гарачыя лусцікі і каву — яе бармен гатаваў не горш, чым разумеў беларускую мову, — вось і ўвесь асар-

тымент, які не забаранялася пашыраць прынесенымі з вуліцы бананамі, пліткай шакаладу і, галоўнае, якой-небудзь прыстойнай пляшкаю.

Музыка прываблівала не меней за дэмакратычнасць парадкаў. Кавярня слухала класічныя негрыцянскія блюзы, «бітлоў», «ролінгаў»… Карацей, ты памятаеш, там круцілі альбомы, якія нам калісьці не дазвалялі ставіць на школьных вечарынах, і мы слухалі іх дома на нехлямяжых пудовых магнітафонах, што больш за ўсё любілі пажаваць стужку.

У часы тых дапатопных апаратаў нікога з кампаніі моладзі, якая, пазычаючы ў суседзяў два крэслы, займала цэнтральны з пяці столікаў, не існавала і ў праекце. Кампанія піла ў асноўным прынесенае з сабой айчыннае піва, разлівала пад сталом штосьці мацнейшае і гаварыла на такім рафінаваным арго, што, здавалася, з намі гэтыя маладзёны пагадзіліся б размаўляць толькі праз перакладчыка. Да прыкладу, я зусім не адразу даўмеўся, што трох-, двух- і аднаактоўкі, якія часта фігуравалі ў іхняй гаворцы, з тэатрам былі звязаныя не нашмат болей, чым, скажам, з экспедыцыямі на Марс.

Абмежаванае кола наведнікаў было яшчэ адной бясспрэчнай вартасцю кавярні. Туды забрыдаў выпіць каля стойкі сто грамаў выпадковы прахожы, магла забурыцца гурма крутаплечых хлапцоў са стрыжанымі патыліцамі, што не прасілі, а з ходу давалі бармену загад наліць кожнаму па поўнай каньяку і гучна загаворвалі пра Хрыпатага, якому ўключылі лічыльнік. Але большую частку кліентаў, асабліва ўвечары, складала іншая публіка, у якой вылучаліся заўсёднікі. Яны мелі традыцыйныя месцы, прыкметна нерваваліся, пакуль іх столікі былі занятыя, і неадкладна перасаджваліся, калі тыя вызваляліся. З шараговых кліентаў яны ператвараліся ў індывідуальнасці,

і таму я лёгка магу аднавіць аблічча і паводзіны кожнага: і чалавека з вільготнымі рукамі, які называў сябе алмазаздабытчыкам, і глуханямых, і міліцыянта, якога не разумела жонка, і парачкі лесбіянак…

З каго б ты хацела пачаць?

Чаму не, няхай будзе міліцыянт, пагатоў у цесным свеце кавярні ён успрымаўся прыкладна так, як сабачае вуха на месцы аднаго з пялёсткаў вялізнага рамонка з палатна паслядоўніка Далі.

Міліцыянт заяўляўся недзе каля восьмай. Ён прыходзіў у цывільным, але ўсе ведалі, што ён — міліцыянт і што яго завуць Пеця, бо выпітыя сам-насам з сабою «законныя» сто грамаў каньяку ўмомант рабілі яго гаваркім, і, замовіўшы бутэльку шампанскага і крыху лікёру, ён падсаджваўся за чужы столік. Лікёрам ён зрэдку мог пачаставаць суседку, а шампанскае, усё да кроплі, выпіваў сам.

Рысы ягонага гладка выгаленага твару ніхто не назваў бы непрыемнымі, ды яны існавалі незалежна адна ад адной і, як на прамежкавых стадыях стварэння фотаробата злачынцы, ніяк не хацелі спалучацца: смелы разрэз вачэй пярэчыў мяккаму падбародку, а выразны нос не спадзяваўся дасягнуць гармоніі з па-жаночаму маленькім ротам.

Улюбёным слаўцом ягонага лексікону была, як ты памятаеш, «жопа». Па «жопе» ён страляў з табельнай зброі, калі парушальнік кідаўся наўцёкі. Па «жопе» лупцаваў службовай папругаю сына-двоечніка. Іншага слова не знаходзілася і для жонкі, якой не дадзена было спасцігнуць тайніцу ягонае душы. Аднак гэты балбатун чамусьці не шукаў сабе сабутэльнікаў у форме, а ўпарта ішоў сюды, у кавярню, якую, на вялікае наша здзіўленне, ні разу не абазваў сваім запаветным словам, а часам, перад адыходам да жонкі, абсалютна не абразліва, нават пяшчотна называў «гадзючнікам».

Нягледзячы на тое, што з ім было цікава пагаварыць не больш за адзін раз, міліцыянт заняў на палубе прызначанае яму месца, і без яго агульная мазаіка рызыкавала б рассыпацца — так адсутнасць коскі здатная разбурыць самы дасканалы сказ.

Я сказаў: «на палубе». Гэты выраз належаў алмаздабытчыку і мог ускосна сведчыць, што той зарабляў на жыццё і на сваіх жанчын не толькі пошукам алмазаў у якуцкай вечнай мерзлаце, але і насамрэч хадзіў у мора. У такім разе захоўваць на палубе раўнавагу ў штармавую непагадзь яму, з ягонымі двума метрамі, было, відаць, няпроста. Але гэты адносны недахоп кампенсавала атлетычная постаць і моцныя доўгія рукі, чый энергічны поціск, аднак, нязменна выклікаў прыступ гідлівасці: слізкавата-вільготная далонь нараджала адчуванне, што ў руку ўсунулі жабу-рапуху.

Як выглядае, жанчыны пакутуюць ад гідлівасці значна меней. Лысая галава-яйка таксама не была прыкметнай перашкодаю на шляху да жаночых сэрцаў, тым больш яе гаспадар сачыў за сабой, ходзячы ў модных гарнітурах і не забываючы пра парфуму. У выбары жанчын ён не любіў паўтарэнняў і кожны раз прыводзіў з сабой новую. Прыгажуняў сярод іх мы не заўважалі, але і страхотлівых стварэнняў, памойму, ніколі не траплялася.

Быў зарэгістраваны выпадак, калі ён, пакінуўшы кавярню з адной спадарожніцай, перад закрыццём пасадзіў за столік іншую, а сам, нефанабэрліва падміргнуўшы мне, весела гукнуў бармена: «Гэй, на палубе!»

«Цыган дома не крадзе», — чуў я некалі ад бабулі. Алмаздабытчык быў падобны да цыгана, як я — на далай-ламу, аднак бабуліны словы мелі да ягоных паводзінаў несумнеўнае дачыненне. Ён не зрабіў

і кволай спробы хоць раз завязаць размову з якой-небудзь самастойнай наведніцай кавярні. Да ўсіх іх, асабліва да тых, чые твары былі яму знаёмыя з ранейшых візітаў, ён ставіўся падкрэслена ветліва, але нават без намёку на мужчынскую ўвагу.

Выключэнне складала парачка лесбіянак, што кідала нашаму лавеласу выклік ужо самім фактам існавання жаночых істотаў, якія ўмелі абыходзіцца без лысых, вусатых, барадатых і ўсіх астатніх прадстаўнікоў іншае паловы чалавецтва. Натыкнуўшыся позіркам на лесбіянак, уладальнік галавы-яйка не мог схаваць калючай уквеленасці і спяшаўся запіць яе глытком каньяку. Напрошвалася думка, што ён знойдзе падтрымку ў міліцыянта, ды той успрымаў жаночую парачку якраз надзвычай талерантна і толькі часам мройліва мармытаў сабе пад нос: «Вось бы з дзвюма адразу, бля».

Лесбіянак мы сустракалі ў свой кожны прыход, з чаго вынікала, што гэтыя бландзінкі — танклявая, з нервовым артыстычным тварам, у якім падтэксту было болей, чым самога тэксту, і крышачку паўнейшая, з выдатна прамаляванай постаццю і шырока расплюшчанымі даверлівымі шэрымі вачыма — бывалі ў кавярні ледзьве не штодня. Нас вабіў іхні загадкавы свет, аб якім дазвалялі адно здагадвацца скупыя вонкавыя праявы: пераплеценыя на стальніцы прыгожыя доўгія пальцы; раптоўныя, па-птушынаму лёгкія пацалункі, якімі танклявая зрэдзьчас адорвала сяброўку; тонкія залатыя пярсцёнкі, якія абедзьве насілі на правай руцэ.

Алкаголь уздзейнічаў на іх па-рознаму. Танклявая пачынала безупынна смаліць цыгарэты, яе твар змрачнеў, і на яго клаўся цень драпежлівасці. Аднаго разу яна спалатнела, нібыта з яе выпусцілі палову крыві, і, задыхаючыся, кінула каханцы колькі

фразаў, а потым так упілася ёй вострымі малінавымі пазногцікамі ў тыльны бок далоні, што шэравокая гучна ўскрыкнула ад болю. Мы вырашылі, што назіраем сцэну рэўнасці, і, не абмяжоўваючыся канстатацыяй, паспрабавалі ўнікнуць у сітуацыю глыбей. Памятаеш, нас займала пытанне: здатныя лесбіянкі раўнаваць да мужчын ці гэта ў іх сістэме каштоўнасцяў — нявартая ўвагі драбніца накшталт дожджычку за вакном?

Скульптар-кераміст Коля не паспеў набраць той сумы балаў, якая дала б яму права перайсці ў разрад заўсёднікаў. Ягоная рэдкая для трыццаці з гакам гадоў светлая бародка над жураўлінай шыяй, дзе матляўся вузел нясвежай стракатай касынкі, аздобіла інтэр’ер кавярні ўсяго двойчы.

У свой другі візіт Коля запрасіў нас на гасціны. Ён жыў з бабуляю на цяністай вуліцы ў пабудаваным палоннымі немцамі двухпавярховым доме. Адзін з пакояў прасторнай занядбанай кватэры на першым паверсе быў ператвораны ў майстэрню і адначасова ў спальню з шырокай канапаю, якую гаспадар называў сексадромам.

Мы выпілі каньяку, і Коля паклікаў мяне на кухню, дзе змоўніцкім тонам паведаміў, што мы з табой можам заняцца на ягонай канапе любоўю, але з адной умоваю: альбо ён, Коля, будзе назіраць за намі ў вакно, альбо праз нейкі час знячэўку зойдзе ў пакой. «Чыста прафесійная цікавасць, стары», — ужо няўпэўнена варочаючы языком, патлумачыў Коля.

Не, пра паэта я не забыў, як памятаю і тое, што ты прадказала ягонае з’яўленне, заўважыўшы, што ў такой мясціне павінен бываць хоць адзін прызнаны ці, лепей, непрызнаны паэт. Тваё прароцтва матэрыялізавалася ў абліччы дыстрафічнага юнака ў акулярах і атрутна-жоўтым швэдры. Лесбіянкі адгарадзіліся ад паэта ледзянымі ўсмешкамі і проста

не пусцілі за свой столік, таму першымі слухачамі наканавана было стаць нам. Ад празмернага хвалявання ў паэта мутнелі шкельцы акуляраў. Выпадак быў безнадзейны, як спроба датэлефанавацца да самога сябе. Мы прапанавалі юнаку глыток лікёру; успрыняўшы гэта як пахвалу, ён так распусціў пёры, што, калі я зноў пайшоў да стойкі, намерыўся прызначыць табе спатканне.

Я думаю, што калі б кавярня прызнала паэта, ён насуперак усяму стварыў бы нешта больш значнае за вершыкі, здольныя нарадзіць адну-аднюткую асацыяцыю з вадзяністымі парасткамі ў падвальным закутку. Аднак кавярня не прыняла яго, і паэт знік гэтаксама раптоўна, як і з'явіўся.

Другім пасланцом літаратурнага свету, што аднойчы, расплюхаўшы каньяк, палез да мяне з мядзведжымі абдымкамі, стаўся знаёмы празаік, у якога пасля чарговае жаніцьбы пачаўся мядовы месяц. Пералічыўшы свае мужчынскія дасягненні заадно з колькасцю і маркамі выпітых напояў, ён абвясціў, што піша апавяданне, якое нарэшце адкрые ў нашай літаратуры жанр эратычнае прозы. Першы сказ быў ужо гатовы: «Пад'езд прапах спермай». Я асцярожна параіў замяніць пад'езд на кватэру. «Пад'езд прапах спермай», — з націскам на першае слова абражана паўтарыў празаік, выцадзіў каньяк і не развітаўшыся ляпнуў дзвярыма.

Значна глыбейшы след пакінулі глуханямыя.

Яны трапілі ў кавярню, ратуючыся ад дажджу, і, паколькі кампанія самых юных наведнікаў адсутнічала, апынуліся за іх столікам. Дзіўная рэч, я не магу ўзнавіць у памяці іх рысаў, апрача таго, што яе твар — у параўнанні з ягоным, прыгожым і адухоўленым, — напачатку здаўся мне грубавата-вульгарным.

Мы не адразу змецілі, што яны размаўляюць рукамі, а калі заўважылі, дык праз хвіліну ўжо былі перакананыя: гэта — закаханыя. І нашы з табой рукі любілі пагаварыць на сваёй мове, але іх лексічны запас здаваўся нам вялікім толькі да таго вечара.

Сапраўды, твары зараз захінутыя ад мяне туманам, а вось рукі... рукі я гатовы намаляваць: яго вузкую далонь з выцягнутымі пальцамі, кожны з якіх быццам бы меў на фалангу болей, і яе маленькую авальную далоньку з карантышкам-мезенцам. Гэтыя рукі выпраменьвалі такую пяшчоту, што хацелася адвесці позірк — нібы падглядваеш за нечым інтымным, прызначаным для дваіх.

Мы крыху паспрачаліся на тэму: як яны клічуць адно аднаго па імені і як — калі мы завём іх глуханямымі — называюць нас, тых, у каго слых і мова ў парадку. У мяне бліснула ідэя ўзяць нататнік і асадку і пазнаёміцца з навічкамі: напісаць, што яны нам спадабаліся, даведацца імёны, потым запытацца яшчэ што-небудзь, напрыклад, на якой мове яны гавораць сваімі чуйнымі рукамі і ці існуе наогул такі панятак, як «глуханямая» беларуская мова.

А тым часам музычныя пальцы нашэптвалі штосьці такое, ад чаго профіль у жанчыны быў злёгку падведзены чырванню. Яе твар развітаўся з уяўнай вульгарнасцю, стаўшы не менш адухоўленым, чым у яе спадарожніка, і я адчуў усю злачынную недарэчнасць свайго намеру пранікнуць у іхні свет з дапамогаю адмычкі зашмальцаваных будзённасцю фразаў.

Ты выказала здагадку, што слова «кахаю» ў мове, на якой яны гавораць, вынайшаў самы закаханы глуханямы. Нам здавалася, яны павінны зайздросціць нам, бо на іх мову шмат чаго проста не перакладалася — тэлефонны званок, музыка апошніх ускрыкаў, назвы рэдкіх кветак — напрыклад, эстэрдэлія, — якія

я любіў дарыць табе, ненавідзячы банальныя гваздзікі і ружы.

Так, ты не памылілася, глуханямыя забеглі ў кавярню падчас той залевы. Завесіўшы вокны раннім сутоннем, яна бушавала над горадам з адвячорка да глыбокае ночы. Каля парога наплыла лужына, і міндалевы лікёр піўся з асаблівым, я сказаў бы, экзістэнцыйным прысмакам.

Тады мне ўпершыню і ўзгадаўся той верш:

*Я genius loci**, *я помню дзяцінства*
*Гэтага горада, гэтае песні.*
*Шкада, калі не ўваскрэсне*
*Маё і тваё адзінства…*

Мы абое калісьці вучылі лаціну. Табе з выкладчыкам пашанцавала, відаць, болей, бо ты прапанавала вымаўляць «c» не паводле сярэднявечных правілаў, як «цэ», а ў адпаведнасці з антычнай традыцыяй, як «ка».

Сутнасць, вядома, была не ў правільным маўленні.

У маленстве пасля такіх, як у той вечар, праліўняў мы, полацкія хлапчукі, неадменна беглі на бераг Дзвіны, каб знайсці каля Верхняга замка вымытую са жвіру манету. Наша ліпеньская залева здзейсніла нешта падобнае, прыадкрыўшы адказ на пытанне: што альбо хто зводзіў у кавярні ўсіх нас, уладна і бесцырымонна пазычаючы ў іншага, больш адпаведнага кожнаму асяроддзя?

*Я genius loci, я помню дзяцінства…*

Ён не проста збіраў нас. Раз-пораз ён штукарыў з часам: гэта ані не залежала ад колькасці выпітага — бывала, у нас у кішэнях гуляў вецер і мы абмяжоўваліся параю кубачкаў кавы, але фізічна адчувалі, што час запавольваецца і пляце, як заяц на снезе, карункі

* Геній месца (*лац.*).

петляў, а потым, апамятаўшыся, вяртаецца ў рэчышча кананічных паводзінаў і паспешліва навёрствае ўсё, страчанае на нядаўнія прыхамаці.

Кавярня прымушала зусім іначай працаваць памяць, парушаючы яе павуцінавы спакой вострымі скавышамі і выцягваючы з пыльнага хлуду забытыя або, наадварот, старанна схаваныя рэчы. Здаралася, мы прысвячалі ўспамінам цэлыя вечары, даведваючыся тое, што магло прагучаць толькі там, за столікам пад восеньскім краявідам, дзе была відавочна парушаная перспектыва, затое мастаку ўдалося схапіць момант, калі з нізкіх хмараў вось-вось пасыплецца снег, што рабіла наш куток яшчэ больш прытульным.

Там ты ўведала пра маё першае мужчынскае пачуццё да аднакласніцы Іры.

Я вучыўся ў другім класе, часта хварэў і тыднямі сядзеў дома, марачы, што ўлетку мая абранніца патоне ў возеры, а я выцягну яе і, зрабіўшы штучнае дыханне, ажыўлю. На гарадскім пляжы віселі плакаты, дзе тлумачылася, як гэтае дыханне трэба рабіць. Выратавальнік удзьмуваў тапельцу паветра праз вусны, і, калі мае лятункі даходзілі да гэтага моманту, у роце перасыхала, а сэрца так шэрхла, што я баяўся памерці. На вырваным з вучнёўскага сшытка ў касую лінейку аркушы я буйнымі, чамусьці друкаванымі літарамі пісаў: «Іра, я цябе кахаю», адчыняў дзверцы напаленай грубкі, кідаў прызнанне на чырвонае ў чорных пералівах вуголле і з невыказным салодкім болем назіраў, як выведзеныя мною словы ператвараюцца ў попел.

З гэтай цнатлівай згадкаю рэзка кантраставала гісторыя з шасцікласніцай. Я закахаўся ў яе пасля другога курса ўніверсітэта. Шасцікласніца займалася лёгкай атлетыкай, і яе ўжо амаль сфармаваная жаночая постаць не хацела мірыцца з сукеначкай і фартушком

школьнае формы. У неадчэпна пакутлівых эратычных снах я авалодваў яе загарэлым і пругкім маленькім целам, а прыехаўшы на зімовыя студэнцкія вакацыі, апынуўся на мяжы вар'яцтва: чакаў дзяўчо пасля ўрокаў каля школы, ішоў следам да яе дома, высачыў, калі яна плавае ўвечары ў басейне, і пачаў хадзіць туды ў той самы час... Не сказаў бы, што планы, якія нараджаліся ў маім распаленым жарсцю розуме, былі фантастычныя. Небяспека падкралася зусім блізка, але, на шчасце, вакацыі скончыліся, а ў студэнцкім інтэрнаце прыйшло выратаванне ў вобразе шчодралюбнай аднакурсніцы — беларускай татаркі Фацімы. Пасля выпітых у дзень стыпендыі дзвюх шклянак віна яна гатовая была ратаваць каго заўгодна, аднак якраз такая жанчына ў той час і аказалася для мяне незаменнаю.

Я вяртаўся ад стойкі з новай порцыяй лікёру і сам ператвараўся ў слухача, уяўляючы гэткую ж, як і мая, ціхую гарадскую вуліцу твайго дзяцінства, дзе таксама цвілі яблыні і пасвіліся козы. Нізкае вакно твайго вузенькага, нібы пенал, пакойчыка ўпіралася ў сабачую будку, і ўлетку, з-за пахаў, яго лепей было трымаць наглуха зачыненым. Калі маці працавала ў начную змену, бацька не тоячыся прыводзіў жанчын і ты ўсё чула праз тонкую перабойку, а часам і сутыкалася з распранутай госцяю ў калідорчыку. Праз гэта, сцвярджала ты, у цябе доўга захоўваўся імунітэт супроць блізкасці з мужчынамі.

Пад ложкам у пакойчыку-пенале стаяла скрынка з кардоннымі лялькамі, якім ты выразала з паперы кофтачкі і спаднічкі. Твае самаробныя цацкі настолькі кранулі мяне, што я вырашыў на дзень нараджэння падараваць табе самую дарагую ляльку ў шыкоўным строі...

Калі мы не сустракаліся цэлы тыдзень, вечар у кавярні быў прысвечаны снам. Не ведаю, як ты, а я магу

прысягнуць, што такіх фантасмагарычных і ўадначас паўнакроўных сноў да таго лета мне не снілася. Кавярня падключала вядомыя адной ёй каналы, і, думаю, зазірнуць у нашы сны не адмовіліся б сам Зыгмунд Фройд і Карл Густаў Юнг.

Узяць хаця б сон, дзе мы з табой ідзём па горадзе, у якім усе жыхары — калекі: сляпыя, бязрукія, бязногія, на мыліцах і ў інвалідных вазках. Мы, трымаючыся за рукі, каб не згубіцца, прабіраемся праз іхні крыклівы страхалюдны натоўп і, часам пераходзячы на бег, як быццам ратуемся ад пагоні, а часам, спыняючыся і пераводзячы дых, заглыбляемся ў нерат вуліц і вулачак, але ў вонкавай хаатычнасці нашага руху ёсць мэта, пра якую мы не маем права ні на хвіліну забыць: сярод тысячаў калек і ўбогіх мы павінны адшукаць іншых нармальных.

А памятаеш конкурс прыгажосці?

Над амфітэатрам, дзе ён адбываўся, вісеў букет шматколерных мангальф'ераў, і падобны да грака чалавек у чорным фраку і цыліндры па чарзе падцягваў іх за канат да арэны. З кошыкаў выскоквалі юныя прыгажуні ў купальніках, якіх чалавек-грак падводзіў да подыума з шырачэзным адкрытым ложкам. Тут яны пераходзілі ў рукі двух бамбізаў у стракатых махровых шлафроках, чыёй задачай было на вачах у журы і публікі пазбаўляць канкурсантак нявіннасці. Адчуўшы, што прапанаваная сістэма адбору мяне прыкметна нервуе, ты заразліва засмяялася і паведаміла пра даўняе знаёмства з усімі прэтэндэнткамі, якія ў лепшым разе яшчэ памяталі імёны сваіх першых мужчынаў.

Але неўзабаве паветраны шар прывёз на арэну гнуткую дзяўчыну ў кармінавым купальніку, убачыўшы якую, ты ўся падалася ўперад і зашаптала, што яе трэба выкупіць, бо дзяўчо — насамрэч

цнатліўка і трапіла сюды, каб зарабіць грошай на вяселле. У наступную хвілю мы беглі па праходзе ўніз і ўсё ж паспелі перахапіць чалавека ў цыліндры на яго цырымонным шляху да подыума, а потым пад незадаволены гул амфітэатра рассоўвалі яму па кішэнях купюры. Рэшту аддалі дзяўчыне, і ты загадала ёй ехаць да жаніха і сказаць, каб ён неадкладна, сёння ж, зрабіў яе жанчынай.

У выніку аналізу таго сну атрымалася, што нашая ратаванка — ты...

Я думаю, карыфеі псіхааналізу заплацілі б нам і за сон, у якім я любіў не цябе, а іншую жанчыну, называючы яе тваімі пяшчотнымі імёнамі і мянушкамі; ад гэтага яна ўвачавідкі набывала твае рысы, і ўрэшце я стаўся сведкам канчатковага пераўвасаблення, пакутліва разважаючы, што ў такім разе прычынілася з табой сапраўднаю і ў якой абалонцы існуе цяпер твая душа.

Ты згодная, што хтосьці жыве пераважна розумам, а хтосьці — пачуццямі? Адны, адпаведна, успрымаюць жыццё як камедыю, для другіх яно — трагедыя. У мяне гэтыя кампаненты, пачуццё і розум, заўсёды былі перамяшаныя ў складаным кактэйлі з хісткай перавагаю то першага, то другога, але ў тое лета, так, рэчаіснасць — нават у самых, здавалася б, камедыйных праявах з міліцыянтам Пецем альбо з алмазаздабытчыкам — не ўспрымалася мною як камедыя. Тым больш яна не выглядала і трагедыяй. Наш з табой свет меў характарыстыкі іншага кшталту.

Пацягваючы міндалавы лікёр, мы прыйшлі да высновы, што калі ты ўзняўся над раслінным існаваннем, то мусіш зразумець адную элементарную, на першы погляд, рэч. Выбару сапраўды няма: кожны — незалежна ад уласнай волі — прызначаны ці асуджаны іграць нейкую ролю, у выкананні якой і схаваны сэнс

жыцця. У вайне з хронасам ніхто не пераможа, але той, хто ўсвядоміў свой абавязак і зліўся з роллю, узброены лепей.

Зрэшты, наша ўніверсальная выснова не замінала ролям, якія мы выконвалі ў вечаровых гульнях — то легкадумных, то з афарбоўкаю драматызму — бо па натуры мы абое нарадзіліся гульцамі.

Памятаеш, была гульня ў «Аўстралію»? Мы як быццам эміґравалі туды, у штат Вікторыю, і разводзілі на ферме кенгуру. За ранішняй кавай ты выказвала спадзяванне, што сёння я нарэшце пастрыгу газоны, а я імкнуўся падмяніць гэтую ненавісную працэдуру вяртаннем на другі паверх, у спальню. З яе вакна адкрываўся від на далёкія горы, а на сцяне вісела захопленае ў эміґрацыю авальнае, уштукаванае ў плеценую з лазы асаду люстра, перад якім аднойчы, яшчэ да ад'езду ў Аўстралію, мы любіліся, стоячы ў сонечных промнях, і раптам, на краі той хвілі, калі целы падпарадкоўваюцца ўжо не розуму, а толькі самім сабе, мне здалося, што на падлозе зніклі нашы цені, а значыць, і самі целы…

«Давай я буду жонкаю Скарыны, а ты — віленскім бурмістрам і паспрабуеш мяне спакусіць», — прапаноўвала ты альбо пагаджалася на ролю ціхмянае манашкі, якая даглядае ў патайным пакоі кляштарнага шпіталя параненага паўстанца.

Але такія гульні напраўду вымагалі не століка ў кавярні, а таемных пакояў, і мы пераключаліся на інквізіцыю. Распрацоўваўся сюжэт, калі я кахаў цябе, а ты адказала ўзаемнасцю іншаму, і я, асляплены рэўнасцю, страчыў данос, што ты кахаешся з д'яблам, які з'яўляецца да цябе ў спачывальню, набываючы аблічча чорнага ката з хвастом, што можа тройчы абкруціць цябе вакол таліі. Ты чытала «Молат ведзьмаў», а таму даволі ўпэўнена пачувалася ў ролі

падследнай, калі на допыце я змушаў цябе даць падрабязнае апісанне вядзьмарскага шабасу.

Відаць, ты заявіш пратэст супроць таго, што я зноў адступаю ад пратакола, ды я ўсё ж успомню «Тытанік». Гэтую гульню мы вынайшлі, пагартаўшы ў скульптара Колі замежны альбом з малюнкамі і фотаздымкамі славутага параплава, ягоных пасажыраў, кают, палубаў і рэстаранаў. Гульню, у якую мы гулялі ў нашай каюце, і толькі потым падымаліся на палубу кавярні, дзе панаваў спакой і ніхто не здагадваўся, што плаванне няўхільна набліжаецца да вусцішнай развязкі.

«Тытанік» тануў, на тросах плылі ўніз шлюпкі з ахопленымі жахам людзьмі, і тут хтосьці з іх убачыў у асветленым ілюмінатары маладых мужчыну і жанчыну, якія, забыўшы пра ўсё на свеце, пяшчотна і жарсна любілі адно аднаго. Гэтая пара, думалі ў шлюпцы, проста не чула, што здарылася з караблём, але ў сапраўднасці яны — ведалі і замест штурханіны ў азвярэлым натоўпе і смерці ў ледзяных хвалях выбралі светлую цёплую каюту і тыя імгненні, калі целы і душы ператвараюцца ў адну непадзельную сутнасць, зліваючыся з вечнасцю.

Дастаткова было нам некалькі дзён не бачыцца, як я лавіў сябе на тым, што, здаецца, наперакор законам псіхалогіі і фізіялогіі не заўважаю іншых жанчын. Затое пасля нашага спаткання вочы нібыта расплюшчваліся і мне рабілася не проста цікава затрымліваць на жанчынах позірк, але хацелася ўбачыць іх, выпадковых сустрэчных, аголенымі, і я шкадаваў, што не жывапісец і не фотамастак і не магу іх маляваць альбо здымаць на стужку.

Кажуць, эпілептыкі ў хвіліны прыпадку цалкам губляюць уяўленне пра час і прастору, перажываючы імгненне абсалютнае яснасці. У тое лета мне давялося сутыкнуцца з нечым падобным: падчас блізкасці

маё ўласнае «я» пачынала сціскацца, канцэнтруючыся ў адной кропцы, якая магла знаходзіцца ўжо за межамі цела, і незваротна згубіць каардынаты той кропцы не дазваляла толькі памяць пра цябе.

У другой палове жніўня, калі нарэшце зрабілася магчымым выйсці з дому без парасона, у кавярні звіло гняздо прыглушанае адчуванне трывогі.

Ты кажаш, здарэнне з голубам сталася чыстай выпадковасцю? Аднак чамусьці і ты сама выдатна ўсё запомніла: як дзікі шызы голуб неспадзеўкі заляцеў у разнасцежанае з нагоды чаканае цеплыні вакно, як, спалохана залопаўшы крыламі, матлянуўся да стойкі, перакуліў пару блакітных кубачкаў з каваю і, зусім ашалеўшы, вымкнуў у дзверы.

Далейшыя падзеі раскручваліся з кінематаграфічнай імклівасцю.

Гатуючы нам каву, бармен аднойчы папярэдзіў, што іх будынак ідзе пад знос і да канца месяца кавярню зачыняць.

Мы абмеркавалі навіну досыць спакойна. Маўляў, няпроста будзе знайсці другі такі куток, але мы знойдзем. Будзем шукаць, пакуль аднаго вечара не адчуем, як на нас павее знаёмай аўраю. Была разгледжаная нават ідэя далучыць да пошукаў усіх сталых наведнікаў, а ўпрыдачу і бармена з яго здобнай памагатай, карацей — «пераехаць» цэлай ватагай, хоць, калі шчыра, мне было цяжкавата ўявіць, як мы дамовімся аб’яднаць сілы з лесбіянкамі, не кажучы ўжо пра глуханямых.

Можна было здагадвацца, як успрынялі паведамленне бармена іншыя, але факт застаецца фактам: у апошні вечар без усякага запрашэння сабраліся ўсе даўнія кліенты: і кампанія маладзёнаў, і Пеця, і лесбіянкі, адна з якіх паставіла на столік букецік свежых жоўтых бяссмертнікаў. Глуханямыя прыпазніліся

і адчынілі дзверы а палове дзясятай, нібыта ведаючы, што з нагоды развітання кавярня будзе працаваць пазней.

Чамусьці не прыйшоў адно алмазаздабытчык, столік якога раз-пораз ненадоўга займалі розныя залётныя птушкі. Прачытаўшы на дзвярах абвестку, найбольш цікаўныя пыталіся, чаму сёння кавярня адчыненая да паўночы, а мы, не згаворваючыся, паціскалі плячыма і, я ўпэўнены, у думках дадавалі, што гэтыя дзве лішнія гадзіны не даюць чужаніцам ніякага права ашывацца сярод нас і шкрабаць душу недарэчнымі роспытамі.

На пачатку адзінаццатае маўклівы ціск на залётных даў плён: на «палубе» засталіся толькі свае. Моладзь са згоды бармена пераставіла столік да дзвярэй, чым, па сутнасці, забарыкадавала ўваход, і пайшла танцаваць пад блюзавыя мелодыі. Услед за гэтым бармен паставіў анталогію «*Beatles*», і падняліся мы, а дачакаўшыся наступнае песні, — глуханямыя. Такі самы эфект міліцыянт Пеця мог бы выклікаць, разрадзіўшы свой пісталет у вітрыну за стойкай. Глуханямыя не былі глухімі, ва ўсякім разе хтосьці з іх меў слых, дастатковы на тое, каб адчуваць мелодыю і беспамылкова вадзіць партнёра. Ад разгубленасці астатнія пары спыніліся, і да канца песні глуханямыя танцавалі ў адзіноце.

Потым я запрасіў цябе, а міліцыянт, разоў колькі зірнуўшы на лесбіянак, — памочніцу бармена. Сам бармен, нечакана лёгка валодаючы сваім шафападобным целам, танцаваў з высокай шатэнкаю з кампаніі маладзёнаў. Лесбіянкі трымаліся даўжэй, аднак не маглі не адчуць, што іх ахутаныя цыгарэтным дымам адмовы ад мужчынскіх запрашэнняў выглядаюць двайным выклікам. У танцы яны рухаліся з пластычнасцю прафесіяналак, але, як і глуханямыя, не

дазволілі разбіць свой дуэт ні міліцыянту, ні бармену, ні мне.

Пад «*Girl*» ты пайшла з худым, як жэрдка, вастраносым хлопцам, а я — з ягонай пышнагрудаю сяброўкай, што мела зайздросную талію і карону цудоўных каштанавых валасоў, якія, напэўна, умелі маляўніча рассыпацца па падушках. Дзяўчына яўна перабрала норму: яна павісла на мне і, прыціснуўшыся ўсім целам, зашаптала, што хоча, каб я на ёй пакатаўся. Ты атрымала ад яе незаслужанае абвінавачанне ў фрыгіднасці, а твой партнёр з птушыным носам — у імпатэнцыі, што не перашкодзіла яму выцягнуць шарыкавую асадку і напісаць табе на далоні нумар тэлефона.

Прыкладна ў гэты час мокры ад поту бармен грукнуў аб стойку дзвюма дармавымі пляшкамі лікёру і дзвюма — шампанскага. Гэта сталася сігналам. Пеця ўпершыню раскашэліўся на пачастункавае шампанскае, глуханямы паставіў побач каньяк. Мы з лесбіянкамі падтрымалі агульнае натхненне, а моладзь, у якой даўно скончыліся грошы, унесла сваю долю тым, што ссунула два столікі і расставіла крэслы, на якіх уладкаваліся ўсе, апрача красуні з асінай таліяй, што ціхамірна пасопвала ў кутку за выступам дзвярэй…

Тралейбусы ўжо даўно не хадзілі, калі ў прачыненае вакно зазірнуў міліцэйскі патруль. «У нас банкет!» — звычна выгукнуў бармен, і ягоны голас аказаўся неспадзявана цвярозым і прагучаў над сатурналіяй, як ранішні крык пеўня…

Ноч пераміргвалася дробнымі гарадскімі зоркамі і дыхала свежасцю блізкае восені.

Колькі хвілінаў мы, паўтара дзясятка позніх гулякаў, непрыкаяна тупаліся каля дзвярэй, а тады пацягнуліся кожны ў свой бок. Пазней за астатніх разышліся пары: мы, глуханямыя і лесбіянкі.

Праз два дні мы з табой стаялі на тым самым месцы. Прызнайся, разам са старой завядзёнкай нас вяла і надзея, што расстанне з кавярняю было заўчасным і, праехаўшы тры прыпынкі, мы ўбачым чырванашчокага бармена, а там падыдуць лесбіянкі альбо, прыгнуўшыся ў дзвярах, зойдзе алмазаздабытчык з пасіяй-аднадзёнкай…

Нас сустрэла падкова высокага свежага плота, які хаваў і два вакны на някідкім фасадзе, і бакавую сцяну, дзе была намаляваная назва, і клёнік-самасейку з тузінам пыльных лісцяў, што збіраўся вырасці на газоне перад ганкам.

Мы зайшлі ў бліжэйшы зялёны дворык, селі на дзіцячыя арэлі і, выкурыўшы па цыгарэце, дамовіліся стэлефанавацца, як заўсёды.

Мы не пазванілі — ні як заўсёды, ні наогул.

З усіх наведнікаў кавярні за гэтыя гады я не спаткаў нікога, акрамя алмазаздабытчыка. Наставіўшы пад золкім восеньскім ветрам каўнер, ён самотна брыў па свіслацкай набярэжнай, і з кішэні ягонага калісьці дыхтоўнага паліто выглядвала светлае рыльца адкаркаванае бутэлькі. Я спыніўся, ён таксама відавочна пазнаў мяне, але пасля імгненнага вагання перавёў вочы на рачное рабаціннe і прыспешыў хаду.

Ну і цяпер вось сустрэча з табой.

*Я genius loci, я помню дзяцінства*
*Гэтага горада, гэтае песні… —*

узгадваецца мне, а ты сядзіш з цыгарэтай у пустым фатэлі каля вакна і пагаджаешся: таго, што не зрабілася ўспамінам, проста не існавала.

*1997*

# Змест

